# Язэп Лёсік
# Беларускі правапіс

Выданьне восьмае, выпраўленае
Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва
Менск—1929

Надрукавана ў друкарні Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва
Зак. 159. У ліку 50.000 экз. Галоўлітбел 1012.

**Прадмова.**

### I. Прынцыпы беларускага правапісу

У васнову беларускага правапісу паложаны такія прынцыпы:

1) *Фонэтычны,* калі слова запісваецца больш-менш так, як яно чуваць, напр.: *вада, малако, галава, рака, сяляне, лясы, зямля, вядро* і г. д., замест: вода, молоко, голова, рэка, селяне, лесы, земля, ведро і г. д.

2) *Этымолёгічны,* калі слова запісваецца згодна ня з іх цяперашнім вымаўленьнем, а з іх пахаджэньнем і параўнаньнем (аналёгіяй) з іншымі роднымі паміж сабою словамі, напр.: *мёд, хлеб, мог, калодка, казка, просьба, барацьба, адтрымаць, мыешся, матцы, дачцы,* заместа: мёт, хлеп, мох, калотка, каска, прозьба, барадзьба, аттрымаць, ці атрымаць, мыесься, маццы, даццы, як гэта чуваць пры вымаўленьні.

3) *Прынцып напісаньня чужаземных слоў,* паводле якога словы чужаземныя, але толькі кніжныя (навуковыя тэрміны, тэхнічныя словы і іншыя) пішуцца так, як у тэй мове, адкуль яны ўзяты, з некаторымі зьменамі (пераважна ў канчатках), дапасаванымі да беларускай фонэтыкі, напр.: *Лёндон, кляса, нацыя, комунізм, партыя, тэлеграма, географія, арытмэтыка, этымолёгія, тэхнікум, сыстэма, рэволюцыя, экономія* і др. (Бач. § 20).

З гэтых прынцыпаў найбольш шырока ўжываецца фонэтычны прынцып для напісаньня галосных гукаў і этымолёгічны—для напісаньня зычных.

Але ад гэтых прынцыпаў здараюцца адступленьні; так мы пішам:

1) *вецер, восень, далей, болей; поле, насеньне, зельле; гаем, роем, зельлем; лялек, жнеек, нянек, песень; чытае, працуе, будзе, гляне, чытаеце, гуляеце* і г. д., заместа таго, як чуваць: вецяр, восянь, даляй, боляй; поля, насеньня, зельля; гаям, роям, зельлям; ляляк, жнеяк, няняк, песянь; чытая, працуя, будзя, гляня, чытаяця, працуяця і г. д.

2) *прызба, бясконца, раскрыў, скінуў, брацкі, полацкі, позны, пачэсны, міласэрны, дваццаць, мыцца* і г. д., заместа: прысба (ад слова “прысыпаць”), бязконца, разкрыў, зкінуў, братскі, полатскі, поздны, пачэстны, міласэрдны, двадцаць, мыцься і г. д.; значыць, падобныя словы запісваюцца так, як чуваць, а ня так, як-бы трэба было пісаць паводле пахаджэньня гэтых слоў. (Бач. вышэй прынцып *этымолёгічны).*

3) Чужаземныя словы, вядомыя шырокім народным масам, як свае родныя, падлягаюць нашаму правапісу і пішуцца так, як гэта чуваць у штодзенным ужытку, напр.: *літары, дарэктар, аканом,* або *аконам, калідор, леварвэр, камісія, камітэт, сакратар, камуністы* (замест “камуніст”) і др.

Разумеецца, правапісальнае пытаньне лягчэй за ўсё можна было-б разьвязаць такім спосабам, каб у напісаньні слоў трымацца аднаго фонэтычнага прынцыпу, каб можна было пісаць так, як чуваць, каб вока бачыла тое, што чуе вуха. Але датрымаць фонэтычнага прынцыпу да канца—немагчыма. Немагчыма гэта ўжо дзеля таго, што няма такой азбукі на сьвеце, каб можна было дакладна перадаваць на пісьме ўсе гукі нашае мовы. Такой азбукі і прыдумаць трудна, бо гукі ў жывой мове вымаўляюцца розна, у залежнасьці ад гаворак. Акуратна дапасаваць літары да гукаў практычна немагчыма і непатрэбна. Мова кожнага народу, не зважаючы на ўсю яе суцэльнасьць,

мае шмат асобных, мясцовых гутарак, якія, маючы агульныя карані і формы слоў, розьняцца паміж сабою акцэнтам і вымоваю слоў.

Такім парадкам, наш правапіс, палажыўшы ў аснову напісаньня беларускіх слоў падвойны і нават патройны прынцып (фонэтычны, этымолёгічны і традыцыйны), дбае аб адным, каб па магчымасьці перадаць на пісьме ўсе асаблівасьці тае гутаркі беларускае мовы, якая легла ў аснову *літаратурнае* мовы.

Процэс вытварэньня нашае літаратурнае мовы адбыўся натуральна, вольна і без пабочнага прымусовага ўплыву, бо ў часе вытварэньня яе Беларусь ня мела адзінага каманднага цэнтру, які мог-бы пакіраваць разьвіцьцё ў свой бок, выходзячы з свайго мясцовага патрыотызму. Дзякуючы вольнаму разьвіцьцю, яна ўвабрала ў сябе ўсе чыста беларускія асобнасьці іншых беларускіх гаворак і цяпер у поўнай меры можа лічыцца сапраўды народнай, агульна беларускай мовай. Разьвіўшыся на грунце менска-віленскай гаворкі (цьвёрдае *р* і вялікае аканьне), яна шырока адбівае ў літаратуры ўсе асобнасьці іншых гутарак беларускага народу і заняла пануючае палажэньне. Прынамсі, дагэтуль не рабілася спроб адмежаваньня,—ніводная гаворка не памыкалася стаць літаратурнай, хоць перашкоды для гэтага ня было. Само жыцьцё паказала, якая гаворка мае найбольш сілы і здольнасьці для літаратурнага разьвіцьця. А раз вызначылася літаратурная мова, то можна было апрацаваць сталы правапіс, або аднастайнасьць пісьма.

## II. Як ставіць навучаньне правапісу?

### 1. Правапіс літар і гукаў.

#### *А. Найлепшыя способы навучаньня правапісу.*

Навучаньне правапісу—справа трудная і патрабуе ад вучняў ня мала часу і працы. Каб аблягчыць гэту працу і зьменшыць час, патрэбны на навучаньне правапісу, пэдагогі і псыхолёгі рабілі дасьледзіны гэтае справы рознымі способамі. Так, нямецкі псыхолёг Ляй найшоў у процэсе пісьма псыхолёгічны акт, у каторым галоўнае месца маюць успаміны пісьма, асоцыяцыя вобразаў і рух рукі большасьцю мэханічны. Ляй рабіў навуковыя досьледы, альбо спробы, амаль што над 5000-мі вучняў пачатковых школ і настаўніцкіх сэмінарый. Гэтыя спробы паказалі, што галоўную аснову граматнасьці складаюць зрокавыя і рукарухоўныя ўспаміны пісьма. Адсюль Ляй заключыў, што найлепшы способ навучаньня граматнаму пісьму—*сьпісваньне*, бо пры сьпісваньні якраз зрокавыя вобразы, рукарухоўныя элемэнты і ўспаміны пісьма найбольш маюць месца.

Над мэтодолёгіяй навучаньня правапісу многа працаваў і расійскі профэсар Томсон; у яго нават ёсьць спэцыяльная праца ў гэтай справе: “К теории правописания и методологии преподавания его”. Томсон кажа, каб навучыцца правільна пісаць—трэба *пісаць правільна*. Для абгрунтаваньня свае думкі ён прыводзіць такую паралель: калі хто хоча навучыцца тэхніцы граць на раялі, той павінен *граць на раялі*, а не займацца тэорыяй музыкі; таксама, калі хто хоча навучыцца гаварыць у чужаземнай мове, той павінен *гаварыць у гэтай мове*, а ня вучыць граматыку. Значыць паводле Томсона выходзіць, што хто пры пісьме найменш робіць памылак, гэта значыць, піша найбольш правільна, той барджджэй навучыцца граматна пісаць. Разумеецца, пры сьпісваньні з кніжкі вучань зробіць менш памылак, чым пры дыктоўках, і дзеля таго ён барджджэй навучыцца правільна пісаць пры сьпісваньні, чым пры дыктоўках. Томсон паказвае такую розьніцу між сьпісваньнем і дыктоўкаю: пры сьпісваньні найбольш вытвараюцца зрокавыя вобразы, найлепей астаўляе сьлед памяць пісьма і найбольш маюць месца рукарухоўныя элемэнты, а гэта ўсё проста адносіцца к пісьму; пры дыктоўцы-ж бяруць перамогу гукавыя элемэнты, непатрэбныя для навучаньня правільнаму пісьму. Значыць,

калі сьпісваньне і не дае ўсяго таго, што патрэбна для навучаньня правапісу, то ўсё-такі работа цалком ідзе на карысьць гэтага навучаньня, нічога не прападае дарма; пры гэтым не набываецца і нічога такога, што шкодзіць правільнаму пісьму.

Томсон не адмаўляе і таго, што бясспрэчную карысьць пры навучаньні граматнаму пісьму могуць прынесьці дыктоўка і граматычныя правілы, як пры навучаньні чужаземнай мове прыносіць карысьць ужываньне граматыкі. Але дыктоўка і граматычныя правілы—дапаможныя і дапаўняльныя спосабы навучаньня правапісу, і дзеля гэтага імі трэба карыстацца толькі ў некаторых разох, з яснаю ведаю мэты ўжываньня іх.

Бяз дыктоўкі нельга абыйсьціся пры навучаньні правапісу, бо калі хто піша самастойна, выкладае на пісьме свае думкі, то яму прыходзіцца, як і пры дыктоўцы, пісаць тое, што ён ня бачыць; хто піша самастойна, той як-бы сам сабе дыктуе, бо сказ, які ён сабе запісвае, спачатку зьяўляецца ў яго думках, хоць гэтага сказу ён і ня чытае. Але калі бяз дыктоўкі нельга абысьціся, то трэба рабіць гэта так, каб было як менш памылак; а памылак будзе менш, калі дыктоўку вучні пішуць не для праверкі граматнасьці, бо пры такой праверцы яны могуць зрабіць многа памылак, а для навучаньня граматнасьці, і дзеля гэтага трэба аб’ясьніць, як пішацца кожнае труднае слова. Значыць, дыктоўка павінна быць *навучальная*.

З усяго таго, што гаварылася вышэй, выходзіць, што для навучаньня правапісу (аднолькаваму пісьму) найлепшымі спосабамі трэба прызнаць наступныя: 1) *сьвядомае сьпісваньне* і 2) *навучальныя дыктанты*.

1. *Сьпісваньне* якога-небудзь практыкаваньня трэба рабіць пасьля таго, як будзе растлумачана правіла, на якое надрукована практыкаваньне. Растлумачыць правіла лепей за ўсё можна *мэтодам індукцыі;* гэта значыць, з разбору некалькіх прыкладаў, якія стаяць у практыкаваньні, вывесьці правіла. Так, калі трэба сьпісаць практыкаваньне 48, то можна напісаць на кляснай дошцы прыклад: “*Віднеліся палоскі гароху з харошанькімі чырвоненькімі і сіненькімі кветачкамі*”, а вучні знаходзяць памяншальныя ці ласкальныя прыметнікі: *харошанькімі*, *чырвоненькімі*, *сіненькімі* і замячаюць канчаткі *енькі* і *анькі; анькі* стаіць пасьля *ш*—зацьвярдзелага гуку; адсюль выводзяць правіла 37, а потым правяраюць гэта правіла на двух-трох прыкладах з практыкаваньня, чытаючы іх па кніжцы і знаходзячы слова на данае правіла. Перад сьпісваньнем практыкаваньня карысна, каб вучні прачыталі ўсе прыклады, прычым трэба зварачаць увагу вучняў на тыя словы, у якіх яны могуць зрабіць памылку; напрыклад: варта зьвярнуць увагу на канчаткі творнага склону ў множным ліку прыметнікаў—*імі* (харошанькімі, чырвоненькімі...); у прыкладзе: “*Ластаўкі вылепілі харошанькае кругленькае гнязьдзечка*”—можна спытаць, чаму ў слове *вылепілі* напісана *ле*, хоць на *ле* няма націску; як напісана слова *гнязьдзечка?* і падобн.

На якія словы трэба зьвярнуць увагу вучняў пры сьпісваньні практыкаваньня, настаўнік добра ведае, калі ён ведае ступень граматнасьці сваіх вучняў.

Пасьля такога аналізу прыкладаў можна пачаць сьпісваньне; пры такіх умовах работы сьпісваньне не абернецца ў мэханічнае коп’яваньне друкованага тэксту, а будзе *сьвядомае*, пры якім вучні зробяць найменш памылак, а можа і ніводнае.

Наогул кажучы, заўсёды лепш не дапушчаць памылак, чым пасьля іх папраўляць; дзеля гэтага і трэба зварачаць увагу вучняў на трудныя словы, альбо асаблівыя сваім напісаньнем, як напрыклад: *сям’я, мядзьведзь, сяджу, невялікі, сольлю, дачцы* і падобн.

Яшчэ лепшых рэзультатаў даб’ецца настаўнік, калі пасьля папярэдняга аналізу практыкаваньняў будзе пісаць прыклады на кляснай дошцы, а вучні будуць сьпісваць з напісанага, а ня друкованага тэксту, бо шматлікавыя пробы паказалі, што сьпісваньне з *рукапіснага* тэксту дае ўдвая лепшыя рэзультаты, чым сьпісваньне з друкаванага тэксту. Дзеля гэтага вельмі пажадана мець друкаваныя пропісам табліцы з патрэбным тэкстам. Апроч таго, такія друкаваныя табліцы вельмі пажаданы яшчэ і дзеля таго, што ня

кожны выкладчык можа выразна і прыгожа пісаць, тымчасам мамэнт хараства трэба праводзіць пры кожнай рабоце ў *школе*.

Пачаўшы такое сьпісваньне з кароткіх і простых зьместам фраз, можна паступова перайсьці да сьпісваньня невялікіх вершаў і суцэльных стацеек, пасьля ўважлівага папярэдняга аналізу іх з боку зьместу і правапісу паасобных слоў.

Пры сьпісваньні трэба мець на ўвазе яшчэ і такія ўмовы:

а) Ня трэба пісаць каліграфічна, бо стараньне выводзіць кожную букву разьдзяляе асобныя элемэнты пісьма і перашкаджае запомніць, як пішацца слова; наогул кажучы, хто піша каліграфічна, той мяшае вытварэньню паступовай асоцыяцыі ў рукарухоўных успамінах пісьма, а гэта значыць, перашкаджае правільнаму пісьму.

б) Тэкст для сьпісваньня трэ' даваць невялікі—радкоў 10 друкованых, каб вучань не ўтамляўся ды лягчэй-бы мог утрымаць у памяці вобразы напісаных слоў.

в) Для падтрыманьня ўвагі да работы і сьвядомых адносін да яе, карысна падчырківаць словы на данае правіла правапісу, прычым падчырківаць трэба старанна, акуратна, каб не псаваць прыгожасьці пісьма, і толькі патрэбнае слова або часьць яго.

2. *Дыктоўкі*, як гаварылася і вышэй, павінны быць выключна *навучальныя*, г. значыць, дыктуючы трэба *не правяраць* ступень граматнасьці, не кантраляваць, не экзамінаваць вучня, а *вучыць* граматна пісаць.

Такія *навучальныя* дыктанты звычайна ставяцца так: выкладчык выразна чытае патрэбны сказ, дзеці праз паўтарэньне завучаюць яго напамяць; далей зварачаецца ўвага на правапіс кожнага слова, сказу, труднае, або асаблівае па правапісу, слова, у якім дзеці могуць зрабіць памылку *(салаўі, уе (ўе)* ад віць, *дождж, льлецца, ня трэба, не магу* і падобн.), выпісваецца на дошцы, а ўжо потым сказ запісваецца вучнямі ў сшытак. Пры такіх работах вельмі часта дзеці самі пытаюцца, якую паставіць літару ў тым ці іншым слове. У такіх разох, само сабою разумеецца, трэба падказаць, зьвярнуўшы ўвагу на гэта ўсяе клясы.

Карысна, калі вучні шукаюць спраўкі, як пішацца слова, дзе хочуць, абы не зрабілі памылкі. Наагул, трэба мець на ўвазе, што калі настаўнік ні разу не дапусьціць вучня зрабіць памылку пры пісьме, то за год ён можа дабіцца большых рэзультатаў у правапісе, чымся за некалькі год пры адваротных умовах (калі вучні будуць рабіць памылкі).

Дыктоўкі павінны адбывацца рэдка, лепш толькі ў тых разох, калі трэба зрабіць паўторнае практыкаваньне на некалькі правіл, напр.: на правапіс зычных гукаў, на правапіс галосных (аканьне), на канчаткі меснага склону іменьнікаў і падобн.

Матэрыялам для дыктовак могуць служыць, апроч стацей, і практыкаваньні, і задачкі, хоць апошнія прызначаны для сьпісваньня, асабліва, калі трэба паўтарыць правілы. Дыктаваць можна і прыклады з розных практыкаваньняў і задачак.

*Б. Як трэба папраўляць памылкі?*

Некаторыя пэдагогі даводзяць, што зусім няма карысьці папраўляць памылкі вучняў; яны кажуць, што настаўніку трэба толькі сачыць за тым, каб не паўтараліся памылкі, проці якіх трэба ўмяшацца дзеля сьвядомага іх зьнішчэньня (проф. Томсон). Але з гэтым ніяк нельга згадзіцца, бо калі перад вачыма вучня будзе стаяць вобраз слова ў няправільнай форме, то гэты вобраз можа застацца ў зрокавай памяці і будзе перашкаджаць набыцьцю граматнасьці. Усе тыя работы вучняў, у якіх могуць быць памылкі, настаўніку трэба паправіць.

Дыктоўкі сама лепш выпраўляць у клясе колектыўна пад кіраўніцтвам настаўніка, прычым лепей не пасьля ўсёй дыктоўкі, а пасьля кожнага сказу, бо тады вучні зварачаюць больш увагі на тое, што напісалі, і сьвяжэй у памяці вобразы напісанага; апроч таго, часта могуць быць адны і тыя памылкі (на адно і тое правіла); а калі адразу зьвярнуць увагу на памылку, то далей яе можа і ня быць.

Шмат менш будзе карысьці, калі настаўнік папраўляе дыктоўку дома і потым разьбірае яе ў клясе, бо ўжо вобразы таго, што пісалі вучні, будуць сьцёрты з памяці за даўнасьцю часу, і на папраўкі настаўніка яны зьвернуць менш увагі, як пры папраўцы ў той час, калі пішуць.

Пры першым спосабе праверкі (у клясе) прыдзецца напісаць менш, але карысьці будзе больш, як пры папраўцы настаўнікам дома ды яшчэ цераз некалькі дзён.

Падчырківаць памылкі ня трэба, бо гэта няпрыемна адбіваецца на самапавазе вучня, і можа адбіць ахвоту да работы. Лепей проста на месцы няправільных літар у словах напісаць выразна патрэбныя літары. Пры такім спосабе выпраўленьня памылак з аднаго боку, у зрокавай памяці вучня застаецца вобраз слова ў правільнай форме, а з другога—вучні ня зробяць памылак пры выпраўленьні работ, як было-б гэта ў тым выпадку, калі настаўнік толькі падчырквае памылкі, а ня піша адпаведных літар.

*В. Як трэба глядзець на правілы правапісу пры навучаньні граматнасьці?*

Усе навуковыя дасьледзіны псыхофізыолёгіі пісьма паказалі, што самы важны фактар у справе правапісу становіць выгляд (вобраз) напісанага слова і памяць пальцаў, як пры граньні на скрыпцы ці на раялі.

Вось што кажа аб гэтым профэсар мовазнаўства Томсон. “Амаль ня ўсе думаюць, што граматнасьць заключаецца ў тым, каб ведаць, дзе якую ставіць літару, і што ў гэтым уменьні ставіць правільна літары заключаецца мэта навучаньня пісьму. З гэтай прычыны, пры навучаньні правапісу ў школе, прымушаюць вучыць напамяць розныя правілы і словы, паводле якіх, пасьля доўгага разважаньня, можна вызначыць, дзе паставіць тую ці іншую літару. Не зважаюць на тое, што граматнасьць павінна быць у мускулах і нэрвах рукі, у рукарухоўных і зрокавых успамінах. Прымушаючы думаць аб літарах, настаўнік проста перашкаджае набыцьцю граматнасьці, г. значыць, аўтоматычнага пісаньня, бо мысьлі аб літарах будуць перарываць ход думак пры пісьмоўным укладаньні. Ня той граматны, хто ведае, дзе якая літара павінна стаяць, а той, хто піша, заўважаючы літары толькі пасьля іх напісаньня, ды і то толькі, як сустаўныя часьці слоў”. (“Общее языковедение”, стар. 424).

Згаджаючыся з тым, што вобраз напісанага слова і памяць пальцаў—важныя фактары ў справе навучаньня правапісу, тым ня менш трэба адзначыць, што і правілы правапісу граюць вельмі значную ролю ў гэтай справе. Правілы, як агульныя нормы пісьма, уносяць сьвядомасьць у процэс навучаньня правільнаму пісьму, бо даюць аснову таго ці іншага напісаньня слова, навучаньне-ж правапісу без знаёмства з правіламі будзе насіць характар мэханічнасьці. Вось чаму навучаньне правільнаму пісьму па гэтай кніжцы грунтуецца на папярэднім вывадзе правіл правапісу, без чаго нельга пісаць ні практыкаваньняў, ні задачак.

## 2. Правапіс знакаў прыпынку, або пунктацыі.

*А. Параўнаньне знакаў прыпынку на пісьме з нотамі ў сьпевах.*

Знакі прыпынку на пісьме, сьцісла кажучы, ужываюцца не дзеля таго, каб выдзеліць тую ці іншую сынтаксычную форму, а дзеля таго, каб паказаць, як належыць зьмяняць інтонацыю голасу пры чытаньні, і якія трэба рабіць паўзы (перапынкі). З гэтага боку знакі прыпынку на пісьме можна параўнаць з нотамі ў сьпевах.

Як ведама, знакі прыпынку на пісьме маюць тое самае значэньне, што ноты ў сьпевах. Нотныя знакі паказваюць павышэньне ці паніжэньне голасу, большы ці меншы перапынак (паўзу), фортэ, п’яно і т. д.; гэтае-ж самае значэньне маюць і знакі прыпынку на пісьме; напрыклад: пункт паказвае паніжэньне голасу і найбольшы перапынак (паўзу) пры чытаньні; коска—найменшы перапынак з невялікім паніжэньнем голасу;

кропка з коскай—сярэдні перапынак з сярэднім паніжэньнем голасу; трохкроп'е або недаказ паказвае, што мова на нейкі момант абрываецца без паніжэньня голасу; двухкроп'е азначае прыпынак і паніжэньне голасу з увагаю на тое, што далейшае пералічваецца або аб'ясьняецца тонам ніжэй. Клічнік можна прыраўнаць да фортэ, дужкі—да п'яно, працяжнік—гэта затрыманьне ўвагі і г. д.

Вось чаму вельмі пажадана, каб пры навучаньні правапісу знакаў прыпынку выкладчык выходзіў з прынцыпу параўнаньня гэтых знакаў на пісьме з нотамі ў сьпевах, асабліва ў тых выпадках, калі знакі прыпынку адзначаюць вельмі выразную інтонацыю вымаўленьня, як, напр.: *коска* ў зьлітым сказе, пры прыдатках, пры аддзяленьні даданага сказу ад галоўнага, а таксама *клічнік* і *пытальнік* альбо *працяжнік*, двукроп'е перад пералічэньнем і ў прычынным злучэньні сказаў. Наогул кажучы, можна навучыцца ставіць знакі прыпынку без граматычных правіл, паводле інтонацыі голасу, таксама, як песьня з голасу пераносіцца на ноты. Пры ўласьцівым разуменьні таго, што значаць знакі прыпынку на пісьме, сынтаксычныя правілы маглі-б мець толькі дапаможнае значэньне. Тут важна яшчэ і тое, што пры такой пастаноўцы справы разам з навучаньнем пунктацыі, дасягаецца выразнае і сьвядомае чытаньне.

*Б. Знадворныя прыметы і граматычныя правілы знакаў прыпынку і іх значэньне.*

Сынтакс у справе пастаноўкі знакаў прыпынку дае нам знадворныя прыметы (коска перад *а, але, як, дзе, які, каторы),* або лёгічныя, змыславыя, ці, лепш сказаць, граматычныя правілы (выдзяленьне прыдаткаў, пабочнага слова, залежных сказаў коскамі; двукроп'е перад пералічэньнем ці перад паясьненьнем), не зварачаючы ўвагі на ўласьцівае значэньне знакаў прыпынку.

Прымаючы пад увагу, што ў сучаснай пэдагогічнай літаратуры прынцыпы навучаньня правапісу знакаў прыпынку на аснове інтонацыі вымаўленьня стала не распрацованы, абаснаваць на іх усё навучаньне гэтым правілам, покі што, нельга. Вось чаму ў гэтай кніжцы правапіс знакаў прыпынку ідзе паводле сынтаксычных правіл, і гэтым правілам надаецца такое-ж значэньне, як і правілам правапісу літар (ортографіі). (Бач. 1, В).

Але трэба ўсё-ж такі падчыркнуць, што вельмі пажадана пры навучаньні правапісу знакаў прыпынку прымаць пад увагу інтонацыю вымаўленьня, асабліва ў тых выпадках, дзе яна выразна. (Бач. А). Гэта значна ажывіць самую работу і будзе мець добрыя вынікі ў справе навучаньня пунктацыі.

**III. Увага да гэтага падручніка.**

Сучасная навуковая граматыка адлучае правапіс ад граматыкі. Правапіс, такім парадкам, становіцца асобным прадметам навучаньня, зьвязаным з граматыкай больш тэрміналёгіяй, як чым-небудзь іншым. Гэты падручнік і складае першую спробу калі ня вылажыць правапіс незалежна ад граматыкі, то хоць выдаць яго асобна ад граматыкі ды аслабаніць, такім чынам, граматыку ад неўласьцівага ёй зьместу.

Адсутнасьць у нас падручнікаў такога роду прымусіла аўтара надаць яму такога зьместу, каб яго можна было ўжываць і ў пачатковых школах, і ў школах вышэйшай ступені, і на ўсялякіх, пашыраных цяпер, курсах беларусазнаўства.

Ён складаецца з дзьвюх часьцін: а) з правапісу ў яго ўласным значэньні і б) знакаў прыпынку. Тут дадзены найважнейшыя правілы беларускага правапісу і найпатрэбнейшыя правілы пастаноўкі знакаў прыпынку з практыкаваньнямі на кожнае правіла. Трэба памятаць, што можа сустрэцца розьніца ў тэрмінолёгіі; так, напрыклад, *імя,* або *імя назоўнае* называецца тут *іменьнікам,* сказьнік—*выказьнікам,* дзеяслоўная прымета і дзеяслоўнае прыслоўе называюцца скарочана—*дзеяпрымета, дзеяпрыслоўе.* Апроч таго, зьменена адно правіла правапісу: форма абвеснага ладу 1-га спражэньня з

націскам на канчатку—*іцё—ыцё (нясіцё, пячыцё)* заменена формай на—*яце—аце (несяце, пячаце),* дзе *я, як* у першым складзе перад націскам, бо форма на *іцё ў* такіх разох не адпавядае вымове і становіць нічым неабснованае выключэньне.

Як ужываць гэты падручнік, гаварылася вышэй (бач. *2. Як ставіць навучаньне правапісу).* Тут трэба прыбавіць яшчэ, што надрукаваныя ў канцы кожнай часьці падручніка "Матэрыялы для сьпісваньня і дыктовак" можна ўжываць для рознага роду як пісьменных, так і вусных граматычных і ортографічных практыкаваньняў, напрыклад: для пісьменнага выкладаньня прачытанага самымі вучнямі ці настаўнікам, пісьменнага і вуснага разбору, сьвядомага сьпісваньня, навучальнага дыктанту і падобн.

**IV. Да другога выданьня.**

Другое выданьне дапоўнена некаторымі новымі правіламі і ўведзены задачкі правапісальнага характару. Такім парадкам, зьмест кніжкі складаецца: 1) *з правіл,* 2) *з практыкаваньняў* да правіл для сьпісаваньня з падчыркваньнем слоў на адпаведнае правіла і 3) *з задачак* на некаторыя правілы.

Задачкі становяць сабою таксама практыкаваньне, толькі з пропускам літар на адпаведнае правіла. Не зважаючы на некаторы адмоўны бок такіх работ, задачкі могуць прынесьці карысьць пры паўтарэньні правіла, асабліва-ж яны патрэбны мала ўважлівым школьнікам, што сьпісваюць работу без належнай сьвядомасьці.

Дзеля таго, што другое выданьне зьмяшчае ў сабе больш-менш поўны зборнік правіл беларускага правапісу, гэтая кніжка выходзіць пад назовам: *"Беларускі Правапіс".*

**V. Да выданьня чацьвертага, нанава перапрацаванага і дапоўненага.**

У гэтым выданьні зроблены наступныя зьмены:

1. Выпраўлены недагляды папярэдняга выданьня.

2. Зьменена рэдакцыя большасьці правіл, каб вышла карацей або ясьней.

3. Усе асобныя пункты правіл перанумараваны, каб адразу можна было зьвярнуць увагу на зьмест правіла.

4. Напісаны нанава правілы: 5, 12, 26, 27, 28, 29, 36, 48.

5. Паўторныя правілы вычыркнуты, але прыбаўлены новыя (3, 4; 33, 34, 38, 42, А, 3) і Б; прыбаўлены і практыкаваньні: 33, 37, 44, 45, 49, 55; дзеля гэтага нумарацыя правіл і практыкаваньняў зьмянілася.

6. Зусім перароблены: § 12. Правапіс іменьнікаў і § 13. Правапіс прыметнікаў.

Каб лягчэй найсьці патрэбную спраўку, правілы напісаны ў парадку склонаў, дзеля гэтага перастаўлены №№ задачак і практыкаваньняў.

Таксама перароблен § 17. Правапіс прыслоўяў, бо ўсе прыслоўі напісаны зьлітна з прыназоўнікамі.

7. Калі ў правіле прыведзена многа слоў—прыкладаў (бач. прав. 48, А, 1) і 50, 2) і 5), то яны напісаны паводле альфабэту, каб лягчэй можна было найсьці патрэбную спраўку.

8. Зьменены правілы: 1) ужываньне нескарочанага (складовага) *і*, калі яно стаіць асобна (бач. прав. 5, Б);

2) Прыслоўі-акалічнасьці напісаны зьлітна з прыназоўнікамі, каб адрозьніць іх ад іменьнікаў з прыназоўнікамі.

9. Складзен падробны зьмест "Правапісу" па парадку правіл, каб лепш было карыстацца "Правапісам" і скарэй знаходзіць патрэбныя правілы.

10. Усе зьмены і папраўкі ў гэтым выданьні зроблены братам маім і настаўнікам Антонам, за што вельмі яму дзякую.

### VI. Да выданьня шостага, папраўленага і дапоўненага.

Гэтае выданьне надрукована з наступнымі зьменамі:

1) Зроблены значныя зьмены ў “Прадмове” як тэорытычнага, так і мэтодычнага характару.

2) У некаторых словах і сказах зроблены ортографічныя і сынтаксычныя папраўкі.

3) Унесены дапаўненьні і папраўкі рэдакцыйнага характару ў правілах I-ай часьці: 3, 6, 32, 33, 35, 39, 49 і ў II-ой часьці прав. 8, В; 9, 1) і к практыкаваньню 8, а таксама ў некаторых другіх правілах.

4) Нанава напісаны правілы: 6, 3); 16, 26, 27—II, 28, 48.

5) Дабаўлена правіла $28_1$, і практыкаваньні $36_1$ і $36_2$.

6) §§ 5 і 6 разьдзелены на паасобныя тэмы, і зьменена нумарацыя §§-фаў, пачынаючы з 6-га.

7) Задачкі і практыкаваньні надрукованы курсыўным шрыфтам, які нагадвае рукапіснае пісьмо, што мае сваё значэньне пры навучаньні правільнаму пісьму.

### VII. Да выданьня восьмага.

Восьмае выданьне выходзіць бяз зьмен, выкінуты толькі застарэлыя прыклады.

16/IV—29 г.

# ЧАСЬЦЬ ПЕРШАЯ

## ПРАВАПІС ЛІТАР І ГУКАЎ

### § 1. Вялікія літары.

ПРАВІЛА 1. Пісаць пачынаюць з вялікай літары. З вялікай літары пішуць і пасьля пункту. Апроч таго, з вялікай літары пішуцца іменьні людзей, іх прозьвішчы, назовы вёсак, сёл, гарадоў, мястэчак, рэчак, гор, краін, мясцовасьцяй, сьвят і інш. *(Адам, Ксяневіч, Шчорсы, Нёман, Пажарніцы, Украіна, Купальле, Першае Мая).*

**Увага.** У пісьмах (лістох) з вялікай літары пішуцца такія словы як Вы, Вас, Ягомасьць, Імасьць і іншыя словы, што замяняюць імя тае асобы, да каторай пішуць пісьмо.

Таксама з вялікай літары пішуцца назвы звычайных прадметаў, калі яны бываюць дзеячамі ў байках і падобных творах, напр.: *Дуб і Чароціна, Сьвіньня і Салавей, Воўк і Авечка.*

**Практыкаваньне 1.** У нашае Касі прыгожая сукенка. Каля Навасёлак цячэ рэчка Шчара. У мястэчку Берасьцечку каманда стаяла. Працоўны люд сьвяткуе Першае Мая. Не адзін Гаўрылка, што ў Полацку. У Марылі сшыткі заўсёды чыстыя. Язык Кіева дапытае. Менск стаіць на рэчцы Сьвіслачы. Навагрудзкі і Ашмянскі паветы сумежныя паміж сабою. Дняпро цячэ ў Чорнае мора. У Вільні засталося шмат старасьветчыны. Каля Вільні ідуць Панарскія горы. Беларусь ляжыць пасярэдзіне Эўропы. Наша старонка называецца Беларускаю Савецкаю Соцыялістычнаю Рэспублікаю. Вітайце дзень Першага Мая!

**Практыкаваньне 2.** *Выпісаць спачатку прыклады з іменьнямі людзей, потым—з назовамі гарадоў, а нарэсьце—з назовамі рэчак і сёл.*

Маленькі Грышка ўмее чытаць. У Касі чырвоная сукенка. У сяле Шчорсах таргуюць збожжам. Аўдзей усё між людзей. У Вільні жыве многа народу. Няпраўда, што ў Кузьмы грошы: хіба яму хто падкінуў. Рака Нёман цячэ ў мора. Язык Кіева дапытае. У горадзе Менску многа школ. Мой брат жыве ў Магілеве. Дзядзька Янкоўскі

—стары ўжо чалавек. Сьвіслач—рэчка невялічка. Майстар з Міра: што цяў, то дзіра. Не адзін Гаўрылка, што ў Полацку. Рэчка Шчара цячэ ў Нёман. Я радзіўся ў засьценку Няйгертаве. У Гандзі сшыткі заўсёды чыстыя. Каля Навасёлак цячэ рэчка Гавязянка.

**Задачка 1-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, пункты і вялікія літары.*

Нахмурылася неба сенажаць ужо скошана жыта на полі зжата птушкі перасталі сьпяваць лісьце патроху асыпаецца туман закрывае сьвет веюць халодныя вятры ідзе дробны дожджык поле ўжо апусьцела кончана работа сярпа птушкі ляцяць у вырай чуваць крык жураўлёў настала вясна прыгрэла сонейка асушылі вятры зямельку хутка расьце жыта цешыцца сэрца працавітага селяніна ціхае поле залаціцца сьпелым збожжам кожны колас наліваецца зернем пара ўжо жаць прышлі жнеі з сярпамі пачалася работа кладзецца пад сярпом збожжа ў полі работа скончана трэба прымацца за малацьбу.

**§ 2. Перанос слова.**

ПРАВІЛА 2. Калі слова на пісьме не зьмяшчаецца ў адным радку, то часьць яго пераносіцца ў другі радок. Каб правільна перанесьці слова з радка ў радок, трэба правільна падзяліць слова на склады ды пераносіць толькі цэлыя склады: *са-рока, саро-ка, ве-рацяно, вера-цяно, вераця-но.*

Адгэтуль відаць, што аднаскладовыя словы для пераносу ня дзеляцца: *дом, дзень, сьнег, стол.*

Пры гэтым трэба трымацца наступных правіл:

1) адна літара не пакідаецца і не пераносіцца. Прыкладам, нельга перанесьці так: *у-міраць, ста-ю, я-ма;*

2) з дзьвюх аднакіх зычных адна пакідаецца, а другая пераносіцца: *кон-на, закон-ны, дванац-цаць, збож-жа, суч-чо;*

3) калі паміж дзьвюма зычнымі стаіць **ь,** то часьць слова з **ь** пакідаецца, а другая пераносіцца: *пісь-мо, паль-цы, жыць-цё, галь-лё, насень-не.* Таксама робіцца, калі ў сярэдзіне слова ёсьць **й** ці **ў:** *хвой-ка, зай-чык, лаў-ка, галоў-ка;*

4) злучэньне зычных разьбіваецца: *крас-ка, каз-ка, салод-кі, цёп-лы, леп-шы, друж-ба, абяр-нуць;* але **дз** і **дж** ніколі не разьбіваюцца, бо яны азначаюць адзін гук: *гарадз-кі, дож-джык, але—ад-зімаваць, ад-жаць,* бо тут выпадковае злучэньне гукаў “д” і “з—ж”;

5) калі прыстаўка творыць склад, то яна аддзяляецца пры пераносе ад кораню: *на-ступны, на-ткнуцца, па-стаяць, пры-сту-піцца, раз-бор,* але няможна перанесьці так: *аб-ярнуць,* бо тут няправільны падзел на склады; трэба—*абяр-нуць;*

6) пры пераносе слова ставіцца *знак пераносу*—рыска (-).

**Практыкаваньне 3.** *Сьпісаць ды падзяліць рыскамі словы так, каб паказаць, як іх можна перанесьці.*

Зямля, сонны, хвораст, мятла, лямпа, трынаццаты, пятніца, няпраўда, багацьце, каменны, сьмецьце, сусед, акуркі, крыльле, капелька, абвестка, салаўінае гняздо, нельга, дошка, сястра, разьвязаць, капуста, ласкавы пастух. Дожджык, дожджык, перастань! Апусьцела поле. Чырвоны дзедзя па жэрдцы едзе (запаленая лучына). Роўнае поле. Знайка бяжыць, а нязнайка ляжыць. Дарожачка жоўтым лістам запала. Ой у полі жыта капытамі зьбіта! Лепшы дома хлеб аўсяны, як на вайне пытляваны. Стаяла бяроза тонка да высока, на корань глыбока, на лісьце шырока. А што то за пташачка ў садочку пяе, адкуль яна, бедная, прычыты бярэ?

**§ 3. Мяккі знак і апостроф.**

ПРАВІЛА 3. Мяккі знак не азначае ніякага гука, а толькі паказвае на пісьме, што зычны гук вымаўляецца мякка: *соль, конь, сінька, бацька, дзядзька; століь—стол, вугаль—вугал.*

1) Літара **Ь** пішацца тады, калі зычны гук чуваць мякка: *гусь, пальцы, камень, кузьня, сенажаць, чытаць.*

2) Часам **Ь** паказвае на пісьме, што мяккі зычны ня трэба зьліваць з наступным галосным: *зьем, зьява.*

3) Пасьля зычных **б, д, п, м, р,** ніколі **ь** ня пішацца; каб ня зьліваць іх з галоснымі, ставяць апостроф над радком паміж літарамі: *аб’явіць, пад’есьці, п’яўка, сям’я, пер’е, вераб’ёў.*

Пасьля **з** у такіх разох пішацца **ь:** *зьесьці, зьяўленьне, разьехаліся, разьюшаны.*

**Увага.** Апостроф ставіцца яшчэ ў тых разох, калі трэба паказаць на пісьме, што слова скарочана: *мо’, трэ’, яшчэ.*

4) Таксама **ь** ня пішацца пасьля **н** перад шыпячым гукам, напр.: *меншы, іншы, кончык, паншчына, віншаваць,* хоць часамі вымаўляецца мякка. Але пасьля **л** у такіх разох **ь** ставіцца, напр.: *большы, пальчык.*

5) **Ў** (нескладовае) ня зьліваецца з наступным галосным, але паміж імі ня ставіцца апостроф: *здароўе, безгалоўе, я ўю, ты ўеш, яна ўе, мы ўём вяроўку, салаўіны, мураўіны, мураўёў.*

**Практыкаваньне 4.** Настала халодная восень. Надвор’е пахаладнела. Мядзьведзь любіць мёд. Жаль увагі ня мае. Уся сям’я п’е гарбату. Беларускае пісьмо. У кузьні паляць вугаль. Нудна над вухам зьвініць авадзень. Кожны вугал неласкава глянуў на Алеся. Столь пабелена мелам. Стол накрываюць настольнікам. Каваль куе сталь. Брыдка быць нямыцькам. Матку жаласьць агарнула. Вёска стаяла на ўзгор’і. Горка зьесьці, а жаль пакінуць. У паветры ўецца павуціна. Адам уе аборку. Разьюшаны леў вельмі страшны. На сем двор адзін тапор. Голуб сеў на стрэху. Многа народу зьехалася на кірмаш. Добрым людзям на здароўе. Зьзяе на небе яснае сонца. Вераб’і шчабяталі. Здарэньне новага зьяўленьня. Даб’ёмся самі лепшай долі. Госьці ўжо разьехаліся. Вецер разьвеяў пер’е. Адзін хоць зьеж вала—усё адна хвала. Кіньма думкі аб долі гаротнай! Ня трацьце марна часу! Сядзьма на калодзе, пагаворым а прыгодзе. Работа і корміць, і поіць. Чужая болька нікому не баліць. Тань, да тавару ня гань. Дзяўчаты пайшлі ў тан. Плыты сталі на мель. Мел капаюць у гарах.

Задачка 2-ая. *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, заместа рысак* **Ь**.

Конь— бяжыц—— зямля дрыжыц—. Мядзьведз—любіц— мёд. Настала халодная восен—. Жал— увагі ня мае. У нашай хаце стол— пабелена мелам. Мы купілі новы стол. Нудна над вухам зьвініц— авадзен—. Пятрус— купіў сталёвыя кан—кі. Кавал— куе стал—. Мол— паела вопратку. Хлопчык парэзаў сабе пал—цы. Гаспадар прадаў сажан— дроў. Беларускае піс—мо. Кол—кі табе год? Сасновыя дровы вельмі колкі. Каму гаравац—, таму ня ўмірац—. Абцёр бац—ка вус рукою, твар і лоб свой лысы. Надз—муўся, як мыш на крупы. Кінуў ён гул—ню з сябрамі. Кожны вугал— неласкава глянуў на Алеся. У куз—ні паляц— вугал—. Побач з хатай стаяла варывен—ка. Эх, як міла, весялен—ка ў роднен—кім куточку! Матку жалас—ц— агарнула. На гул—ню пустую плюн—, махні рукою. Вось на мел— плыты ўзагналі. Мел патрэбен для бялен—ня с—цен. Брыдка быць нямыц—кам. Нямыц—кі гарады дзержац—. Сядз—ма на калодзе, пагаворым а прыгодзе. Пад вечар цен— большае. Тан—, да тавару ня ган—. Дзяўчаты пайшлі ў тан.

**Задачка 3-яя.** *Сьпісаць ды паставіць, дзе трэба, заместа рысак* **Ь** *або* **‘** *(апостроф).*

Адзін хоць з—еж вала—усё адна хвала. Чэрві аб—елі лісьце. Аб—явілі набор. Нудна выглядае надвор—е ўвосень. Дзе п—ецца, там і льлецца. Яны аб—ехалі навокала сьвету. Здарэньне новага з—яўленьня. Ён сеў ды з—еў увесь абед. З—зяе на

небе яснае сонца. Многа народу з—ехалася на кірмаш. Мы пад—ехалі к гары. Засталіся адны аб—едкі. Нядаўна быў з—езд. Конь п—е воду. Вераб—і шчабечуць. Надвор—е пахаладнела. Вецер разьвеяў пер—е. Пад—ярэмнае жыцьцё. Ледзь уз—ехалі на гару. Вёска стаіць на ўзгор—і. Іржа з—ела залеза. Б—ецца, як рыба аб лёд. Вырасла травінка ў сям—і прыгожых васількоў. Уся сям—я п—е гарбату. Зьвяр—ё жыве ў пушчы. П—яўкі жывуць у балотнай вадзе. Пад—ялжджаючы пад горад, мы здалёк ужо бачым вежы і хвабрычныя коміны. Госьці ўжо раз—ехаліся. Ад п—янства дабра ня бывае. На бязрыб—і і рак рыба. Усім па сем, а гаспадару восем, гаспадыні дзевяць, бо хораша дзеліць. У нас завёўся дзікі голуб. Раз—юшаны леў вельмі страшны. Горка з—есьці, а жаль пакінуць. Ходзяць па полі ў раздум—і мужчыны.

**§ 4. Літары У, Й і прыдыханьне.**

ПРАВІЛА 4. **Літары Й і Ў.** Літары Й і Ў пішуцца тады, калі гукі **і** і **у** ня твораць асобнага складу, напрыклад: *рай, мой, вайна, хвойка; воўк, кароўка, пісаў.*

**Практыкаваньне 5.** *Сьпісаць і словы з літарамі* **й** *і* **ў** *падчыркнуць.*

Паехаў мой сынку на вайну. Згінуў сьнег з сырой зямлі. Ані вухнуў, ані рухнуў. А воўку памоўка, а воўк тут. Мы знайшлі малога зайчыка. Ня руш нічога і ня бойся нікога. Будзь здароў, як рыжык бароў. Май усяго даволі, а бяды ніколі. Або пан, або прапаў. На мяжы расла хвойка. Бярэш кароўку, бяры і вяроўку. Мы чыталі байку пра зайца. Поўнач пеўні пракрычалі. У нашага барана роўная воўна. З поўначы холаду, сіверу буйнага, гусі на поўдзень ляцяць. Стукаў дзяцел і жаўна. Прыветна сонейка глядзіць. Паліўся срэбрам сьпеў прыгожы ў далёкай сіняй вышыні. Май—каню сена дай, а сам на печ уцякай. Поўна бочачка віна, нідзе дзірачкі няма. Эх, як слаўна, як прыгожа, хораша, прыстойна! Над палямі змрок праврваўся, па нізе расплыўся. Міма хмурынка прайшла. Між палёў шырокіх я адзін стаю. Уецца павуціна. Стагі на лузе вежамі жаўцеюць. Роўненькім шнурочкам жураўлі на вырай ляцяць над лясочкам. Салавей у гаі сьвістаў.

ПРАВІЛА 5. А. Калі гук **у** стаіць асобна ці на пачатку слова, дык бывае то складовым, то нескладовым.

1) **Ў** (нескладовае) пішацца тады, калі папярэдняе слова канчаецца на галосны гук, напрыклад: *Пусты ўлетку нашы сёлы. Было ў бацькі тры сыны.*

2) Калі прыназоўнік **у** стаіць у сказе паміж галоснымі, то дае ў вымове **в**, але пішацца **ў** (нескладовае), напр.: Каза ўлезла *ў агарод* (заместа “в агарод”). Снапы сушылі *ў азяродах* (заместа “в азяродах”). Два мядзьведзі *ў аднэй* (заместа “в аднэй”) бярлозе ня месьцяцца.

3) **У** (складовае) пішацца тады, калі папярэдняе слова канчаецца на зычны гук, або калі перад **у** стаіць які-небудзь знак прыпынку, а таксама на пачатку пісьма. *(Над ракой туман узьняўся. Чуцен сьвіст у полі. Усюды зелена, усё расьце, усё наліваецца).*

**Увага:** У вершах дзеля разьмеру можа быць *ў* заместа *у* і наадварот. Напрыклад:
Чыстых хмарак валаконцы
Сталі у кружочак
Вышай лесу, проці сонца
І сплялі вяночак.

*(Я. Колас).*

4) Пачатковае **у** ў чужых словах у нашай мове ніколі не чаргуецца з **ў**, напр.: *унівэрсытэт, унівэрсал, узурпатар, Уран, Угоршчына* і г. падобн.

Б. Гук **і,** стоячы асобна ці на пачатку слова, таксама бывае складовым і нескладовым, але пішацца заўсёды **і** (складовае), напр.: Пуста і гола ўсюды. Прышло і

лета. Няволя і плача і скача. Павінную галаву і меч *ня іме.* Золата ў попеле відаць. Конік, сошка і араты мерна *ідуць* па полі. Мы *ішлі*, яны *ідуць.*

**Практыкаваньне 6.** Работа даўно скончана. Пуста і гола ўсюды. Пачарнеў шырокі луг. Яны ўвайшлі ў хату. Хмарка на небе ўзышла. Будзе кірмаш і на нашай вуліцы. Сонейка толькі што ўзышло. Бацька і маці вярнуліся з поля. Аднаму і ў кашы няспорна. Птушкі ў лесе шчабяталі. На ўзгорку расла грушка. У чужое шчасьце ня мухай упасьці. Салавей сьпяваў у гаі. Аўдзей усё між людзей. Лянівому каню і дубіна ня страшна. Сіла і салому ломіць. Нават свойскія качкі і гусі пачуваюць час выраю. Воўка ногі кормяць. Хто дбае, той і мае. Сабраліся хлопцы ўвечар. Увосень багат і варабей. Дабро для ўсіх—наш правадыр. Хто быў нічым, той стане ўсім. Ужо прамінулі няўзгоды пакутныя. Вот узышла ўжо першая вячэрняя зорка. Куды ні глянь—усюды зелена. Ён яго і поіць і корміць. Тухнуць агні, і ўсё заціхае. Агні патухлі, усё заціхла. Вот табе і на! Цесна зьбіліся нашы хаты, як авечкі ў летні жар. Адны вочы і плачуць, і сьмяюцца. Баламутка на ўсякія штукі хутка. Даль паўнютка ціхай смуты. Лес туманам заснаваўся. І рыкам леў сваім будзіў і лес стары, і чыста поле. На чужыне птушкі жывуць усе разам: тут поплеч і кнігі, і бакасы, і качкі, і чаплі. Вецер увосень жудою шуміць.

ПРАВІЛА 6. 1) Калі слова пачынаецца з галоснага гука **о, у** ці **э** пад націскам, то перад імі ставіцца прыдыханьне **в** або **г**: *вочы, вокны, возера, Ворша, вуха, вугаль, гэты.*

Прыдыханьне можа стаяць і ў сярэдзіне слова паміж дзьвюма галоснымі: *навука, павук, цівун.*

2) Нескарочаны прыназоўнік **у** (складовы), стаўшы перад словам, што пачынаецца гукам **а**, падвойваецца і дае ў вымове **ув**, але **в** пішацца зьлітна з наступным словам, як прыдыханьне, напр.: *у ваднае* мацеры пяць сыноў. Дом *у вагні.* Сем варот *у вадзін* агарод. Працуй да поту, а еж *у вахвоту.*

3) Калі слова пачынаецца гукамі **р, л, в, м,** а за імі ідзе таксама зычны, то к слову прыстаўляюцца гукі **і** або **а,** напр.: *іржышча, іржа, лён—ільну, леў—ільва, лоб—ілба, ільняны* і *альняны, Альбоў* (горад), *імгла, імжака, імчаць, імха, імхом, Амсьціслаў, аржаны, амшара, аўторак* і пад.

Але трэба пісаць: *стужка, скрыпка, груша, граць, зноў* і пад. без прыстаўнога **і,** бо гэтыя словы не пачынаюцца вышэй азначанымі літарамі.

Слова *льлецца* пішацца бяз і, бо тут адзін гук **л,** толькі падвойны.

**Практыкаваньне 7.** Навука лепей за багацьце. Навука дае чалавеку розум. Вучыся, нябожа: вучэньне паможа змагацца з нядоляй, з няволяй. У ваднае мацеры пяць сыноў (пальцы). Пастушкі разлажылі агонь. Дом у вагні. Ні акон, ні дзьвярэй—поўна хата людзей (гарбуз). На адно вуха глуха, а на другое ня чуе. Іржуць коні за Сулаю. Увосень лётае павуціньне. Ці Лявон, ці не Лявон, а з раду ня вон. Іржа залеза есьць. Вузел быў хітра завязаны. Сьляпому вочы завязаны. За вачыма сьвету ня бачыць. З ільну ткуць палатно. На прыгуменьні стаяў азярод. Снапы сушылі ў азяродзе. Снапы сушаць у вазяродах. Вокны адчынілі. У вадчыненым акне разьбілася шыба. Прыехаў мой брацейка з Альбова, пытаецца—сястрыца ці дома? З пахмурнага неба сыпалася імжака. Дзеці знайшлі асінае гняздо. У васіным гнязьдзе былі вашчыны. У сад вяла вузенькая сьцежка. Халодная восень прышла. Халодны асеньні вецер. Аржаная каша сама сябе хваліць. Жыта пасеялі на ільнянішчы. Сем варот у вадзін агарод. Коні імчаліся наўскапыта. Гэты цьвеце па ўсім сьвеце. Воран ворану воч ня выклюе. Дзеці забілі вужаку. Воўк залезны, а хвост альняны (іголка і нітка). Каменны вугаль дастаюць з зямлі. Імглін—павятовы горад на Браншчыне. Птушка ня крыкне нідзе ні адна. Ніводнае зернятка не прапала. Радзівон касіў грэчку. Два мядзьведзі ў аднэй бярлозе ня месьцяцца. У ваднэй дзежачцы два цесьцечкі (яйцо). Аколіцы Вільні вельмі прыгожыя.

**Задачка 4-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба,* у *або* ў.

Яны —вайшлі — хату. Хмарка на неба —зышла. Птушкі — лесе шчабяталі. Пусты —летку нашы сёлы: —се на полі за сярпом. Былі — бацькі тры сыны, да —се-ж

яны Васілі. Жар гарыць — печы. Салавей сьпяваў — садзе. Ціха на полі — палудзень гарачы. На —згорку расьце хвойка. Многа тут гразі — нягоду, многа пылу — летні жар. Аўдзей —сё між людзей. Сонейка толькі што —зышло. Нешта зьвініць — небе тоненькім срэбным звонікам. Жураўлі —гары крычаць. Куды ні глянь — —сюды зелена. Цесна зьбіліся нашы хаты, як авечкі — летні жар. Збожжа без пары пажоўкла — полі. Вада — рэчках абмялела. Вот —зышла —жо першая вячэрняя зорка. Пачуецца сабачы брэх, і —сё заціхае. Хлопцы надумаліся пайсьці — грыбы. Чорныя баравікі так і стаялі — іх вачох. Гаснуць агні па хатах, і — вёсцы наступае цішыня. Месяц яшчэ ня — зышоў. Са страхам —зышоў Міхась на ганак школы. — школе яшчэ нікога ня было. За вёскай — полі прытуліліся могілкі. Могілкі — полі адны-адзінюткі. На —зьмежку расла груша. Цяжка —здыхнуўшы, збаны пастаўлялі, клункі на межы паклалі жнеі. Шчыраю рукою ўбрала лета —весь белы сьвет. Сабраліся хлопцы —вечар.

**Практыкаваньне 8.** *Перапісаць і заўважыць правапіс гуку* **і.**

Сьпяць зімою купчастыя бярэзіны *і* магутныя дубы. Мы *і*шлі на рынак. Ён яго *і* поіць *і* корміць. Стукаў дзяцел *і* жаўна. Будзе кірмаш *і* на нашай вуліцы. Калі не наеўся, то *і* не наліжашся. Моцна сьпіць шырокая рака: глядзіш—*і* здаецца, што яна мёртвая. Але гэта толькі здаецца: пад ковамі лёду *і*дзе работа, кіпіць жыцьцё. На лёдзе там *і* сям паказаліся палонкі. Варушыцца рака: чуе *і* яна вясну новага жыцьця. Трасе яна сваімі дужымі плячамі, *і* лёд ломіцца *і* трашчыць. На беразе стаіць цэлая куча народу. Тут *і* старыя, *і* малыя, мужчыны *і* дзеці. Аднаму *і* ў кашы няспорна. І рыкам леў сваім будзіў *і* лес стары, *і* чыста поле. Альбо *і*грай, альбо грошы аддай. Было ліха ды *і* пагоршала. Самі сьлёзы *і*дуць. Вот табе *і* на! З чаго хлеб, з таго *і* пірагі. Дудар дудару дарма *і*грае. Ліст на дрэвах пажоўк *і* асыпаўся. Ужо *і* халодная восень прышла. Толькі жыта маладое расьце *і* руніцца. Будуць ветры за вугламі выць *і* плакаць, *і* стагнаць. Пуста *і* ціха ўсюды. Сьпяць *і* заўсёды зялёныя хвоі *і* яліны. Кусты *і* дрэвы таксама здаюцца нам зімою мёртвымі. Лісьце дрэву непатрэбна ўвосень, *і* яно іх скідае. Абміраюць назіму *і* вужакі, *і* жабы, *і* яшчаркі. Золата *і* ў попеле відаць. Калі грыбна, дык *і* хлебна. Нават свойскія качкі *і* гусі пачуваюць час выраю: яны падлятаюць, крычаць *і* лапочуць крыльлем. На чужыне птушкі жывуць усе разам: тут поплеч *і* кнігі, *і* бекасы, *і* качкі, *і* чаплі. Мяккі сьнег лятае пухам *і* канца яму няма. Хто дбае, той *і* мае. Сіла *і* салому ломіць. Хай *і*мчыцца наша песьня птушкай па-над гаем.

## § 5. Правапіс зычных гукаў.

### 1. Звонкія і глухія зычныя.

ПРАВІЛА 7. Гукі **р, л, м, н,** называюцца *плаўнымі:* яны ня маюць падобных глухіх і дзеля таго заўсёды вымаўляюцца выразна.

Нявыразнымі зычнымі гукамі бываюць *звонкія і глухія.* Напрыклад, словы: *нож, лёд, просьба* вымаўляюцца, як—*нош, лёт, прозьба.*

Каб пазнаць, якую літару ў такіх разох трэба пісаць на месцы нявыразнага зычнага гуку, трэба слова зьмяніць так, каб пасьля нявыразнага зычнага стаў галосны гук *(нож—нажы, просьба—прасіць, грозьба—гразіць, дуб—дубы, хлеб—хлеба, плод—плады, плот,—платы, гразь—гразі; молат—малаток, молад—малады* і г. д.).

**Практыкаваньне 9.** Адзін хлеб прыедліў. Засыпце яму пяском! І за шчэпку знойдзеш прычэпку. Старой бабцы хораша і ў шапцы. Адвага або мёд п’е, або кайданы трэ. Бывала горш, але рэдка. Не разгадалі загадкі. Дождж і град, і галалёд. Важыш на рыбку, важ і на юшку. Пойдзе мой сыночак пракладаць дарожкі. Мы ішлі сьцежкаю. Свая сярмяжка нікому ня цяжка. У горадзе гарадзкія парадкі. Ніткі ссукалі ў пяць столак. Сала было ў пядзь таўшчыні. Прысядзьце каля нас! Калёсы паставілі пад павець. Вам незнаёма нядоля людзкая. Тут стаялі ваяводзкія палацы. На ўзьмежку расла грушка. Вось улез у цёмны лес! Аддай сваю здольнасьць грамадзкай справе! Ветрык

ледзь-ледзь набяжыць. Страву пасалілі трыма драбкамі солі. На слупку сядзела птушка. Вецер хмары шыбка гоніць. На лузе расьлі маладыя дубкі. Град пабіў жыта. У каваля цяжкі молат. У холад кожны молад. Бацька на калодцы лапаць выплятае. Сядзем радком, пагаворым ладком. Сам сабе рад. Год на год ня прыходзіцца. Ты, брат мой, еж хлеб свой. Адзін з сошкай, а сямёра з ложкай. Гушчу зьеў, жыжку пакінуў. Падарож была цяжкая. Ежце, да ў вочы ня лезьце. Бегала ліска каля лесу блізка. Сказаў казку з прыказкай. Ні просьбаю, ні грозьбаю. Сусед ехаў улегцы. Без падмазкі блінца не сьпячэш. На капусту купілі новую кадзь. Лебедзь—рэдкая птушка.

**Задачка 5-ая.** *Сьпісаць і зьмяніць словы паводле ўзору (дуб—дубы, луг—лугі.).*

I. Слуп—слупы, дуб—дубы, плот—, плод—, воз—, зуб—, мароз—, нож—, абраз—, сторaж—, горад—, холад—, рог—, мох—, луг—, стог—, бераг—, гвозд,— дождж—, жолуд—, сноп—, лоб—, голуб—, шубка—, каробка—, дроб—, бабка—, грыбкі—, хлеб—, сьнег—, пірог—, начлег—, абед—, лёд—, лодка—, год—, параход—, бародка—, дарожка—, нож—, ножкі—, кніжка—, ложка—, дрож—, піражкі—, казка—, сьлёзкі—, гразь—, воз—, расказ—, мядзьведзь—, хатка—, градка—, бок—, град—, народ—.

II. Просьба—прасіць, цяжкі—цяжар, касьба—, рэдка—, малацьба—, гарадзкі—, гарадзьба—, прызба— (хоць—прысыпаць), гразка—, адзежка—, дзежка—, почапка—, кладка—, еж—ежа, кветка—, дзетка—, дзедка—, лёгкі—, салодкі—, рэдкі—, гладкі—, молат—, молад, глыб—, лебедзь—, вузка—, кадка, губка—, ястраб—, жэрдка—, рэпка—, мозг—, пруд—, нізка—, вузкі—, людзкі—, везьці—, несьці—, сьцярог—.

**Задачка 6-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, літару* **б** *або* **п.**

Адзін хле— прыедліў. Абяцаная ша—ка на вушы ня лезе. Цэ— вісіць у гумне. У гародзе расьце бо—. Кот памарозіў ла—кі. Ло— яго лапкай па плячы. Хоць у ло— страляй. Жыта было ў лу—цы. Хле— на стале, а рукі свае. У калысцы адарвалася поча—ка. Снапы ставяць у ба—кі. Паставілі чатыры ко—кі сена. Галу—ка адбілася ад гнязда. Страву пасалілі трыма дра—камі солі. У мышкі зу—кі вострыя. На лузе расьлі маладыя ду—кі. На слу—ку сядзела птушка. Вецер хмары шы—ка гоніць. На злодзеі ша—ка гарыць. Старой ба—цы хораша і ў ша—цы. Ба—скія сенцы нідзе не стаяць. Пастух затрубіў у тру—ку. Засы—це яму пяском! Каню робяць у хляве жола—. Ястра— драпежная птушка. Ры—ка схавалася ў глы— рэчкі. Ба—ка садзіць рэ—ку. Зу— на зу— не пападае. У ры— кроў халодная. Галоднай куме хле— наўме.

**Задачка 7-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, літары* **д** *або* **т.**

У каго ёсьць матка, у таго галоўка гла—ка. Адвага або мё— п’е, або кайданы трэ. Бывала горш, але рэ—ка. Ад роднага таткі прыемны і ла—кі. Аста—кі з хаткі. Насталі новыя пара—кі. Іду па кла—цы. Сало—кі, як мёд. Не разгадалі зага—кі. Сабака трапіў на сьле— зайца. Адклад ня ідзе ў ла—. Люблю наро— наш беларускі. Гэта кве—ка не для твайго носу. Гра— пабіў жыта. Гола— мучыць людзей. У каваля цяжкі мола—. У хола— кожны мола—. Улетку люблю цябе, дзе—ку, а зімою зьем хлеб з сьвіньнёю. Каля—кі—гаспадарскія пара—кі. За кароўкамі ўсьле— з торбай цягнецца дзе—. Бацька на кало—цы лапаць выплятае. Папаў, як у нера—: ні ўза— ні ўпера—. Рыбакі злажылі нева— у ло—ку. Сядзем ра—ком, пагаворым ла—ком. Поўна ка—ка мёду. Гола— — ня цётка. Яга—ка ты харошая! Сам сабе ра—. Каля печы дзе— сядзіць. Дождж і гра—, і галялё—. Які прыхо—, такі і расхо—. Го— на го— ня прыходзіцца. Ла—кі-ладушкі, прыляцелі птушкі.

**Задачка 8-ая.** *Сьпісаць і паставіць літары* **ж—ш.**

Важыш на рыбку, ва— і на ю—ку. Па даро—цы каціласся цяле—ка. Пойдзе мой сыночак пракладаць даро—кі. Мы ішлі сьце—каю. Кую, кую но—ку, паеду ў даро—ку! Ця—кая, жнейка, праца твая! Свая сярмя—ка нікому ня ця—ка. У мяне востры но—. Адзін дасу—, да няду—. Адзін з со—кай, а сямёра з ло—кай. Адзін хоць зье— вала— усё адна хвала. Каб ня е—ка, не адзе—ка, дык была-б грошай дзе—ка. Праз Беларусь сту—кай льлецца рака Нёман. Птушка зачапілася но—кай за волас сіла. Котка злавіла мы—ку. Ці цот, ці лі—ка? На паліцы ляжаць кні—кі. Калі ўзяўся за гу—, не кажы, што

ня ду—. Поўны ко— бульбы. На ўзьме—ку расла гру—ка. Гушчу зьеў, а жы—ку пакінуў. На мура—ку смачная трава. Стора— пазьбіраў стру—кі. Падаро— была вельмі ця—кая. Калёсы паставілі ў шала—. Му— нябо—чык усплыў на думку. Уздыхнула ця —ка матка. Пад лавай стаяла ра—ка.

**Задачка 9-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, літары* **г—х, з—с.**

Лё—ка стала на сэрцы. Блі—ка відаць, да далёка дыбаць. Люлі, люлі, люлі, пале — кот па дулі! Абы як прышло, лё—ка і з рук сышло. Бегала ліска каля лесу блі—ка. Ежце, да ў вочы ня ле—ьце! Сірацінка сьлё—кі льле. Цягнецца дарожка ву—кая, крывая. На страсе выра— мо—. Ты мо— дзерці мо—. Пачалася ка—ьба. Маро— адмарозіў нос. Яму паслалі адка—. Сьне— ад сонца тае ўлёт. Сабаку прывязалі на ланцу—. Прылё— на часіну сапачыць. Мы чыталі ка—ку. Сказаў ка—ку з прыка—каю. Мя—ка сьцеле, да мулка спаць. Маладзік малады, ро— залаты. Маро— — сто пудоў на во—. Ні про—ьбаю, ні гро—ьбаю. Начлежнікі паехалі на начле—. Сусед ехаў уле—цы. Няма нам палё—кі. Бяз подма—кі блінца не сьпячэш. Вера— цьвіце ў верасьні. Сухія трэ—кі скора загарэліся. Вось уле— у цёмны ле—! Лепш хлеб з вадою, як піро— з бядою. Пераво—чык перавё— нас на другі бера—. На вуліцы было гра—ка. Апанас чытаў раска—. Адзінокая бяро—ка схінулася над рэчкай.

### 2. Гукі Д, Т, ДЗ, ДЖ.

**ПРАВІЛА 8.** 1) У беларускай мове няма мяккіх зычных **д** і **т,** бо яны зьмяніліся на мяккія **дз** і **ц** *сад—садзіць, сьвет—сьвеціць; дзень, ціха, піць, даць, дзеці, дзядзька.*

2) Для азначэньня гукаў **дз** і **дж** пішацца па дзьве літары, але трэба памятаць, што вымаўляюцца яны не паасобку, а зараз: *дзень, сяджу, гляджу.*

**Практыкаваньне 10.** Сьвет вялік, а ў сьвеце людзі. Сьвеціць да ня грэе. Хто пытае, той ня блудзіць. Хата ходырам ходзіць. Калі страва дагодзіць, то і самавар не зашкодзіць. Лес гамоніць, як на сходзе дзе народ. Сем дзён маладзён. Слова—вецер, а пісьмо—грунт. Паставілі дзеці сіло. Па балоце пахаджае бусел. Гасьцінец абсаджан бярэзьнікам. Вецер дажджлівы панура шуміць. Дажджавая вада ня мае смаку. Сьмешна, да не пацешна. Сухая ложка рот дзярэ. Баржджэй, але не сьпяшайся дужа. Будзе пара— вырасьце трава. Маці ніткі села віць. Хоць вох, да ўдвох. Цяжка жыць у паняверцы. Летась пасаджана, сёлета ўзрашчона. Роўны з роўнага цешыцца. Я вам раджу не сварыцца. Мядзьведзь еў мёд, а пчолы джгалі яго джаламі. Сёлета год ураджайны. Прыяжджайце да нас у госьці! І шуміць, і гудзе, дробны дожджык ідзе. Няхай той серадзіць, хто на неба глядзіць. Не ўважай на ўраджай, а жыта сей. Хлеб расчынілі на дрожджах. Наш сад абсаджан жываплотам. Аці, аці, да нечага даці.

**Задачка 10-ая.** *Сьпісаць і паставіць літары* **дз—ц, дж—ч.**

Мядзьве—ь любіць мёд. Вам незнаёма нядоля лю—кая. Люблю я гла—ь нябёс. У Слуцку ўсё палю—ку. Пачалася мала—ьба. Ветрык ле—ь-ле—ь набяжыць. Бу—ька набудзецца, а хвалько нахваліцца. Бу—ь перш выслухачым, а потым павядачым. Адкуль хмары, адтуль і дож—. Аднае печанае рэ—ькі хіба ня ем. Адну дзірку ла—ь, а другая туды-ж гля—ь. У горадзе гара—кія парадкі. Лебе—ь—рэдкая птушка. У горадзе вырас хвош—. Калёсы паставілі пад паве—ь. Ме—ь капаюць у гарах. Наш дзя—ька робіць колы. Ён не грама—кі чалавек. Аддай сваю здольнасьць грама—кай справе! Сяк-так, накасяк, абы не палю—ку. Увосень капаюць рэ—ьку. Ідзе наш дзя—ька, і па бруку адзін за дзеся—ь робіць груку. Прыся—ьце каля нас! Ся—ьма на калодзе, пагаворым а прыгодзе. Прыгле—ься, які ён вялікі вырас. Ся—ь і сядзі! Думкі за гарамі, а сьмер—ь за плячамі. Салома пачала тле—ь. Мала—ьбіты змалацілі два пасады жыта. На капусту куплена новая ка—ь. Ніткі ссукалі ў пя—ь столак. Дзень ледзь-ледзь займаўся.

### § 6. Галосныя пасьля зацьвярдзелых зычных.

ПРАВІЛА 9. Пасьля зацьвярдзелых зычных **ж, ш, ч, ц,** * ) **р, (дж)** пішацца **ы:** *жыла, жыць, шыла, чыста, рынак, бяры, дажджы, пальцы.*

Таксама пасьля **ж, ш, ч, ц, р, (дж)** пішацца **а, у, э, о:** *жар, жук, жэўжык, жоўты, шабля, шум, шэрсьць, шосты, час, чуць, чэсьць, чорны, гразь, гавару, грэх, сьцярог, цэп.*

**Практыкаваньне 11.** Шыла ў мяшку не схаваеш. Папсавала гразь дарогу. Хлопчык знайшоў складаны ножык. Ажываюць яры. Шчырая праца—мазалёвая. Нашчыпайце сабе вішань! Дожджыку просіць зялёнае жыта. Хоча дажджу ярына. Нашыя сшыткі заўсёды чыстыя. У нас спраўлялі дажынкі. Ваяка ваюе, а жонка дома гаруе. Гаспадар арэ сваё поле. Рэчкі цякуць у мора. Маланка папаліла арэхі. Грэе цёплае сонца. Кожная рэч тут незнаёма. Трэба дбаць на хату. Рэчка срэбрам блішчала на сонцы. Яшчэ ня скора сьнег растане. Нас запрасілі на чэсьць. У тыдні шэсьць рабочых дзён. І за шчэпку знойдзеш прычэпку. На балоце гразка. Сад пакрыўся жоўтым лістам. Жэўжыкі абарвалі грушкі. Памарозілі шчокі. Вада патрэбна і чалавеку, і жывёліне, і расьліне. Скончыўся заранье век твой, чалавеча! Бура з дажджом называецца навальніцай. Рупныя пчолкі гулі. Яму ўжо шосты год. Кветкі пажоўклі. Чоран мак, да смачан. Пасьмяяўся гаршчок з катла, што абое чорныя.

**Задачка 11-ая.** *Сьпісаць і паставіць заместа рысак* **і** *або* **ы.**

Ш—ла ў мяшку не схаваеш. Аж—ваюць яр—. Расталі ў небе куч— хмар. На мяж — расьце груша. Поўнач пеўн— пракрычалі. Сьц—х у лесе шолам. Гасьне корч—к на камінку. Неба пакр—лася хмараю. Цяжка стала ж—ць. Пры дарозе вырасла кал—на. Малы жук, а вял—кі гук. Чыжык, ч—ж—к, дзе ты быў? Адз—н вол падласы, а друг— рабы. Будзем вуч—цца, пакуль сьмерць луч—цца. Хлопч—к куп—ў складаны нож—к. Доктар лечыць хвор—х. Ня першы раз ваўку ў лесе з—маваць. Шч—рая праца—мазалёвая. Нашч—пайце сабе вішань! Дожджыку просіць зялёнае ж—та. Хоча дажджу яр—на. Дрыж—ць, як асінавы л—ст. Прач—тай гэтую кнігу! Налі вады ў кар—та! Наш—я сш—ткі заўсёды ч—стыя. Мы спраўлялі даж—нкі. Пастух паліч—ў авечкі. Сьвет ш—рокі і вялікі. Каровы р—каюць. Дажджы— патрэбны расьл—нам. Палаж— дрождж—на пал—цы! Пр—ехал— купцы. Сірату забралі ў пр—тулак. Хлопцы пасвар—ліся за нож—к-цыганч—к. Сонца сьвеціць і добр—м, і зл—м. Да мяне пр—ехаў мой стар— пр—яцель.

**Задачка 12-ая.** *Сьпісаць і паставіць прапушчаныя літары* **е** *або* **э.**

Р—чкі цякуць у мора. Ж—ўжыкі абарвалі грушкі. Гаспадар ар— сваё пол—. Гр—е цёплае сонца. Дробны дождж сяч— ў акно. Кожная р—ч тут незнаёма. Тр—ба дбаць на хату. Р—чка ср—брам блішчыць на сонцы. Нас запрасілі на ч—сьць. Ляц—лі ш—рыя гусі. Яшч— ня скора сьнег растане. Што ў той ч—сьці, калі нечага есьці. Бл—ск гарачы сьлепіць вочы. Вуж любіць гр—цца на сонцы. Р—дкае малако нясмачнае. Сьпелыя чар—шні вельмі смачныя. Нар—жце в—цьця на в—нікі! Насадзілі многа р—пы. Плот гародзяць ж—рдкамі. Ч—сным людзям тр—ба верыць. Раньняя птушка зубкі цяр—біць, а позьняя вочкі тр—. Вуч—ньне кончыцца *ў* ч—рвені. Сьпераду гр—е, а ззаду в—е. *У* тыдні ш—сьць рабочых дзён. Р—шатам воду носіць. Сабака бр—ша—в—цер в—е. Калі вядзецца, то і на шч—пку прадзецца. Дзеці скублі пер'—. Сёньня харошае надвор'—. Кажуць: барджэй, хутч—й і скар—й. Цэп любіць галоднага, а каса сытага. Па б— ленькай ж—рдачцы чырвоны пев—нь едзе (лучына з агнём). Ч—рві капусту аб'елі. Ніхто ня знае, што яго чакае.

**Задачка 13-ая.** *Сьпісаць і паставіць літары* **о, а.**

Папсавала гр—зь дарогу. На балоце гр—зка. Чыстых хмарак валаконцы сталі ў круж—чак. Сад пакрыўся ж—ўтым лістам. Неба пакрылася ч—рнаю хмараю. Папсавала гр—зь дарогу. Куча бяр—зак расла пры дарозе. Пр—слы гнілыя на землю ляглі. Ціха на полі ў палудзень гар—чы. Над палямі змр—к прарваўся. Яму ўж— ш—

---

* ) Гэты гук "ц" знаходзім у такіх, напрыклад, словах: *палец, купец, цэп, цацка:* яго ня трэба зьмешваць з "ць", што з мяккага "т". Выключэньнем можа быць толькі слова "цьвет".

сты год. Кветкі паж—ўклі. Краскі зацьвілі ж—ўценькім цьветам. Ч—ран мак, да смачан. Чуж—е лычка плаціцца рамушком. Ч—рная рыза не спасе, а белая ў грэх не ўвядзе. Ш—ўкавы венік—лёгкі дух. Ж—нка ці звонка, дзеткі ці гудуць? Ч—рт-бы дзятла знаў, каб не яго даўгі нос. Малы малыш—к скінуўся з выш—к (ж—луд). Поле незьмяр—на, быдла нязьліч—на, пастух рагаты або цыбаты (неба, зоры, месяц). Воўны клач—к, дрэва суч—к, саломы пуч—к, рэменю шмацінка—вось і цэлая снасьцінка (хамут). Стаіць быч—к смалены бач—к (засланка). Разумен гаршч—чак, у ім сем дзірачак (галава). Пад адным капялюш—м чатыры браткі стаяць (стол). Іш—ў к нам, а прыйш—ў к вам. Бур— сьціхла. Расьцьвіла пахучая чар—муха. Памарозілі шч—кі. Скончыўся заранье век твой, ч—лавеча!

**Ь знак пасьля З, С, Ц, ДЗ.**

ПРАВІЛА 10. Калі гукі **з, с, ц, дз** стануць перад мяккімі эычнымі, то вымаўляюцца мякка, і на пісьме ў такіх разох пасьля іх пішацца **Ь** *(зьбіць, зьняць, зьвер, сьвет, радасьць, сьлёзы, цьвет, цьмяны, цьмець, дзьве, дзьвесьце, дзьверы, зьехаць, зьява, зьесьці).*

Але перад мяккімі гартаннымі (задняязычнымі) **г, к, х,** яны вымаўляюцца цьвёрда, і мяккі знак ня пішацца: *згінуць, скінуць, схіліцца.*

Гэтае правіла не адносіцца да зацьвярдзелага *гуку* “ц” *(памацнець* ад *моц).* Слова “цьвет” з старога слова “твісті”.

Практыкаваньне 12. Упрочкі зьбірайся, а жыта сей. Сьветлая галоўка мысьлямі занята. Адна махнуша не гарыць, а цьмее. Асыпалася лісьце. Ад напасьці не прапасьці. Сьпі, маё дзіцятка! У каго ёсьць матка, у таго галоўка гладка. Адвага—не зьнявага. Ня шукай ты шчасьця-долі на чужым далёкім полі! Баязьліваму і страх здаецца. Не сьпяваюць птушкі. Сьціхнуў лесу шолам. Сьліна бывае заразьлівая. Гасьне корчык на камінку. Поле апусьцела. Кветкі ня сьвецяць галоўкамі яснымі. Шкло якоесь цьмянае. Наста якаясь сьлязьлівая. Мяккі сьнег лятае пухам. Маці схінулася над калыскай. Згінуў сьнег з палёў даўно. Яблыні цьвілі белым цьветам. Замерзьлі лужынкі. Цьвёрдую пасьцельку прыгатаваў мароз для мяккага сьнегу. Зачыняйце шчыльна дзьверы! Гаварыў ён зьняважліва і насьмешліва. Падзьмуў сівер, і папаўзьлі па небе сьнегавыя хмары. Ад баязьні мала прыязьні. Часьцей і гусьцей залёталі сьнегавыя пушынкі. Паспорылі за мех, а ў мяху сьмех. Сьляпы сьляпому не павадыр. Іcподак скінуўся ды разьбіўся. Апанавала млявасьць. У Нёмне рыбу вудзіў дзядзька. У нізкіх мясьцінах заўсёды зьбіраецца вада. У нашым лесе мядзьведзь—самы вялікі зьвер. З людзьмі мядзьведзь ня любіць сустракацца. Сонца шчыра разьлівала блеск прыветны і цяпло. Поле жыцьцем трапятала, ўсё пяяла і цьвіло. Чуецца говар мне сьпелае нівы.

**§ 7. Правапіс галосных.**

**1. Літары О, Э.**

ПРАВІЛА 11. Гукі **о, э** (таксама **ё, е**) чуваць выразна толькі пад націскам: *горы, рэчкі, добра, чэрап; сьлёзы, вёдры, сені, вецер.*

Калі націск зыходзіць з гэтых гукаў, то заместа **о, э** чуваць і пішацца **а,** а заместа **е, ё—я:** *горы—гара, рэчка—рака, чэрап—чарапы; лес—лясы, вербы—вярба, увесну—вясна, сьлёзы—сьляза, вёдры—вядро, цёплы—цяпло.*

**Практыкаваньне 13.** Горы, як волаты, падымаюцца к небу. Стаіць гара высокая, а пад гарою—гай. Наш ячмень рэдкі, а ваш яшчэ радзейшы. Шэпчуць вербы над рэчкаю. Зашаптала вярба над ракою. Пачуўся птушыны шчэбет. Птушкі ў лесе шчабяталі. Увосень холадна, а ўзімку халадней. Увесну цёпла, а ўлетку цяплей. Кужэльнае палатно ткуць з кужалю. Маладому моладасьць, а старому старасьць.

Работы на полі даўно скончаны. Шэрага зайца называюць шараком. І мая капейка не шчарбата. Чалавек—гаспадар прыроды. Хто ў жніво халадку шукае, той узімку галадае. Голад і холад мучаць людзей. Садовыя дрэвы глуміць чарва. Чэрві капусту аб’елі. Глуха шэпча лес зялёны. Ці паскачаш, ці паплачаш. Цэлае лета вісеў жолуд на дубе. Жалуды растуць на дубе. Ніводзін стрэл не прапаў дарма. На вайне стралялі з гармат. Сёстры гулялі ў садзе. Сястра пашыла прыгожую сукенку. Праляцела борзда лета. Кругом усё зелена. Поле пакрылася зяленівам.

**2. Літары Е, Я.**

ПРАВІЛА 12. А. Гук е чуваць ясна толькі пад націскам: *палена, калена, лета, мелка, асеньні, неба.*

Калі націск зыходзіць з **е,** то заместа **е** чуваць **я:** *землі—зямля, лежань—ляжыць, сем’і—сямейка, зелена—зялёны.* (Бач. прав. 11).

Не пад націскам **е** пішацца ў наступных разох:

1) Перад ненаціскным **а** ці **я:** *лесавік, сенажаць, селянін, цецярук.*

2) У 3-м і далейшых складох перад націскам: *ве-лі-чы-ня, зе-ле-на-ва-ты.*

Але ў такіх словах, як *сьвяткаваць, ясакар, якава* (Ня бачыць сава, *якава* сама), *я-зы-ка-ва-ты* і іншых пішацца **я,** а ня **е,** бо тут **я** ў корані.

Б. Ненаціскное **я** пішацца:

1) Перад тым складам, на каторы падае націск: *бя-да, ня-ма, ня-хай, я-на, ля-сы, зям-ля, зя-лё-ны, ве-ра-ця-но, ля-жыць.*

2) У 2-м складзе перад націскам, калі ў першым няма **а** ці **я:** *ня-шы-ро-кі, ня-ву-чо-ны, ля-су-на, бя-ду-на.*

**Увага:** Аб тым, калі **я** пішацца ў канчатку, глядзі ніжэй: § 12, прав. 34; § 13, прав. 40 і 42.

**Практыкаваньне 14.** Ляжыць невядомы бядак. Неспакойна зашумела жыта маладое. Уся сямейка сьпіць ды спачывае. У пастушкі няма služкі. Сьпее-дасьпявае колас сіратой. Абы бяда, а шыя будзе. Мой брат любіць паляваньне. Наш сусед занядужаў. Зямля мае галападобную форму. Усьлед думкам неспакойна вецер падпявае. Сенажаць ужо скошана. Птушкі перасталі сьпяваць. У няўмекі рукі калекі. Няшырокая дарога падымалася на горку. У нашага суседа была ўчора бяседа. Селянін арэ сваё поле. Каля гаю стаіць векавечны курган. Сьнегавая вада. Веснавая кветка. Бачыць вока, да ляжыць далёка. Ня бачыць сава, якава сама. Кожная рэч мае велічыню. Садовіна яшчэ зеленаватая. Цянькі на два дзянькі. Ці цяпер, ці ў чацьвер. Жар быў нястрывалы. Памятай мяне, як я цябе. Павесялела сялянская доля. Пацямнела ў хаце. Нешчасьлівая доля. Зелянее травіца. Вада ў рэчках абмялела. Сяляне аруць сваё поле.

ПРАВІЛА 13. На словы **не, без** ня падае націск; яны становяць як-бы частку таго слова, перад каторым стаяць, і дзеля гэтага часам пішацца **не, без,** а часам—**ня, бяз.** Ужываньне гэтых слоў падлягае правілу 12, і пішацца ў іх то **е,** то **я,** у залежнасьці ад таго, на якім складзе націск: *не магу, не хачу, не знайшоў, не пе-рас-та-юць, не пе-ра-жы-веш, не дзе-ля таго; ня буду, ня ведаю, ня шуміць; без вады, без ахвоты, бяз хлеба, бяз дроў.*

Словы **цераз, перад,** і **пера** нязьменна пішуцца з літарай **е,** бо заўсёды перад **е** будзе стаяць ненаціскное **а;** напр.: *цераз мост, перад намі; перавоз, церасчур* і т. д.

Словы **дзеля** і **каля** прынята пісаць нязьменна з літарай я на канцы: *каля млінa, каля броду, каля мяне, каля вады; дзеля гэтага, дзеля таго.*

**Практыкаваньне 15.** Ад прыбытку галава не баліць. Ня слухаеш ківа, паслухаеш кія. Без правадыра войска гіне. Будзе кій, да не такі. Ніхто ня дасьць самохаць волі. Нішто багатых ня турбуе. Без ахвоты няма работы. Ня так шкода, як нявыгода. Адважны не баіцца няўдачы. Абяцаная шапка на вушы ня лезе. Упартыя адзін

другога не пераважаць. Цераз сілу і конь не пацягне. Тады хіба перастане, як уся сарока бела стане. Дзіця перапалохалася ды захварэла ад пярэпалахаў. Летась у нас былі пярэбары на новую кватэру. Баяцца не цівуна, а яго бізуна (старая прыказка). Без падпалу дровы не гараць. Чужым розумам век не пражывеш. Бяз штучкі ня ступіць. То не бяда, што ня п'ецца вада. Каля рэк туман падымаецца. Не шкадуе, хто серадуе. Каля плоту расла крапіва. Перад невадам рыбы ня ловяць. Перад Тодарам расхадзіўся ходарам. Сын вярнуўся дзеля хворае мацеры. Цераз мора катоў хвост (восілка на вядры). Запас бяды ня чыніць. Няпрыветна цераз вокны ночка пазірае.

**3. Літара Е ў складовых пасьля націску.**

ПРАВІЛА 14. У складох пасьля націску *ў аснове* слова заўсёды пішацца **е:** *(восень, вецер, возера, певень, лецейка, брацейка, вучыцвль, выехаць, выцерабіць, вывесьці, сіненькі, беленькі, патрэбен, повен),* а таксама ў такіх разох, як—*чытае, гуляе, бялее—чытаеш, гуляеш, бялееш.*

У словах—*памяць, месяц, пояс, заяц, чэлядзь, дзевяць, дзесяць, тысяча*—пішацца **я,** бо тут **я** ў корані.

**Увага:** Гэтае правіла агулам можна выразіць так: "У складох пасьля націску пішацца *Е* за выключэньнем тых слоў, дзе *Я* ў корані або ў канчатку".

**Практыкаваньне 16.** Увосень багат і верабей. У месяцы маі зелянеюць гаі. Ціха на полі ў палудзень гарачы. Повен хлявец белых авец (зубы ў роце). Што шуміш так неспакойна, жыцейка, у полі? Вот і лецейка настала. Адным поясам тысяча падпіразана (сноп). Лён пакрыўся харошанькімі сіненькімі красачкамі. Цыган як галее, дык сьмялее. А цемната ўсё гусьцее і гусьцее. Аж дзервянее ў жнеек рука. Жыта ўжо высьпела. Вывела ваўчыха трох ваўчанят. Ластавачка вылепіла харошанькае кругленькае гнязьдзечка. Усюды зелень і кветкі. Ад лецечка да лецечка чакай, маё дзецечка. На нашым лузе вялікае возера. Чуліся гукі дзявочых песень. Сонейка весела пазірала з неба. Пасеку выцерабілі. Чуваць птушыны шчэбет. Чэрвень, ліпень і жнівень—летнія месяцы. А які месяц верасень? Вершы вучаць напамяць. Мне стала вусьцішна і боязна. У дзесятку дзесяць адзінак, а ў тузіне—дванаццаць. Маленькае, кругленькае—да неба дакінеш (вока). Заяц шпарка бегае. Свой свайму паняволі прыяцель.

**Задачка 14-ая.** *Сьпісаць і паставіць заместа рысак літары* **а, э.**

Маладому молад—сьць, а старому—стар—сьць. Дзякуй за полудзень: я і так ня гол—дзен. Малацьбіты мал—цілі ў тры ц—пы. Малако цэдзяць праз ц—дзілку. Адны толькі парыж—лыя стагі ст—ялі па грудох з востраю ж—рдкай у версе і нудна пазіралі ў неба. Работы на полі даўно сконч—ны. Шэрага зайца называюць ш—раком. Па маёй гал—ве астанецца ўсё табе: т—ўкач, і мялён, і ст—рожа, і прыгон. За дурною г—лавою н—гам няма сп—кою. Глух— лес гамоніць. В—ўка ногі кормяць. М—лако трэба адц—дзіць. Спараную бульбу адц—джваюць. Учора было сьвят—. Што з возу спал—, то прапал—. Сяляне лічаць цыганоў найлепшымі к—навaламі. Зайчаняты скора выр—стаюць. Шый, як злож—ана. Сабакі бр—халі. Шыв—рат навывар—т. Што хор—ш—, тое само сябе хваліць. Чужымі рукамі добр— толькі жар загр—баць. Цер—з сілу і конь ня ступіць. Час—м з квас—м, а парою з в—дою. Ч—лавек—гаспадар прыроды. Цешыўся стар—ц, што пер—жыў мар—ц. Ці паскач—ш, ці паплач—ш. І мая капейка не шч—рбата. Цаца, цаца ды ў кіш—ню. Выр—таваны з вады конь і лужыны баіцца. Хто ар—, а хто б—рануе— усіх сьмерць пар—ўнуе. Глуха ш—пч— лес зялёны. Пер—блуталіся на др—ве галіны. Лес шуміць і ракоч—. Падняўшы ўгору стройны в—ласок, ные сірацінка, плач— к—ласок. Сушыць яго сонц—, клоніць вецярок. Хто ў жніво х—ладку шукае, той узімку г—ладае. Садовыя дрэвы глуміць ч—рва. Прыляцела ла ст—ўка з далёк—га выраю. Села яна на стр—ху старог— гумна ды зашч—бятала. Вясёлая песьня яе так і пасыпалася па ўсім двары мілым шч—бетам.

**Задачка 15-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, літары* **я** *або* **е.**

Знайка б—жыць, а н—знайка л—жыць. Брат брату пан—волі прыяцель. Аб—цанка—цацанка, а дурному—радасьць. Н—спакойна зашумела жыта маладое. Зранку самага трывожна шэпча з—л—ное. Уся с—мейка сьпіць ды спачывае. Вучыся, н—божа: вучэньне паможа змагацца з н—доляй, з н—воляй. Авось н—босю брат. Абы б—да, а шыя будзе. Баіцца ён ц—бе, як воўк ягняці. Бал—валі, пакуль голы сталі. Бачыць вока, дзе п—чэцца кока. Аржаная каша сама с—бе хваліць. У пастушкі н—ма служкі. С—нажаць ужо скошана. Наш сусед цяжка зан—дужаў. Толькі матка з в—раценцам прытулілась к печы. Б—гучага воўка добра і за хвост злавіць. Мой брат любіць пал—ваньне. Усьлед думкам н—спакойна вецер падп—вае. Сьпее—дасьп—вае колас сіратой. У нашага суседа была ўчора б—седа. На дарозе л—жала тоўстае б—рвяно. Бачыць вока, да л—жыць далёка. За б—рэзьнічкам брэша талалайчык (язык). Птушкі п—расталі сьп—ваць. У н—ўмекі—рукі калекі. Б—зьдзельна жыць—толькі з—млю ц—жыць. С—лянін арэ сваё поле. С—ляне пайшлі на поле. Н—шырокая дарога падымалася на горку. В—снавая кветка. Каля гаю стаіць в—кавечны курган. Сьн—гавая вада.

**Задачка 16-ая** (паўторная). *Сьпісаць і паставіць літары* **я, е.**

Тут асталіся адны н—даборкі. Кожная рэч мае в—лічыню. Н—хай—н—добры чалавек. Яны прац—рпелі в—лікае гора. Па дарозе сустрэўся нам н—знаёмы чалавек. Пал—ўнічы забіў ц—ц—рука. Садовіна яшчэ з—л—наватая. Гэты ячмень п—расьпеў. Тут н—даўна —шчэ красаваліся пасевы. Птушкі п—расталі п—яць. Н—весела выгл—дае неба, засланае шэрымі хмарамі. Нудна і н—прытульна выгл—дае ўсё ўвосень. Н—задоўга да адлёту ў вырай птушкі зьбіраюцца ў кучы. Н—каторым птушкам прыходзіцца п—рал—таць цераз моры. Н—разумныя людзі страшаць дз—цей. Ц—нькі на тры дз—нькі. Ці ц—пер, ці ў чацьвер. Н—далёка ад вёскі былі могілкі. Ня было ўцехі ў мац—рынскім горы. Праб—гае ліс галодны ды праз кусты скача. Пам—тай м—не, як я ц—бе. Усе п—ралётныя птушкі пакідаюць нас на зіму. Мы чыталі цікаўнае апав—даньне. Л—дз—ная вада. Пац—мнела ў хаце. Ня гудзі так, восень, н—пагодай дзікай! Н—прыхільна глядзіць на нас сонца ўзіму. Н—ма таткі, н—ма і папкі. З—л—нее травіца. Пав—с—лела с—лянская доля. Н—в—лічкі хлопчык пасе кароўкі. У полі зранку за сахою з—млроб гукае. Н—дагляд—н—даплат. Муха—в—лікі вораг чалавека і жывёлы. На в—раб'я кажуць, што ён—злодзей. Буду ласкай і ўцехай гарамыкі-б—дака. У л—сным гушчарн—ку вывела курапатка дз—цей. Жар быў н—стрывалы. Вада ў рэчках абм—лела. Ціха за працу ўзяліся дз—ўкі. Л—жыць н—в—домы б—дак.

**Задачка 17-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, літару* **е** *або* **я.**

Будзе кій, да н— такі. Н— слухаеш ківа, паслухаеш кія. Ад прыбытку галава н—баліць. Б—з правадыра войска гіне. Аднаму і ў кашы н—спорна. Н—вялікая б—да, што б—з рыбы с—рада. Б—з ахвоты няма работы. Н— так шкода, як н—выгода. Адважны н— баіцца н—ўдачы. Ад свайго злодзея н— ўсьцеражэшся. Аб—цаная шапка на вушы н— лезе. Упартыя адзін другога н— п—раважаць. Колам п—раламала ногу. Сьнегавая вада, н— мае смаку. Б—з падпалы дровы н— гараць. Баяцца н— цівуна, а яго бізуна. Н—прыветна ц—раз вокны ночка пазірае. Б—да, што н— п'ецца вада. Ад дажджу н— ў ваду. Адвага н— зьн—вага. Запас б—ды н— чыніць. Абедаў, да жывот н— ведаў. Н—бачыць сава, —кава сама. Ц—раз мора катоў хвост (восілка на в—дры). Б—ла мыецца, да н—чыста ходзіць. Чужым розумам век н— п—ражывеш. Такая прынука, як праца і навука, ці-ж можа нам сіл н— дадаць? З такімі сябрамі, знай, будзе н— штука і гора сваё зва—ваць. Ты праўду ў н—праўдзе, як сонца між хмараў, спазнаеш, як цёмен н—будзеш. С—гоньня ў нас с—рада. Цераз сілу і конь н— пацягне. Тады хіба п—растане, як уся сарока бела стане. Дзіця п—рапалохалася ды захварэла ад п—рэпалахаў. Летась у нас былі п—рэбары на новае месца. То н— бяда, што н— п'ецца вада. Б—з штукі н—ступіць. Каля плоту расла крапіва. Гэта зроблена дзел— прыліку. Кал— рэк туман падымаецца. Сын вярнуўся дамоў дзел— бацькоў. Н— шкадуе, хто с—радуе.

**Задачка 18-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзв трэба, літару* **я** *або* **е.**

Увос—нь багат і в—рабей. У мес—цы маі зел—неюць гаі. Прыляцелі куры, селі на вароц—х у чырвоных боц—х. Па вос—ні і ў кошкі л—пёшкі, і ў в—раб'я піва. Чырвоны дзедзя па жэрдцы едз—. Сьнегам вец—р сыпл—. Тыдз—нь, тыдз—нь да каляд, а пан з чэл—дзі н—рад. Лён пакрыўся харошанькімі сін—нькімі красачкамі. Цыган як гале—, дык см—ле—. Жыта ўжо высьп—ла. Ластавачка выл—піла харошанькае кругл—нькае гнязьдзечка. Ц—раз тыдні два з яечак вышлі гол—нькія маленькія птушачкі з жоўц—нькімі роцікамі. У лясным гушчарніку выв—ла курапатка дзяцей. Гэты персьц—нь даравала я яму ў раставаньні. Усюды зел—нь і кветкі. Што шуміць так н—спакойна, жыц—йка, у полі? Б—лаватаю п—лёнкаю ўздымаецца туман над лугамі. Ц—мната ўсё гусьце— і гусьце—. Праца марудна, б—сконца цяжка. Аж дз—рвяне— ў жнеек рука. Ціха на полі ў полудз—нь гарачы. Ны— сірацінка, плача каласок. Вот і лец—йка настала. Адным по—сам тыс—ча падпіразана (сноп). Ад лец—чка да лецечка чакай маё дзец—чка. Штома—м—н— хава—м, а страціўшы плачам. На нашым лузе в—лікае воз—ра. Чуліся зыкі дз—вочых пес—нь. Сон—йка вес—ла пазірала з неба. Пас—ку выц—рабілі. Пов—н хлявец белых авец (зубы ў роце). Чуваць птушыны шчэб—т. У ваднае мац—ры пяць сыноў. Чэрв—нь—шосты, ліп—нь—сёмы, а жнів—нь—восьмы мес—ц у годзе. А які мес—ц в—рас—нь? У дзесятку дзес—ць адзінак, а ў тузіне дванаццаць. Маленькае, кругл—нькае да неба дакін—ш (вока). У падсус—дзях з буслами вераб'і і шпакі в—ліся. Ходзіць каля лесу, пяе куралесу; ні кура, ні пев—нь—дз—равяны зев—нь (пастухова труба). Вершы вучаць напам—ць. За—ц шпарка бега—. Гаспадар і гаспадыня вы—халі з дому. Адам—мой прыяц—ль. З вялікага глаголаньня невялікае спас—ньне.

### 4. Склады РО, ЛО, ЛЕ.

ПРАВІЛА 15. У некаторых словах склады **ро, ло, ле** не падлягаюць аканьню; не пад націскам яны пераходзяць у **ры, лы, лі:** *гром—грыміць, дрож—дрыжаць, кроў—крыві, бровы—брыво, тросьць—трысьцінка, крошка—крышыць—крыху, дровы—дрывамі—дрывяны, брод—брысьці, глотка—глытаць—праглынуць, блохі—блыха, блеск—блішчаць, яблык, яблыня* і г. далей.

**Практыкаваньне 17.** Гром грыміць. Улетку бываюць грымоты. Конь бяжыць—зямля дрыжыць. Яго прабралі дрыжыкі. У брод брыдуць. Накрышылі сьвіньням зельля. Горш, калі баішся: і ліха нямінеш, і надрыжышся. Прышлося перабрысьці рэчку. Блеск гарачы сьлепіць вочы. Сьнег блішчыць на сонцы. Беларускія пляменьні: крывічы, дрыгвічы і радзімічы. Крывіч—значыць кроўны, блізкі, родны, сваяк; дрыгвічы—племя, што жыло на балотнай мясцовасьці, на дрыгве (дрож, дрыжэць). Закіпеў крывавы бой. Дровы зложылі на дрыготні. Ззаду жывот, сьпераду хрыбёт (гален). Праглынутага ня выплюнеш. Чорствы хлеб крышыцца. Сьпелыя яблыкі вельмі смачныя. На мяжы расла яблыня. Карова паламала трысьнік. Тросьць—трысьцінка. У сястры чорныя бровы. На сем вёрст адзін мост, а на канцы хрост. Даўней спраўлялі хрысьціны. Яблыка ад яблыні недалёка падае. Апанавала трывога. Крошку палепшала. Надвор'е крыху пацяплела. Волю, здабытую кроўю, ахвярамі, трудна цяпер адабраць. На стале былі крошкі.

### § 8. Падвойныя літары.

ПРАВІЛА 16. У беларускай мове вельмі часта ў назоўніках зычны гук, які стаіць паміж галоснымі ў канцы слова, працягваецца ў вымаўленьні. Гэтая працяжнасьць зычных на пісьме перадаецца дзьвюма аднакімі літарамі. Пры гэтым, калі падвойныя зычныя вымаўляюцца мякка, то паміж імі пішацца мяккі знак **(Ь),** напр.: *зельле, вясельле, насеньне, судзьдзя, сольлю, жыцьцё, гразьзю* і г. д.

А калі падвойныя зычныя бываюць зацьвярдзелыя гукі, то пішуць дзьве аднакія літары, напр.: *збожжа, зацішша, суччо, у ваччу* і г. д.

**Увага:** Падваеньне зычных звычайна бывае ў канцы слова, і толькі ў рэдкіх выпадках сутракаецца ў пачатку альбо ў сярэдэіне слова, напр.: *зьзяе, льлецца, чульлівы* (=чулы).

Але калі перад зычным, што мог падвоіцца, стаіць зычны, а не галосны, то падваеньня ня бывае, напр.: *лісьце, шчасьце, сьмерцю, косьцю, радасьцю, моладасьцю, старасьцю* і г. д.

Мяккія падвойныя зычныя бываюць такія:

1) **льл** —*вясельле, купальле, гальлё, Ільля, ральля, сольлю, кольле, застольле* і інш., а таксама—*льле, льлецца.*

2) **ньн** —*здарэньне, насеньне, пытаньне, сумленьне, зьяўленьне, панаваньне* і інш.

3) **сьс** —*калосьсе, валосьсе, касьсё* і інш.

4) **цьц** —*жыцьцё, багацьце, сьмецьце, куцьця* і інш.

5) **зьз** —*з гразьзю, мазьзю, рызьзё,* а таксама—*зьзяе, зазьзяць, зьзяньне.*

6) **дзьдз** —*судзьдзя, разводзьдзе, ладзьдзя, (чайка), бязьлюдзьдзе* і інш.

Цьвёрдыя падвойныя бываюць такія:

1) жж —*збожжа, раздарожжа* і інш.

2) шш —*зацішша, з роскашшу,* каля *вушшу.*

3) чч —*сук—суччо, лыка—лыччо, запечча, у ваччу, за печчу* і інш.

**Увага:** Губныя *б, п, м* і *р* не падвойваюцца: пасьля губных і пасьля *р* у такіх разох ставіцца толькі апостроф: бязры*б'е,* ку*п'е,* Хаці*м'я,* надво*р'е.* (Бач. прав. 3, 3).

**Практыкаваньне 18.** Люблю я прывольле шырокіх палёў. Стаіць крушнямі каменьне. Крыльлямі махае, а ляцець ня можа (млін-вятрак). Зельле заглушыла поле. Нікла жыцьце ў лесе цёмным. На веніку наламалі вецьця. У хаце было сьмецьце. Мост зроблен з тоўстых бярвеньняў. Вада патрэбна і расьлінам, і стварэньням. Бура паламала гальлё. Пасьля буры настала зацішша. Блуканьне на цэлае раньне. Працавалі зраньня аж да зьмярканьня. Няхай плачам ў сіняй далі песьня разальлецца! Хата стаяла на раздарожжы. Збожжа адсыпалі на насеньне. Усе птушкі крыльле маюць, да ня ўсе лятаюць. На прадвесьне бывае разводзьдзе. Справядлівы судзьдзя. Спачатку было чытаньне, а потым—рысаваньне. Вучань разумна адказаў на пытаньне. Каяньне позна ходзіць. Луг зялёны жыцьцём дыша. Ліхадзеям на безгалоўе, а добрым людзям на здароўе. Надвор'е пахаладнела. Уецца павуціна. Зазьзялі на небе ясныя зоркі. Сьцены запырсканы гразьзю. Пацямнела ў ваччу. Зазьвінела ў вушшу. Загарэлася суччо. Курган стаяў на раздарожжы. На харошае запытаньне харошае адпавяданьне.

ПРАВІЛА 17. 1) Падвойные зычныя **нн** бываюць у прыметніках, створаных ад назоўніка іменнага з асновай на **н:** *камень—каменны, сьцяна—сьценны, вайна—ваенны, рэмень—раменны, корань—карэнны, палатно—палаценны* і г. д.

Але там, дзе ў аснове назоўніка няма **н,** пішацца адно **н:** *шкло—шкляны, дрэва—драўляны, дзерава—дзеравяны,* а таксама *зрабіць—зроблены, пабяліць—пабеляны* і г. далей.

2) Падвойнае **цц** пішацца ў дзеясловах, зложаных з займеньні**кам ся** пры канчатку **ць:** *мыцца* (мыць+ся), *часацца* (часаць+ся), *мыецца* (мыець+ся), *чэшацца* (чэсаць+ся) і г. далей.

Але калі перад **ца** стаіць зычны, то пішацца адно **ц:** *здасца, ад'есца.*

3) Падвойнае **цц** пішацца ў лічэбніках, зложаных з словам *дзесяць у* форме *"дцаць": адзінаццаць, трынаццаць, дванаццаць, дваццаць, трыццаць* і г. далей.

4) Апроч гэтага, падвойныя зычныя часам зьяўляюцца пры тым, як словы складаюцца: *ссыпаць* (с+сыпаць), *аддаць* (ад+даць), *бяззубы* (бяз+зубы), *рассыпаць, расьсьпявацца.* (Шпак на дубе расьсьпяваўся).

**Практыкаваньне 19.** У сяле пабудавалі каменны дом. Мы купілі насьценны каляндар. Скручаны, зьверчаны па хаце скача (венік). У нас дзеравяныя ложкі. У сенях шкляныя дзьверы. У паўкапе трыццаць адзінак. Капа мае шэсьцьдзесят адзінак. Каля гары былі вапенныя капальні. Няпісьменны, як сьляпы. Скошаны луг стаяў пусткаю. Выскачылі юры з-пад каменнай гары. Чырвоны колер, вінны смак, каменнае сэрца— што гэта так? (вішня). Брат ехаў конна. Пісьменнаму і кнігі ў рукі. Гэты звычай забабонны. Паддайце мех на плечы! На ўзгорку рос малады сасоньнік. Гарох рассыпаўся. Збожжа ссыпалі ў судзіну. Усплыў месяц над соннай зямлёю. З часам з торфу робіцца каменны вугаль. Год мае дванаццаць месяцаў. У лютым месяцы дваццаць восем або дваццаць дзевяць дзён, Дзе коратка, там і рвецца. Як гукнеш, так і адгукнецца. У голад і нішчымнае смачна есца. Пытаецца люты, ці добра абуты. Што ў лесе родзіцца—у дварэ згодзіцца. Калі станеш трэсца, то і хлеб лепей есца. У горы нагаруецца, а ў дабры накрасуецца. Пазычаньне на неадданьне. Зоркі рассыпаліся па небе. Даглядайце зубоў: бяззубаму блага. Грозен рак, да ззаду вочы. Ранены алень часта кідаецца на стральца. Наста раззула малога Цішку. Ссохлі травы. Сонны, як мёртвы. Напужаная варона і куста баіцца. Вецер расьсявае травяное насеньне па зямлі. Наабапал лагчыны стаялі дубы. Таннае мяса сабакі ядуць. Выратаваны з вады конь і лужыны баіцца. Саломеным валом не араць, а сенным канём не ваяваць. Голы разбою не баіцца.

**Практыкаваньне 20.** *Сьпісаць і словы з падвойнымі літарамі падчыркнуць.*

Бура паламала гальлё. Пасьля буры настала зацішша. Блуканьне на цэлае раньне. На вясельлі граюць музыкі. Уражжа сіла на грэх спакусіла. Во калі разарэньне: ні табакі, ні карэньня! Па хаце валялася сьмецьце. Цукровы гарох пакінулі на насеньне. На прадвесьне бывае разводзьдзе. Хата стаяла на раздарожжы. Усе птушкі крыльле маюць, да ня ўсе лятаюць. Сёньня дзень сьвяточны. Госьці расьселіся па застольлі. Хлопец меў нячыстае сумленьне. Збожжа адсыпалі на насеньне. Было тут дзіўнае здарэньне. Спачатку было чытаньне, а потым—рысаваньне. Вучань разумна адказаў на пытаньне. Ральлю трэба баранаваць. Ільля нарабіў гнільля. Луг зялёны жыцьцём дыша. Жыцьцё, як мёду піцьцё. Няхай плачам ў сіняй далі песьня разальлецца!

**Задачка 19-ая.** *Сьпісаць і паставіць прапушчаныя літары.*

Зарасьлі вы, межы, у полі дзікім зел—ем, палыном. Далі зел—я ад пахмел—я. Голь-галіта, гол—ю наліта. Наша Хацім'я хоча капусты і бацьвін—я. На бязьлюдз—і і дзяк—чалавек (кажуць пры пахаван—і). Дзе добры край, там і пад ел—ю рай. Каян—е позна ходзіць. Калісь было, да был—ём зарасло. Калі ўпору зямлі не ўзарэш, збож—а нямнога ўвосень зьбярэш. Скінь гэтае рыз—ё! На вуліцу сьмец—я не выносяць. Венікі вяжуць з бярозавага вец—я. На гал—і было гняздо. Ціха калос—е шэпча на ніве. Сьцены запырсканы граз—ю. Колы мажуць каламаз—ю. Л—ецца Нёман паміж гораў. Заз—ялі зоры ў ясным небе. Касец знайшоў добрае кас—ё. Зазьвінела ў вуш—у. Сёлета спраўлялі купал—е. На Іл—ю поўну печ-перапеч нал—ю. Пацямнела ў вач—у. Куры сядзяць пад печ—у. На харошае запытан—е—харошае адпавяданьне. Загарэлася суч—о. Капліца стаяла на раздарож—ы. Чалавек мае пяць знадворных пачуц—яў. Адны пачуц—і мацнейшыя, а другія слабейшыя. Буйным жыц—ём усё чыста кіпела. Вада патрэбна і расьлінам, і стварэн—ям. Люблю я прывол—е шырокіх палёў. Зел—е заглушыла поле. Мост зроблен з тоўстых бярвен—яў. Стаіць крушнямі камен—е. Крыл—ямі махае, а ляцець ня можа (вятрак).

**Задачка 20-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, два ці адно* **н.**

У сяле пабудавалі каме—ы дом. Мы купілі насьце—ы каляндар. Скруча—ы, зьверча—ы па хаце скача (венік). У нас дзеравя—ыя ложкі. У сенях шкля—ыя дзьверы. Насталі вае—ыя часы. Сьцены пабеле—ы мелам. З палатна—палаце—ая і рэч. Рань—

яя зорка. Побач з камяніцай стаіць драўля—ы дом. Узышла вачэр—яя зара. Каля гары былі вапе—ыя капальні. Халодны асень—і вечар. Скоша—ы луг стаіць пусткаю. Спале—ая хата ўжо адбудована. На скоша—ым лузе пасьвілі коні. Выскачылі юры з-пад каме—ай гары. Напха—ая пухам ляжыць пад вухам (падушка). Чырвоны колер, він—ы смак, каме—ае сэрца—што гэта так? (вішня). Брат прыехаў кон—а. Пісьме—аму і кнігі ў рукі. З часам з торфу робіцца каме—ы вугаль. Ні зьліча—а, ні сьпіса—а, колькі на ім абручоў (клубок). Цалава—ы, мілава—ы, пад лаву схава—ы (лапаць). Насталі кароткія тума—ыя асень—ія дні. Большая палавіна школы была застаўле—а лаўкамі. Гудуць мядзя—ыя званы. Усплыў месяц над сон—ай зямлёю. На ўзгорку рос малады сасонь—ік. Гудзе неўгамон—ых пчолак рой. Гэты звычай забабо—ы.

**Практыкаваньне 21.** *Сьпісаць і словы з падвойнымі літарамі падчыркнуць.*

Паддайце мех на плечы! Быдла аддалі на пашу. Грозен рак, да ззаду вочы. Ішло хлопцаў дваццаць пяць, пасьля зімы сьляды знаць (барана). На “саракі” мужык пытаецца, ці далёка да ракі. Льлецца крынічка, плюскоча вада. Гарох рассыпаўся па зямлі. Цягнецца нітка, а на клубок не зматаць (дарога). У паўкапе трыццаць адзінак. Даглядайце зубоў: бяззубаму блага. Наста раззула малога Цішку. Бяссонная ноч. Сьціскаецца сэрца ад болю. Страхі найчасьцей здараюцца ўначы. Увосень неба засьцілаецца хмарамі. Ціхае поле залаціцца сьпелым збожжам. Трасецца, калоціцца—аб людзях клапоціцца. Ссохлі травы. Саломеным валом не араць, а сенным канём не ваяваць. Сонны, як мёртвы. Таннае мяса сабакі ядуць. Страчанага ня вернеш. Гарох ссыпалі ў судзіну. Шпак на дубе расьсьпяваўся. Дубы наабапал лагчыны стаялі. У тузіне дванаццаць адзінак. Дзядзька хадзіў на дасьвіткі да пляменьніка. Недалёка ад нашае вёскі пачынаецца вялікі лес. Голы разбою не баіцца. Напужаная варона і куста баіцца. Рассыпаецца драбней маку. Ніткі ссукалі ды сталі віць клубок. Вецер расьсявае травяное насеньне па зямлі. Мой брат ехаў конна. Ранены алень часта кідаецца на стральца. Разводзяцца зубры дужа няскора, бо цяляты ссуць надта доўга.

### § 9. Правапіс некаторых злучэньняў зычных.

ПРАВІЛА 18. 1) Злучэньні **ТЦ, ЧЦ,** чуваць як **ЦЦ,** а злучэньні **ТЧ, ДЧ,** як **ЧЧ—**

| *чуваць:* | *пішацца:* |
|---|---|
| маццы (матка) | матцы |
| даццы (дачка) | дачцы |
| загаччык | загадчык |
| рэццы | рэчцы |
| старасьвеччына | старасьветчына |

і г. д.

Злучэньне **ДС,** дае ў вымове **Ц,** але пісаць трэба **ДЗ—**

| *чуваць:* | *пішацца:* | *заместа:* |
|---|---|---|
| люцкі | людзкі | людскі |
| швэцкі | швэдзкі | швэдскі |

і г. д.

3) Злучэньне **ТС** дае **Ц—**

| *чуваць і пішацца:* | *заместа:* |
|---|---|
| полацкі | полатскі |

| | |
|---|---|
| брацкі | братскі |
| брацтва | братства |

і г. д.

4) Злучэньні **ЖС, ЗС** даюць **С—**

| | |
|---|---|
| *чуваць і пішацца:* | *заместа:* |
| норвэскі | норвэжскі |
| францускі | французскі |

і г. д.

5) Злучэньне **ШЧ** чуваць, як **СЦ—**

| | |
|---|---|
| *чуваць:* | *пішацца:* |
| косцы | кошцы |
| мысцы | мышцы |

і г. д.

6) Злучэньне **СЧ** чуваць, як **ШЧ—**

| | |
|---|---|
| *чуваць:* | *пішацца:* |
| Прушчына | Прусчына |

і г. д.

**Практыкаваньне 22.** Хто позна ходзіць, той сам сабе шкодзіць. Дудка грала жаласьліва. Ці знаў хто, братцы, з вас Тараса? Матцы сорак год, а дачцы дзесяць. Лёд на рэчцы затрашчаў. Парэчкі растуць пры рэчцы. Кожная ўстанова мае свайго загадчыка. У вагародчыку расьлі кветкі. У Смаленску перахаваліся старасьвецкія сьцены. Тут стаялі ваяводзкія палацы. У Слуцку ўсё палюдзку. Па беленькай жэрдачцы чырвоны пеўнік едзе (запаленая лучына). У ваднэй дзежачцы два цесьцечкі (яйцо). Слуцкія паясы вельмі харошыя. І ў анучцы грошы вядуцца. Шкадлівай кошцы хвост уцінаюць. Кошцы—шуткі, а мышцы—сьлёзы. Птушка сядзела ў клетцы. Тканіна была швэдзкага вырабу. Плытнікі загналі плыты ў Прусчыну. Ногі ў рэчцы, галава ў клетцы. Шануйце старасьветчыну! Сонца пякло неміласэрна. Яму шаснаццаць год. Два мядзьведзі ў аднэй бярлозе ня месьцяцца. Боская ласка ня дасьць нам хлеба і мяска. Сьціскаецца сэрца ад жалю.

**Практыкаваньне 23.** *Сьпісаць і заўважыць правапіс слоў, надрукаваных звычайным шрыфтам.*

Матцы *сорак год, а* дачцы *дзесяць. У Слуцку ўсё* палюдзку. *Парэчкі растуць пры* рэчцы. Пераплётчык *апраўляе кнігі. Не па* рэпачцы *націнка, не па* дзевачцы *дзяцінка.* У гародчыку *расьлі кветкі.* У сарочцы *радзіўся. У Смаленску перахаваліся* старасьвецкія гарадзкія *сьцены. Тут стаялі* ваяводзкія *палацы. На лад* пэрсідзкі *ткуць яны.* Навагрудзкі *і Ашмянскі паветы—сумежны паміж сабою.* Полацкія *князі—беларускія. Расхадзіўся, як* брацкі *звон. Па беленькай* жэрдачцы *чырвоны пеўнік едзе (запаленая лучына).* У бочцы *была нячыстая вада, а ў* кадушцы—*чыстая. У ваднэй* дзежачцы *два цесьцечкі. Гэтай* загадцы *няма разгадкі.* Слуцкія *паясы вельмы харошыя. Бяда па бядзе, як па* нітачцы, *ідзе. І ў* анучцы *грошы вядуцца. Шкадлівай* кошцы *хвост уцінаюць.* Кошцы *далі малака ў* чаропачцы. *Кошцы—шуткі,* а мышцы—*сьлёзы. Лёд на*

рэчцы *затрашчаў. Птушка сядзела* ў клетцы. *Тканіна была* швэдзкага *вырабу. Плытнікі загналі плыты ў* Прусчыну. *Ногі ў* рэчцы, *галава ў* клетцы *(каноплі).*

ПРАВІЛА 19. 1) У злучэньнях **СТН, СТЛ, ЗДН** і **РДН** зьнікае **Т** і **Д:**

| *чуваць і пішацца:* | *заместа:* |
|---|---|
| пачэсны | пачэстны |
| позны | поздны |
| шчасны | шчастны |
| шаснаццаць | шастнаццаць |
| слаўся | стлаўся |
| міласэрны | міласэрдны |

і г. д.

2) Злучэньні **ДЦ** і **ЦЬСЯ** даюць **ЦЦ:**

| *чуваць і пішацца:* | *замест:* |
|---|---|
| дваццаць | двадцаць |
| пятнаццаць | пятнадцаць |
| мыцца | мыцься |
| часацца | часацься |

і г. д. (бач. Прав. 17. 2), 3).

**Практыкаваньне 24.** *Сьпісаць і заўважыць правапіс слоў, надрукаваных звычайным шрыфтам.*

*Хто* позна *ходзіць, той сам сабе шкодзіць. Мы вучыліся* французскай *мове. Лепш* позна, *як ніколі. Сонца пякло* неміласэрна. *Яму* шаснаццаць *год.* Слаўся *туман па даліне. Не радзіся краснай, а радзіся* шчаснай. *Двойчы дзесяць*—дваццаць, *а двойчы дзевяць*—восемнаццаць. *Стаіць дуб, на дубе* дванаццаць *гнёзд, у кожным гнязьдзе па чатыры сініцы, у кожнай сініцы па* чатырнаццаць *яец—сем чорных і сем белых (год). Яны* спазьніліся *на лекцыю. Конь і на чатырох нагах* спатыкаецца. *На беднага Макара шышкі* валяцца. *Чужое лычка* плаціцца *рамушком. Два мядзьведзі ў аднэй бярлозе ня* месьцяцца. У *голад і нішчымнае смачна* есца. *Дудка грала* жаласьліва. Позьняя *восень. Старое нешта ўсё* ўспамінаецца. *Некі невядомы жаль* уздымаецца. *Мы рашалі* вусныя *задачкі. Сьведкі былі* пачэсныя *людзі.*

**§ 10. Правапіс прыназоўнікаў і прыставак.**

ПРАВІЛА 20. А. Прыназоўнікі з другімі словамі пішуцца то асобна, то зьлітна.

1) Прыназоўнікі пішуцца асобна ад тых часьцін мовы, каторыя скланяюцца. У такіх разох пасьля прыназоўніка можна паставіць пытаньне, напр.: *Наскочыла каса* (на што?) *на камень. Дзеці жывуць* (пры кім?) *пры бацькох. Мышы ўміраюць* (без чаго) *без яды цераз некалькі гадзін.*

2) Прыназоўнікі пішуцца зьлітна:

а) з дзеясловамі і іх формамі, напр.: *дагнаць, успомніць, напісаць, зрабіць, паехаць, прыбіць; зроблены, пазычаны, забіты; даганяючы,, падбіваючы, заварыўшы;*

б) з прыслоўямі: *пазалетась, панашаму, памойму, даволі, напавер, дагары, спадыспаду, спачатку, назаўсёды, уверх, уніз і* інш.

Б. Пры злучэньні прыназоўнікаў з наступнымі словамі, трэба адрозьніваць такія выпадкі:

1) Калі прыназоўнік канчаецца на зычны гук, а наступнае слова пачынаецца гукам *і*, то вытвараецца гук *ы*, напр.: *спад+іспаду=спадыспаду, з+ішло=зышло, пад+ішоў=падышоў.*

2) А калі прыназоўнік канчаецца на галосны гук, то *і* таго слова, з каторым прыназоўнік зьліваецца, скарачаецца ў *й*, напр.:

*за+ісьці=зайсьці, пры+ісьці=прыйсьці, пры+іменьнік=прыйменьнік, за+іменьнік=займеньнік, вы+ісьці=выйсьці.*

Таксама з дзеясловам прошлага часу *“ішоў”: прыйшоў, пайшоў, знайшоў, перайшоў* і г. д.

3) У іншых выпадках прыназоўнік беспасрэдна далучаецца да таго слова, з каторым зьліваецца ў адно непадзельнае слова, напр.: *пад+даць=паддаць, за+мкнуць=замкнуць, вы+біць=выбіць.*

4) Складаныя прыназоўнікі пішуцца з злучком: *з-за, з-пад, па-над.*

**Увага:** 1) Калі прыназоўнікі пішуцца **зьліта,** то называюцца **прыстаўкамі:** *безбаязна, прыпынак, напісаць, зайсьці.*

*2)* Некаторыя прыназоўнікі зусім ня ўжываюцца асобна: **уз, раз, вы, пера, су, пра,** напр.: *уздых, усход, разбор, выгнаць, выйсьці, пераехаць, сусед, прадзед.*

**Практыкаваньне 25.** Абы-як прыйшло, лёгка і з рук сышло. З дурнем ні знайсьці, ні згубіць. Кругом абышоў ды назад прыйшоў. Мы ўвайшлі ў хату. Над пешым арлом, і сарока з калом. Шалёная муха укусіла за вуха. Мядзьведзь накінуўся на стральца. Калі ўрод, дык і ўмалот. Загадаю загадку, закіну за градку, няхай мая загадка да налецьця ляжыць (жыта). Да дому было тры вярсты. Мы прыйшлі дадому раніцай. Хоць бяздворан, да ўсюды праворан. На капейку патравы, а на рубель прыправы. Сяк-так, накасяк, абы не палюдзку. На доўгі век, на добрае здароўе. Шатавіла-матавіла па-нямецку гаварыла, па-турэцку заварочвала, сьпераду шыльца-вільца, спадыспаду палатно, а зьверху аксаміт (ластаўка). Ляцеў воран па-над морам. Выскачыў карпечка з запечка. Покі сонца ўзыдзе, раса вочы выесьць. Ён чалавек з падысьцем (з хітрасьцю). Ня войтава дачка, а дарэчы гаворыць. Свой свайму паняволі брат. Па няволі ня плачуць. Усяго патрошку. Не па-бацькаўску робіш. Паверх дзярэўя ходзіць. Засталося адно падысподзьдзе. Надышла восень. Лёстачкамі душу вымае. Хоць раз, да наўскач. Любога госьця ўлетку частуюць мядком, а ўвосень—малачком.

**Практыкаваньне 26.** *Сьпісаць і падчыркнуць словы пасьля пытаньня.*

Чайка наскочыла **(на** што?) **на** камень. Кніга ляжала **(у** чым?) у шуплядзе. **Прыйшла** чапля ў госьці **(к** каму?) **к** жураўлю. Анцік пайшоў гуляць **(з** кім?) **з** айцом. Рыбакі ад'ехалі далёка **(ад** чаго?) **ад** берагу. Заяц пабег **(па** чым?) **па** полі. Кроў цякла **(з** чаго?) **з** раны. Ліс дабраўся **(да** каго?) **да** курэй. Птушка ўляцела (куды? **у** што?) **у** хату. Дзеці сядзелі **(пад** чым?) **пад** дубам. Жураўлі ляцелі **(над** чым?) **над** лесам. Найшла каса **(на** што?) **на** камень. Паднялося сонца **(над** чым?) **над** лесам. Дзеці жывуць **(пры** кім?) **пры** бацьках. Вораг адступіўся **(ад** чаго?) **ад** горада. Сьнег скрыпіць **(пад** чым?) **пад** нагамі. Мы прачыталі казку **(пра** каго?) **пра** козьліка. Мядзьведзь накінуўся **(на** каго?) **на** стральца. Селянін паехаў у лес (чаго? **па** што?) **па** дровы. Скарынкі валяліся **(пад** чым?) **пад** сталом. Сабака стаяў **(перад** кім?) **перад** гаспадаром. Няма торгу **(без** чаго?) **бяз** звадкі.

ПРАВІЛА 21. 1) Прыназоўнікі—**ад, над, пад, перад, пра**—незалежна ад таго, ці пішуцца яны зьлітна ці асобна, не зьмяняюць **д** на **т** і заўсёды маюць **д** *(ад хаты, над хатай, пад хатай, перад хатай; адтуль, аддаць, падходзіць; прадвесьне, прадмова, прадстаўнік, падпісаць, надпісаць).*

Таксама прыназоўнік **аб** не зьмяняе **б** на **п** ніколі *(аб пень, абсыпаць, абкідаць).*

Калі прыназоўнікі **з, без (бяз), уз, раз, цераз**, пішуцца зьлітна, то перад глухімі зычнымі—**к, п, с, т, ф, х, ц, ч, ш** зьмяняюць **з**, на **с,** а перад *звонкімі не: раскачаць, скінуць, беспарадны, бясьпечна, рассыпаць, усхадзіць, расчыніць, сшыць, сьціснуць, бясформены,* але—*згінуць, зрабіць, бяздомны, узгадаваць, раздаць, разьбіць.*

Але калі **з, без (бяз),** цераз пішуцца асобна, то ніколі **з** на **с** не зьмяняюць: *з хаты, без таго, бяз хлеба, цераз ток.*

**Практыкаваньне 27.** Ад пачыну залежыць дзела. Адважны не баіцца няўдачы. Абсьлінеая ваўком авечка ў лес бяжыць. Ад сьмерці няма зельля. Абсохла зямля. Ад ліха ціха, але і дабра ня чуваць. Жораў з цяплом, а ластаўка з лістом. Расчынеце сені і хату! Усхадзілася шура-бура. Часам з квасам, а парою з вадою. Вышлі жнеі з сярпамі на ніву. Які гэта старац з хлопцам ідзе? З песьні слова ня выкінеш. Хітра, мудра, з невялікім коштам. З поўначы цёмнае нудная восень прышла. Адзін жук пражыў без яды

тры годы. Жалем сціскаюцца грудзі. Цесна зьбіліся нашы хаты. Дзьверы расчынены насьцеж. Жыта зжата. Век зжыць, ня мех сшыць. Мой мілы пакою, добра мне з табою! З чужога каня і ў балоце злазяць. Цераз поле чалавек ідзе. Лепей з добрым згубіць, як з благім знайсьці. Пакуль сыты ссохне, дык худы здохне. Куды конь з капытом, туды і рак з клешняй. Грошы круглы, ад таго і коткі. Ластачкі падпускае. Ня ведаеш, ад чаго палепшае. Ад ціха ўсё ліха. Начлегу з сабою ня носяць. Сьмех з панскіх ботаў: адзін згарэў, а другі сабака зьеў. Сказаў казку з прыказкаю. Работа не бясчэсьціць чалавека. Астаткі з хаткі. Ні сшыць з ім, ні спароць. У яго ўзімку лёду не дастанеш. Перад сьмерцю ўсе роўны.

**Задачка 21-ая.** *Сьпісаць і прыназоўкі напісаць разам ці асобна.*

Мы ў—вайшлі ў—хату. Кола на—ехала на—камень. Голуб кружыўся над—хатай. Мы да—йшлі да—хаты праз—гадзіну. Сонца за—йшло за—гору. Яблык заваліўся за— дзерава. Цесьля скінуўся з—страхі. Ён падскочыў пад— столь. З—касою пагоды ня ждуць. З—плеч ды ў печ. Ты ад—варот, а ён цераз плот. У—лені баляць калені. Нож за—кінуўся за—стол. Шалёная муха ў—кусіла за—вуха. Калі ў—род, дык і ў—малот. На—галодны зуб добра і гэта. На—доўгі век, на—добрае здароўе. Над—пешым арлом і сарока з—калом. На—свайго на—паў. На—аднэй нядзелі сем пятніц. На—няўся, як пра—даўся. На—сем двор адзін тапор. На—сваім кані, як хачу, скачу. На—страшыў мех, дык і торба страшна. Тады маю, як у—руках трымаю. Няма торгу бяз—звадкі. Адзін вандроўца па—моры прабыў без—яды больш за—шэсьць дзён і потым на—пісаў, як ён жыў у—часе голаду. У—першыя дні яго мукі былі страшэнныя.

**Практыкаваньне 28.** *Сьпісаць і падчыркнуць прыназоўнікі і прыстаўкі з літарамі* **д** *і* **б.**

Пад табой забілі каня. Паднёс вышэй нябёс. Падступецеся бліжэй, пакланецеся ніжэй. Пад ляжачы камень вада не бяжыць. Адвага гарады бярэ. Ад ліха ціха, але і дабра ня чуваць. Адкуль хмары, адтуль і дождж. Ад пачыну залежыць дзела. Перад невадам рыбы ня ловяць. Адважны ня баіцца няўдачы. Ад сварак не баліць карак. Над хатай лётаў каршун. Сноп ад снапа на дзьве стапы. Абсьлiненая воўкам авечка ў лес бяжыць. Не аб тым гутарка. Адказ, як шыла. Ад дошкі да дошкі, а ў сярэдзіне ні крошкі (гавораць пра стараннага, але няздольнага). Ад сьмерці няма зельля. Абсохла зямля.

**Задачка 22-ая.** *Сьпісаць і паставіць дзе трэба,* **з** *або* **с.**

Зоркі ра—сыпаліся па небе. Ра—чынеце сенцы і хату! У—хапіўся, як апараны. Дуб шырока ра—пусьціў сваё гальлё. Сад ра—пусьціўся. Яйцо ра—душылася. Ра—ьмяні мне грошы! Ра—капайце гэтую яму! Ра—важыў, як ра—мазаў. Ра—хадзіўся як Марка ў пекле. У—хадзілася шура-бура. Уступі дурню— —пасеньне заслужыш. Дзьверы ра—чынены насьцеж. Яны жывуць бя—ьпечна. Бе—парадная справа. —крывіўся як серада на пятніцу. —ьпераду грэе, а —заду вецер вее (загадка пра каваля). Ра—ьліўное мора. Жалем —ьціскаюцца грудзі. Цесна —ьбіліся нашыя вёскі. З неба —валілася зорка. Нашая хата стаіць на ў—горку. Жыта —жата. У—горкі абсохлі. Бе—надзейная справа.

**Практыкаваньне 29.** *Сьпісаць і прыназоўнікі* **з, без (бяз), цераз** *падчыркнуць.*

Жораў з цяплом, а ластаўка з лістом. Часам з квасам, а парою з вадою. Без запасу ані часу. Бяз прылады нічога ня зробіш. Баба з калёс—калёсам лягчэй. Хітра, мудра, з невялікім коштам. Мой мілы пакою, добра мне з табою! З песьні слова ня выкінеш. З чужога каня і ў балоце злазяць. З поўначы цёмнае нудная восень прыйшла. Адзін жук пражыў без яды тры годы. Цераз поле чалавек ідзе. Які гэта старац з хлопцам ідзе? Бяз часу ня будзе квасу. Мышы ўміраюць бяз яды цераз некалькі гадзін. Выйшлі жнеі з сярпамі на ніву. Без языка, а мудра гаворыць (кніжка).

## § 11. Правапіс адмоўных дапаможнікаў НЕ, НІ.

ПРАВІЛА 22. Адмоўе **не (ня)** з наступнымі за імі словамі пішацца зьлітна і асобна.

А. Зьлітна яно пішацца ў такіх разох:

1) Калі слова бяз **не** ня ўжываецца: *нябожчык, небарака, немач, недасол, нягода.*

2) Калі слова з адмоўем можна замяніць другім падобным па значэньні словам без адмоўя: *няшчасьце—гора, непрыяцель—вораг, няпраўда—падман, нягодны—благі, нявесела—смутна, неспадзявана—раптоўна.*

3) Калі слова без адмоўя **не** мае адваротнае, супрацiўнае значэньне: *няшчасьце— шчасьце, няпраўда—праўда, неахайны— ахайны.*

4) **Не** пішацца зьлітна з неазначальнымі займеньнікамі: *некаторы, неякі, нечага, нехта, нешта, нечы, неякісь* і з некаторымі месным і часоўнымі прыслоўямі: *некалі, недзе, некуды, неадкуль,* прычым у такіх разох на **не** прыходзіцца націск.

**Б. Не (ня)** пішацца **асобна:**

1) Ад дзеясловаў—*не прачытаць, ня вернешся, не прайсьці,* за выключэньнем слоў, каторыя бяз **не** ня ўжываюцца: *недамагаць, ненавідзець, няволіць, няможацца.*

2) Калі за сказам з адмоўем ідзе сказ з адваротным, супрацiўным значэньнем, г. значыць, калі пасьля адмоўя стаяць злучнікі **а, але:** напр.: *Не векавое, а ракавое. Гэта былі не разумныя, а хітрыя людзі.*

3) Калі пасьля адмоўя можна сказаць **ёсьць:** *Ня дзіва (ня ёсьць дзіва), што малако сіва. Багацьце ня шчасьце (ня ёсьць шчасьце, а нешта іншае).*

**Практыкаваньне 30.** Няпраўдаю сьвет пройдзеш, але назад ня вернешся. Пісаў пісака, што не перачытае небарака. На бітай дарозе трава не расьце. Сыты галоднаму не спагадае. З незабітага ліса шубы ня шыюць. Шкода— у дварэ няўзгода, а на дварэ непагода. Калі няўрод, дык і неўмалот. Ня дзіва, што карова чорна, а малако сіва. Не называўся забытым мой край. Хто пытае, той ня блудзіць. Мой брат здольны, але не стаpанны. У хаце было неахайна. Недасол на стале, а перасол на сьпіне. Чоран воран, да ня птух; хоць з крыльлямі, да ня сокал; шэсьць ног мае, зямлю капае (жук). Нявесела выглядае надвор'е ўвосень. Наш дзед стаў недамагаць. Нудна і няпрытульна навокала. Бела мыецца, да ня чыста ходзіць. Вясна не мясна, а восень не малочна. Вачом завідна, да жывату не пажытачна. Дзе недагляд, там наклад. Гэта не пярэліўкі. І мала, і няўдала. Грозен, да ня боязен. Госьць, як нявольнік. Гулі не аднаго ў лапці абулі. Лецейка ня ўлежна, дык уежна. На табе, нябожа, што мне ня гожа.

ПРАВІЛА 23. Адмоўе **ні** пішацца то асобна, то зьлітна.

А. Асобна **ні** пішацца:

1) Калі выражаецца поўная адмоўнасьць, напр., *ні разу, ні гугу; ні грозьбаю, ні просьбаю; ні вала, ні кала.*

У такіх разох часта, замест **ні** кажуць **ані.** *Ані вухнуў, ані рухнуў. Ані вухам не вядзе. Аніяк няма спосабу.*

2) Калі **ні** можна замяніць злучнікам **і,** напр.: *Ня ўмее ні чытаць, ні пісаць=Ня ўмее і чытаць, і пісаць.*

3) Калі **ні** ўжываецца для памацненьня выказьніка ці акалічнасьці; тады сказ пачынаецца словамі: *як, куды, каго, адкуль,* напр.: *Як ні круці, а давядзецца ўмярці. Куды ні кінь—усюды клін. Каго ні спытпй—усе маўчаць.*

*У* такіх разох **ні** мае станоўны сэнс, а не адмоўны: *як ні=усяляк, куды ні=усюды, каго ні=усіх, хто ні=усякі, дзе ні= усюды, калі ні=заўсёды.*

4) Калі ў сказе некалькі адмоўяў, то пры асабовым дзеяслове пішацца **не (ня),** а пры другіх словах **ні;** напр.: **Ні** *панюхаць* не *далі.* **Ні** *расінкі* ня *было ў роце.* Ні *да якой работы* **няма** *ахвоты.*

Б. Адмоўе **ні** пішацца зьлітна:

1) з адмоўныыі займеньнікамі: *ніхто, нішто, нічый, ніякі, ніводзін.*

2) з адмоўнымі прыслоўямі: *ніколі, нідзе, нікуды, ніяк, ніадкуль, ніколькі.*

**Практыкаваньне 31.** Папаў, як у нерат: ні ўзад, ні ўперад. Бяда, калі ў жыце лебяда, але няма горшай бяды, калі ні жыта ні лебяды. Колькі вутка ні мудруй, а лебедзем ня будзеш. Ні мора, ні зямля—караблі ня плаваюць, бо нельга (балота). Ішоў маладзён ні дарогай, ні пуцём; умыўся ні вадою, ні расою, а ўцёрся ні тканым, ні праным (месяц). Коціцца брыльца—ні дна, ні рыльца (яйцо). Ні відам ня відаць, ні ў казках сказаць. Ні гадана, ні жадана, а само прыйшло. Ні за што, ні пра што. Ні ладу, ні складу. Ні сьцяты, ні павешаны. Ні мукі пылінкі, ні солі драбінкі, ні пітва расінкі. Ні самому паглядзець, ні людзям паказаць. Ні стуку, ні груку. Ні то рыба, ні то мяса. Дзіравага мяшка як ні супаўняй, ніколі ня супоўніш. Як ваўка ні кармі, а ён усё ў лес глядзіць. Не сядзі, дзіцятка, бокам: тут табе не нарокам. Нядбаламу ня жаль часу. Гулявы нож ні на што ня згож. Нібы то была жывая вада. Ні выплюнуць, ні праглынуць. Ні да якой работы няма ахвоты. Нідзе так, як там. Ні калі тое было, ні калі тое будзе. Ні к воднаму берагу ня прыстаў. Ні адтуль, ні адсюль. Ні нашым, ні вашым. Ні туды, ні сюды. Ніхто ня знае, што яго чакае. Каму няймецца, таму заўсёды ілжэцца. З дурнымі ні знайсьці, ні згубіць.

### § 12. Правапіс іменьнікаў.

#### 1. а) Назоўны склон адзіночнага ліку.

ПРАВІЛА 24. Калі іменьнікі стаяць у назоўным склоне адзіночнага ліку, то

1) на канцы жаночага роду пішацца пры цьвёрдай аснове **а,** а пры мяккай аснове —**я:** *вёска, рэчка,* як *сястра, вада; доля, вішня,* як *зямля, гульня;*

2) на канцы ніякага роду (і ў вінавальным склоне) пішацца пры цьвёрдай аснове пад націскам **о,** бяз націску **а:** *сяло, гняздо; мора, вока;* а пры мяккай аснове пад націскам **ё,** бяз націску **е:** *жыцьцё, гальлё, поле, сьмецьце, чытаньне.*

Толькі ў такіх словах, як: *цемя, вымя, рамя, бярэмя, стрэмя, зерня* на канцы будзе **я,** як *імя, кураня, парася* і інш.

**Практыкаваньне 32.** Ня разам Вільня збудавалася. Нас запрасілі на вясельле. Лазьня стаяла за гумнамі. Яго доля ў канцы поля. Наша поле багата родзіць. Пры гасьцінцы стаяла кузьня. На хаценьне ёсьць цярпеньне. Няволя і плача, і скача. Старая чарэшня ссохла. Не канечне яму яечня. Поле роўна ляжыць, да гуляць не вяліць. Вам незнаёма нядоля людзкая, беднага жыцьця нуда. Змалочанае зерня веюць. Загула малатарня ў халодным асеньнім паветры. Полымя ахваціла ўвесь будынак. Гаспадыня падала сьнеданьне. Белае поле, чорнае насеньне, хто яго сее, той разумее (пісьмо). Чую прычытаньне, чую плач я нечы. Іван любіў езьдзіць на паляваньне. Гняздо сваё вожык робіць з сухога лісьця. Ускінуў бярэмя на рамя. Вецьце было купчастае. Дарма надзея была. Дурное палажэньне і добраму спакушэньне. Шчасьце цьвіло тут, як макавы цьвет. Круціць вецер сухое лісьце. Ня мела баба клопату, дык купіла парася. Стаіць хвоя на кургане. Сям'я душ трыста, багата, а ўсяго два локці хата. Сьвіньня стала рыць карэньне. Вецер паламаў гальлё. Настала добрае жыцьцё.

**Задачка 23-яя.** *Сьпісаць і замест рысак паставіць літару* **я** *або* **е.**

Круглае пол—. Шчасьц— цьвіло тут, як макавы цьвет. Няшчасьц— ў дзецях— няшчасьц— ў лецях. Лазьн— стаяла за гумнамі. Нас запрасілі на вясельл—. Пры гасьцінцы стаяла кузьн—. На хаценьн— ёсьць цярпеньн—. Нявол— і плача, і скача. Старая чарэшн— ссохла. Не канечне яму яечн—. Пол— роўна ляжыць, да гуляць не вяліць. Поўна пун— авец. Загула малатарн—. Змалочанае зерн— веюць. Падае сухое лісьц— з дрэў. Стала пол— чыстае. Белае поле, чорнае насеньн—; хто яго се—, той разуме—. Чую прычытаньн—, чую плач я нечы. Брат любіў езьдзіць на паляваньн—. Чалавек мае ўяўленьн— і сумленьн—. Сьмецьц— выносяць на сьметнік. Вецьце было купчастае. Студн— была на панадворку. Не караньн—, а сваё дураваньн—. Нядзел—— сёмы дзень у тыдні. Гаспадын— падала сьнеданьн—. Полым— ахваціла ўвесь будынак.

Ускінуў бярэм— на рам—. Дарма надзе— была. Спаленай нівы жаданьн— ня збыта: міма хмурынка прайшла. Усё пра шчасьц— нам казала. Пазычаньн— на неадданьн—. Зельл— заглушыла грады. Карэньн— пасохла. Няхай плачам у сіняй далі песьн— разальлецца! Круціць вецер сухое лісьц—.

**б) Назоўны склон множнага ліку.**

ПРАВІЛА 25. Іменьнікі множнага ліку ў назоўным склоне для ўсіх радоў маюць пры цьвёрдай аснове канчатак **ы,** а пры мяккай і гартаннай (заднянёбнай) аснове—**і:** *браты, хлопцы, гарады, подпісы; вокны, колы, нябёсы; сёстры, галовы, каліны; кавалі, рогі, краі, салаўі; полі, здарэньні, іменьні; дулі, ногі, рукі,* і г. д. Але ад гэтага правіла здараюцца такія адступленьні:

1) Некаторыя іменьнікі з цьвёрдай асновай, апроч звычайных канчаткаў множнага ліку **(ы),** маюць і другія канчаткі, напр.:

а) іменьнікі з суфіксам—ан—ян ужываюцца і з канчаткам **е,** хоць лепш пісаць **ы:** *селянін—сяляны—сяляне, мешчанін—мяшчаны—мяшчане, цыган—цыганы—цыгане, мінчанін—мінчаны—мінчане, баярын—баяры—баяра* (тут гук “а” заместа гука “э” пад уплывам аканьня).

б) іменьнікі з суфіксам—ат—ят (назовы маладых жывёлін) ужываюцца і з канчаткам **а,** але лепш пісаць **ы:** *кураня—кураняты—куранята, лісяня—лісяняты—лісянята, ваўчаня—ваўчаняты—ваўчанята, цяля—цяляты—цялята;* таксама *небажа—небажаты—небажата, дзяўча—дзяўчаты—дзяўчата, курча— курчаты—курчата* і інш.

Часам ужываюцца і такія формы: *рукаў—рукавы—рукава, вароты—варота, дровы—дрова.*

2) Наступныя іменьнікі з цьвёрдаю асноваю маюць канчатак **і** заместа **ы:** *сусед—суседзі, люд—людзі, гон—гоні* (пэўная мера зямлі), *чорт—чэрці, калена—калені;* радзей сустракаецца ў гэтых словах канчатак **ы:** *чарты, суседы, гоны, калены.*

**2. а) Родны склон адзіночнага ліку.**

Канчатак **а—я.**

ПРАВІЛА 26. У родным склоне адзіночнага ліку канчатак **а—я** маюць іменьнікі мужч. роду, калі азначаюць:

1) прадмет жывы: *сына, брата, кума, свата, гаспадара, пісара, стоража, Язэпа, Васіля, Грыгора, каня, вала, воўка і ваўка, сокала і сакала, ільва, вераб’я, салаўя, вужа, зьмея* і г. дал.

2) прадмет няжывы, але *непадзельны,* г. зн. такі, часьць якога ня можа назвацца імем цэлага прадмета: *бота, плуга, сярпа, нажа, пня, кошыка, малатка, стала, коласа, мяшка, куста* і пад.

3) названьні часьцей цела: *пальца, кіпця, языка, зуба, вуса, локця, носа* і г. д.

4) названьні месяцаў: *месяца кастрычніка, лістапада, сьнежня, студня, мая, траўня, чэрвеня, ліпня, жніўня* і г. д.

5) названьні мер, грошай, танцаў: *сажня, гарца, хунта, пуда, мэтра, літра* і пад.; *граша, рубля, траяка, шэлега, франка, даляра* і пад.; *казака, вальца* і пад.

6) канчаткі **а—я** ў родным склоне маюць і іменьнікі ніякага роду адзіночнага ліку: *сяла, акна, вядра, мора, неба, поля, шчасьця, жыцьця, гальля* і г. д.

Канчатак **у—ю.**

Канчатак **у—ю** ў родным склоне адзіночнага ліку маюць іменьнікі мужч. роду, калі яны азначаюць:

1) названьні матэрыялаў і наогул няжывых прадметаў, часьць каторых наз. імем цэлага прадмета: *цукру, тутуну, алею, сьнегу, дыму, туману, попелу, пяску, прыску, агню, моху, граніту, паперу, лёду, шроту, палыну, дажджу, гароху, ячменю, кісялю, дёгцю, шоўку, аксаміту* і г. д.

2) разумовыя паняцьці: *розуму, жалю, гневу, сну, часу, клопату, суму, болю, страху, смутку, запалу, поступу, грому, лому, рынку, веку, року, роду, міру, дару, усходу, заходу, ценю, звычаю, пакою, жару, прымусу, сьвету, краю, адпачынку, торгу* і пад.;

3) прадметы зборныя: *люду, натоўпу, народу, лесу, гаю, бору, саду, хвойніку, ельніку, бярэзьніку* і пад.;

4) іменьнікі чужаземнага пахаджэньня: *факту, акту, дакумэнту, фундамэнту, экзаміну, працэнту, працэсу, курсу, тому, мэталу, ганку, пляцу, маху, гатунку, густу, гумару, кантракту, камісарыяту, інстытуту, унівэрсытэту* і пад.;

5) часам адзін і той-жа іменьнік у родным склоне ўжываецца то з канчаткам **а-я,** то з **у-ю** ў залежнасьці ад таго, што ён абазначае, напр.:

а) калі абазначае *асобны* прадмет з пэўнаю формаю, то будзе канчатак **а-я:** няма (асобнага прадмета) *каменя, гада, зьвера, ліста, папера* (дакуманта, напр.);

6) а калі гэтым-жа іменьнікам абазначаецца нешта зборнае, то будзе канчатак **у-ю:** “няма *каменю”* (каменьняў, масы); “там *зьверу шмат і* ўсялякага *гаду”;* “назьбіралі *лісту”;* “не хапіла *паперу”;* “ня было *вечару”* (забавы), але *“чакаў вечара”* (канец дня);

6) у некаторых словах у родным склоне канчатак **а-у** ўжываецца аднолькава, з роўным значэньнем, напр.: з *моста і з мосту, аўса і аўсу, чацьвярга і чацьвяргу, дня і дню, плота і плоту, дома і дому, да поўдня і да поўдню, з воза і з возу;*

7) у назовах гарадоў, рэчак, краёў, сёл, вёсак родны склон канчаецца: а) у вадных выпадках на **а (я):** з *Барысава, з Рагачова, з Кракава, з Магілёва, з Міра, з Любліна, з Кіева, з Капыля, з Сьвержына* і пад.;

б) у другіх ужываюцца абудвы канчаткі—**а (я)—у (ю):** *з Гомеля і з Гомелю, з Нясьвіжа і з Нясьвіжу, з Бэрліна і з Бэрліну, з Парыжа і з Парыжу;*

в) а ў трэціх ужываецца заўсёды канчатак—**у (ю),** калі аснова канчаецца на **к:** *з Менску, Слуцку, Смаленску, Полацку,* а таксама ў іменьніках: *з Каўказу, Крыму, Ягіпту, Тыфлісу, Дону, Дунаю, Лёндону, Рыму, Мадрыду.*

**Практыкаваньне 33.** На вуліцу сьмецьця ня выносяць. Прыглядайцеся да жыцьця белага сьвету. За туманам сьвету ня відно. Маленькі сабачка да веку шчаня. Нідзе агню ня відно. Жаўцеюць палоскі позьняга аўсу ці ячменю. Бегала ліска каля лесу блізка. Без правадыра войска гіне. За вачыма сьвету ня бачыць. Няма дыма без агню. Вада затапіла многа берагу. На беразе стаяла многа народу. Далёка ад нашага краю ёсьць вялікія азёры, або моры. Ад чужога шалу ў галаве круціцца. У чужую галаву розуму не накладзеш. Шукай ветру ў полі. Каяньне ёсьць, да паваротy няма. Голы разбою не баіцца. У страха вочы вялікія. Ня мела баба клопату, дык купіла парася. Без абручыка, бяз дна—нідзе дзірачкі няма (яйцо). Пасярод лесу дзежка кісьне (яблык). Не разьбіўшы гаршчочка, ня будзеш есьці кашкі (арэх). Тань, да тавару ня гань. З чужога коніка і ў гразі злазяць. Нават свойскія качкі і гусі пачуваюць час выраю. Усе птушкі слухаюць свайго правадыра. Каля шляху, у чыстым полі, магіла стаіць. Недалёка ад берагу было падводнае каменьне. Баючыся трэску, і ў лес ня трэба хадзіць. Штодня варкатня.

**Задачка 24-ая.** *Сьпісаць і паставіць канчаткі* **а—я** *або* **у—ю.**

У чужое проса ня сунь нос—. Няма дыму без агн—. У пужлівага купц— ні грошай, ні тавар—. Маленькі сабачка да век— шчаня. Гэтага цьвет— па ўсім сьвету. За туманам сьвет— ня відно. І дн— таго няма, каб было спакойна. Нідзе агн— ня відно. На гэта ня было ўгавор—. Жаўцеюць палоскі позьняга аўс— ці ячмен—. Вада залівала многа бераг—. Далёка ад нашага кра— ёсьць вялікія азёры, або моры. З вялікага гром—

часам малы дождж бывае. Дожджык— просіць зялёнае жыта. Хоча даждж— ярына. У страх— вочы вялікія. Ня мела баба клопат—, дык купіла парася. Без язык—, а мудра гаворыць (кніга). Без абручык—, бяз дна—нідзе дзірачкі няма (яйцо). Пасярод лес— дзежка кісьне (яблык). Багатаму шкада карабл—, а беднаму кашал—. Не разьбіўшы гаршчочк—, ня будзеш есьці кашкі (арэх). Паложана пячаць, без тапар— не пачаць (лёд). Бегала ліска каля лес— блізка. Бяз провад— войска гібне. Ні род—, ні плод—, як бел-камень у ваду. Ані гарэлага шэлег— няма. Што з воз— ўпала, то прапала. Баючыся трэск—, і ў лес ня трэба хадзіць. Дай каню аброк—, прыедзеш к сроку. Шукай ветр— ў полі. Мур— лобам не разаб’еш. За посул гнев— няма. З поўначы цёмнае, сівер— дальняга нудная восень прыйшла; з луг— зялёнага жыцьце-красу прыняла. Недалёка ад бераг— было падводнае каменьне. Ад холад— мошкі зашываюцца ў шчыліны. Нават свойскія качкі і гусі адчуваюць час выра—. Усе птушкі слухаюць правадыр—. Каля шлях—, у чыстым полі, магіла стаіць. Свайго розум— нікому ня ўложыш.

**б) Родны склон множнага ліку.**

I. Мужчынскі род.

ПРАВІЛА 27. 1) У родным склоне множнага ліку ўсе іменьнікі мужч. роду звычайна маюць пад націскам канчатак **оў—ёў:** *братоў, сталоў, пнёў, ласёў,* а не пад націскам—**аў—яў:** *народаў, страхаў, локцяў.*

2) Некаторыя іменьнікі мужчынскага роду множнага ліку маюць чыстую аснову (без канчатку), напр.:

а) іменьнікі з устаўкаю **ан—ян:** *сяляне—сялян, мяшчане— мяшчан, цыгане—цыган;*

б) таксама словы: *дзень, раз, год, чалавек, рог* і інш., напр.:

сем *дзён,* сто *раз,* шэсьць *год,* дзесяць *чалавек,* некалькі *рог* (заместа “нёў”, “разоў”, “гадоў”, “чалавекаў”, “рагоў”).

3) Тры словы мужч. роду: *госьць, конь, грош,* у родным склоне множнага ліку пад націскам маюць канчатак ей, а не пад націскам—**ай—яй:** *госьць—гасьцей, конь—коняй, грош—грошай,* як *людзі—людзей,* а часам—лапцей. (Вышлі на поле жнеі з сярпамі ў лапцях лазовых, а хто без *лапцей.* Я. Кол.).

II. Ніякі і жаночы род.

А. 1) Родн. склон множн. ліку іменьнікаў ніякага роду ўжываецца без канчаткаў (можа мець чыстую аснову) і з канчаткамі мужчынскага роду—**оў (еў)—аў (яў),** напр.: *возера—азёр—азёраў, дрэва—дрэў—дрэваў, лета—лет—летаў, места—мест—местаў, месца—месц—месцаў, вядро—вядзёр—вёдраў, карыта—карыт—карытаў, неба—нябёс—нябёсаў, слова—слоў—словаў, поле—поль—палёў, пісьмо—пісем—пісьмаў, вокны—акон—вокнаў, палотны—палацён—палотнаў, вогнішча—вогнішч—вогнішчаў, вароты—варот—варотаў, дровы—дроў—дроваў, калёсы—калёс— калёсаў* і г. д.

2) Заўсёды прымаюць канчатак—**аў (яў):**

а) дзеяназоўнікі, напр.: *адкрыцьцяў, апавяданьняў, здарэньняў, пытаньняў, перажываньняў, стварэньняў,* а таксама *пачуцьцяў, прыслоўяў* і пад.;

б) іменьнікі зборныя ў тых разох, калі яны прымаюць форму множнага ліку, напр.: *каменьня—каменьняў, карэньня—карэньняў, лісьця—лісьцяў, крыльля—крыльляў, кольля—кольляў* і пад.;

в) у родным склоне множн. ліку заўсёды прымаюць канчатак—**аў** іменьнікі ніякага роду, што канчаюцца на *ства, цтва, дзтва,* напр.: *гаспадарства—гаспадарстваў, земства—земстваў, лякарства—лякарстваў, таварыства—*

*таварыстваў, выдавецтва—выдавецтваў, брацтва—брацтваў, суседзтва—суседзтваў, ваяводзтва—ваяводзтваў* і пад.

Б. 1) Іменьнікі жаноч. роду ў родным склоне множн. ліку часьцей маюць форму чыстае асновы, без канчатку, напр.: *галоў, выгод, губ, вод, гор, дарог, дашчок, зор, кароў, ног, рук, пчол, сьлёз, канапель, сарочак, мух, круп, ліп, лісіц, дачок, сясьцёр, маладзіц* і пад.

2) Але гэтыя іменьнікі могуць мець і канчаткі мужч. роду— **аў (яў),** напр.: *мухаў, крупаў, маладзіцаў, ліпаў, лісіцаў, сёстраў, пчолаў* і г. д., прычым іменьнікі на**—ня** пры зьбегу двух зычных у канцы асновы найчасьцей ужываюцца з канчаткам**—яў,** напр.:

*вішня—вішняў, кнігарня—кнігарняў, лазьня—лазьняў, пякарня—пякарняў, студня—студняў, цагельня—цагельняў, швальня—швальняў, кузьня—кузьняў* і г. д.

3) Іменьнікі жаноч. роду на**—ыя—ія** і падобныя, з асноваю на **й** могуць мець у родным склоне множн. ліку форму чыстай асновы, на **й,** напр.: *гісторыя—гісторый, нацыя—нацый, правінцыя—правінцый, шыя—шый, камісія—камісій, пэнсія—пэнсій, фамілія—фамілій, зброя—зброй, завея—завей, надзея—надзей,* а таксама *жняя—жней, сьвіньня—сьвіньней* і пад.

4) Іменьнікі мужч. роду на**—а (я)** у родным склоне множн. ліку маюць дваякую форму—з канчаткамі і без канчаткаў, напр.: *ваявод—ваяводаў, дзядзек—дзядзькаў, стараст—старастаў, судзей—судзьдзяў* і г. д.

5) Пры зьбегу двух ці больш зычных у канцы асновы ў тым выпадку, калі форма роднага склону множн. ліку супадае з чыстаю асноваю, паміж зычнымі зьяўляюцца “ўстаўныя” галосныя гукі—пад націскам—**о—ё**,—а не пад націскам—**а—е,**—напр.: *кросны—красён—кросен, вёдры—вядзёр—вёдзер, землі—зямель, песьні—песень, палотны—палацён—палоцен, лазьня—лазень, вішня—вішань, вокны—акон—вокан, жорны—жарон—жоран, сарочкі—сарачок—сарочак,* а таксама: *жанок, дачок, матак, цётак, галак, сосен, лялек, шпілек, жнеек, двоек, троек, грэбель, грывень, дзядзек, бацек,* але *ласк, верб, ведзьм, зьвёзд, высп, форм, вёрст, стараст.*

**Увага:** 1) Устаўное **е** застаецца ў такіх разох, як у васнове пасьля націску: *кросен, палоцен, песень, лазень.* (Бач. прав. 14).

2) Такія ўстаўныя гукі бываюць і ў скарочаных прыметніках іменных (бач. § 13, прав. 39).

**Практыкаваньне 34.** Накапаў ён (Нёман) ям і нораў. І насіў ты (Нёман) крыгаў горы. Колькі новых малюнкаў, сьвежых мотываў і таемных здарэньняў абяцаюць яны (гасьцінцы) вачом і сэрцу падарожнага. Многа страшных здарэньняў успомнілі хлопцы. Дзе прыгляднікаў многа, там посьпеху мала. Зьвініць вясёлых бомаў медзь. Вожыкі робяць сабе гнёзды з лісьцяў. Кажаны ня робяць сабе гнёздаў на зіму. На галінах дрэў птушкі спаць ляглі. У ваднае мацеры пяць сыноў. Ішло хлопцаў дваццаць пяць—пасьля зімы сьляды знаць (барана). Далёка я ад межаў родных. Збожжа пажатае з ніваў пазвожана. У хлопцаў былі поўныя кошыкі баравікоў. Вецер ліст з палёў атрос. Льлецца Нёман паміж гораў сьветлы, чысты, як з расы. Станьце, хмурынкі, над рубяжамі родных палеткаў, шнуроў. Толькі-ж ня слухае неба іх мовы—жальбы ржаных каласоў. Шум некі ад пушчаў нясецца.

**Практыкаваньне 33.** *Сьпісаць і формы роднага склону іменьнікаў мужч., жаноч. і ніякага роду множн. ліку падчыркнуць.*

Гасьцей з усіх валасьцей. Няхай нас сустрэнуць з касамі, з сярпамі грамады працоўных людзей! Дзе нянек многа, там дзіця бязнога. Аж дзервянее ў жнеек рука. Поўна хата людзей—нідзе ні вокан, ні дзьвярэй (гарбуз). Стаіць Рыгор паміж гор, палкаю падпёршыся, шапкаю накрыўшыся (грыб). З сямі поль пшанічанька, з васьмі крыніц вадзічанька, дзевяці кароў масла, а яец паўтараста (п.). Лятала стада курапатак па полю, вялі зязюлечку з сабою (п.). Саладок мядок для нашых дзяток.

Дзеці набралі сабе лялек. Калі сам ня знаеш, то ў людзей пытай. Ліс хоць сьпіць, але курэй бачыць. У нашым садзе многа вішань. Ляціць бяз крыл у гадзіну сто міль

(вецер). На сем вёрст адзін мост. Семсот сарочак, семсот намётак, а падзьме вецер, адкрые ўсё цела, хоць адзежа на ёй цэла (птушка, курыца). Рук ня мае, а піша (мароз). Купіў-бы сяло, але грошай гало. Коняй патапілі, сукні памачылі. Ёсьць у нашым краі многа азёр. Людзі любяць сяліцца каля рэчак. Сонца блеск свой апусьціла на зямлю з высот. Ты куды бяжыш, дарога,—тканка ног і кола? Скажу табе бяз спорак: мне ўжо хлеб твой стаў горак.

**3. Месны склон адзіночнага ліку.**

Месны склон мае канчаткі: 1) **е—э,** 2) **і—ы** і 3) **у.**

ПРАВІЛА 28. 1) На **е** канчаюцца іменьнікі ўсіх родаў з цьвёрдай асновай, прычым аснова заўсёды зьмякчаецца, напр.: *сын— пры сыне, дуб—на дубе, стол—на стале, пакос—на пакосе, мароз—на марозе; яма—у яме, маліна—у маліне, галава на—галаве, мова—у мове, сасна—на сасне; акно—у акне, слова—аб слове, крыло—на крыле, ярмо—у ярме, гаспадарства—на гаспадарстве, пісьменства—у пісьменстве, жабрацтва—у жабрацтве* і г. д.

а) Калі аснова канчаецца на **г** і **х,** то гэтыя гукі зьмяняюцца на **з** і **с,** напр.: *парог—на парозе, бераг—на беразе, луг—на лузе, слуга—пры слузе; нага—на назе, дарога—пры дарозе; гарох—у гаросе, кажух—у кажусе, страх—у страсе; саха—на сасе, страха—на страсе, мачыха—пры мачысе, Лявоніха—пры Лявонісе, муха—на мусе, вуха—на вусе* і г. д;

б) Калі слова канчаецца на **д—т,** то гэтыя гукі зьмяняюцца на мяккія **дз—ц,** напр.: *агарод—у вагародзе, горад—на горадзе, град—аб градзе, сад—у садзе, народ—у народзе, ваявода—пры ваяводзе, вада—на вадзе, бяда—у бядзе, свабода—на свабодзе, калода—на калодзе; гняздо—у гнязьдзе; брат—пры браце, сват—на сваце, сьвет—у сьвеце, плот—на плоце, мост—на мосьце; хата—у хаце, работа—на рабоце, рута—у руце, мята—у мяце, сіта—у сіце, жыта—на жыце, лета—аб леце, места—у месьце, рэшата—у рэшаце* і г. д.

На **э** канчаюцца: а) Іменьнікі жаночага роду з асноваю на **к,** калі націск прыходзіцца на канчатак: *на руцэ, у руцэ, на рацэ, у рацэ. (Рыба ў рацэ, да ня ў руцэ).*

б) Здараецца і мужчынскі род з асноваю **р** у месным склоне з канчаткам **э:** *на дварэ, у дварэ.*

2) Канчатак **і** маюць: а) Іменьнікі ўсіх радоў з мяккім зычным перад канчаткам (з мяккай асновай): *на кані, па камені, па локці; па зямлі, у кузьні, на косьці, па полі, на гальлі, пры жыцьці.*

б) Іменьнікі мужчынскага роду, што канчаюцца ў назоўным склоне адзіночнага ліку на **й:** *гай—у гаі, Дунай—на Дунаі, рай— у раі, салавей—пры салаўі, верабей—на вераб'і.*

Канчатак **ы** маюць іменьнікі ўсіх радоў з асноваю на зацьвярдзелыя гукі: **ж, ч, ш, ц, р:** *на нажы, па абручы, у салашы, на канцы, па бары, на тапары; у дзяжы, па печы, на душы, у кашы, па вуліцы, на гары; на плячы, на вогнішчы, на сонцы, у дабры, па моры* і г. д.

в) Канчатак **ы** прынялі ўсе іменьнікі жаночага роду з асноваю на **к,** прычым **к** зьмяняецца ў **ц,** напр.: *граматыка—у граматыцы, лаўка—на лаўцы, матка—пры матцы, навука—у навуцы, рэчка—на рэчцы, шапка—у шапцы, казка—у казцы, жаваранка— аб жаваранцы,* і г. д.

**Увага:** Іменьнікі жаночага роду адзіночнага ліку ў давальным і месным склоне заўсёды маюць аднолькавыя канчаткі: *к зямлі—на зямлі, к галаве—па галаве, к гары—на гары* і г. д.

3) а) Калі іменьнікі мужч. роду з асноваю на зацьвярдзелыя гукі: **ж, ч, ш, ц, р** азначаюць асобу чалавека, то месны склон мае аднолькавы канчатак з давальным, гэта

значыць—**у:** *к мужу—пры мужу, Лукашу—на Лукашу, Багдановічу—пры Багдановічу, Грыгору—на Грыгору, купцу—на купцу, немцу—па немцу, кітайцу—пры кітайцу.*

б) У месным склоне таксама будзе канчатак **у** (як і ў давальным), калі іменьнікі мужч. і ніякага роду маюць аснову на **к:** *на суку, у Менску, у Слуцку, пры чалавеку, аб ваўку; на воку, на веку, у малаку.*

в) У іменьніках мужч. р. з канчаткам на **а** (з цьвёрдаю асноваю) у месным і давальным склоне часьцей бывае канчатак **у,** хоць ужываюцца і звычайныя канчаткі, напр.: *пры мужчыну, на старасту, пры Купалу, на Манюшку,* таксама і *пры Янку, пры бацьку, на дзядзьку, па сабаку* і пад.

**Увага:** Калі іменьнікі мужч. і ніякага роду маюць аснову на **г** ці **х,** то месны склон можа мець таксама канчатак **у,** як і з асноваю на **к:** *у страху, на парогу, у вуху, на воку;* але калі гартанная аснова зьмякчаецца, то будзе канчатак **е** ці **ы:** *у страсе, на парозе, па вусе, на воцы:* толькі заўсёды *"на шляху".*

**Практыкаваньне 36.** Паліўся срэбрам сьпеў прыгожы ў далёкай сіняй вышыні. Цэлы гай старасьвецкіх дубоў раскінуўся па беразе рэчкі. Ціха месяц адзінокі ходзіць у небе над зямлёй. Усё зьмяшалася ў тумане. Толькі на лузе блішчыць яшчэ сьнег і лёд. На злодзеі шапка гарыць. Бяда не па лесе, а па людзях ходзіць. Дзесятая вада на кісялі. Над збожжам убогім вецер гуляе на волі. У белым сьнезе маладняк. Ходзяць па полі ў задуме мужчыны. Моцна хлопец занудзіўся па бацьку, па маме. На старасьці дзьве радасьці. Пад стольлю ў павуціне б'ецца муха-сіраціна. На гальлі старога дуба было буслава гняздо. Кветка красуе на грунце ўбогім. Сьвежая магіла выкапана ў доле. Узімку ў лесе і на полі шмат менш птушак і зьвяроў. Салавейка жыў у зялёным гаі. Зябнуць вербы на марозе. Ходзіць шум па лесе. Пастушкі сядзелі пры агні. Каня водзяць на вобраці. Многа смутку ў песьні гэтай. Быў на кані і пад канём. На дварэ было цёмна, як у скляпеньні. Па сіняй раўніне за хмаркаю хмарка плыве. У хаце сьвяцілася газьніца.

**Практыкаваньне 37.** Ярка на камінку смольны корч палае. Бацька на калодцы лапаць выплятае. Птушка сядзела на суку. На гасьцінцы рос стары беразьняк. І на сонцы ёсьць плямы. Нудна на сэрцы. Маладзенькая травіца блішчыць на сонцы. У ціхую пагоду хораша на моры. Па возеры плавалі гусі і качкі. Вада ў моры горка-салоная. Марскія стварэньні і расьліны ў рэчцы ці ў возеры жыць ня могуць. Ката ў мяшку ня купляюць. Будзе кірмаш і на нашай вуліцы. На вяку ўсяго нажывеш. Шкадлівай кошцы хвост уцінаюць. На сваім сьметніку і певень сьмелы. На ўзгорку былі сялянскія могілкі. Ня кукуй ты, шэрая зязюля, сумным гукам у бары! Сірату пакінулі жыць пры купцу. Рана была на пальцы. Агонь разлажылі на леташнім вогнішчы. Блішчалі зоры ў нябесным прасторы. Не адзін Гаўрылка, што ў Полацку. Старой бабцы хораша і ў шапцы. Пры цару была паншчына. А воўку памоўка, а воўк тут. Быць бычку на лычку, а кароўцы на вяроўцы. На пажарышчы часова стаяла новая будова. У канцы грэблі шумяць вербы. За сялом, у полі, у жоўценькім пясочку пахавала маці маладую дочку. Ня было уцехі ў мацярынскім горы. На абшары тым шырокім прыгожа нівы красавалі.

**Задачка 25-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, заместа рысак, літары* **е** *або* **і**.

Паліўся срэбрам сьпеў прыгожы ў далёкай сіняй вышын—. Ціха месяц адзінокі ходзіць у неб— над зямлёю. Усё зьмяшалася ў туман—. Ціха на пол— ў палудзень гарачы. Сьвішчуць сані на мароз—. У белым сьнез— маладняк. Моцна хлопец занудзіўся па брац—, па мам—. Над збожжам убогім вецер гуляе на вол—. Ходзяць па пол— ў раздум'— мужчыны. Бронісь быў самы маленькі ў хац—. Сьвежая магіла выкапана ў дол—. Узіму ў лес— і на пол— шмат менш птушак і зьвяроў. Салавейка жыў у зялёным га—. На бераз— рэчкі стаяла цэлая кучка народу. На злодзе— шапка гарыць. Дзесятая вада на кісял—. Зябнуць вербы на мароз—. Ходзіць шум па лес—. Пацямнела ў хац—. Вее вецер за вугламі, у комін— галосіць. Кветка красуе на грунц— убогім. Па сіняй раўнін— за хмаркаю хмарка плыве. На балоц— з чаратамі лазьнякі

шапталі. Трэцца жыта ў пыл на просьц—. Многа смутку ў песьн— гэтай. Пад стольлю ў павуцін— б'ецца муха-сіраціна. Ветрык паўднёвы ў луз— квяцістым калыша траву-сенажаць. Бусел клякоча ў гнязьдз— над хваінай. На дварэ было цёмна, як у скляпеньн—. На гальл— старога дуба было буслава гняздо. На старасьц— дзьве радасьці. Каня водзяць на вобрац—, а злодзея на ланцузе. Гэты цьвеце па ўсім сьвец—. На курган— расла прыгожая грушка. У хац— сьвеціць газьніца. У жыцьц— ўсяго нажывеш. Сядзеў на прызьб— стары дзед.

**Задачка 26-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, літары* **ы, у.**

Птушка сядзела на сук—. На гасьцінц— рос стары беразьняк. Нудна на сэрц—. Ярка на камінк— смольны корч палае. Бацька на калодц— лапаць выплятае. На магілц— стаяў трухлявы крыж. І на сонц— ёсьць плямы. Маладзенькая травіца-атава блішчыць на сонц—. Загула малатарня ў халодным асеньнім паветр—. На паліц— дзьве сініцы. У ціхую пагоду хараша на мор—. Па возер— плавалі гусі і качкі. Вада ў мор— горка-салоная. Марскія стварэньні і расьліны ў рэчц— ці ў возеры жыць ня могуць. Ката ў мяшк— ня купляюць. На вяк— ўсяго нажывеш. Будзе кірмаш і на нашай вуліц—. Шкадлівай кошц— хвост уцінаюць. На сваёй лаўц— і памерці добра. На сваім сьметнік— і певень сьмел—. Па вуліц— бегалі дзеці. На ўзгорк— былі сялянскія могілкі. У вёсц— па хатах засьвяціліся агні. У бар— растуць баравікі. Па летнік— грэбля была да ракі. Вада ў рэчц— несалоная. У гушчар— яловага лесу вывела ваўчыха трох ваўчанят. Блішчалі зоры ў нябесным простор—. На пальц— была рана. Па гасьцінц— ехалі людзі. Агонь разлажылі на леташнім вогнішч—. Пры цар— была паншчына. А воўк— памоўка, а воўк тут. Быць бычку на лычк—, а кароўцы на вяроўц—. За сялом, у полі, ў жоўценькім пясочк—, пахавала матка маладую дочку. Ня было уцехі ў мацярынскім гор—. Я цяжкі смутак у сэрц— маю. На пажарышч— часова стаяла новая будова. У бярэзьнік— стаяла лясьнікова будка. На абшар— тым шырокім прыгожа нівы красавалі. Матылёчкі залатыя на сонц— крыльцамі блішчалі. У гаспадарц— быў парадак. У канц— грэблі шумяць вербы.

ПРАВІЛА $28_1$. Калі іменьнік з прыназоўнікам **па** выражае пашырэньне па паверхні чаго-небудзь, то ён адказвае на пытаньне *па чым? па кім?* гэта значыць ставіцца ў месным склоне.

**Практыкаваньне 38.** Па балоце важна пахаджвае бусел. Сані нячутна плывуць па мяккім сьнезе. Ходзіце вы, хмаркі, па ўсім белым сьвеце! Цэлы гай старасьвецкіх дубоў раскінуўся па беразе Нёмана. Сьветлыя хмаркі ціха па небе плывуць. Людзі езьдзяць па зямлі, плаваюць па моры і лятаюць па паветры. Блудзіла сіротка па полі. Цяпло вельмі борзда разыходзіцца па жалезе. Па краёх крынічкі рос малады алешнік. Пакапалі мышы па загонах норы. Па чужых ты людзях пойдзеш. Дождж хвошча па шыбах. Ходзяць гутаркі па сьвеце летам і зімою. Даставайце з вышак сані—гайда сьцежкі праціраць і па белым акіяне ўдоўж і ўпоперак гуляць. Гудзеў, заводзіў вецер, бы па дроце рэзаў нож. А па небе ў гэта лета ходзіць ходырам камэта. Па саломеных стрэхах дым коціцца. Я-б дымком па небе плаваў, па зямлі-б хадзіў сьвятлом. Коні гулка б'юць па бруку капытом. Лятае па кветках пчолка залатая. Весела дзецям бегаць па брудных лужах. Як толькі ўгарнулі пчаліную матку, пчолы самі скоранька папаўзьлі па палатне ў рэшата. Па стрэсе бегалі шустрыя падманкі. Сьлёзы коцяцца па твары.

**Практыкаваньне 39.** *Сьпішыце наступныя сказы і падчыркнеце тыя словы, якія выражаюць пашырэньне па паверхні чаго-небудзь.*

Нашто гэта вецер дарма па сьвеце гуляе, па дарозе пыл падымае, воблакі па небе ганяе? На караблі паехаў чалавек па моры, як па сушы. У старасьвецкай Беларусі па Дняпры, Прыпяці, Нёмне, Дзьвіне і іх прытоках ішоў жывы рух тавараў. Зіму пачуяўшы, мядзьведзь непакоіцца, ходзіць па лесе, шукае бярлог. Па ўсім маім нутры пракацілася нейкая гарачая хваля. Па берагох азёр расьце чарот і аер. Як шчэпкі, носяцца параходы па марскіх хвалях. Па вуліцах пацяклі равочкі каламутнай вады. Сок расходзіцца па ўсёй расьліне, як кроў па чалавечым целе. Курганы ў вялікім ліку

раскіданы па ўсім прасторы Беларусі. Вышлі роднай вёскі дзеці расьсяваць па сьвеце косьці. Па полі па бледным снуе бледны цень. Гвазды тарчалі па ўсіх сьцянах. Трэскі ляжалі па ўсім двары. На рэчку хлопцы выбягалі крыху пакоўзацца па лёдзе. Сьледтрайчаткі па лесе кідаюць зайчаткі. Ліс-хітрэц па сьнезе цягне сьлед раўнюткі. Вада па лузе разьлілася. Па камянёх вілася шумная Вілейка. На левым беразе зялёных дрэў пралёг радочак. Па іх (узгоркаў) адложыстых уклонах любоўна ветры па загонах жытцо, ярынку чуць гайдалі.

**4. Аканьне ў склонавых канчатках іменьнікаў.**

ПРАВІЛА 29. Склонавыя канчаткі іменьнікаў не пад націскам звычайна падлягаюць аканьню (бач. прав. 11), напр.:

1) Родны склон множнага ліку ўсіх трох радоў не пад націскам мае канчатак: а) **аў—яў,** напр.: *народаў, хлопцаў; гнёздаў, тапарышчаў; нораў, крыгаў; локцяў, прыяцеляў; здарэньняў, іменьняў; земляў.*

б) толькі два словы мужч. роду маюць канчатак **ай-яй:** *грошай, коняй* (бач. прав. 27. 3).

2) Канчаткі давальн. склону множн. ліку: **ам—ям,** напр.: *народам, хлопцам; гнёздам, тапарышчам; норам, крыгам; локцям, прыяцелям; здарэньням, іменьням; землям, каплям.*

3) Канчаткі творнага склону: **амі—ямі,** напр.: *народамі, хлопцамі; гнёздамі, тапарышчамі; норамі, крыгамі; локцямі, прыяцелямі; землямі, каплямі.*

4) Канчаткі меснага склону: **ах—ях,** напр.: *аб народах, хлопцах; на гнёздах, тапарышчах; у норах, на крыгах; на локцях, прыяцелях; пры здарэньнях, іменьнях; у землях, каплях.*

5) Творны склон адзіночнага ліку мужч. і ніякага роду з цьвёрдаю асноваю **не** пад націскам мае канчатак—**ам:** *народам, хлопцам; морам, целам.*

Але калі іменьнікі мужч. і ніякага роду з мяккаю асноваю, то ў творным склоне канчаткі не падлягаюць аканьню: *локцем, аленем, гаем, раем; полем, пытаньнем, здарэньнем, бацьвіньнем.*

*У* жаночым родзе ў такіх разох канчатак будзе**—яю—яй:** *лазьняю, або лазьняй; кузьняю ці кузьняй, гаспадыняю або гаспадыняй.*

**Практыкаваньне 40.** Мяккі сьнег лятае пухам. Лес туманам заснаваўся. За хвалямі хвалі бягуць. Пасьпех— людзям на сьмех. Увосень можна бачыць, як вожык нясе на сваіх калючках сухое лісьце ў гняздо. Даль неласкава туманам-смагаю пакрыта. Каласочкі на саломках галоўкай качаюць. Будуць жыці дзеткі патомныя добраю доляй, доляй шчасьліваю. Белаватаю пялёнкай уздымаецца туман над лугамі. Пішчаць дзесь чайкі на балотах. Вераб’я падманваюць каноплямі, а чалавека словамі. Стаіць Грыгор паміж гор, палкаю падпёршыся, шапкаю накрыўшыся (грыб). Няма лепшай вячэрачкі, як у мамкі за столікам з родным браткам-саколікам. Я ў мамачкі ў госьцях была і з брацейкам гаварыла. Пазарастаюць сьцежачкі ельнічкам-бярэзьнічкам, вадзіцаю закоцяцца. Я сваімі сьлёзкамі лугі тапіла, я сваімі сухотамі лясы сушыла. Буслы ходзяць чародамі па лузе. Вочы рыся вялікія, лупатыя, з касматымі бровамі.

**Практыкаваньне 41.** Цярпеньнем і працай горы пераносяць. Вучэньне паможа змагацца з нядоляй, з няволяй. Белым інеем пакрыты на гасьцінцы беразьняк. Уюцца думкі смутным роем. Крыўдзіцеляў зможаш, як цёмен ня будзеш. За баляваньнем ходзіць галадаваньне. За гаем пачыналася роўнае поле. За хвалямі хвалі бягуць. Песьняй душу весялі. Пасьпех—людзям на сьмех. Грады зарасьлі зельлем. Бачаньнем жорава ня зловіш. Некім жалем веяла ад старэнькае хаты. Вада патрэбна і расьлінам і стварэньням. Конь прывязан повадам, а госьць полуднем. З надзеяй сеем жыта мы ўвосень; з надзеяй сустрачаем выраі вясной. Ой пад гаем зеляненькім здаўся мне сон дзівенькі! На ўсходзе неба грала полымем пажару. Блескам-дрыгаценьнем зорка

замігала. Як я полем іду, колас гнецца ка мне. Жалем сьціскаюцца грудзі. Любая думачка зданьнем шчасьлівым, сонейкам ясным стаіць. Дурань з дурнем схадзіліся ды адзін на другога дзівіліся. Кучка топаляў стаіць. Многа страшных здарэньняў успомнілі хлопцы. Вецер стогне над ім уздыханьнем глухім.

**Задачка 27-ая.** *Сьпісаць і паставіць, заместа рысак, літары* **е, я.**

За баляваньн—м ходзіць галадаваньне. Цярпеньн—м і працай горы пераносяць. Белым іне—м пакрыты на гасьцінцы беразьняк. Уюцца думкі смутным ро—м. Песьн—й душу весялі. За хвал—мі хвалі бягуць. За га—м пачыналася роўнае поле. Пасьпех людз—м на сьмех. Грады зарасьлі зельл—м. Бачаньн—м журава ня зловіш. Некім жал—м павявала ад старэнькае хаты. Вада патрэбна і расьлінам, і стварэньн—м. На зямлі жыве многа ўсялякіх стварэньн—ў. Ліхадзе—м на безгалоўе, а добрым людз—м на здароўе. Конь прывязан повадам, а госьць полудн—м. З надзе—й сеем жыта мы ўвосень; з надзе—й сустрачаем выраі вясной. Ой пад га—м зеляненькім здаўся мне сон дзівенькі! На ўсходзе неба грала полым—м пажару. Блескам-дрыгаценьн—м зорка замігала. Як я пол—м іду, колас гнецца ка мне. Чорныя хмары па неб— плывуць. Колас нязжаты на нів— стаіць. Вучэньне паможа змагацца з нядол—й, з нявол—й.

### 5. Клічны склон.

ПРАВІЛА 30. У значэньні клічнага склону часта ўжываецца назоўны склон: Паслухай, *братка!* Годзе маркоціцца, *хлопцы, дзяўчаты!* Гніся, *кум,* ня гніся, а каля кішэні павярніся!

У іменьнях жаночага і ніякага роду клічны склон заўсёды аднолькавы з назоўным, напр.: *Літва,* родная зямелька! Жальцеся, звонкія *струны! О, поле, поле,* хто цябе ўсеяў мёртвымі касьцямі?

Клічны склон мае свае асобныя канчаткі толькі ў іменьнях мужч. роду.

А) У клічным склоне іменьнікі мужч. роду адзіночнага ліку маюць канчаткі: 1) **у—ю,** 2) **е—а.**

1. Канчатак **у** маюць:

а) іменьнікі з асноваю на **к:** *братку, галубочку, дубочку, коніку, лябедзіку, хлопчыку, чалавечку, сынку, дзядзьку* і інш.

б) іменьнікі з асноваю на зацьвярдзелыя гукі—**ж, ш, ч, р:** *мужу, вужу, пісару, гаспадару, бору, яшчару, Лукашу* і інш.

Канчатак **ю** маюць усе іменьнікі з мяккай асновай (з мяккім зычыным перад канчаткам) і з канчаткам **й** (ёт) у назоўным склоне: *коню, прыяцелю, селезьню, кавалю, краю, гаю, гультаю, дабрадзею, пакою, караваю* і інш.

2. а) Канчатак **е** маюць усе іншыя іменьнікі з цьвёрдаю асноваю: *браце, Іване, голубе, дубе, Паўле, родзе, суседзе, Сямёне, саколе, абедзе, гаросе (і—гароша).*

б) Але некаторыя іменьнікі заместа **е** (а часам і поплеч з **е**) маюць канчатак **у:** *сыну* (Бачыш, *сыну мой,* як гаруема; бачыш, *сыне* мой, як працуема), *дзеду, духу, тату, люду, дубу (*і—*дубе), свату (*і—*сваце).*

в) Калі аснова канчаецца на—**г, к, х, ц,** то гэтыя гукі ў клічным склоне зьмяняюцца на—**ж, ш, ч,** і тады заместа **е** будзе канчатак **а:** *друг—дружа,* луг—*лужа, чалавек—чалавеча,* казак— *казача,* воўк—*воўча,* айцец—*ойча,* хлопец—*хлопча,* купец—купча.

Б) У множным ліку клічны склон ад іменьнікаў мужч. роду мае канчатак—**ове:** *мужове, сватове, людкове, швагрове, братове, сынове* і інш.

**Практыкаваньне 42.** *Сьпісаць і клічныя формы падчыркнуць.*

Барысе, Барысе, сам бараніся! Языча, языча! ці ліха цябе мыча: ва мне сядзіш, а мне дабра ня зычыш. Сівы галубочку сядзеў на дубочку. Едзе казача, едучы плача. Дзень добры, братове! Бачыш, сыну, як гаруема; бачыш, сынку, як працуема. Ой, панове старастове, каб вы не даждалі, каб мы вам па дровы ў нядзелю ехалі! Станьма, Ясю,

начаваць, агонь сіні раскладаць! Ой, воўча, сядзі моўча! На табе, нябожа, што мне ня згожа. Мой мілы пакою, добра мне з табою! Прыступі, гаспадару, да свайго караваю! Люлі, сьпі, мой сынку! Ой, Дунаю, Дунаю! як-жа нам да пазваць цябе? Павесь шапачку, мой сыне! Краю мой родны, колькі ты зносіў нядолі?! За праўду, за шчасьце, за лепшую долю вазьміся, мой дружа, пастой! Не хадзі, коце, па хаце, не пабудзі дзіцяці! Дам табе, косю, шаўковай травы; дам табе, косю, крынічнай вады! Ты, злотнічку, ты, работнічку, скуй ты мне тры надобачкі! Ой бору, мой бору, што ты, бору, ня шумён? Ой сватку, наш сватку, пусьці нас у хатку! Вы, мужове, гаварэце мужское! Сядай, малойча, паедзем разам. А мой малойчыку! хадзі да нас, будзе нам весялей. Квіта, пане Мікіта! Кепска, пане Грыгоры: што далей, то горай. Папаўся, жучку, у белую ручку! Вярні, маці, шубу —едуць дзеці з шлюбу! (п.) Расьці, зельле, градою, застаюся ўдавою! Знаць, ты, дзіцятка, сем лет ляжала, што твая кветка на вадзе завяла!

**6. Канчаткі памяншальна-ласкальных іменьнікаў.**

ПРАВІЛА 31. Некаторыя памяншальна-ласкальныя іменьнікі маюць устаўку (суфікс) **ак** або **ык,** якая не пад націскам чуваць нявыразна.

Калі ў родным склоне нявыразны гук выпадзе, то пішацца **ак:** *ельнічак—ельнічка, чаўночак—чаўночка, садочак—садочка,* а калі ня выпадзе, то будзе **ык:** *пальчык—пальчыка, галубчык—галубчыка, дубчык—дубчыка.*

**Практыкаваньне 43.** *Сьпісаць і словы з суфіксам* **ак—ык** *падчыркнуць.*

Няма лепшай вячэрачкі, як у мамкі за столікам з родным браткам-саколікам. Разумен гаршчочак, а ў ім сем дзірачак (галава). Поўны падпечак белых курачак (зубы). За бярэзьнічкам брэша талалайчык (язык). Гаспадарочак, гаспадарочак! прымі наш вяночак. Напаілі жнеечак з дубовае бочкі. А што-ж цябе прынясло—ці чаўночак, ці вясло? Мяне сюды прынясло ні чаўночак, ні вясло: прынёс мяне сівы конь да матчыных да акон (п.). Прыляцеў сакалочак у зялёны садочак. Хлопчык абрэзаў пальчык. Ветрык павее—ня зьвее. Выслужыў хлеба кусочак да солі драбочак. Колькі я сьцежачак перайшла, нідзе роднага татачкі не знайшла. Зьбірайцеся, тучкі, у кучкі, да зараз дожджык будзе гаспадаром на ўздыханьне, жнейкам на аддыханьне! З-пад правай рукі вылецеў ясны сакалочак, а страла за ім у сьлядочак. Ступай, коню, шырэй у садочак, стукні капытам у церамочак. Запалю сьвечачку, пагляджу ў печачку: чатыры качачкі, гаршчочак кашачкі. Запалі, мамачка, сьвечку, ды выйдзі дзеткам на сустрэчку! Колькі я сьцежачак перайшла, роднага ойчанькі не найшла; колькі баяраў перабрала, роднага ойчанькі не пазнала.

## § 13. Правапіс прыметнікаў.

### I. Канчаткі склонаў: 1. Назоўны склон.

ПРАВІЛА 32. а) *Назоўны склон адзіночн. ліку.*

1) Прыметнікі *муж.* р. адзіночн. ліку ў поўнай форме пры цьвёрдай аснове канчаюцца на ы, а пры мяккай і пасьля г, к, х—на **і,** напр.: *добры малады конь, аржаны хлеб, жоўты пясок, воўчы зуб, гарачы гаршчок; сіні колер, жытні колас, вясеньні дзень, раньні час, даўні знаёмы; доўгі нос, благі ўраджай, сухі ліст, ціхі вечар, кароткі дзень, мяккі хлеб* і г. д.

2) Прыметнікі *жаночага* роду адзіночнага ліку ў назоўным склоне (на пытаньне —*якая?)* маюць канчатак—**ая—яя:** *добрая сястра, воўчая лапа, сіняя папера, раньняя вясна.*

3) Прыметнікі *ніякага* роду адзіночнага ліку ў назоўным склоне (не пад націскам) маюць канчатак—**ае—яе:** *добрае дзіця, вялікае возера, сіняе неба, лішняе акно;* а пад націскам канчатак будзе—**ое:** *глухое месца, старое гумно.*

б) *Назоўны склон множн. ліку.*

Поўныя прыметнікі множн. ліку ўсіх родаў пры цьвёрдай аснове маюць канчатак **—ыя,** а пры мяккай і пасьля **г, к, х,**—канчатак**—ія,** напр.: *новыя сталы, новыя кнігі, новыя вокны; сінія калёры, сінія стужкі, сінія нябёсы; доўгія загоны, благія дзеці, высокія сьцены, вялікія яблыкі, сухія лісьця, глухія вушы*, і г. д.

**Практыкаваньне 44.** Стары верабей на мякіну ня квапіцца. Новае сіта на калку вісіць, а старое пад лавай валяецца. Апошні раз бываю ў вас. Апошняе спатканьне. Чужая хата горай ката. Чужое дабро ня грэе. Жоўтае жытняе поле ціха калосьсем шуміць. Сінія хвалі шумяць і бурляць. Хмурна выглядае стары лес. Узышла ўжо першая вячэрняя зорка. Раньняя птушачка носік цярэбіць, а позьняя вочкі працірае. Сіняе неба стала яшчэ сінейшае. Чую звон я нудны, рэдкі, невясёлы. Ліпы старыя шумяць за сьцяною. Плачуць бязьлістыя ліпы старыя. Пакарочалі цёплыя летнія дзянькі. Добрае ляжыць, а злое бяжыць. Лішняя дабрата—дурата. Перастала грэць яснае сонейка. Насталі кароткія туманныя асеньнія дні. Вялікія сьветлыя вокны прыветна глядзелі на вуліцу. Па траве лёталі беленькія і чырвоненькія матылёчкі. Воўчая доля расьце скора. Добрае чуваць далёка, а благое яшчэ далей. Лішняя нітка—палатну завада. Не апалі яшчэ раньнія росы. Па дарозе пападаліся ўсялякія грыбы. Чорныя баравікі так і стаялі ў ваччу. Свае леты маладыя ўспамінаці буду. Старыя дубы стаялі спакойна і важна. Нашыя Палескія балоты займаюць сотні квадратных вёрст. На доўгі век, на добрае здароўе. Старыя ластаўкі перасталі палохацца людзей. Кожная грамада птушак выбірала сабе лепшае, выгаднейшае месца.

**Практыкаваньне 45.** *Сьпісаць і прыметнікі падчыркнуць.*

**Зіма.**

Прыйшла зіма халодная, нягодная зіма. Прыцьмілась сонца яснае, прыціх шум баравы. На полі пустка страшная—ні збожжа, ні травы. Сьнег белы мёртва сьцелецца пасьцеляй грабавой. Сапе, шуміць мяцеліца, мяце сьнег, як мятлой. Мароз, як кат бязжаласны, ў лёд рэчку закаваў, стральбой сваёй праклятаю ўлёт слабых птушак б’е, пры хаце і за хатаю спакою не дае.

*(Янка Купала).*

**Практыкаваньне 46.** *Сьпісаць і падчыркнуць канчаткі* **ія, ыя.**

Ліпы старыя шумяць за сьцяною. Зоры далёкія, зоры бліскучыя ціха гарапь над зямлёй. Плачуць бязьлістыя ліпы старыя. Белыя хмаркі па небе плывуць. Мне ўспамінаюцца вобразы мілыя роднага краю, палёў; бедныя вёскі, хаты пахілыя, песьні зялёных гаёў, вузкія стужкі меж залаценькіх, узгорак, курганчык, лясок. Нізка зьвісьлі над зямлёю хмары дажджавыя. Хмурыя елкі панура шумяць. Пакарочалі цёплыя летнія дзянькі. Апошнія словы бацька сказаў да Міхася. Вялікія сьветлыя вокны прыветна глядзелі на вуліцу. Здалёк відаць былі зялёненькія стужкі лёну. Некаторыя раньнія птушкі павыводзілі дзетак і клапатліва шчабечуць каля гнязьдзечак, як няанькі каля калысак. Не апалі яшчэ раньнія росы. Зоры, як матылёчкі, трапяталі і дрыжалі ў небе. Па дарозе пападаліся ўсялякія грыбы. Чорныя баравікі так і стаялі ў ваччу. Раньнія жаваранкі затрапяталі ў небе крыльцамі. Вясёлыя ды шчасьлівыя ішлі хлопцы дадому. Старыя дубы стаялі спакойна і важна. Глуха шумелі маладыя расьліны. На грудку расьлі прыгожыя чырвоныя красачкі. Нашыя Палескія балоты займаюць сотні квадратных вёрст.

**2. Родны склон адзіночнага ліку.**

ПРАВІЛА 33. 1) Родны склон адзіночнага ліку *мужчынскага і ніякага* роду не пад націскам канчаецца на **ага—яга:** *добрага* чалавека, *добрага* дзіцяці, *сіняга* каменя, *сіняга* шкла; а пад націскам на **ога:** *маладога* чалавека, *старога* акна.

2) Родны склон адзіночнага ліку *жаночага* роду не пад націскам мае канчаткі: **ае (ай)-яе (яй):** *цікавае* або *цікавай* кнігі; *сіняе* або *сіняй* паперы; а пад націскам—**ое—ой:** *маладое* або *маладой* жанчыны; *старое* або *старой* хаты.

**Практыкаваньне 47.** У баязьлівага купца ні грошай, ні тавару. Ня бойся зьвяглівага, а кусьлівага. Нясьмелага ад няўмелага не распазнаеш. Старога вераб’я на мякіну не падманеш. З чужога каня і ў гразі злазяць. Роўны з роўнага цешыцца. Аднаго хіба птушынага малака няма. Па вуліцы пацяклі равочкі каламутнае вады. Цякла крынічка халоднае чыстае вады. Плачуць думкі па вясьне, хочуць лепшай долі. Дзяўчынка прасіла хлеба для свае хворае мацеры. Ня было толькі сіняе стужкі. Ад дваровага злодзея не ўсьцеражэшся. Ад роднага таткі прыемны і латкі. Паслаўшы дурнога, а за ім другога. Аднэй печанай рэдзькі хіба ня ем. Ад чужога шалу ў галаве круціцца. Добрага сабаку на прывязі трымаюць. З гары ў даліну галубкі лятаюць, з белае бярэзіны лісьце аганяюць. Каля суседняга сяла было вялікае возера. У гэтым годзе ня было ні раньняй вясны, ні раньняй зімы. Хто новага ня бачыў, той і старому рад. У мае сястрыцы, у мае роднае—каліна ў дварэ. Пытайся не ў старога, а ў бывалага.

**3. Вінавальны склон адзіночнага ліку жаночага роду.**

ПРАВІЛА 34. Прыметнікі жаночага роду адзіночнага ліку ў вінавальным склоне канчаюцца на **ую—юю:** бачу *вялікую* кнігу, *добрую* жанчыну, *раньнюю* зорку, *сінюю* паперу.

**Практыкаваньне** 48. Люблю я летнюю месячную ноч. У летнюю ноч вячэрняя зара з ранічнай сходзіцца. Многа работы залатому сонейку ў раньнюю вясну. Маці ў службу выпраўляе родную дзяціну ды украдкам выцірае горкую сьлязіну. Заглядае сонца ўсюды: і ў бедную сялянскую хату, і на пяшчаную горку, і ў малую лагчынку, і ў лес, і на луг, і на поле. Сей у раньнюю вясну, але ня зьбірай у позьнюю восень. Дзяўчына купіла шырокую стужку. Прыемна глядзець на зялёную ніву. Цяжка ехаць у зімнюю буру.

**4. Творны і месны склон.**

ПРАВІЛА 35. 1. Прыметнікі *мужчынскага* і *ніякага* роду адзіночнага ліку ў *творным* і *месным* склоне маюць канчаткі— **ым—ім:** *новым* пяром, *новым* сталом; на *новым* стале, на *новым* пяры; *сінім* колерам, *на сінім* колеры; *сінім* небам, *на сінім* небе;

2. а) Прыметнікі *жаночага* роду адзін. ліку ў *творным* склоне бяз націску на канчатку маюць—**аю (ай)-яю (яй):** *босаю* або *босай* нагой; *новаю* або *новай* кнігаю; *сіняю* або *сіняй* папераю; *раньняю* або *раньняй* вясною; а калі націск на канчатку, то будзе—**ою (ой):** *дурною* або *дурной* галавою.

б) У *месным* склоне прыметнікі *жаночага* роду адзіночнага ліку канчаюцца на—**ай—яй,** калі няма націску на канчатку: на *босай* назе, на *новай* хаце; на *сіняй* паперы, аб *раньняй* вясьне; а калі націск на канчатку, то будзе—ой: у *дурной* галаве, на *старой* хаце

**Практыкаваньне 49.** Пустыя адзінокія могілкі прытуліліся на пяшчаным узгорку. На шырокім і доўгім панадворку было весела і крыкліва. Не шчабячы, салавейка, у зялёным гаі, калі родная сямейка сірацее ў краі! Па ласым кусе я і вады нап’юся. У ліпавым кусьце мяцеліца мяце (сіта). Сядзіць паня на мурку ў чырвоным каптурку— хто ідзе, той паклоніцца (суніца). Кукавала зязюлечка ў зялёным гаі. Кажаны цьвіркаюць тоненькім піскам. У далёкім чыстым небе сьвецяцца зоркі. У цёмным яловым лесе вывела ваўчыха трох ваўчанят. Маладзён едзе ў чысьценькім полі на вараненькім коні. На шырокім полі расла старая купчастая бярэзіна. Будзь стаpанным, сынку: станеш чалавекам. З разумным пагаворыш—розуму набярэшся, а з дурным—апошні страціш. У маленькім гаршчочку кашка смачненькая (арэх). Высока стаіць яснае сонца на чыстым небе. У цёмным лесе не расло нічога. На беразе рэчкі, на сухім грудзе стаяў стары дуб. Цэлае лета вісеў жолуд на старым дубе. На шырокім полі расла старая груша. У вішнёвым садочку ноч начавалі, у зялёным гаёчку сапачывалі (п.). Ой пад гаем зеляненькім здаўся мне сон дзівенькі! (п.). Рэчка ахінала сяло

шырокім сталёвым поясам. На саломцы тонкай, у траве густой сьпее-дасьпявае колас сіратой. (Я. К.). Няхай плачам у сіняй далі песьня разальлецца! (Я. К.). Шкода хаткі мне старэнькай з латанай страхою, што над Нёмнам пахілілась горкай сіратою. Шкода мне зялёнай нівы, што шуміць у полі. Рад любавацца я кветкай убогай. За дурною галавою нагам няма спакою. У сіняй далі слаўся туман. На бітай дарозе трава не расьце. Крыкі знаёмыя, крыкі пявучыя льлюцца вячэрняй парой. Сьціхлі песьні зімняй буры. (Я. Кол.). Шчыраю рукою ўбрала лета ўвесь сьвет. Край неба блішчыць шырокаю чырвонаю стужкай. Раньняю вясною мы выехалі з гораду. На раньняй ральліцы родзіць жыта і пшаніца; на позьняй ральліцы родзіць куколь і мятліца (п.).

**5. Аканьне ў канчатках прыметнікаў.**

(Бач. прав. 11).

ПРАВІЛА 36. Склонавыя канчаткі прыметнікаў усіх радоў падлягаюць аканьню, напр.:

*1) Родны* і *давальны* склон *мужчынскага* і *ніякага* роду адзіночнага ліку маюць канчаткі: **ага—яга, аму—яму:** *добрага* чалавека, *новага* акна; *раньняга* часу, *сіняга* неба; *добраму* чалавеку, *новаму* акну; *раньняму* часу, *сіняму* небу. (Бач. прав. 33).

*2) Родны, давальны, творны і месны* склон *жаночага* роду адзіночнага ліку маюць канчаткі: **ае (ай)—яе (яй), ай—яй, аю (ай)—яю (яй):** *новае* або *новай* хаты; *сіняе* або *сіняй* паперы; *новай* хаце, на *новай* хаце, к *сіняй* паперы, на *сіняй* паперы; *новаю* або *новай* хатаю, *сіняю* або *сіняй* папераю. (Бач. прав. 33 і 35).

**Практыкаваньне 50.** Аднаго хіба птушынага малака няма. Каля суседняга сяла было вялікае возера. Добрага сабаку на прывязі трымаюць. У сіняй далі слаўся туман. Сьціхлі песьні зімняй буры. Толькі дзе-ні-дзе жаўцее палоска позьняга аўсу ці ячменю. З поўначы цёмнае, з сіверу дальняга нудная восень прышла. Уляцела ластаўка ў гумно даведацца свайго даўнейшага леташняга доміка. Хто піў салодкае, той горкаму ня рад. К сіняму небу драбін не падставіш. Бяззубаму кепска. К добраму чалавеку можна ісьці на параду. Цякла крынічка чыстае халоднае вады. Рад любавацца я кветкай убогай. Шкода хаткі мне старэнькай з латанай страхою, што над Нёмнам пахілілась горкай сіратою. (Я. Кол.). Прывет з далёкай стараны нам радасна нясуць яны. Шчыраю рукою ўбрала лета ўвесь сьвет. На бітай дарозе трава не расьце. Сам Алесь васьмігадовы, як ліст, скалануўся, бо ў бацькавай прамове страх яму пачуўся. (Я. Кол.). Край неба блішчыць шырокаю чырвонаю стужкаю. Крыкі знаёмыя, крыкі пявучыя льлюцца вячэрняй парой. Раньняю вясною мы выехалі з гораду. Цячэ рэчка невялічка з вішнёвага саду.

**II. Прыметнікі памяншальныя і ласкальныя.**

ПРАВІЛА 37. 1) Прыметнікі *памяншальныя і ласкальныя* канчаюцца на **енькі,** дзе **е,** як пасьля націску ў аснове (бач. прав. 14): *сіненькі, тоненькі, новенькі,* як—*маленькі.*

2) Пасьля зацьвярдзелых зычных гукаў канчатак будзе **анькі:** *харошанькі, прыгожанькі.*

**Практыкаваньне 51.** Віднеліся палоскі гароху з харошанькімі чырвоненькімі ды сіненькімі кветачкамі. Ластаўкі вылепілі харошанькае кругленькае гнязьдзечка. Самічка-ластавачка несла там свае маленькія рабенькія яечкі. Пшаніца дае бялюсенькую муку. Відаць былі зялёненькія стужкі лёну з сіненькімі галоўкамі. Сіненька, маленька—увесь сьвет адзяе (іголка). Перапаўся, бедненькі, як мядзьвежая лапа. Прыляцелі тры пташачкі чорненькія, як галачкі (п.). Тоненька, сасонка, тоненька! (п.). Хвартушок бяленькі ад сьлёз макрэнькі (п.). Я млода-младзюсенька за табою

прапала (п.). Ой, як ночанька ясьнютка! (Я. К.). Кажаны цьвіркаюць тоненькім піскам. Па траве лёталі беленькія і чырвоненькія матылёчкі. Маладзён едзе ў чысьценькім полі на вараненькім коні.

**III. Ступені прыраўнаньня.**

ПРАВІЛА 38. 1-я ступень—*звычайная*—мае канчаткі назоўнага склону адзіночнага ліку: *зялёны—зялёная—зялёнае; сіні—сіняя— сіняе; сьляпое.*

2-ая ступень—*вышэйшая*—мае канчаткі:

а) **ейшы—ая—ае** (**эйшы—ая—ае**): *зялянейшы—зелянейшая—зелянейшае, вастрэйшы—вастрэйшая—вастрэйшае.*

б)**—шы—шая—шае:** *большы—большая—большае, шыршы— шыршая—шыршае.*

3-яя ступень—*найвышэйшая*—асобных канчаткаў ня мае. Яна выводзіцца: а) з вышэйшай ступені цераз прыбаўленьне прыстаўкі **най:** *найразумнейшы*—**ая—ае;** *найзелянейшы*—**ая—ае;**

б) або цераз прыбаўленьне слоў: *самы, за ўсіх, ад усіх*—да звычайнай і вышэйшай ступені: *самы вялікі, самы зялёны; за ўсіх найзелянейшы, ад усіх разумнейшы.*

**Увага:** Некаторыя прыметнікі маюць няправільныя ступені прыраўнаньня: *добры—лепшы—найлепшы; благі—горшы—найгоршы; малы—меншы—найменшы.*

**Практыкаваньне 52.** Іншае дараванае даражэйшае за куплёнае. Лепш з добрым згубіць, чымсі з дурным знайсьці. Лепей лычны мір, чымсі раменная справа. Хто дужэйшы, той пружэйшы. Няма лепшай вячэрачкі, як у мамкі за столікам з родным братам-саколікам (п.). Простая лінія—карацейшая адлегласьць. Увесну дні становяцца даўжэйшыя, а ночы карацейшыя. Суніца саладзейшая за чарніцу. Арол—найдужэйшая птушка. Найцяжэйшай дазнаўся я страты. Дуб—самая даўгавечная расьліна. Леў—самы дужшы зьвер на сьвеце. Тыгра трошкі меншы за лева. Слонь—самая большая і самая разумная жывёла ў сьвеце. Заднія ногі ў зайца даўжэйшыя за пярэднія. Самым шчасьлівым жыхаром быў тут камень. На поўначы зіма даўжэйшая і халаднейшая за нашу. Ёсьць такія месцы на поўдні, дзе зіма лічыцца самай прыемнай парою году. Сіняе неба стала яшчэ сінейшае. Кожная грамада птушак выбірала сабе лепшае, выгаднейшае месца. Зоры далёкія, зоры бліскучыя ціха гараць над зямлёй. Уляцела ластаўка ў гумно даведацца свайго даўнейшага леташняга доміка.

**IV. Скарочаныя прыметнікі.**

ПРАВІЛА 39. 1) Калі аснова скарочанага прыметніка мужчынскага роду канчаецца на злучэньне двох зычных, то паміж гэтымі зычнымі зьяўляюцца не пад націскам галосныя**—а—е:** горкі—*горак*, кожны—*кожан*, поўны—*повен*, годны—*годзен*, жадны—*жадзен*, вінны—*вінен;* тут ненаціскное е застаецца, як пасьля націску ў аснове (бач. прав. 14).

2) Але калі націск падае на канчатак, то паміж зычнымі зьяўляецца галосны гук **о (ё):** салодкі—*саладок*, кароткі—*караток, мудзёр, хіцёр.*

3) Прыметнікі прыналежныя на **ін—ын** і на **оў, аў (яў)** ва ўсіх родах звычайна бываюць у няпоўнай форме, напр.: *братаў карандаш, братава кніга, братава пяро; гаспадароў сын, гаспадарова дачка, гаспадарова дзіця; Янкаў брат, Янкава сястра, Янкава дзіця; цётчын агарод, цётчына хата, цётчына парася* і г. далей.

**Практыкаваньне 53.** *Сьпісаць і скарочаныя прыметнікі з устаўнымі гукамі* **а (о)—е (ё)** *падчыркнуць.*

Грозен, да ня боязен. Мудзер лях па шкодзе. Хоць бяздворан, да ўсюды праворан. Дзякуй за полудзень: я і так ня голадзен. Повен хлявец белых авец (зубы). Жадзен (ніхто) з нас няпойдзе туды. Ён нам не патрэбен. Сядзіць мой сакол смуцен, не вясёл. Чоран воран, да ня птах, шэсьць ног, да ня зьвер (жук). Урадзіўся канапель тонак, долаг, валакніст. Ня волен стаў яму белы сьвет. Ні думак, ні песень яго ніхто ня знаў і ня чуў ці не хацеў чуць. Удаўся гарох тонак і высок, і на лісьця шырок. Скажу, пан, табе бяз спорак: мне ўжо твой хлеб стаў горак. Хто абадраны і нагі, к таму ніякай увагі, а адзетага багата мае пан за панібрата. Знаюць, ён крутнёй разжыўся; знаюць, сьлёз людзкіх напіўся, да чэсьць ад усіх яму, калі прыдзе ён к каму. А бядняк душой будзь чэсьцен—ён і злодзей, і бясчэсьцен (з старасьвецкага народнага вершу).

### § 14. Правапіс лічэбнікаў.

ПРАВІЛА 40. 1) Лічэбнікі *складаныя* пішуцца так, як кожная часьць, калі яна ўжываецца асобна: *семнаццаць, восемнаццаць, семдзесят, восемдзесят, дзевяцьдзесят, шэсьцьсот, восемсот, семсот*.

Толькі *шаснаццаць* мае **а** заместа **э,** што чуваць у слове *шэсьць.*

2) Адны *парадкавыя* лічэбнікі маюць такія галосныя, якія ёсьць у лічных; напр.: *дзевяць—дзевяты, дзесяць—дзесяты, сем—семнаццаты, восем—восемнаццаты* і г. д.

А другія парадкавыя зьмяняюць галосныя гукі лічных: *тры—трэці, шэсьць—шосты, сем—сёмы, сорак—саракавы, дзьвесьце— двухсоты, трыста—трохсоты.*

3) *Зборныя* лічэбнікі падлягаюць аканьню (бач. прав. 11):

*шэсьць—шасьцёра, сем—сямёра, восем—васьмёра*, таксама і ва ўсіх склонах: *шасьцярох, васьмярох, шасьцяром—васьмяром* і г. д.; *шасьцёх—сямёх—васьмёх, шасьцём—сямём—васьмём* і г. д., як і ***шасьці, сямі, васьмі.***

4) Лічэбнікі, зложаныя з словам *дзесяць* у яго форме **дцаць,** маюць падвойнае **цц** (бач. прав. 17,3 і 19,2): *адзінаццаць, дванаццаць, дваццаць, трыццаць.*

5) Лічэбнікі *парадкавыя* сваёю формай падобны да прыметнікаў, дзеля таго ўсе іх склонавыя канчаткі аднакія з канчаткамі прыметнікаў; напр.: усе яны (і слова *адзін)* зьмяняюцца паводле радоў: *трэці* дзень, *трэцяя* нядзеля, *трэцяе* месца; няма *аднае* або *аднэй* кнігі; ня бачу *трэцяе* або *трэцяй* хаты; бачу *трэцюю* кнігу; у прыладным і месным склоне мужч. і ніякага роду ўсе парадкавыя лічэбнікі маюць канчатак **—ым—ім:** *першым, адным, другім; пры першым, у вадным, на другім.*

**Практыкаваньне 54.** Семсот сарочак, семсот намётак. Маёй сястры шаснаццаты, а бабцы шэсьцьдзесяты год. Выпускалі трыста шэсьцьдзесят пяць лебядзёў. На гару чацьвёра цягнуць, а з гары адзін сапхне. Два ляжаць, два стаяць, пяты ходзіць, шосты водзіць (чалавек, вушакі і дзьверы). У нашай вёсцы ўсяго семнаццаць двароў, а ў суседнім сяле налічаюць восемдзесят сем. Адкіну бервяно, адкіну другое, выведу жывое (конь і аглоблі) Адным махам семсот забіяхам. Кабыла сівая, жарабя рабое—зьеў воўк абое. Пад адным брылём чатыры браты (стол). На адным палазку зіму і лета езьдзіць. Аднаго бацькі, аднае маткі ня роўныя бываюць дзіцяткі. Адзін з сошкай, а сямёра з ложкай. Пятае цераз дзесятае. Ёсьць мясцовасьці, дзе бывае дзьвесьце дажджовых дзён на год. Адно кажа—зіма, другое—лета, а трэцяе—а мне ўсё роўна (сані, калёсы і конь). Маленькія дзеці ўміраюць з голаду ўжо на трэці ці на чацьверты дзень. У тыдні сем дзён. Слонь можа насіць пяцьдзесят, шэсьцьдзесят і нават сто пудоў цяжару. Янка Купала радзіўся ў адным годзе з Якубам Коласам—у тысяча восемсот восемдзесят другім годзе.

**Задачка 28-ая.** *Сьпісаць і цыфры ў сказах напісаць словамі.*

Год мае 365 дзён, або 12 месяцаў ці 52 тыдні. Самы большы месяц мае 31 дзень, а самы меншы—28. У тыдні 7 дзён, а ў гадзіне 60 мінут. На маладой яблыні ня было ніводнага яблычка, а з старой атрэсьлі 456 штук. У нашай вёсцы толькі 17 двароў, а ў суседнім сяле налічаюць 87. Слонь можа насіць на сабе 50, 60 і нават 100 пудоў цяжару.

4-ая часьць зямной галы занята сушаю. Амэрыку людзі старога сьвету пазналі толькі за 400 год да нашага часу. Гор у 2 і 3 вярсты ёсьць шмат, але сустракаюцца горы і ў 7, у 8, нават 9 вёрст увышкі. Месяц у 50 раз меншы за зямлю. Месяц ходзіць навокала зямлі, і гэтую падарож робіць у 27 дзён і 12 гадзін. Кіт мае да 10 сажняў даўжыні і да 4.000 пудоў вагі. 3/4 паверхні ўсяе зямное галы абліта вадою. Ёсьць у моры месцы ў 13 вёрст глыбіні.

**Задачка 29.** *Сьпісаць і дапісаць канчаткі.*

Адкіну бервяно, адкіну друг—, выведу жыв— (конь і аглоблі). У вадн— мацеры пяць сыноў (пальцы ў чалавека). Хто ходзіць рана на чатыр—х нагах, у поўдзень на дзьв—х, а ўвечар— на трох? (дзіця, сталы чалавек і стары). Адн— поясам тысяч— падпіразана (сноп). У вадн— дзежачц— два цесьцечкі (яйцо). На адн— палазку зіму і лета езьдзіць. Дзьв— сьмярцей ня бывае, а раз чалавек умірае. Дз—сятая вада на кісял —. З аднаго вала дзьв— скур не дзяруць. Або— лукі, або— тугі. Два мядзьведзі ў адн— бярлозе ня месьцяцца. Адзін няхай будзе з гарачай вадою, а друг— — з халоднай. Адзін з сошкай, а с—мера з ложкай. Адн— махам с—мсот забіяхам. Адн— рукою вузла не завяжаш. Выпаў перш— сьнег.

### § 15. Правапіс займеньнікаў.

ПРАВІЛА 41. Займеньнікі, за выключэньнем асабовых *я, ты, мы* і зваротнага *сябе,* скланяюцца сходна з прыметнікамі; напр.:

1) *Назоўны* склон займеньнікаў адзіночнага і множнага ліку мае тыя самыя канчаткі, што і прыметнікі: *такі* стол, *такая* кніга, *такое* поле; *усякія* сталы, *усялякія* кнігі, *усякія* пёркі.

2) *Родны* склон мужч. і ніякага роду мае канчаткі не пад націскам**—ага:** *нашага* стала, *вашага* дабра; а пад націскам—**аго—яго:** *таго* каня, *таго* акна; *усяго* дома, *усяго* цела.

*Творны і месны* склон тых-жа радоў канчаюцца на **ым—ім:** *гэтым* пяром, *на гэтым* кані; *кім, пры кім; ім, пры ім; усякім* чалавекам, *на ўсякім* акне.

3) Таксама *родны, творны* і *месны* склон жаночага роду адзіночнага ліку маюць аднакія канчаткі з прыметнікамі: *нашае* або *нашай* сястры, *нашаю* або *нашай* сястрою, *пры нашай* сястры.

4) *Неазначальныя* займеньнікі маюць прыстаўку **не:** *нехта, нешта, неякі, неякісь,* а адмоўныя—прыстаўку **ні:** *ніхто, нішто, нічый, ніякі, ніводзін, ніводны.* (бач. прав. 22, А, 4, і 23, Б, 1).

Але прыстаўкі **не, ні** пішуцца асобна, калі пасьля іх стане прыназоўнік: *ні ў кога* няма, *не ў чым* выйсьці, *ні ў якім* выпадку, *не* з *кім* парадзіцца.

**Практыкаваньне 55.** Некаторыя расьліны жывуць вельмі доўга. Нехта зламаў некалькі груш. Які сакавік, такі і красавік. Надаелі гэтыя сьпевы. На сваім кані, як хачу, скачу. На гэтым сьвеце, як у карэце. На чым стану—не адстану. Няма тае крамы, каб прадаваліся родныя мамы. Не такое яшчэ дзіва, што карова чорна, а малако сіва. Як хто хоча, так па сваім горы плача. Я знаём з ёю і з яе сястрою. Надвор'я нечага награваць. Не за што сказаць аці, калі няма чаго ў рот узяці. Не карайце нічым, калі капуста ні з чым. Што ў тэй чэсьці, калі нечага есьці. За намі ўсьлед шагае, да нам ні ў чым не памагае. Ніхто з дамашніх не згадае, чым рэчка Костуся займае, якая іх зьвязала сіла, і чым яна так хлопцу міла. Кожны ведае, што ў нашым целе ёсьць трубачкі-жылы. На пастаці нечага стаяці. Прылажэце руку да левага боку вашае грудзіны, і вы пачуеце, як б'ецца вашае сэрца: гэта сэрца разганяе кроў па ўсім нашым целе. Ні за што, ні пра што. Неба—гэта паветра, якое пакрывае з усіх бакоў зямлю. На далёкай вышыні, дзе зямное паветра канчаецца, пачынаецца бязьмежная, неўмагату халодная прастора, у якой ня можа жыць ніводнае зямное стварэньне.

**Задачка 30-ая.** *Сьпісаць і паставіць прапушчаныя літары.*

Надаелі гэт— сьпевы. На к—м скрупіцца, а на к—м зьмелецца. На гэт— лета добра і гэта. На нашы— ногі завысокі— іх парогі. На сва—м кані, як хачу, скачу. На св—м хлебе жывеш, калі хочаш, тады і жуеш. На т—м-жа месцы сеў. На ўсё сяло адзін вол, і т—й гол. На ч—м стану—не адстану. Нашто нам ты— пісталеты, калі страляць ня ўмеем? Няма та— крамы, каб прадаваліся родны— мамы. Не тако— яшчэ дзіва, што малако сіва. Па мне сабе хоць воўк траву еж. Сядзелі на гэт— нядзелі. На сва—м пляц— саджу—нікому не плачу. Хто на ч—м сядзіць, той таго і глядзіць. Таткава хата ўс—м багата. Хто з сабою носіць, т—й у друг— ня просіць. Чы— род, таго і рот. Які— мы самі, такі— нашы і сані. Яко— дзерава, так— і клін. Як пры т—м, так і без таго. Як хто хоча, так па сва—м бацьку плача.

**Задачка 31-ая.** *Сьпісаць і дапісаць прапушчаныя літары.*

Я знаём з ё— і з я— сястрою. Мы бачылі я— сам— і я— сястру. Надвор'— н—чаго нагараваць. На лета, да не на гэт—. На пастаці н—чаго стаяці. Не бярыся не за сваё дзела. Ня ўвесь сьвет, што ў аконцы. Ня ў тым сіла, што кабыла сіва, а што возу н—вязе. Не за што сказаць аці, калі няма чаго ў рот узяці. Не на тую нагу бот надзет. Н—чаго песьціцца, калі ёсьць дзе зьмесьціцца. Н—чаго тут варажыць, калі пад бокам ляжыць. Н—хто ня знае, што яго чакае. Н—шта вялікае ў лесе здохла. Рот н—кому не завяжаш. Само н—што ня прыходзіць у рукі. Сядзеўшы, н—чога ня выседзіш. Што ў т—й чэсьці, калі н—чаго есьці. За намі ўсьлед шагае, да нам ні ў ч—м не памагае. Ззаду ні ў кога вачэй ня бывае. Рэшатам золата мераць, а рэшата не за што купіць.

### § 16. Правапіс дзеясловаў.

#### А) Галосныя ў канчатку дзеясловаў I-га і II-га спражэньня абвеснага ладу.

ПРАВІЛА 42. 1) Калі націск прыходзіцца на канчатак, то галосныя, будучы пад націскам, чуваць ясна і заўсёды аднолькава:

| | 1-я асоба. | 2-ая. | 3-яя. |
|---|---|---|---|
| *I-е спражэньне:* Адзіночны лік. | *льл-ю* | *льл-еш* | *льл-е* |
| | *няс-у* | *няс-еш,* | *няс-е* |
| | *бяр-у* | *бяр-эш* | *бяр-э* |
| | *пяк-у* | *пяч-эш* | *пяч-э* |
| Множны лік. | *льл-ём* | *льл-яце* | *льл-юць* |
| | *няс-ём* | *нес-яце* | *няс-уць* |
| | *бяр-ом* | *бер-аце* | *бяр-уць* |
| | *пяч-ом* | *печ-аце* | *пяк-уць* |

| | 1-я асоба | 2-ая. | 3-яя. |
|---|---|---|---|
| *II-е спражэньне:* Адзіночны лік. | *сядж-у* | *сядз-іш* | *сядз-іць* |
| | *ста-ю* | *ста-іш* | *ста-іць* |
| | *маўч-у* | *маўч-ыш* | *маўч-ыць* |
| | *гар-у* | *гар-ыш* | *гар-ыць* |
| Множны лік. | *сядз-ім* | *сядз-іце* | *сядз-яць* |
| | *ста-ім* | *ста-іце* | *ста-яць* |
| | *маўч-ым* | *маўч-ыце* | *маўч-аць* |
| | *гар-ым* | *гар-ыце* | *гар-аць* |

Тут трэба заўважыць толькі тое, што калі націск на канцы, то ў дзеясловах I-га спражэньня ў 2-ой асобе множнага ліку пішацца ў канчатку **а—я** *(нес-яце, бер-аце),* як у першым складзе перад націскам (бач. прав; 12, Б, 1).

2) Калі-ж націск не на канцы, то ў 2-ой асобе множнага ліку пішацца канчатак, як і пад націскам:

а) у II-м спражэньні заўседы **і—ы:** *корм-іце, бач-ыце, гаво-р-ыце* і г. д.

б) у I-м спражэньні пасьля зацьвярдзелых гукаў, як і пад націскам, астаецца;—**а:** *каж-аце, піш-аце, плач-аце* і г. д.

У іншых разох дзеясловы I-га спражэньня не пад націскам на канчатку маюць—**е:** *чыта-ем, дума-ем, мы-ем, грэ-ем* і г. д.

3) Калі націск прыходзіцца на канчатак, то адразу відаць, якое спражэньне: *ідзеш, арэш—ідуць, аруць* (I-ае спраж.); *сядзіш, маўчыш—сядзяць, маўчаць* (II-е спраж.). Тут ясна, што пісаць.

Але калі націск не прыпадае на канчатак, то трэба глядзець, што стаіць у канчатку *неазначальнай* формы, і замеціць канчаткі II-га спражэньня. Дзеясловы II-га спражэньня маюць такія канчаткі:

а)—**іць—ыць:** *раб-іць, бач-ыць—робіш, бачыш—робіць, бачыць— робім, бачым —робіце, бачыце—робяць, бачаць.*

**Увага.** Дзеясловы: *бі-ць, ві-ць, лі-ць, пі-ць, жы-ць, кры-ць, мы-ць, ры-ць, шы-ць*—I-га спражэньня, бо тут **і—ы** ў корані, а не ў канчатку.

б)—**ець—эць,** калі галосныя гукі **е** альбо **э** ў цяперашнім часе выпадаюць: *глядз-ець, гар-эць—глядзіш, гарыш—глядзіць, гарыць—глядзім, гарым—глядзіце, гарыце—глядзяць, гараць* і г. д.

**Увага.** Калі гукі *е* ці *э ў* цяперашнім часе не выпадаюць, то дзеясловы будуць I-га спражэньня: *бял-ець, гр-эць—бялееш, грэеш—бялее, грэе—бялеем, грэем—бялееце, грэеце—бялеюць, грэюць* і г. д.

**в)—яць—аць,** пры чым канчатак—**аць з** папярэднім зычным:

1) альбо зацьвярдзелым, каторы ў цяперашнім часе не чаргуецца з другім: *ста-яць, ляж-аць—стаіш, ляжыш—стаіць, ляжыць— стаім, ляжым—стаіце, ляжыце—стаяць, ляжаць;* 2) альбо іншым зычным, пасьля каторага галосны гук **а** выпадае: *гн-аць, лам-аць—гоніш, ломіш—гоніць, ломіць—гонім, ломім—гоніце, ломіце—гоняць, ломяць* і г. д.

**Увага.** 1) Дзеясловы: *каз-аць, піс-аць, тапт-аць—кажаш, пішаш, топчаш—кажа, піша, топча —кажам, пішам, топчам—кажаце, пішаце, топчаце—кажуць, тшуць, топчуць*—1-га спражэньня, бо зычны гук перад **я** чаргуецца з другім: **з-ж, с-ш, т-ч.**

2) Дзеясловы: *веш-аць, пазір-аць, даган-яць* і падобныя 1-га спражэньня, бо **а** не выпадае: *вешаеш, пазіраеш, даганяеш—вешае, пазірае, даганяе— вешаем, пазіраем, даганяем—вешаеце, пазіраеце, даганяеце—вешаюць, пазі-раюць, даганяюць* і г. д.

### Б) Дзеяслоўныя прыметы і прыслоўі.

*1) Дзеяслоўныя прыметы,* падобна прыметнікам, адказваюць на пытаньне *які?* ды зьмяняюцца ў родах, ліках і склонах.

**а)** Даўнейшыя формы дзеяслоўных прымет *цяперашняга часу* на—**учы-ючы, ачы-ячы, мы** *(скрыпучы, гаючы; гарачы, стаячы; знаёмы, вядомы) у* сучаснай мове не выражаюць ужо дзеяслоўнай формы—часу ды абярнуліся або ў звычайныя прыметнікі, як: *добры, харошы, рагавы, дзеравяны,* або ў дзеяпрыслоўі, як: *гукаючы, чытаючы, гукаўшы, чытаўшы.*

б) У сучаснай мове *дзеяслоўныя прыметы прошлага часу* канчаюцца на **ны, ты:** *зроблены, замкнёны, разьбіты, памыты, падраны, умыты, забіты, утомлены,* і на **лы**

(ад дзеясло́ўнай формы прошлага часу): *пасівелы, парыжэлы, састарэлы, прамінулы* (заместа даўнейшых форм: “пасівеўшы”, “парыжэўшы”, “састарэўшы”, “прамінуўшы”).

в) Дзеясло́ўныя прыметы падлягаюць правапісу прыметнікаў: *зроблены* стол, *зробленая* хата, *зробленае* акно; *зробленага* стала, акна; *зробленай* хаты; *зробленым* сталом, *зробленаю* ці *зробленай* хатаю; *на зробленым* акне, у *зробленай хаце* і г. д.

*2) Дзеясло́ўныя прыслоўі* выводзяцца ад 3-яе асобы множнага ліку, дзеля чаго ў І-м спражэньні канчаюцца на **учы-ючы,** а ў ІІ-м—на **ачы-ячы:** яны *кажуць, мыюць—кажучы, мыючы;* яны *гавораць, стаяць—гаворачы, стоячы.*

**Практыкаваньне 56.** Галоднаму асьцюкі ня колюцца. Глухі не дачуе, дык прыложыць. Вымету разком—вывезу вазком. Далей паложыш—бліжэй возьмеш. Прочкі ходзяць без сарочкі. Калі не нажнём, то і не назьбіраем. Не ўрадзіў мак—перабудзем і так. Калі не намалоцім, то і не накалоцім. Тады пабачым, як заплачам. Што пасееце, то і сажняце. Калі гаспадар у карчме скача, то гаспадарка ў дварэ плача. Маеш статак, мусіш мець і ўпадак. Многа ложыш, да мала можаш. Ня там траціш, дзе купляеш, а там, дзе прадаеш. Праворны ўсюды пасьпее. Нуда бядзе не паможа. Каяньне позна ходзіць. Гоянае раны ня трэба дражніць. На чужы лоб шыбаючы, трэба і свой падставіць. Ой, пайду я гукаючы, свае долі шукаючы. Каля вады ходзячы, абмочышся. Пасеяўшы на ўсходу, не чакай харошага плоду. Сьліны не падымеш, а слова ня вернеш. Ходзіць ціхенька, а думае ліхенька. Што там дзеецца—і бяжыць, і грэецца? Браць—берацe, а не аддаяце.

**Практыкаваньне 57.** *Сьпісаць і дзеясловы падчыркнуць.*

Летняя ноч.

Ціха на землю спушчаецца ноч. Усё заціхае. Птушкі перасталі сьпяваць і дрэмлюць на сваіх седалах. Край неба, дзе зайшло сонца, блішчыць шырокаю чырвонаю стужкаю. Тонкія лёгкія хмаркі ахварбаваліся ў залаты колер. Белаватаю пялёнкаю ўздымаецца туман над лугамі. Цемната ўсё гусьцее і гусьцее ды закрывае ад вачэй і поле, і лес. Узышла ўжо першая зорка. Кажаны вылецелі з сваіх месц, дзе яны сядзелі ўвесь дзень. На балоце закракталі жабы. За лесам ясьнее: гэта круглы месяц запаліў ліхтарык і сьвеціць над чорнаю зямлёю. Вёска заціхае. Тухнуць агні. Адзін толькі месяц і зоркі цараць над сонным сьветам.

**Практыкаваньне 58.** *Сьпісаць і дзеясло́ўныя прыметы і прыслоўі падчыркнуць.*

Гэта табе дзякаваны хлеб. Бітаму сабаку кія не паказывай. Запарушанае вока. Сярод парудзелае леташняе травіцы пачала паказвацца зялёная мураўка. Дождж абмыў твар зямлі, пакрыты пылам. Плакала бедная маці, стоячы над труною свайго сына. Вы ня раз ляжалі каля крынічкі, схаваўшыся там ад гарачага летняга сонца. Даганяючы, не нацалуешся. На лечаным кані далёка не заедзеш. Напужаная варона і вераб’я баіцца. Нябітаму няма чаго плакаць. Пазычаны хлеб еж ды аглядайся. Выратаваны з гразі конь і лужыны баіцца. Скручаны, зьверчаны па хаце скача (венік). Бягучага ваўка добра і за хвост злавіць. Вочы завідушчыя, а рукі заграбушчыя. Усё забыта, што зямлёю пакрыта. Гоянае раны ня трэба дражніць. Дараванаму каню ў зубы не глядзяць. Дзела бытае, даўно забытае. Іншае дараванае абходзіцца даражэй за куплёнае. Засеянага людзі ждуць. Праглынутага ня выплюнеш, а выплюнутага не падымеш. З незабітага ліса шубы ня шыюць. Прамытае вады ня бывае. Сядзеўшы, нічога ня выседзіш. Пытаючыся, дапытаешся. Узяўшысь за гуж, не кажы, што ня дуж. Каля вады ходзячы, абмочышся. Сьпіць, як пшаніцу прадаўшы. Заварыўшы кашу, не шкадуй масла. На чужы лоб шыбаючы, трэба і свой падставіць. Ня зьведаўшы броду, ня кідайся ў воду. Не пераскочыўшы, не кажы гоп. Ня еўшы лягчэй, а пад’еўшы ляпей. Паслаўшы дурнога, а за ім другога. Баючыся воўка, і ў лес не хадзіць. Воўк не выбіраючы душыць авечкі. Салавей пяе прыпяваючы, а я млода плачу прылягаючы (п). Пад вароты пад’язджаючы, чую брата гаворачы (п). А што чорна ня чэрнячы? А што бела ня белячы? Што сіне ня сінячы? Што зялёна не зяленячы? (п). Плача малоданька ў каморы, белы абрусы мыючы, тонкі кашулькі шыючы (п). Паволі едучы—далей будзеш. Айцец-мамка

плачуць, каля Дуная ходзячы, у Дунаю просячы (п). Ня разам Вільня збудавана. Ні гадана, ні жадана, а само прышло. Абяцаная шапка на вушы ня лезе. Прышоў нязваны —ідзі нягнаны. Сьляпому вочы завязаны. Ляжачага ня б’юць, а безбароннага не сякуць. Скрыпучае дзерава доўга стаіць. Летась пасаджона, сёлета ўзрашчона. Пад ляжачы камень і вада не цячэ. Нявучан, дык правучан.

ПРАВІЛА 43. Дзеясловы І-га спражэньня ў 3-й асобе множнага ліку цяперашняга і будучага часу маюць канчатак—**юць-уць:** *ідуць, пішуць, капаюць;* а дзеясловы ІІ-га спражэньня**—аць-яць:** *крычаць, гавораць, гамоняць* (бач. прав. 42, А, 3).

**Задачка 32-ая.** *Заместа рысак паставіць***—у—ю** *або* **а—я.**

Перад невадам рыбы ня лов—ць. Галоднаму асьцюкі ня кол—цца. Лепей сьмяяцца, як плак—ць. За пастой ня плац—ць, а дарага бяруць. Здраду прыма—ць, а здрадніка веша—ць. З песьні слова не выкіда—ць. І корм—ць, і пояць, і вочы кол—ць. І смал—ць, і агнём пал—ць. Клін клінам выганя—ць. Калі паны ліку—ць, тады мужыкі гару—ць. Лета на зіму, а зіма на вясну працу—ць. Ня ўсе птушкі лята—ць. Не тады сабак корм—ць, як на ўловы ех—ць. Паны балю—ць, а наш брат гар—е. Пра адны дрожджы не гавор—ць трожды. Прочкі ходз—ць без сарочкі. Саломеным валом не араць, а сенным канём не ваяв—ць. З незабітага ліса шубы ня шы—ць.

ПРАВІЛА 44. 1) Дзеясловы І-га спражэньня ў 2-ой асобе адзіночнага ліку цяперашняга і будучага часу маюць канчатак**—еш,** а пасьля зацьвярдзелага зычнага—**аш:** ты *чытаеш, ведаеш, кажаш, пішаш.*

Дзеясловы І-га спражэньня канчаюцца на—**іш—ыш:** *просіш, ходзіш, паложыш, гаворыш.*

2) Дзеясловы І-га спражэньня ў 3-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга і будучага часу маюць канчаткі**—е,** а пасьля зацьвярдзелых зычных**—а,** ён *думае, ведае, кажа, піша.*

Дзеясловы ІІ-га спражэньня канчаюцца на**—іць—ыць:** ён *просіць, ходзіць, паложыць, гаворыць* (бач. прав. 42, А, 1).

**Задачка 33-яя.** *Сьпісаць і, заместа рысак, паставіць, дзе трэба, літары* **е, а, і** *ці* **ы.**

Вым—ту разком—выв—зу вазком. Гвалтам возьм—ш, але даць—не дасі. Глухі не дачу—, дык прылож—ць. Дай на тры дні, а возьм—ш злыдні. Далей палож—ш—бліжэй возьм—ш. Далей паедз—ш—скарэй у дварэ будзеш. Думаю гораду ня возьм—ш. Заглян— сонца і ў наша аконца. Затым сьляпы плач—, што сьцежкі ня бач—ць. Шылам патакі ня хвац—ш. Зямелька, матка наша, і корм—ць, і по—ць, і адзява— нас. Зямля ні тон—, ні гарыць. Зьзя—, зьзя— дый блісьн—. Золата і ў краме дастан—ш, а свайго розуму нікому ня прystав—ш. З малое іскры быва— часам вялікі пажар. І курыцаю запя—, калі за жывое каго забярэ.

**Задачка 34-ая.** *Сьпісаць і паставіць прапушчаныя літары* **е** *або* **а.**

Сабака бега—, а птушка лята—. Рыба плава—, а вуж поўза—. Пісар піш—, а касец косіць. Кравец шы—, а каваль ку—. Журавель ляціць, а жаба скач—. Ластаўка лепіць гняздо, а верабей у—. Узіму вада замярза—, а ўлетку раста—. Дзе араты плач—, там жняя скач—. Хто ўлетку халадку шука—, той узімку галада—. Хто дба—, той і ма—. Дом буду—цца цесьлямі. Цемната ўсё гусьце— і гусьце—. Неба ясьне—. Прыгрэ— сонца, і сьнег растан—. Дождджык пакропіць, сонца прыгрэ— цьвіце вярбіна, рунь зеляне—. Улетку сонца падыма—цца высока і сьвеціць доўга. Чым даўжэй сьвеціць сонца, тым болей яно награва— зямлю. Чу—цца ў Нёмнавай гутарцы жаль. Дождджык се— беспрастанку. Цяжка працу— чалавек на полі і ў гародзе. Знойдз—цца кожнаму праца. Сядзіць паня ў чырвоным жупане; хто жупан здыма—, той сьлёзы раня— (цыбуля). Рыечка ры—, а скачка шчабеч— (сьвіньня і сарока). Шчука сун— —лес павяне, на тым месцы цэркаў стан— (каса).

ПРАВІЛА 45. Дзеясловы множнага ліку цяперашняга і будучага часу не пад націскам маюць канчаткі:

1. У 1-ай асобе I-га спражэньня**—ем,** а пасьля зяцьвярдзелых зычных **ам:** *ведаем, пасеем, пішам, скажам.*

Дзеясловы II-га спражэньня канчаюцца на—**ім—ым:** *просім, спалім, паложым, гаворым.*

2) а) У 2-ой асобе I-га спражэньня—**еце,** а пасьля зацьвярдзелых зычных—**аце:** *ведаеце, пасееце, пішаце, скажаце.*

Дзеясловы II-га спражэньня маюць канчаткі**—іце—ыце:** *просіце, спаліце, гаворыце, паложыце.*

б) Але калі націск прыдзецца на канец, то канчаткі дзеясловаў II-га спражэньня астаюцца бяз зьмены—**іце—ыце:** *сядзіце, пасьпіце, крычыце, згарыце.*

Дзеясловы I-га спражэньня маюць канчаткі**—яце—аце** (пасьля зацьвярдзелых зычных, як і не пад націскамі): *несяце, печаце, бераце* (бач. прав. 42, А, 1).

**Задачка 35-ая,** *Сьпісаць і, заместа рысак, паставіць патрэбныя літары:* **а, я, і, ы, е.**

Два вякі жыць ня будз—м. Зна—мся дома—знаймася і ў людзях. Калі ня нажн—м, то і не назьбіра—м. Калі не намалоц—м, то і не накалоц—м, Не ўрадзіў мак—перабудз—м і так. Перанач—м—болей пачу—м. Прышло махам—і пойдз—прахам. Праглынутага ня выплюн—ш, а выплюнутага не падым—ш. Тады пабач—м, як заплач—м. Сядз—м на калодзе, пагавор—м а прыгодзе. Што вы нес—це? Мы няс—м жыта на продаж. Калі гаспадар у карчме скач—, то гаспадарка ў дварэ плач—. Калі ма—ш грошы, ня будз—ш хадзіць босы. Тады хіба перастане, калі ўся сарока бела стан—. Ласка—не каляска: сеўшы не паедз—ш. Ма—ш статак—мусіш мець і ўпадак. Матка—не граматка: за злотку ня куп—ш.

ПРАВІЛА 46. *Дзеясловы з зваротным займеньнікам* ся. 1) Некаторыя дзеясловы зьліваюцца з зваротным займеньнікам **ся:** *мыюся, сьмяюся; мыешся, сьмяешся, чэшашся; мыемся, сьмяёмся, чэшамся* і г. д.

Пры спражэньні займеньнік беспасярэдна далучаецца да дзеяслова: *бярэшся, робішся, бяромся, робімся, берацеся, робіцеся.*

2) Толькі ў *3-яй асобе* адзіночн. і множн. ліку і ў *неазначальнай* форме канчатак **цься** дае ў вымове і на пісьме **цца:** ён *мыецца, чэшацца, хваліцца, сушыцца, варыцца;* яны *мыюцца, чэшуцца, хваляцца, сушацца, варацца,* заместа: “мыецься, чэшацься, сушыцься, варыцься” і г. д.

Але калі перад **ца** стаіць зычны, то пішацца адно ц: *здасца, ад’есца.*

**Практыкаваньне 59.** Ня ўсё тое збываецца, на што чалавек спадзяваецца. За мухай не зганяешся з абухам. Калі станеш трэсца, то і хлеб лепей есца. Калі вядзецца, то і на шчэпку прадзецца. З роспачы і ў агонь кінешся. Ня хочацца, дык і няможацца. Калі топішся, то і за брытву хопішся. Язык Кіева дапытаецца. З кім спазнаешся, такім сам станешся. Не баішся ківа, пабаішся кія. Хто ня ўмее, той заўсёды мыляецца. І на мулкім высьпішся, калі спаць хочацца. Пытаючы, дапытаешся. Пазычаны хлеб еж ды аглядайся. Санлівага не дабудзішся, а лянівага не дашлешся. Век жывеш, век вучышся. Што ў лесе родзіцца,— у дварэ згодзіцца. Льлецца Нёман паміж гораў, сьветлы, чысты, як раса. Шум некі ад пушчаў нясецца. Лес туманам заснаваўся. Белаватаю пялёнкай уздымаецца туман над лугамі. Стаіць Грыгор паміж гор, палкаю падпёршыся, шапкаю накрыўшыся. Крыльля ў ветраку круцяцца ад ветру. Поле, луг, лес і гай схаваліся ў цемнаце ночы. Разьвіднелася. Усё прачнулась прад вачыма беднае кабеты. Багаты дзівіцца, чым худак жывіцца. Зялёнаю шырокаю паласою раскінуўся наабапал рэчкі луг. Над старым вялікім садам зьбіралася навальніца. Загарэліся сьцены старое варывенькі. Па ласым кусе я і вады нап’юся.

**Задачка 36-ая.** *Сьпісаць і паставіць* **цц** *або* **ц.** Чуткай душою толькі паслухай—здас—а там гэтакі голас чуваць: “Гэй, ня дзівуйся, мой дружа нядбалы, што я сягоньня так злосна шумлю!”. *(Я. Куп.).* Увесну лес адзене—а, а ўвосень ня весьць дзе падзене—а. У мор намру—а, а ў вайну налгу—а. У горы нагаруе—а, а ў дабры накрасуе—а. Конь

і на чатырох нагах спатыкае—а. Лістам сьцеле—а. На беднага Макара шышкі валя—а. Адны вочы і плачуць, і сьмяю—а. Ад чужога шалу ў галаве круці—а. Пытае—а люты—ці добра абуты? Рассыпае—а драбней маку. Роўны з роўнага цешы—а. Хто ня ўмее, той заўсёды мыляе—а. Што ў лесе родзі—а, тое ў дварэ згодзі—а. Як гукнеш, так і адгукне—а. У голад і нішчымнае смачна ес—а. Ціха на землю спушчае—а ноч. Чуць-чуць дрогне, праліе—а чырвань на ўсходзе: гэта неба ўсьміхне—а людзям і прыродзе *(Я. Кол.)*. Вецер злосна ў хату рве—а, у полі стогнам аддае—а.

ПРАВІЛА 47. *Формы загаднага ладу.*

1) Калі дзеяслоў *загаднага ладу* ў 2-й асобе адзіночнага ліку мае на канцы **ь** *(будзь, кінь, пасунься)*, то **ь** астаецца і ў 1-ай і 2-й асобе множнага ліку: *будзьма, кіньма, пасуньмася; будзьце, кіньце, пасуньцеся.*

У праціўным разе **ь** ніколі ня пішацца: *рэж—рэжце, кліч— клічце, прамоў—прамоўце, саромся—саромцеся.*

2) Канчаткі *загаднага ладу* 2-ой асобы адзіночнага ліку **і—ы** ў 1-й і 2-й асобе множнага ліку пераходзяць у *е—э: ідзі—ідзём, ідзеце; нясі—нясем, нясеце; пячы—пячэм, пячэце; бяры—бярэм, бярэце.*

**Задачка 37-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, літары:* **ь, е, э.**

Ня трац—це марна часу! Плачце вочы, хоць павылаз—це: бачылі, што куплялі! Пазычаны хлеб еж ды аглядайся. Кін—це стрэльбу і вуду, і я ў вас буду. Прысядз— —госьць будзеш! Цёсачка, цёсачка, а потым—стой, воўк цябе рэж! Сядз—ма мы паабедайма, паабедаўшы, пагавор—ма! (п). Б—це, б—це біты камень, агню даставайце, маладую застрыгайце! (п). Не каж—це, шэры гусі, што я тут гарую, а скаж—це, шэры гусі, што я тут паную (п).

## § 17. Правапіс прыслоўяў.

ПРАВІЛА 48. А) Большасьць прыслоўяў—гэта акасьцянелыя формы зьменных часьцін мовы. Яны служаць у сказе акалічнасьцямі і звычайна пішуцца зьлітна з рознымі дапаможнымі словамі.

Адносна правапісу прыслоўяў трэба кіравацца наступнымі правіламі:

1) Прыслоўі з прыназоўнікамі заўсёды пішуцца зьлітна, бо прыслоўе, як нязьменнае слова, ня можа мецць пры сабе асобнага прыназоўніка, напр.: *аможа, бясконца, вобмаль, здалёк, змалку, знадворку, зранку, зраньня, зусім, зьнячэўку, наадварот, навотлех, навыперадкі, недарэмна, назаўсёды, нанава, напавер, напотым, напярод, насустрач, наўздагон, наўцёкі, паасобку, пазалетась, пазаўтра, пазаўчора, памаленьку, памалу, помаль, патроху, патрошкі, паціху, спавагу, спадыспаду, удаўжкі, ушыркі, узімку, улетку* і інш. (Бач. прав. 20, А, 2), б).

2) Адмоўныя дапаможнікі **не (ня), ні** пішуцца зьлітна з наступнымі прыслоўямі: *неахоцьцю ("Неахоцьцю пайшоў на работу"), некалі, некаліс, неўзабаве, нідзе, ніколі, нікуды, няма.*

Але часам трудна адрозьніць прыслоўе ад назоўніка (акалічнасьць ад дапаўненьня). Гэта бывае ў тых разох, калі слова можа быць і дапаўненьнем, і акалічнасьцю, напр.: перапалохацца *насьмерць* (акалічнасьць)—убраньне *на сьмерць* (дапаўненьне), вучыць *напамяць* (акалічнасьць)—браць сабе *на памяць* (дапаўненьне).

У такіх разох трэба кіравацца наступнымі ўвагамі:

а) Калі ў беларускай мове націск падае на прыназоўнік, то ён служыць прыстаўкаю і, значыць, з наступным словам пішацца зьлітна; у падобных выпадках слова будзе служыць у сказе акалічнасьцю (прыслоўе), а не дапаўненьнем (назоўнік), напр.: *вобземлю, завідна, замуж, зараз (але* забраў *за раз), нанач, насьмехі* (падняць *насьмехі), поўдню, подчас, поначы, потым, сосну, сосьмеху* і падобн.

б) Наадварот, у словах: *збоку, насустрэчу, уніз, уверх, зьнізу, зьверху, увесну, увосень, удзень, уночы, утрох, ушасьцёх, па-нашаму, спачатку, дадому, паняволі* і падобн. прыназоўнікі могуць ужывацца зьлітна і асобна з наступнымі словамі, у залежнасьці ад таго, якімі членамі служаць гэтыя словы ў сказе—акалічнасьцю ці дапаўненьнем.

Трэба прыназоўнікі пісаць асобна ў наступных выпадках:

1) Калі іменьнікі стаяць з прыметнікамі: *у дзень* асеньні, *у восень* дажджлівую, *у* вадзін *дзень, у* самую *восень* і г. д.

2) Альбо калі дзеяслоў з прыназоўнікам патрабуе якога-небудзь склону; напр.: *па няволі* ня плачуць (ня плачуць па чым?), *да дому* было тры вярсты (было да чаго?). Але: свой свайму *паняволі* брат; мы прыехалі *дадому (дамоў).*

3) Такія формы прыслоўяў з прыназоўнікам **па,** як: *па-беларуску, па-расійску, па-нямецку, па-дзіцячы, па-дзявочы, па-воўчы* і падобныя лепей пісаць з злучком, бо калі пісаць іх зьлітна, то прышлося-б у слоўніку ставіць адно і тое слова два разы: без прыназоўніка і з прыназоўнікам.

4) Трэба заўважыць правапіс наступных прыслоўяў: *раз-по-раз, перш-на-перш, гады-ў-рады, калі-ні-калі, як-ні-як, дзе-ні-дзе, ледзьвя-ні-ледзьвя, ледзь-ледзь, чуць-чуць, больш-менш, абы-дзе, абы-як.*

**Увага.** Прыслоўе “таксама” пішацца зьлітна, калі не выражае параўнаньня; напр.: “іменьнікі, прыметнікі, а *таксама* лічэбнікі і займеньнікі— зьменныя часьціны мовы”. Але “шэсьць” скланяецца *так сама,* як і “пяць”.

Б) **Канцовыя гукі ў прыслоўях.**

Правапіс канцовых гукаў у прыслоўях найчасьцей залежыць ад таго, як гэтыя прыслоўі вытвараны, г. значыць, якую форму ад зьменнай часьціны мовы яны становяць; напр.:

а) **Я** ў канцы знаходзім у тых прыслоўях, што становяць сабою формы даўнейшых дзеяслоўных прыслоўяў цяперашняга часу: *наўмысьля, адумысьля, загадзя, ледзьвя, малавеля, такведя, як хаця, пасьля,* або *проша,* а таксама ў прыслоўях: *сёньня* (сёдня, сягодня) і *сёньні, зраньня* і інш., бо гэта формы роднага склону іменьнікаў, як *сёлета.*

б) **У** ў канцы знаходзім у прыслоўях, што становяць формы роднага ці вінавальнага склону: *зранку, змалку, зьнячэўку, знадворку, спадыспаду, спавагу, улетку, узімку* і інш., як *пяску, смутку, кніжку.*

в) Прыслоўі, што канчаюцца на “на”, часам ужываюцца з “не”, напр.: *пэўна—пэўне, слушна—слушне, сільна—сільне, нудосна—нудосьне, надарэмна—надарэмне, зграбна—зграбне, наўмысна—умысьне,* а таксама *тымчасове* (тымчасова, тымчасам), *годзе—годзі,* дзе **е** ў канцы паказвае на форму меснага склону іменьніка, як *балазе* (=добра; “балазей”—форма параўнальняй ступені ад “балагі”=добры, як *лепей* ці *ляпей).*

г) Прыслоўі з неазначальнай часткаю “ці”: *дзесьці, калісьці, некалісьці.*

**Практыкаваньне 60.** *Сонца* зранку *жарам пыша; ветрык лісьце чуць калыша, вее чуць паўз верх зямлі* (Я. Кол.). *Што* ўвесну *ножкаю коп, то* ўзімку *ручкаю хоп. Гэта зроблена* наўмысьля. *Ішлі мы* памаленьку, вобмацкам, *каб* папацёмку (попацемку) *на што не наткнуцца.* Абы-як *прышло—лёгка і з рук сышло.* Увесну—*кораб вады, да коўш гразі;* а ўвосень—*коўш вады, да кораб гразі. Дзе недагляд, там* заўсёды *наклад. Грозен рак, да* ззаду *вочы. Папаў, як у нерат:* ні ўзад, ні ўперад. *Ні* адтуль, *ні* адсюль. *Не сядзі бокам: тут табе* не нарокам. *Сеў* уперак: *ні* назад, *ні* наперад. *Ляціць конь заморскі, іржэ* па-польскі *(камар). Шатавіла-матавіла* па-нямецку *гаварыла (ластаўка). Ветрык* ледзь-ледзь *набяжыць. Пусты* ўлетку *нашы сёлы.* Увосень *уся прырода пачынае заміраць. Падарожныя ад утомы* ледзь *перастаўлялі ногі. Ад*

*кургана да кургана, ад гаю* да гаю ў пяць *нітак лягла цьмяна дарожка крывая.* Усьлед *думкам неспакойна вецер падвявае. Апалае* ўвосень *лісьце пойдзе расьлінам на карысьць. Усе пералётныя птушкі пакідаюць нас* назіму *ды ляцяць у вырай; застаюцца зімаваць толькі галкі, вароны, вераб'і, сарокі, цецярукі ды яшчэ некаторыя птушкі. Страхі найчасьцей здараюцца* ўночы. Уночы *чалавек кепска бачыць, і тады баязьлівы чалавек самую пустую рэч прымае за нямаведама што. Баба перапалохалася* насьмерць *ды* няпрытомна *кінулася бггчы.* Уканцы *зайшла гутарка пра розныя здарэньні. Ой,* памалу, памалу, *пастушок, іграй, майго сэрца не ўражай! Гэта ўжо* занадта! *Памажы мне, галубка, ячмень зьвязаць—Калі-ж, кумка, жыбулькі* надта *колюцца! Наша ластавачка,* напрыклад, *лятучы ў вырай, пралятае дарогу* ўвелькі *да дзесяці тысяч міль. Воўк* увелькі з *сабаку. Ажно падышлі* нарэсьце *тыя самыя людзі. Каля самага берагу, у вадзе,* чуць-чуць *шарасьцеў чарот. Сьпераду ляцяць самыя дужыя птушкі—правадыры. На чужыне птушкі жывуць усе разам: і кнігі, і бакасы, і качкі, і чаплі, а* навокала—*драбязга: валасянкі, падманкі, беражанкі і жаваранкі.* Дзе-ні-дзе *садок зялёны.* Памалу *далей станеш. Часам я* ўночы *сны дзіўныя бачу. Жаданы час* нарэшце *настаў. Заўтра рана, яшчэ* досьвіту, *пойдуць яны ў дарогу.* Навет *(нават) свойскія качкі і гусі пачуваюць час выраю. І ўспомнілася мне казка, каторую* даўно-даўно, *у часы шчасьлівага дзяцінства расказвала мне нябожчыца баба. А вясна* тымчасам *рабіла сваё дзела.* Перш-на-перш, *мы суседзі. Сонца* ўдзень *распускае там косы свае, ночкай зоры глядзяць залатыя. Праца марудна,* бясконца *цяжка! Не аб шумна-разгульнай бясседзе-разгульлі, не аб славе забытага краю гэту песьню* сягоньня *складаю* (Я. Куп.). *Хоць раз да* наўскач. *Усяго* патрошку. Да дому *было тры вярсты. Мы прышлі* дадому *(дамоў) раніцай.* Сьпераду *грэе, а* ззаду *вецер вее. Шатавіла-матавіла* па-нямецку *гаварыла,* па-турэцку *заварочвала;* сьпераду *шыльца-вільца,* спадыспаду *палатно, а* зьверху *аксаміт (ластаўка).* Так-сяк, накасяк, *абы не* па-людзку. *Свой свайму* панявolі *брат.* Па няволі *ня плачуць. Аднаму* годзі (годзе), *а другому* глодзі (глодзе). *На яду мастак, а на работу* сяк-так. Поверх *дзярэўя ходзіць. Поўна, роўна,* к верху *дном. Галоднаму воўку і заветра* понутру. *Пад'еў ды* набак. *І* адсюль *баляча, і* адтуль *гарача.* Змоладу *прарэшына, а пад старасьць дзірка. Любага госьця* ўлетку *частуюць мядком, а* ўвосень *—малачком.* Датуль *збан ваду носіць, покі вушка цэла.* Здалёка *бачыць твaё вока.* Знасілу *ніхто ня служыць. У яго і* ўзімку *лёду не дастанеш. Уніз* пайшоў. *Ня войтава дачка, а* дарэчы *гаворыць.* Упоперак *стала.* Калісьці *было, да быльлём зарасло.* Ні калі *то было,* ні калі *то будзе.* Пакуль *на гумне цэп,* патуль *на стале хлеб. Ой, відаць, на навальніцу* зранку *прыпякае! Сваю будову мурашкі начынаюць* зьнізу. *Хто з вас ня бачыў круглых кучак, падобных да горкі зямлі, насыпанай* наўмысьля? *Гэта мурашкі. Мурашкі працуюць* удзень бесьперастанку.

**§ 18. Правапіс злучнікаў і дапаможнікаў.**

ПРАВІЛА 49. 1) Складаныя злучнікі пішуцца зьлітна, напр.: *абы* (=а+бы), *або* (=а+бо), *ажно* (=а+ж+но), *ато* (=а+то), *аднож* (=ад+но+ж), *нібыта* (=ні+быць+то), *нібы* (=ні+бы), *альбо* (=аль+бо), *каб* (=ка+б), *быццам* (=дзеяслоў “быць” з зваротным займеньнікам “ся”), *нашто* (=на+што), *зашто* (=за+ што), *затым* (=за+тым), *затое* (=за+тое), *штоб* (=што+б), *прынамсі* (=пры+нам+сі), *чымсі* (=чым+сі)—апошнія два злучнікі з прыстаўною часткаю “сі”; у неазначальным займеньніку будзе “ся” *(чымся*—займеньнік).

2) Складаныя злучнікі: *нашто, зашто, затым, затое, штоб*—трэба адрозьніваць ад займеньнікаў з прыназоўнікамі або дапаможнікамі, бо займеньнікі пішуцца асобна ад другіх слоў; напр.: “*нашто* дарма траціцца”—„*на што* паставіць лямпу”. “*Затым* казак гладак, што пад'еў ды набак”.—“За *тым* домам быў вялікі сад”. “Кося, кося, *штоб* толькі зладзіць удалося”. “*Што-б* ты даў за гэта?” У першых сказах словы: *нашто, затым, штоб*— злучнікі; а ў другіх сказах словы: *на што, за тым,*

*што-б*—займеньнікі і дзеля таго напісаны асобна ад прыназоўнікаў “на”, “за” і дапаможніка “б” (бы), прычым “што-б” напісана з злучком, бо:

3) дапаможнікі *б—бы, ж—жа, то, небудзь—нібудзь, абы, быля* пішуцца з папярэднім словам з злучком, напр.: добра *было-б, каму-б* гэта даць; *рад-бы, пайшоў-бы, а мой-жа* ты суседзька! Ды *куды-ж* ты, дуб зялёны, пахінаешся? *Ці-то* птушка кінула зярнё, *ці-то* ветрам занясло яго? *Што-то* будзе, *што-то* будзе? *Што-небудзь, хто-небудзь, якое-нібудзь, каторая-небудзь, дзе-небудзь, калі-небудзь, абы-хто, абы-што, быля-хто, быля-што* і г. д.

4) Калі-ж гэтыя дапаможнікі сходзяцца разам, то яны паміж сабою злучком ня зьвязваюцца; напр.: *куды-ж бы* **мне** пайсьці? вот *быў-бы ж* рад! *то-то б была* радасьць!

**Увага.** Дапаможнікі “о”, “ж” стаяць пасьля галосных, а “бы”, “жа”—пасьля зычных; напр.: *які-б, чаму-ж; ён-бы* пайшоў, *дай-жа* мне і г. д.

5) Дапаможнік “няўжо” сустракаецца ў форме “няўжо-ж” і “нёж”, напр.: Пойдзеш ты куды?—*Няўжо-ж не! (=Нёж не!).*

**Практыкаваньне 61.** *Сьпісаць і заўважыць правапіс слоў, надрукаваных звычайным шрыфтам.*

Ці-то *птушка тая кінула зярнё,* ці-то *заняслося бураю яно? Сам ня ведаю, чым мілы, чым вы сэрцу любы, выхаванцы веку, сілы, маладыя дубы!* Чымся *мілым,* чымся *родным ад вас павявае,* аж *мне сэрца ў сьпеў лагодны ціха ахінае* (Я. Кол.). Які-б то *быў крук,* каб *выпусьціў з рук.* Чымсі *з благім квасам,* дык *лепей з вадою,* абы *не з бядою. Хоць з вадою,* абы *не з бядою.* За што *купіў,* эа тое *і прадаў. І паху яго* штоб *ня было тут!* Каб-жа *то была праўда!* Калі-ж бы я *што калі каму якое, а то я ніколі нікому нічога,—дык за што-ж мне тое? Каму за шутку прымаюць, а другому* за тое-ж *скуру зьдзіраюць.* Касіць-бы *касіў,* калі-б *хто косу насіў. Лепей лычны мір,* чымсі *раменная справа. Ня* тут-то *было.* Нібы-то *была жывая вада. Сьвініна—псіна, дрозд—саланіна, да* калі-б *к гэтаму дразду да кусок сала,* то-то-б *была патрава. Цешыўся старац, што перажыў марац,* ажно ў *маю нясуць яго да гаю.* Што-б *было з нашаю чайкай,* калі-б *мы ехалі ў ёй подчас буры па моры? Вагар* стаў-бы *пераліваццa цераз край, і нам* не ўдалося-б *вярнуцца пад бераг, асабліва, калі недалёка ад берагу ёсьць падводнае каменьне. Разгарыся, вячэрняя зорка, перад раньняю, разгарыся! Расхадзіся, наша гаспадынька, перад жнейкамі, расхадзіся!* Адмыкай-жа *высокія церамы залатымі ключмі,* адмыкай-жа! Засьцілай-жа *тонкімі абрусамі цясовыя сталы,* засьцілай-жа! *Да* вітай-жа першую *жнейку-пастацяначку, да* вітай-жа! Адтаго *мы пагалелі, што соладка пілі і елі.* Ад таго *месца да места пяць вёрст. Што нам* да таго, *што ён няўзоркі.* А датаго, *ён яшчэ ня ў сталых гадох.* Тады-то *і было, як па вадзе плыло. Ці* ўсё-то *спажыць, што ў чужой клеці ляжыць!* Нашто *козамі сена травіць?* Нашто *ў клець ісьці па муку, калі торба вісіць на круку? У ёй і крупы драныя, і кускі ламаныя. Грошы круглы,* адтаго *і коткі. Дай свае табакі,* ато *ад чужое нос баліць (прыказка). Высока над зямлёю чуваць маркотны крык жураўлёў; борзда ляцяць яны з поўначы на поўдзень і сваім крыкам* быццам *шлюць нам сваё апошняе разьвітаньне.* Хоць-бы *дзе кусьціка рэдкая цень!*

### § 19. Правапіс складаных слоў.

ПРАВІЛА 50. 1) У складаных словах злучальныя гукі **о—е** чуваць выразна толькі пад націскам, напр.: *куродым, сыровадка, сухедні;* не пад націскам будзе **а—я,** напр.: *сенакос, пустацьвет, ліхалецьце, землятрус *)* і г. д.

*) “Земляроб”—слова не беларускае; гэта няўдалы украінскі пераклад расійскага слова “земледелец”, па-беларуску трэба казаць *рольнік,* ад слова “ральля”, а таксама *рольніцтва,* а не “земляробства” (рас. “земледелие”).

У правапісе складаных слоў трэба кіравацца наступнымі правіламі:

2) Калі націск прыходзіцца на другую часьць складанага слова, то кожная часьць яго пішацца так, як яна пісалася-б асобна (падобна складаным лічэбнікам, бач. § 13), г. зн., што як у першай, так і ў другой часьці складанага слова застаюцца тыя самыя галосныя, што стаяць у васнове, калі слова ўжываецца асобна; напр.: *бажаволіць* (ад “бажаць-хацець”), *белабокі, белабрысы, белагаловы, белапаясы, Беларусь; вестаноша, ветрагон, вялікадворац, вялікалюд, вялікаселец, вярбалоз; галавасек, голабокі, галаледзіца, голапяты, гарбаносы, горладзёр, гэтарочны* (гэтага году); *дзеньгубіць, дзеньдзівірыць* (гультайстваваць), *добрадзей, домаверка* (аканомка), *доўгавязы, доўгагрывы, доўганосы, доўгатрывалы, дробнарэзка; жоўтабрушка; касавокі, кашаланоша; Малібожка,* (фамілія), *марнатраўнасьць, мовазнаўства, новабранец, нямаведзь; пакацігарошак, паласказуб* (паласкаць зубы,) *прадзеньгубіць, прыродазнаўства, роўналетак, роўнапраўны; саломарэзка, самасейка, сарвігалава, сенажаць, сіваваронка, слововытварэньне, стараpэчча, старцавод, сыраежка* (грыб), *сэрдабольны; табаканюх, торбатрос; чарваточына, чорнабыль, чорнагалоўка* (трава), *чорнабрывы, чорназём, чорнакніжнік; штодзенны, штодня; церасьсядзельнік.*

Словы, зложаныя з “поў”, “паў” ці “палу”, ня маюць злучальных гукаў і беспасярэдна далучаюцца адно да другога: *паўгода, паўчварта* рублі, *паўпята, паўшасты* вярсты, *паўвасьма, паўсяма, паўчвартаста, паўпудовік;* “зажурыўся малойча *ў паўдарожкі* едучы”; “за маладога *поўзалатога”;* але гэтыя словы пішуцца з “а”, як—*палукашак, палудзень, палуднаваць,* дзе першая часьць мае форму “палу”, бо і “поў” асобна рэдка ўжываецца.

3) Калі націск прыходзіцца на першую часьць складанага слова або на злучальны гук, то другая часьць падлягае аканьню (**е** застаецца, як заўсёды, пасьля націску ў аснове), напр.: *поўнач, поўгада, поўдзень, дабранач, дабрыдзень, ягомасьць, імасьць, палукашак, пакацігара, сыровадка, як* “непагадзь” (непагода).

4) Калі ў тэй ці другой часьці складанага слова адбыліся фонэтычныя (гукавыя) зьмены, то такое складанае слова падлягае аканьню, напр.: *галялёд* (з “голалёд”), *галаледзіца, санажаць* (з “сенажаць”), *бадай* (“бог дай”), *сваволя, сваволіць* (але *своявольнік), канавал, канавод* (з “каня вадзіць”), *кажамяка* (вельмі старое слова, калі “ж” было яшчэ мяккае), *селядоршы* (другі пасьля старэйшага брата); *начлег, мядзьведзь* або *вядзьмедзь;* сюды трэба аднесьці словы: *сяголета, сягодня, сягоньня, сёньня* ці *сёньні*, бо слова “сей” цяпер асобна ніколі ня ўжываецца, а таксама: *каламазь, чартапалох, Багдановіч, кашаплёт* і падобн., бо тут складаныя часткі слова не выклікаюць прадстаўленьня цэлых слоў.

5) Калі складанае слова зложана з цэлых слоў, што азначаюць назву аднаго якога-небудзь прадмета, то гэтыя словы пішуцца з злучкам; напр.: *айцец-маці, айцец-матка (=бацькі), браточкі-сакалочкі, вясельле-разгул, груша-сіраціна, Дунай-рака; каліна-маліна, клён-дзярэўца; малодкі-лябёдкі, малыш-каратыш; папараць-кветка, пацеха-забава, песьня-дума, песьня-весялушка,* паміж *пустак-балот, пушча-лес; размай-зельле, рута-мята, рыба-плотка; салавей-птушка, струны-самагуды, сын-сірата, срэбра-злота; траўка-мураўка, трын-трава; узьвей-вецер; хвоя-веліч, хлеб-соль, хлопцы-малойцы; шатавіла-матавіла, шура-бура, шчучка-рыба* і інш.

6) Таксама з злучком пішуцца:

а) падвойныя фаміліі: *Дунін-Марцінкевіч, Лабко-Лабаноўскі, Дуж-Душэўскі, Сьвятаполк-Мірскі;*

б) складаныя прыметнікі: *сьнежна-белы, цёмна-сіні;*

в) два дзеясловы, калі выражаюць адно дзеяньне: *пацяклі-паплылі, узбудую-узьвяду, падхапілі-ўзялі;*

г) складаныя прыназоўнікі: *з-за стала, з-пад лому, па-над морам* (бач. прав. 20, Б, 4);

і д) складаныя выклічнікі: *ха-хаха! ого-го! дзын-дзын! іга-га-га! бом-бом!*

## § 20. Правапіс чужаземных слоў.

ПРАВІЛА 51. 1) *Словы чужаземныя*, узятыя з чужое мовы даўно і вядомыя шырокім народным масам, як свае родныя, падлягаюць нашаму правапісу і пішуцца так, як гэта чуваць у штодзенным ужытку: *літара, дарэктар, адукацыя, аканом*, або *аконам, арганісты, паляруш, калідор, леварвэр, камісія, камітэт, сакратар, самінарысты,* а таксама—*камуністы, сацыялісты,* як беларускія прыметнікі.

2) *Словы чужаземныя* (інтэрнацыянальныя, або міжнародныя), што ўжываюцца ў кніжках і ў кніжнай мове і да народу не дайшлі або дайшлі нядаўна, пішуцца так, як у тэй мове, адкуль яны запазычаны: *тэлеграф, тэлеграма, монолёг, тэатр, рэволюцыя, коопэрацыя, політычная экономія, дынастыя, партыя, інспэктар, рэдактар* *), *дыктаваць, дыктант, дыктоўка* і г. д.

Пры гэтым, у правапісе чужаземных слоў *інтэрнацыянальных,* або міжнародных, трэба трымацца наступных правіл, каб зблізіць іх вымову (фонэтыку) з вымовай родных слоў:

а) Заместа падвойных зычных пішуцца простыя: *каса, маса, сума, тэлеграма, комунізм, Фінляндыя, Голяндыя, процэс, профэсар, граматыка, тэрыторыя, ілюстрацыя, ілюмінацыя, бэлетрыстыка* і г. д., а ня *касса, масса, сумма, тэлеграмма, коммунізм, Фіннляндыя, Гольляндыя* і г. д.

Толькі ў некаторых словах застаецца падваеньне: *Ганна, манна, ванна, бонна, Мекка, Будда, мадонна* і некат. іншыя.

б) Чужаземнае **l** передаецца мягкім **“ль”,** як гэта чуваць у пераважнай большасьці абеларушаных чужаземных слоў; трэба пісаць і гаварыць: *Лёндон, лёзунг, монолёг, філёлёг, філёзофія, лёяльны, колёквіум, Голяндыя, Фінляндыя, як*—лямпа, клямка, пляц, плястыр, кляс(а), пляшка і інш., але такія словы, як *капітал, адмірал, артыкул, мускул, тытул, формула, пратакол, канікулы, фістула, карбункул* і інш., маюць цьвёрдае **л** на канцы.

в) Чужаземнае **і** пасьля *зубных* (д, т, з, с) і *зацьвярдзелых* (ж, ш, ц, ч, р) передаецца літараю **ы,** напр.: *дыплёмат, дынастыя, дыктоўка, тып, тыран, актыў, актыўны, позыцыя, пасыў, пасыўны, унівэрсытэт, асыстэнт, сынтакс, нацыя, рацыя, конституцыя, коопэрацыя, рэжым, шыфрованы, аварыя, Баварыя* і г. далей, як *магазын, Сымон, тыфус,* даць *дыхту* і інш.; пасьля іншых зычных будзе **і,** напр.: *міністар, маніфэст, архіў, капітан, капітал, пірат, навігацыя* і г. д. Словы “Сібір”, “сібірны”, “азіят”, пішуцца “і”, адгэтуль: *Азія, аказія, фантазія, рэцэнзія, поэзія, колізія,* дзе пасьля **з** пішам **і.**

г) Гук **ф** у словах кніжных ці запазычаных нядаўна передаецца літараю **ф,** напр.: *форма, географія, факт, фронт, фортуна, філёзоф, маніфэст, Афон, фамілія, фабрыка, Францыя* і г. д.

Але калі запазычанае слова з гукам **ф** ужываецца ў нашай мове даўно, то яно абеларусілася, і ў такіх абеларушаных словах гук “ф” падмяніўся гукамі **х, п, хв,** напр.: *Пілip, Язэп, хунт, хвароба, кахля, хваля, картопля* (бульба), *шупляда, Хама, Хвёдар, Апанас* і іншыя.

д) Чужаземны гук th (θ) заўсёды передаецца гукам **т,** напр.: *каталік, катэдра, Тодар, Агата, Тамаш, арытмэтыка, артографія, міт, лёгарытмы, патос, Атэны, Пітагор* і шмат інш.

е) Чужаземнае “е” передаецца гукам **э,** як гэта чуваць у штодзенным ужытку (фэст, пасэсар, аптэка, сэсія), напрыклад: *маніфэст, тэатр, тэхніка, тэлеграф, рэспубліка, рэдактар, пэдагог, бібліотэка, канцэлярыя, унівэрсытэт* і г. далей, а таксама на пачатку слоў: *этыка, элегія, экватар, эволюцыя, этымолёгія, элемэнт,*

---

*) У такіх разох **ар** заместа **ор** пад уплывам беларускіх слоў на—**ар:** *знахар, пісар,* адгэтуль і дарэкт*ар*, рэдакт*ар*, інспэкт*ар* і г. д.

*эфэкт, Эўропа, Эгіпэт.* Але пасьля чужаземнага **г** (лацін. **g**) і **к** трэба пісаць літару **е,** як у словах абеларушаных (ангельскі, гестка, банкет, кецка, кірмаш з—кермаш), кілішак (з—келіх—келішак), кірунак (з—керунак), напр.; *альгебра, геолёгія, геомэтрыя, географія, геодэзія, Гедымін, Ягела (Ягайла), Германія, агент, рэгент, лагер, генэрал, легенда, генэза, геніяльны, інтэлігенцыя, анкета, анкер, букет, банкет* і іншыя.

З прычыны блізкага падабенства ў вымаўленьні гукаў **г** і **й** даўней поплеч з **г** пісалі **й**, напр.: *рэгестр—рэестр (рэйестр), лёгіка—лёіка (лёйіка), географія—еографія, геомэтрыя—еомэтрыя* і г. д. Прыведзеныя словы можна пісаць гэтак і цяпер.

ж) Чужаземныя **ia, ie, io,** (лац. літары) перадаюцца злучэньнямі **ія, іе, іо,** пасьля зацьвердзелых**—ыя, ые, ыо,** напрыклад: *геніяльны, спэцыяльны, нацыянальны, рацыянальны, матэрыял, фіялка, варыянт, піетызм, гігіена, эмбрыон, бібліотэка, бібліографія, бібліобар’ер, кар’ера, ар’ергард* і іншыя.

з) Чужаземны дыфтонг **au** (лацін. літары) перад зычным перадаецца злучэньнем **аў,** напр. *аўтар, аўдыторыя, аўтэнтык, аўдыенцыя, аўкцыон, браўнінг, фаўна, лёкаўт, фэўдальны* і інш., але перад галосным будзе **ау**, напрыклад: *Шопэнгауэр, Бауэр, Ауэрбах* і інш.

Мяккі знак **(ь)** у чужаземных словах пішацца пасьля мяккіх **л**, **н**, перад ётавым галосным, напр.: *Нью-Ёрк, рэльеф, мільён, барэльеф, мэдальён, Вільям* і інш.

Пасьля чужаземных прыставак **ад—, кон—, об—, суб**—перад ётавымі галоснымі ставіцца апостроф **(‘),** а ня мяккі знак, напр.: *кон’юнктура, ад’ютант, об’ект, суб’ект, кон’югацыя* і іншыя, а таксама пасьля **р:** *кур’ер, бар’ер, кар’ера, ар’ергард*, і іншыя.

к) У правапісе чужаземных уласных іменьняў могуць быць адступленьні ад некаторых вышэй пералічаных правіл, каб дакладней перадаць гукавы склад гэтага слова, а дзеля гэтага ў некаторых уласных іменьнях могуць пісацца падвойныя зычныя *(Эдда, Тассо, Мэкка, Мільлер,* як *Ганна, бонна),* а літара **і** можа пісацца пасьля зубных і зацьвярдзелых, напр.: *Люзітанія, Кадікс, Шіраз* і іншыя.

Беларускія іменьні людзей найлепш пісаць так, як гавораць у народзе кожнае мясцовасьці, напр., *Язэп, Якуб, Апанас, Лукаш, Тамаш, Грыгор, Мікола, Грышка, Тодар і Хвёдар, Кастусь і Канстантын, Юрка, Антось, Ігнась, Міхась, Міхал і Міхайла, Янка, Сьцёпка, Паўлюк; Ганка, Марыля і Марыся, Наста, Юста і Юстына, Зося, Алеся, Кася, Катарына і Кацярына, Амілія, Магда і Магдалена* і г. д.

л) Вульгарызованыя формы некаторых сучасных чужаземных слоў у літаратурнай мове не дапускаюцца; напр., трэба пісаць і гаварыць: *доктар, адвокат, фэльдшэр і фэльдшар, доктрынэр, гувэрнэр, вакзал, экзамэн, аэроплян, вэлёсыпэд, інспэктар,* а ня іначай.

м) У чужаземных словах дапускаюцца такія злучэньні, як **бю, кю, гю,** невядомыя беларускай мове, напр.: *бюро, бюджэт, Кюрі, Гюго, Бельвю, Дэ-Бюсі, Мюзэта, Жюрі* і падобн.

**Практыкаваньне 62.** *Сьпісаць і чужаземныя словы падчыркнуць.*

“Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!”—пролетарскі лёзунг. Маркс і Энгельс напісалі “Комуністычны Маніфэст”. Праганяйце багоў з нябёс, а капіталістых—з зямлі! Соцыялістычная філёзофія абсолютна несумяшчальна з рэлігійнымі ідэямі. Хрысьціянскі соцыялізм—антысоцыялізм. Беларускае Коопэрацыйна-Выдавецкае Таварыства. У Заходняй Беларусі ляжыць цэнтр Эўропы. Гіпотэнуза, катэт і пэрпэндыкуляр. Пачатковы курс палітычнае экономіі. Лёндон—сталіца Англіі. Нацыянальнае пытаньне. Студэнты Беларускага Пэдагогічнага Тэхнікуму разьехаліся на летнія вакацыі. Мілітарызм і імпэрыялізм. Тэлеграфная станцыя. Навуковы соцыялізм. Курляндыя і Ліфляндыя—сумежныя паміж сабою. Тэхніка і супрацоўніцтва ў соцыялістычным грамадзтве. Пролетарская ідэялёгія і ідэялёгія буржуазных кляс. Клясавая барацьба. У Фінляндыі ёсьць прыгожы вадаспад Іматра. Сумаю называецца агульны лік пры складаньні. Прамыслова-капіталістычны грамадзянскі лад. Рэволюцыя і эволюцыя. Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт. Соцыяльная рэволюцыя і соцыяльная

рэформа. Конфіскацыя прыватнай уласнасьці. Псыхолёгічныя падставы панаваньня пролетарыяту.

**Практыкаваньне 63.** Сінія хвалі шумяць і бурляць. Хвядос пайшоў да нябёс (дым). Сястра стаяла на ганку. Хата пакрыта гонтамі. Фабрычныя работнікі забаставалі. У нашым горадзе шмат фабрык. Антоля купіла сіняе хварбы. На рэчцы бывае вагар. Вагар перавярнуў човен. Хмаркі ахварбаваліся ў залаты колер. Андрэй Кузьме родны Хвёдар. Агата гуляла з Тодарам. Кніжкі ляжалі ў шуплядзе. Трапіў, як куляй у плот. Гэты дубец вельмі разгаты. Жыта пасеялі на картаплянішчы. Картопля—заморская расьліна. Ня бразгайце дзьвярыма! Выскачыў, як Піліп з канапель. Дзяўчынка пашыла сабе беленькі хвартушок. Хама з Апанасам пайшлі на рынак. Мы вучыліся арытмэтыцы. Брату купілі новыя галёшы. У нас кахляная печ. Язэп купіў пяць хунтаў цукру. Пранук пайшоў у хвальварак. Тамаш вучыўся заграніцай. Наша Хацім’я хоча капусты і бацьвіньня. Малако стаяла ў гарнушку. Яўхім прынёс бярэмя дроў. Ня фігуруйся, Грышачка! На дварэ стаялі хурманкі. Паліто было на хутры.

## § 21. Кароткі паўторны пытальнік.

### I.

**1)** У якіх разох пішацца вялікая літара?

**2)** Калі пішацца мяккі знак? Калі ўжываецца апостроф. Што азначае **ь** у канцы слова і ў сярэдзіне паміж зычнымі? Што азначае **ь** і апостроф у сярэдзіне слова перад галоснымі?

3) Пасьля якіх літар пішацца **ў** і **й**? У якіх разох пішацца **ў**? Ці заўсёды скарачаецца **у** пасьля галосных? Якая розьніца ў правапісе гукаў **у** і **і**?

4) Назавеце некалькі слоў з прыдыханьнем? Калі прыдыханьне зьяўляецца ды пішацца абавязкова? Якія гукі найчасьцей бываюць прыдыханьнем?

5) Што вы ведаеце аб складох **ро, ло, ле?**

6) Што вы ведаеце аб гуках **ф, г**? У якіх словах **ф** зьмянілася на **т, п, хв**? У якіх гук **ф** застаецца? У якіх беларускіх словах чуецца гук **г**? *(Найчасьцей у тых беларускіх словах, што маюць злучэньне* зг).

7) Як называюцца гукі **р, л, м, к?** Што вы ведаеце аб іх правапісе?

8) Якія гукі бываюць у словах нявыразнымі? Што трэба зрабіць, каб нявыразны зычны гук чуваць быў ясна? Як трэба зьмяніць слова, каб выявіць нявыразны зычны гук?

9) Калі пасьля літар **з, с, ц, дз** пішацца мяккі знак? У якіх разох пасьля гэтых літар ня пішацца мяккі знак?

10) Як называюцца гукі **ж, ш, ч, р, (дж)**? Чаму яны так называюцца? Якія галосныя літары пішуцца пасьля зацьвярдзелых?

11) Што вы ведаеце аб гуках **д** і **т**? На якія гукі яны зьмяніліся? Якія гукі азначаюцца дзьвюма літарамі? Скажэце некалькі слоў з гукамі **дз** і **дж**?

12) Якія гукі **о (ё), э (е)** чуваць ясна? Калі пішуцца літары **о, э, ё**? Калі націск зыходзіць з **о, э, ё,** то што чуваць на месцы іх і якія літары пішуцца?

13) Якая літара пішацца ў першым складзе перад націскам—**я** ці **е**? Калі ў другім складзе перад націскам пішацца **я,** а калі—**е**? Якая літара пішацца ў трэцім і далейшых складох перад націскам—**е** ці **я**? Скажэце некалькі слоў, якія не падлягаюць гэтаму правілу? Чаму яны не падлягаюць гэтаму правілу?

14) Што ведаеце аб правапісе слоў—**не, без, цераз, перад**? Як пішуцца словы **дзеля, каля, для**? Чаму словы **цераз, перад, пера** пішуцца нязьменна з літарай **е**? Чаму ў гэтых словах пасьля **р** заўсёды будзе **а,** а ня **о** ці **э,** напрыклад?

15) Якая літара пішацца ў мяккіх складох *пасьля* націску ў аснове слова? Якія вы ведаеце словы, што складаюць выключэньне з гэтага правіла? Чаму ў словах *памяць,*

*заяц, дзевяць* і іншых ня можна пісаць **е**? У якіх разох яшчэ пасьля націску пішацца літара **е**? Як правіла аб правапісу гуку **е** пасьля націску можна выразіць агулам?

16) Ці заўсёды пасьля націску пішацца **е**?

**II.**

1) Якія бываюць падвойныя зычныя ў канцы іменьнікаў—мяккія? цьвёрдыя? Дайце прыклады на падвойныя зычныя—мяккія? цьвёрдыя? На месцы якога стараславянскага гукавога злучэньня зьявілася беларуская падвойнасьць зычных? Якія ёсьць мяккія падвойныя зычныя ў дзеясловах? *(зьзяць, льлецца).* Ці могуць быць падвойнымі ў канцы слоў **б, п, м, р?** Як пішуцца такія словы, як *баб'ё, куп'ё, лам'ё, надвор'е?* Як пішуцца такія словы, як *здароўе, салаўі, ую, уеш?*

2) У якіх прыметніках бывае падвойнае **нн?** У якіх дзеясловах зьяўляецца падвойнае **цц?** Калі ў такіх дзеясловах бывае адно **ц (ца)?** У якіх лічэбніках пішацца падвойнае **цц?** У якіх разох яшчэ зьяўляюцца падвойныя зычныя? Дайце прыклады.

3) Як вымаўляюцца злучэньні **тц, чц?** А як яны пішуцца? Як вымаўляецца злучэньне **дс?** Як гэтае злучэньне пішацца? Як вымаўляецца і як пішацца злучэньне **тс?**

Як вымаўляюцца і як пішуцца злучэньні **жс, зс?** Якія гукі зьнікаюць у злучэньнях **стн** і **здн?** Якія гукі вытвараюцца на месцы злучэньня **дц** і **цься?**

4) Ад якіх часьцін мовы прыназоўнікі пішуцца асобна і ў якіх разох?

Як пішуцца прыназоўнікі з дзеясловамі і прыслоўямі? Як пішуцца складаныя прыназоўнікі?

Калі прыназоўнік канчаецца на цьвёрды зычны гук ды зьліваецца з словам, што пачынаецца гукам **і,** то які вытвараецца гук? Што робіцца ў такім разе з гукам **і,** калі прыназоўнік канчаецца на галосны гук? Як злучаюцца прыназоўнікі з словам у іншых выпадках?

Што вы ведаеце аб правапісе прыназоўнікаў, што канчаюцца на **д** *(ад, над, перад, прад)?* Што трэба ведаць аб правапісе такіх прыназоўнікаў, што канчаюцца на **з?**

5) Калі **не** пішацца зьлітна, а калі асобна? Якія дзеясловы пішуцца зьлітна з прыслоўем **не?** Калі пішацца **не,** а калі пішацца **ні?**

6) Які маюць канчатак іменьнікі жаночага і ніякага роду адзіночн. ліку ў назоўным склоне пры мяккім складзе, калі націск ня прыходзіцца на канчатак? Якія іменьнікі ніякага роду складаюць выключэньне з гэтага правіла? Які маюць канчатак такія іменьнікі ніякага роду ў родным склоне?

Якія іменьнікі ў родным склоне маюць канчатак **а(я)—у(ю)?** Калі ў такіх разох пішацца **а(я),** а калі **у(ю).** Якія іменьнікі становяць выключэньне з гэтага правіла?

Якія мае канчаткі месны склон адзіночн. ліку ўсіх радоў? Калі пішацца **і, е, ы, у?** Якія канчаткі давальнага і меснага склонаў іменьнікаў жаночага роду адзіночн. ліку?

У якіх іменьнікаў і ў якіх склонах "гартанная" (задняпаднябеная) аснова зьмякчаецца? Як гэтае зьмякчэньне адбываецца? Ці можа ў такіх разох "гартанная" аснова зьмякчацца ў мужчынскім родзе? у ніякім родзе?

Які канчатак іменьнікаў становіць выключэньне з-пад аканьня? *(Канчатак прыладн. склону адзіночн. ліку* **ем,** *калі націск ня прыходзіцца на канчатак).*

7) Які маюць канчатак прыметнікі адзін. ліку ў назоўным склоне мужч. роду? жаноч. роду? ніякага роду? Які канчатак у прыметніках множнага ліку ў назоўным склоне?

Які канчатак прыметнікаў мужч. роду адзіночн. ліку ў творным і месным склоне? Якія канчаткі прыметнікаў жаноч. роду адзіночн. ліку ў родным, вінавальн. склоне?

Які канчатак памяншальных і ласкальных прыметнікаў пасьля мяккага зычнага? пасьля зацьвярдзелага?

8) Як пішуцца складаныя лічэбнікі? Якое слова становіць выключэньне з гэтага правіла? Якія лічэбнікі маюць падвойныя **цц?** Якія склонавыя канчаткі ў лічэбніках парадкавых? *(Тыя самыя, што ў прыметніках).*

9) Як пішуцца склонавыя канчаткі займеньнікаў? *(Яны пішуцца па правапісу склонавых канчаткаў прыметнікаў). У* якіх займеньнікаў пішацца **не,** а ў якіх **ні?** Калі прыстаўкі **не, ні** пішуцца асобна ад займеньнікаў?

10) Якія галосныя ў канцы дзеясловаў 1-га і 2-га спражэньня? Якая літара пішацца ў канцы дзеяслова 1-га спражэньня пасьля зацьвярдзелага зычнага на месцы **э,** калі націск ня прыходзіцца на канчатак?

Які маюць канчатак дзеясловы 1-га спражэньня цяпер. ч. 2-ой асобы множн. ліку, калі дзеяслоў з націскам ка канчатку? Бяз націску на канчатку? Які маюць канчатак дзеясловы 2-га спражэньня ў такой форме?

Якія канчаткі ў дзеяслоўных прыметах і прыслоўях?

Як пішуцца дзеясловы з зваротным займеньнікам **ся?** У якіх формах дзеяслова вытвараецца злучэньне **цца? ца?**

Калі ў дзеясловах загаднага ладу пішацца *ў* канчатку **ь?** Якія бываюць канчаткі ў дзеясловах загадн. ладу множн. ліку 1-ай і 2-ой асобы? Як вытвараюцца гэтыя канчаткі?

## § 22. Матэрыялы для сьпісваньня і дыктовак.

### 1. На прадвесьне.

Рушыўся сьнег. Зашумела вада.
Раскаваліся рэкі ад лёду.
Лынула вон зімавая вада.
Сонца прыносіць цяпло і пагоду.
Шумныя песьні іграюць лясы.
Павявае вятрок цеплаваты.
Белая ніва ад сьнежнай расы
Убіраецца ў чорныя латы.
Зморана трушанкай ў цёмных хлявох,
Адзываецца рыкам скацінка.
Конікі ў стайнях іржуць пры жлабох.
Бацян праляцеў над адрынкай.
Будзіцца пасьля зімовага сну
Па хацінках люд працавіты;
Скоранька цягне саху, барану,
Глядзіць—шыны на колах ці зьбіты.

*Янка Купала.*

### 2. Воўчае жыцьцё.

У цёмным яловым лесе, у вялікай нары, вывела ваўчыха трох ваўчанят. Сталі яны падрастаць ды пачалі вылазіць з нары, каб пабачыць, што робіцца наўкола. Каля нары рос малады густы ельнік. Недалёка, пад горкаю, было балота. Ваўчаняты любілі гуляць найбольш уначы, бо сонечныя косы рэзалі ім вочы, а птушыны сьпеў, далёкі гоман людзей і брэх сабак палохалі іх. Бацькі прыносілі ім уначы накрадзенага пажытку: авец, парасят, зайцоў, гусей. Наядуцца яны, прйдуць у балота пахлябтаць вады ды пачынаюць дурэць каля тоўстае гнілое калоды, што ляжала каля нары.

Прышла восень. Ваўчаняты вырасьлі ды пакінулі нару. Іх вадзіў аблетак—гадавалы воўк, што бацькі пакідаюць пры сабе пільнаваць малых дзяцей, бо самі старыя заўсёды ў паходзе і прыходзяць у гняздо толькі разоў два на дзень. Нецярпліва

чакаюць малыя ваўчкі, пакуль бацькі прынясуць ім есьці, дурэюць і разьбягаюцца ад аблетка. За гэта аблетак карае іх: дагоніць і пачынае біць лапаю або тузаць за карк зубамі.

Людзі заўсёды стараюцца зьнішчаць ваўкоў за іх разбоі. Адзін лясьнік даўно ўжо сачыў гэтую воўчую сям'ю. Ён выў павоўчаму і вабіў дурных ваўчанят. Яны аказваліся. Асачыўшы, дзе асталяваліся ваўчаняты з аблеткам на дзень, лясьнік сказаў людзям, і на ваўкоў зрабілі паляваньне. Забілі двох маладых і аблетка. Адзін ваўчок схаваўся пад выварат, і стаў ён хадзіць з старымі ваўкамі. Выўчылі яны яго лавіць і душыць свойскую жывёлу. Ня было таго гаспадара, каб не ўхапіў чаго воўк: уваднаго—авечку, у другога—цяля, у трэцяга—подсьвінка. І забіць яго не ўдавалася. Адзін ён заўсёды выкруціцца, уцячэ, пяройдзе ў другую аколіцу, а там яшчэ далей. Так і цягаецца па сьвеце.

**3. Летні дзень.**

Быў гарачы летні дзень, адзін з тых дзён, аб каторых кажуць: варыць, як у гаршку. Далёкая цёмная палоска лесу абвязалася наміткаю сіняватае смугі, як маладзіца хусткаю, каб ня так пякло сонца. Павяваўшы зраньня вецер сьціхнуў зусім, і здавалася, што ён сьціхнуў не дзеля таго, што гэта так трэба, а сумыслу, на злосьць усім тым сілам, да каторых належала не даваць у зьдзек гарачыні зусім распаранае зямлі і ўсяго яе стварэньня. Адным словам, здавалася, што вецер зазлаваўся, як той дзядзька Піліп, каторы, бачачы, што ён адзін толькі працуе ў хаце, а ўсе туляюцца ад работы, як сабакі ад мух, і што адзін ён нічога ня ўскурае,—плюнуў, кінуў работу і лёг у халадок. І ціха было ўсюды. Маўчаў луг, маўчала поле, на вуліцы ў сяле ня відаць было нікагутка. Толькі зрэдка перабягаў з панадворку ў панадворак сабака, высалапіўшы язык і шукаючы лепшае схованкі ад мух.

**4. Як выдумляюцца страхі.**

Страхі найчасьцей здараюцца ўночы. Уночы чалавек кепска бачыць і часта самую пустую рэч прымае за страх. Апрача таго, неразумныя людзі страшаць маленькіх дзяцей цемнатою, усялякімі дзядамі з торбамі, каторыя быццам бяруць плаксівых, нягодных дзяцей. Памаленьку, незаметна для нас самых, у нашую душу засяваецца зерня страху, ад каторага чалавеку потым трудна збавіцца. Незразумелае і страшнае для нас усё тое, чаго прычыны мы ня ведаем.

Ішла раз уночы баба. Дарога праходзіла паміж могілак і карчмы. Карчма стаяла па сярэдзіне дарогі. Напроці карчмы, крокаў за сто, стаялі могілкі—цёмныя, старыя, з хваёвымі крыжамі. Могілкі з іх старою драўлянаю капліцаю, з некалькімі тоўстымі хвоямі і зялёнымі клёнамі, карчма з гнілою, аброслаю мохам страхою—рабілі ўсё месца страшным і дзікім.

Як толькі баба падышла пад карчму, то пачула, што на могілках нешта плакала, як дзіця. Гэта пугач ці сава сьвістаў у гнілой капліцы. Баба перапалохалася на сьмерць ды няпрытомна кінулася бегчы. Прыбегшы да вёскі, яна расказала пра невядомы плач. З гэтага часу простыя людзі і сапраўды сталі што-небудзь бачыць або чуць, калі здаралася ісьці аднаму ўночы паміж карчмы і могілак, хоць там і нічога ня было.

Болей навукі—меней страху!

**5. Жыта.**

Неспакойна зашумела жыта маладое,
Зранку самага трывожна шэпча зеляное.
Station
Каласочкі на саломках галоўкай качаюць,

Каплі роскі на іх лісьці чыстым срэбрам зьзяюць.

Што шуміш так неспакойна, жыцейка, у полі?
Ці ня чуеш, што пад градам зьляжаш ў роўным доле?
Ды і сонца ў цёмных хмарах твар свой закрывае.
Ой, відаць, на навальніцу зранку прыпякае!

“Што-то будзе, што-то будзе?” ў межах шэпча жыта.
Даль няласкава туманам-смагаю закрыта.
Ой, няхай лепш хмара з градам зьнікне ў чыстым полі!
Няхай жыта, нашу ўцеху, не кране ніколі!

Ня шумі-ж ты гэтак сумна,
Маладзенькі колас,
Бо нам ў сэрцы смутак родзіць
Шуму твайго голас!

*Якуб Колас.*

**6. Ластаўкі.**

Прыляцела ластаўка з далёкага выраю. Села яна на страху старога гумна ды зашчабятала. Вясёленькая песенька яе так і пасыпалася па ўсім дварэ мілым шчэбетам. Уляцела яна ў гумно даведацца свайго даўнейшага леташняга доміка. А ён за зіму абсыпаўся, абвіс павуціньнем, і толькі камячок гразі дзяржаўся каля сахі, на каторую апіралася страха гумна. Туды прыляцела і другая ластаўка. Пашчабяталі яны ў дзьвёх, парадзіліся ды давай папраўляць сваю хатку. Ачысьцілі яны яе ад павуціньня і пылу. Кожны дзень па некалькі разоў прылятаілі яны ў гумно, насілі ў дзюбках клейкую гразь, замазвалі дзіркі ды далей рабілі гнязьдзечка, каб яно было глыбейшае і большае. Доўга працавалі ластаўкі, і вылепілі яны харошанькае кругленькае гнязьдзечка. Тады сталі насіць пёрцы ды высьцілаць імі дно. Самічка-ластавачка несла там свае маленькія рабенькія яечкі.

Цераз тыдні два з яечак вышлі голенькія маленькія птушачкі з жоўценькімі роцікамі. У тое гумно часта прыходзіў гаспадарскі сын Пятрусь. Любіў ён, лёгшы на саломе, пазіраць як турбаваліся старыя ластаўкі, носячы корм сваім маленькім дзеткам. А маладзенькія ластавачкі садзіліся ў гнязьдзе ў рад і разьзяўлялі роцікі, як толькі прылятала да іх каторая-небудзь старая ластаўка. Старыя клалі корм кожнай па чарзе. Пятрусь любіў на гэта пазіраць і лежачы ціха сам сабе сьмяяўся.

**7. Лета.**

Прышло і лета. Куды ні глянь—усюды зелена, усё расьце, усё сьпее, усё наліваецца. Лісьце на дрэвах вырасла ва ўвесь свой рост і весела трапечацца на сонцы. Весела пазірае стары лес, што расьце за сялом ды цягнецца па краёх поля, як разак, пастаўлены зубамі ўгару. Кусты арэшніка, верабіны, чаромхі густа разрасьліся ды далёка параскідалі свае зялёныя галіны. Так зелена, так густа скрозь, што, здаецца, не пралезеш у лес! Птушкі аж глушаць сваімі галасамі, сваім шчэбетам. Некаторыя, раньнія, ужо вывелі дзетак ды клапатліва шчабечуць каля сваіх гнязьдзечак, як нянькі каля калысак. Колькі красак, колькі ўсялякіх матылёчкаў, мошак і пчолак! У паветры стаіць бясконца шум і звон ад іх крыльляў.

Поле пакрылася зяленівам. Ужо выплыў авёс, ячмень. Цягнуцца палоскі гароху з харошанькімі чырвоненькімі і сіненькімі кветкамі. Там відаць зялёненькія стужкі лёну з сіненькімі галоўкамі; бялее грэчка, наліваецца жыта, і ціха шарасьціць яно ў полі сваімі

срэбнымі каласкамі. Як слаўна глядзець на гэтыя вузкія палоскі-стужкі сялянскага збожжа, калі сьвежы ветрык калыша іх і вядзе з імі невядомыя спакойныя размовы! Жаваранкі рассыпаюцца над імі песьнямі, круцячыся ў небе.

**8. Вучыся.**

Вучыся, нябожа: вучэньне паможа
Змагацца з нядоляй, з няволяй;
Што мучыць сягоньня, што думкі трывожыць,
Зьбяжыць і ня прыдзе ніколі.

Жаль згіне, як мара; ня будзеш няздарай,
Нідзе і ні ў чым не заблудзіш;
Ты праўду ў няпраўдзе, як сонца між хмараў,
Спазнаеш, як цёмен ня будзеш.

Такая прынука, як праца й навука,
Ці-ж можа нам сіл не дадаці?
З такімі сябрамі, знай, будзе ня штука
І гора сваё зваяваці.

Крыўдзіцеляў зможаш, сьлед вечны праложыш
І к долі, і к волі, і к славе,
Адно ты прачніся, вучыся, як можаш,
Ці дома, ці на школьнай лаве.

Ўсе людзі значэньне пазналі вучэньня,
Адзін толькі ты ані дбаеш.
Цямней ты, нябожа, як ночка асеньня,
І шчасьце такое ты маеш!

*Я. Купала.*

**9. Горы.**

Горы, як волаты, падымаюцца к небу. Гор у дзьве-тры вярсты ёсьць шмат, але пападаюцца горы і ў сем, у восем, нават у дзесяць вёрст увышкі. Унізе гары цёпла, а чым вышэй, тым робіцца халадней. Дзеля таго на горах і расьліны розныя. Унізе расьце вінаград, розныя сады, вышэй—лясы дубу і ясеню; потым растуць вольха, рабіна, бяроза; а яшчэ вышэй, за воблакамі, ідуць кусты, лугі з дзіўнымі краскамі. Там толькі горныя пастухі пасуць свае стадкі. Яшчэ вышэй—мох ды голы камень, а на самым версе—лёд ды сьнег. Там толькі арлы лётаюць.

Шмат рэк пачынаюцца ад сьнягоў, што растаюць у горах. Яны цякуць уніз гаманлівымі ручаямі і вадаспадамі. Па дарозе падмываюць груды лёду і сьнегу, каторыя часамі абвальваюцца ды засыпаюць цэлыя вёскі.

Горы рэдка стаяць паасобку. Яны цягнуцца доўгімі хрыбцінамі то вышэй, то ніжэй. Паміж гор ляжаць долы, чарнеюць правалы. Густыя туманы поўзаюць па вузкіх горных праходах. Горы часта закрыты воблакамі і толькі ў ясныя дні здалёку віднеюцца сваімі сьнегавымі белымі верхавінамі.

**10. Ідуць крыгі.**

Моцна сьпіць шырокая рака. Глядзіш—і здаецца, яна мёртвая. Але гэта толькі здаецца: пад ковамі лёду ідзе работа, кіпіць жыцьцё. Жыве рака.

А неравальчыкі не перастаюць бубнець і крычаць пра новае жыцьцё. На лёдзе там і сям паказаліся палонкі, прагрэтыя сонцам. Варушыцца рака, падымаюцца яе грудзі. Чуе і яна ўжо вясну новага жыцьця. Трасе яна сваімі плячыма, і лёд покае, трашчыць. Не задзяржаць ракі гнілому ланцугу расколатага лёду. Прабіваецца яна на вольны сьвет, выходзіць з берагоў, ломіць і крышыць усё, што хоча стрымаць яе волю.

А крыгі—астача сьцюжы—з глухім шумам і выцьцём, як дзікія зьвяры, злосна скрыгічуць старымі гнілымі зубамі, як праціўнікі шчасьця людзкога.

**11. Прышла вясна.**

Ужо прайшла зіма цяжкая—
Мароз, мяцеліца ліхая!
Паплыў з вадою крыгаў лёд,
І сьнег ад сонца тае ўлёт.
Ужо вады паўны разоркі,
І зачарнеліся узгоркі.
А зьнізу лёгкі ветрык вее,
І сонейка так цёпла грэе.
Бор неяк весела шуміць;
Трава на лузе зеляніць.
Аджылі дробныя мурашкі,
Чарвякі і матылькі, а пташкі
Шчабечуць, звоняць і пяюць,
Людзям ахвоты дадаюць.
Жаваранычка ў прасторы
Шчабеча, як у сінім моры;
Плыве і бусел, і жураў,
І дрозд запеў і засьвістаў.
Гудзе лятучы тоўсты жук;
Балбоча ёмка цецярук;
Пішчаць дзесь чайкі на балоце;
Пліска хвастом трасе на плоце;
Турчыць працяжна жабін хор,
І дзеці рвуцца з хат на двор.

*Стары Ўлас.*

**12. Прырода гатуецца да сну.**

Пакарочалі цёплыя летнія дзянькі. Перастала грэць яснае сонейка. Не падымаецца яно высока над зямлёю. Яго косы ня сьвецяць ужо так ясна. Яны ня грэюць і ня песьцяць ужо маткі-зямлі. Затуманілася неба. Няма таго дню, каб сівыя хмары ня плавалі над зямлёю. Пачаліся прымаразкі. Ліст на дрэвах пажоўк і асыпаўся, і згінулі кветкі, што ўбіралі поле і луг. Ня шастаюць у траве конікі, ня гудуць каля вульляў пчолкі, не “таўкуць куцьці” камары і мошкі. Птушкі адны за аднымі зьбіраюцца ў вялікую дарогу. Уся прырода пачынае заміраць.

Ужо і халодная восень прыйшла. Сонейка рэдка паказваецца з-за хмар; позна ўзыдзе, нявысока падымецца ды зноў схаваецца. Хмары ня сходзяць з неба. У паветры ціш. Усе хаваюцца ад холаду і дажджу. Змоўклі вясёлыя птушкі-пяюхі. Ня відаць харошанькіх матылькоў. Усё пахавалася, усё пакінула нас разам з сонейкам, толькі

высока над зямлёю чуваць маркотны крык жураўлёў. Борзда ляцяць яны з поўначы на поўдзень і сваім крыкам быццам шлюць нам сваё разьвітаньне.

Агаліўся і парадзеў лес. Стаіць ён, як сірата, смутны і маркотны. А ці той гэта луг? Дзе яго кветкі, дзе пышная трава? Кветкі пасохлі, траву скасілі. Адзін вецер ня мае сабе прыпынку. Носіцца ён па голай зямлі, круціць сухое лісьце і расьсявае сьпелае насеньне з травы і дрэў. Усё чарнее і траціць свой колер, толькі жыта маладое расьце і руніцца, дый яго скора замарозіць мароз. У гэты позьні асеньні час уся прырода падобна да спрацаванага чалавека, што пасьля цяжкае працы заснуў моцным сном.

**13. Аратаю.**

Ары, ары, чалавеча, ары
Ад раньняй зары да ночнай пары!
Сошку сваю ты нанова наладзь,
Лепш каб было, чалавеча, араць;
Коніка-сябра свайго паганяй;
Хлеба скарынку з сабою вазьмі,
Чуць толькі сьвет—ты з сахой выхадзі,
Постаць на полі сабе адвядзі,
Кідай барозны ты з краю у край
І родную песьню ціха сьпявай.
Цьвёрдую глебу рэж, уздымай,
Роўна і плытка барозны складай,
З шнура за межу ня кідай зямлі,
Чыста-ж яе у загон прылажы;
Добра глядзі, каб агрэху ня даць,
Ўсё, як належыць, на полі урадзь.
Чыста ад пырніку поле апратай
(Поле тваё гэтым зельлем багата!),
Бо калі ў пырнік зерня пасееш,
З працы свае карыстаць не здалееш:
Ўсё ён заглушыць, і сам узрасьце,
Сваім карэньнем зямлю упляце.
Дык-жа працуй, чалавеча, ары
Ад раньняй зары да ночнай пары,
Бо калі ўпору зямлі не ўзарэш,—
Збожжа нямнога увосень зьбярэш!

*А. Галіна.*

**14. Верны прыяцель.**

У ваднаго селяніна быў вялікі сабака. Стаў ён стары, і ўжо ня мог вартаваць гаспадарскае дабро. Не хацелася селяніну дарма карміць сабаку. Вось ён узяў з сабой вяроўку і камень ды пацягнуў сабаку да ракі.

Глядзіць на яго сабака разумнымі вачыма, быццам разумее, што думае гаспадар.

Сеў гаспадар з сабакам у човен, ад’ехаў ад берагу ды стаў прывязваць камень сабаку на шыю. Пасьля ўстаў ды піхнуў нагою сабаку ў ваду.

Сабака панырнуў, але пры гэтым човен крэпка скалануўся, а селянін не ўдзяржаўся, і сам зваліўся ў ваду.

Захліснула яго хваля, зусім ужо пачаў тануць. Раптам чуе—нехта цягне яго. А гэта яго сабака. Камень адвязаўся, і сабака кінуўся ратаваць гаспадара. Схапіў зубамі за кашулю, выплыў з ім да берагу і ледзь жывы расьцягнуўся на беразе.

Заплакаў селянін, абняў сабаку, стала яму стыдна. Да самае сьмерці карміў і даглядаў ён вернага свайго прыяцеля.

**15. Восень.**

Восень халодная, чорная, хмурая
Сунецца ціха, нічутна што дзень;
Хварбы наўкола паклала панурыя,
Сонца хавае за чорную цень.

Збожжа пажатае з ніваў пазвожана;
Голыя гоні самотна ляжаць;
Неба дажджліваю хмарай абложана;
Траўкай ня грае сваёй сенажаць.

Кветкі ня сьвецяць галоўкамі яснымі,
Кусьця бяз лісту, бяз красак стаяць;
З гэтымі восені днямі бяскраснымі
Цяжкія думкі на сэрца ляцяць.

Вольхі, рабіны, асіны з бярозамі
Лістам пажоўклым тужліва шумяць:
“Хутка надыдуць завеі з марозамі,
Ветры з сьнягамі ізноў наляцяць”.

Толькі высокія хвоі іглістыя
Вечна-зялёны свой кажуць убор;
Днямі зімовымі цёмна-імглістыя
Будуць чарнець навакол наузгор.

Зіму пачуўшы, мядзьведзь непакоіцца,
Ходзіць па лесе, шукае бярлог;
Хмурны і злосны, пакуль супакоіцца,
Горш на скаціну, на людзі налёг.

Гусі і качкі гуртамі зьбіраюцца:
Хутка на поўдзень саўсім паляцяць;
Хэўра за хэўрай на рэчцы зьмяняецца;
Зранку крычаць, на вадзе лапацяць.

*А. Гарун.*

**16. Мурашкі.**

Абсохла зямля. Дзе-ні-дзе стала паказвацца зялёная травіца. На прыгорку, у лесе, весела гойдае сіняю галавою першая веснавая кветка—сон. У яго касматай галоўцы ўжо поўзае пчолка ды цалуе яго сінія лісточкі.

Усё варушыцца, прачынаецца ад зімовага сну і холаду, усё хоча глянуць на высокае сонца, што так шчыра аблівае сваім цяплом яшчэ мокрую зямлю. Сагрэла сонейка і мурашнік, каторы паўгода быў засыпаны сьнегам. Пачула цяпло і працавітая мурашка. Выпаўзла яна з зямлі, дзе сядзела ўсю зіму; за ёю выпаўзла другая, трэцяя. Вот ужо іх цэлая тысяча поўзае ды грэецца на сонцы. Пагрэліся ды зараз за работу—давай папраўляць сваю хату, папсованую сьнегам. А яшчэ дзянькі праз два-тры

папаўзуць яны ў лес зьбіраць кусочкі хвоек, смолку, што скінула старая хвоя. А пападзецца на дарозе жук або хрушч, палепяцца яны за яго ды павалакуць яго да свае хаткі. Працавітае стварэньне мурашка! Многа чаго ёсьць павучыцца ў яе гультаю.

**17. Жніво.**

Рэдкае збожжа—травы палавіна.
Колас ня гнецца зярнём да зямлі.
Знаць, нешчасьліва была та часіна,
Як кідалі зерня сяўцы па ральлі.

Вышлі на поле вось жнеі з сярпамі
У лапцях лазовых, а хто без лапцей.
Ніва пустымі шуміць каласамі,
Ніва ня цешыць жаночых вачэй!

Цяжка ўздыхнуўшы, збаны пастаўлялі,
Клункі на межы паклалі жняі;
Бабы старыя свой твар пражагналі
Ціха за працу ўзяліся дзяўкі.

Горача ў полі. Эх, жар дакучае!
Праца марудна, бясконца цяжка.
Сьпіну і плечы ім боль адбірае,
Аж дзервянее у жнеек рука.

Збэрсана жыта, чапляецца колас.
Жменя нажата, разгнецца жняя,
Жыта паложыць на скручаны пояс.
Цяжкая, жнейка, работа твая!

Ціха на полі ў палудзень гарачы.
Хоць-бы дзе кусьціка рэдкая цэнь!
Толькі ў калысцы плач чуеш дзіцячы,
Нудна над вухам зьвініць авадзень.

*Я. Колас.*

**18. Восень.**

Луг даўно скошаны. Дзе ўлетку калыхалася зялёная трава і блішчэлі кветкі, там цяпер пуста, адны толькі дзябёлыя стагі стаяць па грудочках, як вежы. Маладзенькая травіца-атава блішчыць на сонцы. Ёй ужо ня вырасьці да старое. Буслы даўно пазьляталі з гнёзд ды ходзяць чародамі па лузе або кружацца высока-высока ў небе, усё роўна як радзяцца перад далёкай дарогай.

Жыта на полі зжата і зьвезена; авёс і ячмень—сабраны, толькі дзе-ні-дзе жаўцее палоска позьняга аўсу ці ячменю, ды пачарнелыя лапінкі грэчкі чакаюць сярпа. Картаплянік на картоплі павяў і апусьціў сухое лісьце, адны цыбуры тырчаць, як палкі. Глуха і нудна стала на полі. Ужо ня чуваць спакойнай гаворкі ціхага ветру з палоскамі збожжа, толькі іржышча гаворыць, што тут красаваліся пасевы. Ужо не трапечуцца ў небе жаваранкі з мілымі песьнямі. Прайшла вясёлая пара лета! Усё адцьвіло, адкрасавала.

Ціха і глуха стала ў лесе. Птушкі перасталі сьпяваць. Лісьце на дрэвах пасохла ды патроху асыпаецца на дол.

Сонца ня грэе так цёпла, як бывала ўлетку. Яно ўсё ніжэй і ніжэй ходзіць па небе. Неба часьцей і часьцей засьцілаецца хмарамі. Туманы закрываюць ад вачэй белы сьвет. Дробны дожджык імжыць, як праз сіта. Нудна і няпрытульна выглядае ўсё ўвосень!

**19. Прылёт птушак.**

Ціхая раніца. Сонейка толькі што ўзышло. У полі ляжыць яшчэ сьнег, толькі ўзгоркі чарнеюць. Лужынкі сьцягнуліся занач лядком, але ўжо чуваць вясну, і ўсё пазірае павеснавому.

Вышаў малы Янук на двор. Весела яму на сэрцы: прыгрэе сонца, добра будзе гуляць на дварэ.

Нешта зьвініць у небе тоненькім срэбным звонікам. Янук прыслухаўся: ня відаць нічога, а ў небе ціха разьліваецца тоненькая песенька, усё роўна як грае хто на срэбранай дудачцы. Гэта—жаваранка! І так весела Януку, што, здаецца, пацалаваў-бы мілую птушачку. Галубка, яна ўжо вярнулася з далёкага выраю ды зьвініць у ясным небе дзіўнаю песьняю!

Рад Янук, што першы пачуў жаваранку, ды пабег хваліцца сваім сябром. Дзеці выходзілі на двор слухаць першую песьню вясны. І ім было весела.

Кожную новую птушку дзеці сустракаюць з радасьцю. Цераз некалькі часу прылятае шпак. Холадна, туман, а ён і ня дбае: сьпявае на ўсё поле вясёлыя песьні, седзячы дзе-небудзь на голай бярэзіне, як-бы і холаду яму няма!

У канцы сакавіка зьбіраецца ўжо шмат птушак. У лесе сьпяваюць дразды, лясныя жаваранкі, а па балоце важна пахаджае бусел. Па стрэхах бегаюць падманкі ды трусяць сваімі доўгімі хвастамі. Ластаўкі прылятаюць пазьней, калі ўсё зазеляніцца ды зьявяцца мошкі.

**20. Навальніца.**

Вецер угаманіўся ды сьціхнуў зусім. Сонца высока стаіць на небе ды бяз жалю паліць зямлю. К поўдню сталі паказвацца вадзяністыя, з цемнаватымі сярэдзінамі, хмаркі. Сонца пачынае бродзіць па гэтых хмарках, і цень невялічкімі лапінкамі паціху поўзае па зямлі паводле таго, як ідзе сама хмарка ў небе.

З аднаго боку неба пачынае чуць-чуць цямнець. У тым месцы, дзе неба быццам стыкаецца з зямлёю, падымаецца хмара—чорная, страшная. Уперадзе, як горы, ідуць клубкамі, з чарнаватымі краямі, асобныя хмары. Яны расьцілаліся па небе, як дым, ды як-бы цягнулі за сабою чорную, густую, гладкую сьцяну.

Ціха, важна, спакойна, густа і страшна пракаціўся ў небе першы гром. Далёка над лесам бліснула маланка—яркая, борздая—ды накрыж перасекла хмару. Маланка часьцей ды ярчэй барануе неба, часьцей грыміць гром, і падыходзяць бліжэй і бліжэй хмары. Ціха зрабілася ўсюды.

Людзі, як мурашкі, забегалі па лузе, складаючы на скорую руку сена ў копы. У вадзін мамэнт тысячы коп сена вырасьлі на грудох. А лісьцік на дрэве, травінка пад кусьцікам, каласок у полі ані скалыхнуцца. Здаецца, увесь сьвет перастаў нават сапці. Птушкі змоўклі, конікі перасталі цьвіркаць у траве. Усё як-бы чакае чагосьці страшнага. На сэрцы і боязна, і нeяк весела разам. А хмара ўсё чарнее. Кругом пацямнела, як-бы падыходзіў вечар. Гром гудзе ды гудзе бесьперастанку. Павеяў вецер ды пагнаў перад сабою пыл і сухое лісьце. Над галавою бліснула маланка, а за ёю раптам трэснуў гром, аж усё затраслося і закалацілася. Кінуліся першыя буйныя каплі, і дождж з ветрам паліўся, як з вядра.

**21. Вожык.**

Ці трымалі вы калі-небудзь вожыка? Калі не, то папрабуйце. Гэта вельмі цікавае стварэньне, а калі ёсьць у хаце мышы, дык будзе вялікая карысьць, бо вожык умее лавіць мышы лепш за ката.

Дзікі вожык спачатку баіцца чалавека, але потым прывыкае ды пачынае жыць у хаце, як кот ці сабака. Улетку вожык есьць жукі, конікі, чарвякі; узімку ловіць мышы, любіць булку з малаком, есьць і садовіну, а калі няхват гэтага корму, то будзе есьці ўсялякае мяса.

Усю зіму вожык, калі жыве на волі, сьпіць, закапаўшыся дзе-небудзь у мох. Сон гэты, як відаць, патрэбен вожыку, бо калі ня даць яму заснуць, то ўлетку ён хварэе, а часта і здыхае; дзеля гэтага яму трэба даць заснуць хоць на адзін месяц.

У няволі вожык можа пражыць некалькі гадоў, калі яго добра даглядаць. Нядобра толькі трымаць вожыка ў хаце дзеля таго, што ён цэлую ноч шныпарыць па хаце ды не дае спакойна спаць. Але часамі ўдаецца адвучыць яго ад гэтага, толькі нельга стрымаць вожыка ў месячную ноч: тады ён робіцца вельмі рухлівым, трывожыцца ды бегае па хаце.

**22. Маладыя ліскі.**

Выкапаў чалавек з нары двух маленькіх ліскоў ды прынёс дадому. Яшчэ здалёк сустрэлі бацьку дзеці ды глядзелі, што гэта ён нясе ў мяшку пад пахаю. Выпусьцілі перш аднаго. Сьмешны быў маленькі зьвярок: мызка вострая, сам маленькі, рыжанькі, хвосьцік калматы. Глянуў ён на дзяцей ды, мусіць, засароміўся, бо апусьціў вочы ўніз. Выпусьцілі і другога ліска. Глянулі яны адзін на аднаго ды стрымгалоў кінуліся ў цёмны куток.

Як ні стараліся дзеці выпарацьіх адтуль, нічога не памагала, толькі праз некалькі дзён пачалі яны вылазіць з-пад полу. Есьці ўзяліся адразу. Вельмі любілі яны маладых варанят або якое-небудзь мяса. Удзень, калі ў хаце было ціха, ліскі вылазілі з-пад полу ды пачыналі дурэць. Яны лавілі мух, прыціскаючы іх лапкаю. Пабегаўшы па хаце, ліскі пачыналі дурэць самі сабою: бегалі, куляліся, дужаліся. Калі хто-небудзь бывала засьмяецца, то яны кулём кідаліся ў свой куток. Уначы яны так моцна дурэлі, што не давалі спаць.

Гаспадар вынес іх на гору. Там, думаў ён, замінаць нікому ня будуць, і ім самім ляпей будзе.

Гэтага і трэ’ было ліском. Хоць малыя, але хітрыя. Увесь час, як былі ў хаце, шукалі яны здарэньня, каб уцячы, але ня было як. А на гары знайшлі яны пад стрэхаю дзірку ды паскідаліся абое на зямлю. Азірнуўшыся навокала, яны адразу памчаліся ў лес, што відаць быў недалёка.

**23. Рысь.**

Часта ў нас на сярдзітых нягодных людзей кажуць “рысь”. Чаму гэта так?

Даўней у нашых лясох вадзіўся такі зьвер, якога звалі рысь. Гэты назоў стаў мянюшкаю на сярдзітых, нягодных людзей. І праўда, трудна знайсьці такога сярдзітага нягоднага зьвера, як рысь. Адзін погляд яго паказвае, што гэта люты зьвер. Вочы яго вялікія, лупатыя, з касматымі бровамі, мыза страшная, скалазубая, на лапах—доўгія вострыя кіпці, на вушох—касмыкі шэрсьці, сам рыжы, увелькі з сабаку. Жыве ён у глухіх лясох і лазіць па дрэвах, як кот. Рысь нападае на ўсякую жывёліну, якая ня мае такіх вострых пазуроў і крэпкіх зубоў. Бывалі здарэньні, што рысь і на чалавека кідаўся.

Бараніцца ад яго вельмі трудна, бо ён нападае спатайка, зьнячэўку, проста з дрэва, дзе сядзіць.

Калі рысёў было ў нас многа, яны рабілі вялікую шкоду. Пасе пастух гавяду ў лесе. Усюды ціха, спакойна. Пачынае зьбіраць ён каровы ў гурт, дамоў гнаць, і толькі тады агледзіцца, што тая ці іншая карова папсована. Рысь часта выдзіраў у каровы вымя. Сама карова абараніцца ня можа, бо рысь вёрткі, як кот, і калі пастух быў далёка, то рысь пасьпяваў зрабіць сваё нягоднае дзела.

Вось за такія нягодныя ўчынкі, за тое, што чалавек б’ецца і дзярэцца, часамі прадражняць такога чалавека рысем.

**24. Сьвята Першага Мая.**

У рабочых і сялян усяго сьвету, усёй зямлі, ёсьць адно вялікае сьвята: гэта сьвята —Першае Мая. Сьвята першага мая было заснована ў Францыі ў горадзе Парыжы ў 1889 годзе. Туды зьехаліся рабочыя з усіх старонак сьвету, каб лепш абмеркаваць свае справы, як бараніцца ад паноў і багатыроў, як зьнішчыць вайну, як дабіцца зямлі і волі. І калі яны абмеркавалі свае справы, то пастанавілі, каб першага мая ўвесну было сьвята рабочых усяго сьвету, бо як увесну ўся прырода абуджаецца ад сну, так і рабочы мусіць абудзіцца ад свайго ўціску, клікаць сваіх таварышаў—рабочых і сялян—падняць свае галовы да яснага неба ды ісьці на змаганьне з сваімі ворагамі. Бо чаму рабочаму жывецца цяжка? А таму, што ён працуе хоць і вельмі многа, а карысьці мае зусім мала. І вось рабочыя ў Парыжы пастанавілі, каб у дзень першага мая ўсе працоўныя кідалі сваю працу, выходзілі з рэволюцыйнымі сьпевамі і чырвонымі сьцягамі на вуліцу і трэбавалі ад каралёў і паноў паляпшэньня дабрабыту працоўных.

Пасьля гэтай пастановы Першае Мая зьяўляецца важнейшым сьвятам працоўных. А багатыры з страхам глядзелі на пролетарыят, які падняў галаву і зразумеў прычыну свайго цяжкага жыцьця. Багатыры баяліся гэтага сьвята і заўсёды стараліся перашкодзіць рабочым сьвяткаваць яго: пагражалі расстрэлам, не плацілі за гэты дзень рабочым, а ў некаторых старонках разганялі рабочых і нават стралялі ў іх. На Беларусі і ў Расіі бадай што зусім нельга было сьвяткаваць Першага Мая: рабочых разганялі, арыштоўвалі і стралялі ў іх. І толькі цяпер, калі ўся ўлада знаходзіцца ў руках працоўных, гэтае сьвята кожны год адбываецца з такою ўрачыстасьцю, з якою яно мала дзе сьвяткуецца.

## ЧАСЬЦЬ ДРУГАЯ

## ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ

### § 23. Пункт, клічнік і пытальнік.

ПРАВІЛА 1. 1) Калі сказ выражае пытаньне, то пасьля яго ставіцца знак пытаньня—**пытальнік** *(А хто там ідзе? Адкуль тут музыка нясецца? Чыя то песьня ў душу льлецца?).*

2) Калі ў сказе выражаецца загад, покліч, просьба, перасьцярога або выказваецца гора, радасьць, страх, зьдзіўленьне ці што падобнае, то пасьля яго ставіцца **клічнік** *(Зачыняйце шчыльна дзьверы! Гайда сьцежкі пракладаць! Хай пачуюць, як сэрца начамі аб радзімай старонцы баліць!).*

3) Калі сказ не выражае ні пытаньня, ні поклічу, а толькі апавядае, то ў канцы яго ставіцца **пункт** *(Вецер увосень жудою шуміць. Сонца навукі скрозь хмары цёмныя прагляне ясна над нашай ніваю).*

**Увага.** Часам сказ можа быць клічна-пытальны або пытальна-клічным; тады ў канцы яго ставіцца клічнік з пытальнікам (!?) ці пытальнік з клічнікам (?!), прыкладам: *Куды толькі думка тая матку не заносіць!? Дык хіба-ж мы праў ня маем, сілы—шлях свой вызначаць?!*

**Практыкаваньне 1.** *Выпісаць спачатку сказы клічныя, потым—апавядальныя, а нарэсьце—пытальныя.*

Спарахнела наша хата. А што бяжыць бяз повада? Па вуліцах пацяклі равочкі каламутнае вады. Няхай лепш хмара з градам зьнікне ў чыстым полі! Кіньма думкі аб долі гаротнай! Ці ня вецер гэта звонкі ў тонкіх зёлках шапаціць? Або мо' сухі, высокі ля ракі чарот шуміць? У небе зоркі ад марозу пахаладзелыя стаяць. Няхай нас сустрэнуць з сярпамі, з касамі грамады працоўных людзей! Хто ў прыпар дажджу ня рад? Страхі найчасьцей здараюцца ўночы. Уночы чалавек кепска бачыць і часта самую пустую рэч прымае за страх. Неразумныя людзі страшаць маленькіх дзяцей цемнатою. Вось калі я дажылася няшчаснай гадзіны! Хто там стогне на ўзьмежку, на капцы у полі? Які гэта хлопец з старцам ідзе? То лернік ідзе і леру нясе, а хлопец яго за руку вядзе. Чаму адны птушкі пакідаюць нас назіму, а чаму другія застаюцца? Кажуць—холаду баяцца, але-ж вароны і вераб'і ўсё роўна птушкі, а вось зімуюць у нас. Ня холад, а голад гоніць птушак у вырай. Такая прынука, як праца й навука, ці-ж можа нам сіл не дадаць? Які слаўны, прыгожы дзянёк! І ўсё апачыне, спазнае час свой... А людзям ці будзе спакой?! Заўтра пачынаецца вучэньне. Пара нашаму Міхасю садзіцца за лемантар. Годзі табе, браце, бібікі біць—пара і за навуку! Цэлы рой думак разам пранёсься ў галаве. Глядзі-ж, сынок, ня трацць дарма часу, вучыся, каб я з маткаю цешыліся з цябе! Льлецца Нёман паміж гараў сьветлы, чысты, як раса. Прывет з далёкай стараны нам радасна нясуць яны. Цёмны лес сьцяной зялёнай цесна бераг абступаў. Сонца блеск свой апусьціла на зямлю з высот. Што-ж табе пісаць, старэнькі?

**Задачка 1-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, замест рысак кропку, клічнік або пытальнік.*

Дзень добры вам—Ці рады вы нам— Ці знаў хто, братцы, з вас Тараса, у палясоўшчыках што быў— На Пуцявішчы, ля Панаса, ён там ля лазьні блізка жыў— Што вы тут робіце— А мы тут гальлё зьбіраем— Хто з вас скарэй адгадае загадку— Цяжкая, жнейка, праца твая— Хоць-бы хмурынка дзе ў небе—Хоць-бы рэдзенькі цянёк — Многа тут гразі ў нягоду, многа пылу ў летні жар— Ці дзяржалі вы калі-небудь вожыка ў хаце—Калі не, то папрабуйце: гэта вельмі цікавая жывёліна— Эх, жар дакучае— Праца марудна, бясконца цяжка— Гэта ты—балот краіна— Гэта ты—Палескі край— Хто ты гэткі— Свой, тутэйшы— Ці даў я табе, бабка, шэлега— Ці ўсё тое спажыць, што ў чужой клеці ляжыць— Дабрыдзень вам, ягамосьці— Тут было глыбока, і вада мела цёмны колер ад гэтай глыбіні— Ох, як міла, весяленька ў родненькім куточку— Станьце, хмурынкі, над рубяжамі родных палеткаў, шнуроў— Што шуміш так неспакойна, маладзенькі колас— Ці ня чуеш, што пад градам зьляжаш у роўным доле— Ой, відаць, на навальніцу зранку прыпякае— Ня шумі-ж ты гэтак сумна, маладзенькі колас— Зірні, колькі ў полі жыцьця— Акінь вокам ты хату маю— Вучэцеся, браты мае, думайце, чытайце— Напішы мне, калі ласка, пісямко дахаты— Ты скажы, груган нязнаны, скуль ты прыбываеш— Хто там стогне на ўзьмежку на капцы у полі— Сьлязьмі горка залілася бедная дзяўчына— Не хадзі, коцю, па хаце, не пабудзі дзіцяці— Які прыгожы, слаўны дзянёк— Няхай плачам у сіняй далі песьня разальлецца —

**§ 24. Працяжнік на месцы прапушчаных слоў і злучок.**

ПРАВІЛА 2. **I. Працяжнік** ставіцца:

1) Пасьля перaлічэньня, дзе прапушчана некае слова *(Вясна, лета, восень і зіма —поры году),* або калі хочуць затрымаць увагу чытача, напр.: *Глянь—нехта едзе. Падсадзі—сарву я грушку. Тут былі—і старыя, і малыя, бабы і дзеці.*

*2) У* сказе з сустаўным выказьнікам на месцы прапушчанага дзеяслова-сувязі “ёсьць”, напр.: *Дабро для ўсіх—наш правадыр. Шчырая праца—мазалёвая. Слова—вецер, а пісьмо—грунт. Курыца—птушка. Атаўка—сену прыбаўка.*

3) У сказе, што служыць адказам на пытаньне, часта прапускаюцца ўсе часьціны сказу, апроч таго слова, што перадае зьмест адказу; гаты пропуск таксама азначаецца на пісьме *працяжнікам,* напр.: *Паіў ты каня?—Паіў. А хіба-ж там ён?—Там.*

**II. Злучок** ужываецца ў такіх разох:

1) Калі два словы складаюць як-бы адзін назоў *(Зара-зарніца, шатавіла-матавіла, узьвей-вецер, вецер-дуронік. Хвоя-веліч* стаіць на кургане. *Пацяклі-паплылі* за гадамі гады);

2) у падвойных фаміліях: *Дунін-Марцінкевіч, Лапко-Лабаноўскі, Цьвірка-Гадыцкі* і г. д.;

3) у складаных прыметах: *сьнежна-белы, цёмна-сіні* і г. дал. (Бач. прав. 50, 5 і 6);

4) калі слова паўтараецца для памацненьня *(Чуць-чуць* ліпіць) або для злучэньня складаных прыназоўнікаў *(з-за, з-пад, па-над);*

5) для злучэньня частак бы (б), жа (ж) * ) з папярэднім словам *(Рад-бы* даць, *каму-б* гэта даць. А *мой-жа* ты саколік! *Да куды-ж* ты, дуб зялёны, пахінаешся?).

**Увага.** Калі-ж **бы, б, жа, ж** сходзяцца разам, то яны злучком ня зьвязваюцца. *(Куды-ж бы* мне пайсьці? Вот *быў-бы ж* ты рады і г. д.). (Бач. прав. 49, 3 і 4).

**Задачка 2-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, заместа рысак, злучок або працяжнік.*

Галоднаму і пушнінка—малінка. Чужая сіла—асіна. Ішлі—брылі валачобнікі. Лішняя нітка—палатну завада. Зімняя ночка—бацьку сарочка. Усхадзілася шура—бура. Кожны дзень—няўзгода, кожны крок—прыгода. Шчырая праца—мазалёвая. Змоўклі птушкі—пяюхі. Маладзенькая травіца—атава блішчыць на сонцы. Цёмная хмарка адна—адзінютка. Спаленай нівы жаданьне ня збыта—міма хмурынка прайшла. Глянеш—сэрца забаліць. На дварэ—паленьне, трэскі, куча сьметніку ляжыць. Трэскі ўсаджаны ў аконцы, заміж шкла—радняны мех. Зелянеюць два— тры клёны. Блісьне кветка дзе—ні—дзе. Гляне ліпа дзе з—за хат. Дзе—ні—дзе садок зялёны. Сьпее—дасьпявае колас сіратой. Цякла крынічка з—пад карча. Стаіць груша—сіраціна на мяжы у полі. Могілкі ў полі адны—адзінюткі. Усё ня гэтак, як там, дома—лава, печ старая. Усё—качэргі, аконцы на нуду наводзяць. З палетку на палетак скача—ідзе дарога. Устаў назаўтра ён ранютка—да ўсходу сонца. Вышла матка, плач пачула, бачыць—іх служака! Матку жаласьць агарнула—шкада небарака! У гуменцы—ні збажынкі! Поле—жоўты пясок. Замест хлеба—камень клалі ў мяшок. Муж—нябожчык усплыў на думку. Праляцела борзда лета—наша сьветлая пара. Сонца ўвосень рэдка паказваецца з—за хмар. Дунін—Марцінкевіч—наш пісьменьнік. Гад—удаў есьць толькі адзін раз на месяц, трус—жа—раз дваццаць на дзень. У нашым целе ёсьць трубачкі—жылы. Блескам—дрыгаценьнем зорка замігала. Настала ночка—чараўніца. Сінім стэпам—даліною ходзяць хмары веснавыя. Гром для селяніна—лепшая музыка на сьвеце. Усплывалі хмары—горы белымі клубкамі. Ветрык калыша траву—сенажаць. Край неба зацягнуўся чорна—сіняю хмарай. Яшчэ некалькі часу—і вёска зусім заціхае. Далёка—далёка цягнулася цёмна—зялёная палоска лесу. Куды ні глянь—усюды зелена, усё расьце, усё сьпее, усё наліваецца. Болей навукі—меней страху.

### § 25. Знакі прыпынку пры прыдатках.

* Часткі **бы, жа** стаяць пасьля зычных *(рад-бы даць, а мой-жа ты саколік),* а **б, ж**—пасьля галосных *(рада-б даць, а мая-ж ты галубка* і г. д.).

ПРАВІЛА 3. 1) Прыдатак (дапасованы і недапасованы) выдзяляецца ў сказе коскай. Калі прыдатак стаіць у сярэдзіне сказу, то выдзяляецца коскамі з абодвых бакоў. (Сядзелі яны, *бедныя,* у куточку ды плакалі. Недалёка, *пад гарою,* было балота. Праляцела борзда лета, *наша сьветлая пара).*

2) Прыдатак-іменьнік, на які хочуць зьвярнуць асаблівую ўвагу, выдзяляецца працяжнікам. (Сьпераду ляцяць самыя разумныя і дужыя птушкі—*правадыры.* Я ня вельмі люблю гэта дзерава—*асіну).*

3) Калі прыдатак-іменьнік і тое слова, да якога ён адносіцца, складаюць назоў аднаго прадмету, то паміж імі ставіцца *злучок.* (Апранула *зямля-матка* кажушок зялёны. Стаіць *груша-сіраціна* на мяжы ў полі. *Зара-зараніца, хвоя-веліч, узьвей-вецер, вецер-дуронік, сын-сірата).* (Бач. прав. 50, 5).

Але калі прыдатак-іменьнік мае пры сабе адно ці некалькі паясьняльных слоў, то выдзяляецца *працяжнікамі* або *коскамі.* (Хлебароб—*мужык вясковы*—вось па межах ходзіць. Крыж хваёвы—*знак пакуты*—тут і там чарнее. Ваўчанят водзіць аблетак—*гадавалы воўк. У* Пятруся быў сябра—*сын суседа—яго равесьнік Антось).*

4) Калі прыдатак-іменьнік—уласнае імя або стаіць пры ўласным імі, то не выдзяляецца ніякім знакам. (Аддалі замуж яго дарагую сястру *Касю).*

5) Калі прыдатак азначае пералічэньне, то перад ім ставіцца *двухкроп'е.* (Па дарозе пападаліся ўсялякія грыбы: *казьлякі, асавікі, зялёнкі, лісіцы і іншыя).*

6) Калі прыдатак злучаецца з азначальным словам такімі словамі, як *або, ці, нават, ажно, асабліва, гэта значыць (г. зн.)* і іншым, то перад гэтымі словамі ставіцца коска. (Па моры ходзяць караблі, *або вялікія параходы.* Просіць шчыра грамацея, *ажно шапку скінуў).*

*7)* Калі прыдатак азначае якую-небудзь асаблівую назву— кнігі, газэты, твору, мясцовасьці, параходу ці чаго падобнага, то яго бяруць у двукосьсе. (Мы чыталі часопісь "Полымя". Па Нёмне ходзіць параход "Беларускі Селянін").

**Увага.** Калі ў сказе няма таго слова, да якога адносіцца прыдатак, выражаны асабліваю назваю, то ён ставіцца ў форме *дапаўненьня.* (Мы чыталі *"Новую Зямлю"). У* праціўным разе ён ставіцца ў *назоўным склоне.* (Мы чыталі поэму *"Новая Зямля").*

**Практыкаваньне 2.** *Сьпісаць і прыдаткі падчыркнуць.*

Грышка, хлопчык невялічкі, вышаў з дому ў поле. Янка, брат майго таварыша, надта любіць паляваньне. Вісьне скарга ўздоўж Нёмна, Беларусі сына. Устаў назаўтра ён ранютка, да усходу сонца. Будзеш ты чытаць нам, цёмным няўмекам. Горад Полацак пабудован у незапомныя часы. З поўначы холаду, сіверу буйнага, гусі на поўдзень ляцяць. Могілкі ў полі адны-адзінюткі. Два браты, Алесь і Антось, згаварыліся пайсьці ў грыбы. Толькі-ж ня слухае неба іх мовы—жальбы ржаных каласоў. І застогнеш, як над нівай той мужык-араты. Між узгоркаў, над ракою, выглядае сіратою наша беднае сяло. Раніцай, халадком,ісьці было нішто. Доўга, нават цэлыя годы, чуваць пах лясного пажару. А там, проці сонца, зноў поўзалі хмаркі. Хвоя-веліч стаіць на кургане. Як ліхія думкі-мысьлі, над зямлёю хмары зьвісьлі. Пышны ўбор іх—лісты—пазрывала. Муж-нябожчык усплыў на думку. Вобразы мілыя роднага краю—смутак і радасьць мая! Адпачыўшы зноў конь цягне сошаньку-крывулю. І яго панукі-крыку не чакае Сіўка. У Пятруся быў сябра—сын суседа, яго равесьнік Антось. Няхай жыта—нашу ўцеху—не кране град ніколі! А там, каля агню, варушыліся і бегалі дзеці. Рана ўстала Алена—да сонца. Было тут, у дубох, адно прыгожае месца. І рэчка ў хвалях-жалобе бяжыць, і неба праз сьлёзы глядзіць. У цёмным лесе, у вялікай нары, вывела ваўчыха трох ваўчанят. За вёскай, на полі, узрастае сасонка. І сьніцца ёй, беднай, што вецер зьнямее, настане цяпло і спакой. На чужыне жывуць птушкі ўсе разам: і кнігі, і бакасы, і качкі, і чаплі. А навокала—драбяза: валасянкі, падманкі, беражанкі і жаваранкі. За акном, на прызьбе, віднелася касматая галава сабакі Мушкі. Памаленьку, незаметна для нас самых, у нашу

душу засяваецца зерня страху. Расьце добра і прыгожа, ажно глянуць міла. Год мае чатыры пары: вясну, лета, восень і зіму. Скарына—доктар лекарскіх навук—на вежы сочыць зоры. У сваім жыцьці Андрэй кіраваўся прыказкай: “Хто не працуе, той ня есьць”. Раз толькі пасварыліся хлопцы, і пасварыліся за глупства—за ножык-цыганчык. Мы вышлі на палянку “Кірылава Магіла”. Увесь кавалак, аж да крыжовых дарог, засявалі нашы мужыкі. Вечарамі мужыкі зьбіраліся ў крайнюю хату дзеда Юркі.

**§ 26. Знакі прыпынку пры зваротках.**

ПРАВІЛА 4. 1) Зваротак у сярэдзіне сказу выдзяляецца *коскамі.* (Цяжкая, *жнейка*, праца твая! Час табе, *дзеванька*, на пасад!).

2) Калі зваротак стаіць у пачатку сказу і вымаўляецца з асаблівай сілай, то пасьля яго ставіцца клічнік, а ў канцы сказу *пункт, клічнік* або *пытальнік, у* залежнасьці ад сказу. *(Браты!* хай кожны пасьпяшае адно нам думаць і рабіць! *Дзеці!* аўсяны кісель на стале. *Брацьця!* ці зможам грамадзкае гора?! *Брацьця!* ці хопіць нам сілы?!).

А калі зваротак стаіць у пачатку сказу, але вымаўляецца бяз націску або без асаблівага павышэньня голасу, то пасьля яго ставіцца *коска,* а ў канцы сказу*—клічнік* або *пытальнік, у* залежнасьці ад таго, які будзе сказ—клічны ці пытальны. *(Сонейка,* чаму Янава ночка невялічка? *Каліна,* ня стой, распускайся ды ў белы цьвет раскладайся!).

3) Калі зваротак стаіць у канцы сказу, то перад ім ставіцца *коска.* (Будзь паслушна ты, *дачушка!* Дзе ты, *лепшая,* дзе ты, *доля?).*

4) Калі зваротак мае свае даданыя словы, то яны выдзяляюцца знакамі прыпынку разам з самым зваротkам. (Сьпі, *мой міленькі сыночак!).*

**Практыкаваньне 3.** *Сьпісаць і зваротkі падчыркнуць.*

Вот, брат, раўніна—і вокам ня скінеш! Плыві, з ружы кветка, аж да майго роду! Вярнецеся, млоды леты, хоць да мяне ў госьці! Прадам цябе, коню, коню вараненькі, за талер бяленькі! Ня дзівуйся, мой дружа нядбалы, што я сягодня так злосна шумлю! Ты, саколе—верна пташачка, ці бываў ты на маёй старане? Ці плача айцец-маці па мне? Ня гудзі так, восень, непагодай дзікай! Ня крываўся, сэрца, з нядолі вялікай! Ці знаў хто, братцы, з вас Тараса? Чуў я, мужчыны, зямля прадаецца. Памажы мне, галубка, зьвязаць ячмень! Калі-ж, кумка, жыбулькі надта колюцца! Прыбірайся, сын, у панцыр: зараз паход будзе! Мой мілы пакою, добра мне з табою! Зязюлька, зязюлька! кукуеш голасна, да ня жаласна. Прыступі, гаспадару, да свайго караваю! Глянь ты, слаўны гаспадар, на палеткі свае! Салавейка лугавы, ня пей рана да зары! Ойчанька мой родненькі, да ўбяром мы ключначку, да паставім на ганачку! Ты, зялёная дуброва, расьцьвітай і шумеці добрай славай пачынай! Варушыся, конік мой сівенькі! Нядобра вы, дзеткі, зрабілі! Павесь шапачку, мой сыне! Што цябе чакае, сын? Муляр! што ты будуеш, каму? Што-ж табе пісаць, старэнькі? Краю мой родны, столькі ты зносіў нядолі! Не настане, кум, ніколі супакой між намі! За праўду, за шчасьце, за лепшую долю вазьміся, мой дружа, пастой! Разьвейся, туман, расплывецеся, хмары, над хатай пахілай маёй! Лійцеся, думкі—сэрца дзеці! Ці вас песьня-жальба, думкі, узгадавала? Ночанька мая ты, ціхі сон вясны! Вучэцеся, браты мае, думайце, чытайце! Не хадзі, коцю, па хаце, не пабудзі дзіцяці! Дам табе, косю, шаўковай травы. Дам табе, косю, крынічнай вады. Прывет табе, жыцьцё на волі! Добрай ночы, зара-зараніца! Здароў, марозны звонкі вечар! Здароў, скрыпучы мяккі сьнег! Ня кукуй ты, шэрая зязюля, сумным гукам у бары! Ты пакінь мяне, нуда мая нямая! Куды нясеш мяне, невядомая дарога! Адабраў ты, брат Андрэй, ад мяне кусок хлеба! Грамадзяне! ці трэба казаць вам, якую страту панесла наша кампанія ў асобе гэтага чалавека? Хто з вас, браты мае, не парываўся ў моладасьці ў невядомую даль? Што ёсьць на сьвеце мілей за цябе, узрост маладога жыцьця?! Ня будзеш цяжкая ты сыну свайму, зямля!

## § 27. Знакі прыпынку пры незалежных словах у сказе.

ПРАВІЛА 5. Пасьля выклічніка ставшца *клічнік* або *коска.*

1) *Клічнік* ставіцца ў тых разох, калі покліч выражаецца ня ўсім сказам, а толькі самым выклічнікам. *(Ат!* зьясі пасаліўшы. *Куга! я* табе ня слуга). У праціўным выпадку пасьля выклічніка ставіцца *коска,* а ў канцы сказу—клічнік ці пытальнік. *(Ох,* лепей удвох! *Эх,* скручу я дудку! *Ну,* што-ж далей будзе?).

2) Калі выклічнік памацняе слова, перад якім стаіць, або калі стаіць перад займеньнікам, то звычайна ня ставіцца ніякага знаку. *(Ой пайду* я лугам, лугам! Чую, *ах чую* той неўгамонны расходзісты звон! *Ой ты,* вецер, ня шумі, не сьпявай так нудна!).

3) Таксама выклічнік не выдзяляецца ніякімі знакамі, калі служыць якою-небудзь часьцінаю сказу. (Не злавіўшы, не кажы *тпру.* Калі *хап,* дык *хап).*

4) Складаныя выклічнікі пішуцца з злучком. (Ні *гу-гу. Охо-хо-х,* калі-б то я мог!). (Бач. правіла 50, 6).

5) Такія самыя знакі прыпынку ставяцца пасьля адмоўных і пацьвярджальных дапаможнікаў *не, так, але. (Не,* я ня дзіўны: я—сьляпы! *Не,* ня гэтага я спадзяваўся! *Так, так,* іначай бывала: не называўся забытым мой край. *Але,* гэта было так).

**Практыкаваньне 4.** *Сьпісаць і незалежныя словы падчыркнуць.*

Ну, матулька, будзь здарова! Ох, дачушка, хлеб твой горкі, горка твая доля! Ой, Грыгор, Грыгорка! што зрабіў ты з намі? Гэй, скажы, груган, нязнаны, скуль ты прыбываеш? Ой коню, мой коню, заграй пада мною! Ой воўча, сядзі моўча! Ой памалу, памалу, пастушок, іграй, майго сэрцайка не ўражай! На табе, нябожа, што нам нязгожа! Эх ты, небарака! то, знаць, па табе ўсё вецер сумуе ў вярбе?! За гарамі, ой дзяўчына, страшны бой вядзецца! Ой стук, маці, стук! Ой куды ты, казача, вандруеш?! Люлі, сьпі, мой сынку! Ой вы, браткі вы мае, запрагайце коні мне! Прэч, гадзіны, сьліўні, рапухі! Ну, сынок, служы здаровы! Гэй ты, Нёман, наша рэка! Ой вы, думкі, думкі—сэрца майго раны! Эх, наперла ліха, гора! Гайда сьцежкі пракладаць! Ой вецер шуміць, ой вецер гудзе, а цераз поле чалавек ідзе! Ах, як тут прыгожа! Ой чаму я стаў поэтам у нашай беднай старане!? Аа-аа, дзіця, спаць! Ат, вярзе нямаведама што! Брысь пад печ! Люлі, люлі, люлі! прыляцелі куры, селі на вароцях у чырвоных боцях. Ні тпру, ні ну. Охо-хох! усё гарох, рэдка—каша, беднасьць наша! Скажы на майго каня тпру, а то мае губы пазяблі. Танянёх, танянёх, куды кінуў, там і лёг. Ух, як холадна стала! Хоць вох, да ўдвох. Гэй ты, Нёман, быстры Нёман! Ох, скарэй-бы закрывала землю чорную зіма! Ой на дварэ дождж ідзе, а ў сенях лужа! Салавей пяе цяцёх, цяцёх, а я млода, ох-ох, ох-ох. О, наш чысты, наш свабодны Нёман—быстрая рака! Эх, ня лёгка за скацінай! Эт, патрапіць: невяліка пастуха навука. Ото, дзіва! Эх ты, разводзьдзейка, эх ты, бурлівае! Аа-аа, люлі! прыляцелі куры. Ой ляцела зязюлечка ды сказала ку-ку.

## § 28. Знакі прыпынку пры пабочных словах.

ПРАВІЛА 6. 1) Калі пабочнае слова стаіць у пачатку сказу, то пасьля яго ставіцца *коска. (Знаць,* па табе ўсё вецер сумуе ў вярбе). 2) Калі яно стане ў сярэдзіне сказу, то выдзяляецца коскамі з абодвух бакоў. (Ты, *мабыць,* забыўся). 3) А калі пабочнае слова стаіць у канцы сказу, то перад ім ставіцца *коска.* (Будзе вайна, *кажуць).*

**Увага.** Пабочных слоў можа быць два і больш. Напрыклад: Напішы мне, *калі ласка,* пісямко дахаты! *На мой густ,* дык і гэта добра.

**Практыкаваньне 5.** *Сьпісаць і пабочныя словы падчыркнуць.*

Ну, авось, табе паможа сусед. Стары дзед не пачуў, мабыць, грукату. Вот, напрыклад, маё, дык, пэўна-ж, райскае жыцьцё. На жаль, я не памятаю такога

здарэньня. Зьбяруцца, бывала, і люлькі закураць. Ты, разумеецца, паможаш мне ў гэтай справе. Нашая ластавачка, напрыклад, пралятае дарогу ўвелькі да дзесяці тысяч міль. Ен, мусіць, зусім забыўся, што далі яму такую мянюшку. У дарозе, вядомая рэч, спачатку ня чуеш, што цяжка, а потым і хунт пудам здасца. Ой, відаць, на навальніцу зранку прыпякае! Усё ішло, здавалася яму, звычайным парадкам. От, ведама, забаўляліся, як дзеці. Ох, паплыў-бы я, здаецца, хмаркі, разам з вамі! У нашай, напрыклад, воласьці другі ўжо год, як ідуць непарадкі. Прызнацца, Андрэй нават ня рад быў, што сьсек той дубок. Гэтая карчма, бывала, біткам была набіта людзьмі. Каню, відаць, ня вельмі падабалася несьці на сабе свайго нядбалага гаспадара. Апроч таго, яны і па натуры былі мурашкі-практыкі. Папраўдзе сказаць, мне не хацелася ехаць на ўловы. А вясна, тымчасам, рабіла сваё. Перш-на-перш, мы суседзі, а потым, і сама справа вымагае нашай супольнасьці. Бывала, устане, бедны, падыдзе да акна ды глядзіць на яснае неба. У вольныя дні, бывала, клікала цётка Ганна малога Юрку ў грыбы. Нарэшце, надумаліся яны паглядзець, што гэта значыць.

**Практыкаваньне 6.** *Сьпісаць вершы звычайнымі радкамі.*

**1. Родныя вобразы.**

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасьць мая!
Што маё сэрца да вас парывае,
Чым так прыкованы я.
К вам, мае ўзгоркі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя смутку і жальбы-нядолі,
Поўныя сумнай красы?
Толькі я лягу і вочы закрыю—
Бачу я вас прад сабой:
Ціха праходзіце вы, як жывыя,
Зьзяючы мілай красой.
Чуецца говар мне сьпелае нівы,
Ціхая жальба палёў,
Лесу высокага гоман шчасьлівы,
Песьня магучых дубоў...
Вобразы мілыя, вобразы смутныя,
Родныя вёскі і люд!
Песьні цягучыя, песьні пакутныя
Бачу і чую я тут.

*Я. Колас.*

**2. Песьня пры рабоце.**

Дружна з ахвотай,
Гэй, за работу,
Брацьця, скарэй!

З песьняю зычнай
У працы прывычнай
Будзе спраўней.

Гора з нядоляй
Ня знойдуць патолі
Доўга між нас.

Весела й хутка,
Мінюта ў мінютку
Сойдзе нам час.

У стуку і груку
Забудзем мы муку
Працы сваёй.

Шчыра і сьмела
Гайда да дзела
Цеснай сям'ёй!

Там, дзе цярпеньне,
Ў цемры гніеньне,
Стане расьці

Семя жывое;
Шчасьце сьвятое
Пасеем ў жыцьці.

Дружна з ахвотай,
Гэй, да работы,
Брацьця, скарэй!

Праца сьвятая
Хай прывітае
Нас ўсіх хутчэй!

*Ц. Гартны.*

**§ 29. Знакі прыпынку ў зьлітым сказе.**

**I. Коска.**

ПРАВІЛА 7. 1) Калі падобныя члены зьлітага сказу ня зьвязаны ніякімі злучнікамі, то аддзяляюцца *коскамі*, за выключэньнем апошняга члена, пасьля якога коска ня ставіцца; напр.: Кругом *круціць* завіруха, *гуляе, шуміць.* Восень *халодная, чорная, хмурная* сунецца *ціха, нячутна* штодня.

2) Але *коска ня ставіцца,* калі два падобныя члены зьвязваюцца злучнікам **і** альбо злучнікамі **ды, да, або, ці,** якія таксама можна замяніць злучнікам **і;** напр.: Перад ім *цьвілі* **і** *пахлі лугі* **і** *нівы* залатыя. Сонца высока *стаіць* на небе **ды** (=і) бяз жалю *паліць* зямлю. *Прыляцела* ластаўка з далёкага выраю **ды** (=і) *зашчабятала.* Жыў сабе *дзед* **да** (=і) *баба.* Жыта *жнуць, вяжуць, сушаць, звозяць у* гумны **або** (=і) *складаюць у* копы. Жыта сушаць *на сонцы* **ці** (=і) дома *на печы* **ды** (=і) мелюць *у жорнах* **або** (=і) *ў млiне.*

3) *Коска ставіцца*, калі аднакія члены зьвязаны злучнікамі: **а, але, ды** (=але), **да** (=але); напр.: *Саха і барана самі не багаты, а ўвесь сьвет кормяць. Паехаў баранаваць, але да поля не даехаў. Жыта злажылі,* **ды** (=але) *не надоўга. Шырокі двор, да* (=але) *невялікі збор.*

4) Таксама *ставіцца коска,* калі злучнікі паўтараюцца, напр.: *Будуць ветры за вугламі выць і плакаць, і стагнаць. У раньнюю вясну ні ў полі, ні ў лесе няма ні ягад, ні*

*кветак, ні грыбоў. Ні цьмы тэй, ні сьнегавай плесьні. То лясок, то луг, то поле, то лужок зялёны.*

5) Калі другі выказьнік у зьлітым сказе выражае пазьнейшае дзеяньне або вынік з першага, то *ставяць коску* нават перад адным злучнікам **і;** напр.: З *заходу насунулася цёмная хмара ды закрыла ад людзей гарачае сонца. Ідзе жняя, і еесела пяе. Я быў хворы, і ня мог прыйсьці на лекцыі.*

**Увага 1-ая.** Трэба адрозьніваць злучнік **і** ў зьлітым сказе ад злучніка **і,** якім пачынаецца новы сказ з сваім асобным дзейнікам; тады перад **і** ставіцца коска. *(Сонца прыгрэе, і сьнег растае. Хутка расьце жыта, і цешыцца сэрца працавітага гаспадара).*

**Увага 2-ая.** Злучнік **"і"** можа быць памацняльным словам, напр.: *Вот і ўсё. Вот і добра. І туз часам ваду возіць.*

*У* такіх разох злучнік **"і"** часта мае значэньне прыслоўя "нават", "таксама", напр.: *Няўжо-ж ты* **і** (=нават) *гэтага ня ведаеш? Прышло* **і** (=таксама) *лета.*

**Практыкаваньне 7.** *Сьпісаць ды заўважыць знакі прыпынку ў зьлітным сказе.*

Конік, сошка і араты мерна йдуць па полі. Назіму абміраюць і вужакі, і жабы, і яшчаркі. Сонца даўно ўжо зьвярнула з поўдню, але сьвяціла яшчэ горача. Працуюць людзі, поту ня чуюць, аруць і сеюць, і барануюць. Песьні, крык і гоман слухаў дзед Завала. І зелень, і кветкі, і песьні, і неба вясёлая яснасьць. Тут былі і старыя, і малыя, бабы і дзеці. Вераб'і і вароны, і галкі любяць жывіцца атрускамі ад чалавечай яды. Адны вочы і плачуць, і сьмяюцца. Вербы і вольхі калышуцца глуха. Сінія хвалі шумяць і бурляць. Ляціць і бусел, і жураў, і дрозд запеў і засьвістаў.

Цьвёрдую глебу рэж, уздымай. Надышла хмара з громам, з маланкаю. Зацьвіла яблыня, сьліва і груша. Весела і хутка, мінюта ў мінютку сойдзе нам час. У стуку і груку забудзем мы муку працы свае. Ціха, важна, спакойна, густа і страшна пранёсься ў небе першы гром. Над лесам бліснула яркая, борздая маланка ды накрыж перасекла хмару.

Павеяў вецер, і пагнаў перад сабою пыл і сухое лісьце. Край неба блішчаў шырокаю чырвонаю стужкаю. Цемната ўсё гусьцела і гусьцела ды закрывала ад вачэй і поле, і лес. Зоркі блішчалі і пераліваліся дзіўным блескам. Круглы месяц запаліў ліхтарык ды ціха сьвяціў над чорнай зямлёю. Поле, луг і гай, і лес схаваліся ў цьме ночы. Дрэвы, гумны, хаты абліліся ціхім сьветам месяца.

Сядзіць наш дзядзька, пазіхае і служку-стоража чакае. Ляціць машына, грозна дыша і сівым дымам цяжка пыша. Чалавек бачыць вачыма, чуе вушамі, нюхае носам. З гліны людзі робяць цэглу, гаршкі, а з пяску—шкло. На чужыне птушкі гнёзд ня ўюць, песень не пяюць, а толькі цярпліва чакаюць, калі кончыцца наша зіма. Мор і голад, і паводкі іх спалохаць не маглі. Лес наступаў і расступаўся, лужком зялёным разрываўся. Садок быў, праўда, невялічкі: дзьве вярбіны да тры дзічкі. За хатай поле пачыналася, дзе рос авёс, ячмень і грэчка.

**II. Двукроп'е, працяжнік і кропка з коскай у зьлітым сказе.**

ПРАВІЛА 8. Часам перад аднакімі членамі ў зьлітым сказе стаіць слова, якое абагульняе гэтыя члены; тады перад пералічэньнем іх ставіцца:

А) *Двукроп'е,* калі слова, што абагульняе, стаіць з іншымі якімі-небудзь словамі; напр.: З гліны чалавек робіць *такія* рэчы: цэглу, гаршкі, гарнушкі, міскі і талеркі.

Б) 1) А калі слова, што абагульняе, стаіць *адно,* бяз іншых якіх-небудзь слоў, то ставіцца *працяжнік;* напр.: *Усюды*—направа і налева быў парадак там і лад.

2) *Працяжнік* ставіцца яшчэ, калі такое слова стаіць пасьля пералічэньня аднакіх членаў, напр.: Хата і сені, лава і печ старая—усё ня так, як дома.

3) Таксама ставіцца *працяжнік* тады, калі зьліты сказ пачынаецца доўгім радам аднакіх членаў. *(Абломкі хат, бярвеньне, кроквы, старыя шулы, пажыткі людзкія, сарваныя навальніцай масты, труны з размытых магілак—плылі па вуліцах).*

**Увага.** Калі ў зьлітым сказе няма слова, якое абагульняла-б аднакія члены, то перад імі ніякага знаку ня ставіцца. (Увосень усе птушкі вылятаюць у вырай, *астаюцца толькі вераб'і, галкі, вароны, дзятлы ды яшчэ колькі лясных птушак).*

В) *Кропка з коскаю.* 1) Значна пашыраныя аднакія члены ў зьлітым сказе аддзяляюцца часам *кропкай з коскай* заместа коскі. *(Апусьціў Алесь галоўку; у ручках клуначак трымае; кулачкамі ўціхамоўку вочкі выцірае).*

2) Апроч таго, аднолькавыя члены зьлітага сказу аддзяляюцца кропкай з коскай і тады, калі пры іх ёсьць цэлыя сказы альбо такія словы, якія выдзяляюцца коскай. *(Падарожны расказаў людзям аб працы і вялікіх турботах, ім перанесеных; аб вышыні тых гор, якія ён бачыў; аб глебе ў тых краёх, надзвычайна ўрадлівай; пра зьвяроў і птушак, невядомых у нашым краі; пра людзей з непадобнай, інакшаю гаворкай).*

**Практыкаваньне 8.** *Сьпісаць і заўважыць знакі прыпынку пры аднакіх членах у зьлітным сказе.*

І ў Сымонкі прад вачыма ўсталі родныя куткі: хата бацькава, радзіма, жыцьця раніцы дзянькі. У вадзін год яны радзіліся, разам расьлі, разам гулялі, разам вучыліся і разам пасьвілі скацінку ў полі. Чуецца говар мне сьпелае нівы—ціхая жальба палёў, лесу высокага гоман шчасьлівы, песьня магутных дубоў. Сын каля камінку корчык падкладае, з бацькавай работы вочак ня спушчае.

Ціха цячэ ў нас Нёман, і ціха, і смутна, як час па растаньні. Ня імчыцца ён з рызыкай уперад, ня шуміць, ня гудзе і ня пышыцца сілай, а паволі, ступою, як скуты журбою, льлецца, як срэбра, па родным грунце. Міл яму ціхі гаёк каля лесу, любы зялёныя доўгія ніўкі, мілы лясы, пяшчаныя выдзьмы, горы, азёры, лугі, сенажаці, люб яму і жоўты пясочак на ўласным беразе.

Першыя кветкі, зялёная травіца, сьпевы птушак—усё паказвала, што пачалася вясна. На полі часьцей сталі паказвацца людзі то з бараною, то з сахою, то з возам гною. Усе гаспадарскія прылады: калёсы, сані, барана, вупраж на каня—усё было наладжана ды трымалася ў парадку. І гэты смагай лес засланы, і родны Нёман, і курганы, і хвайнякі, і грушы ў полі—усё блізка сэрцу яго стала.

Як усё тут мудра збудавана, як чыста, хораша прыбрана! У кожны міг каня-чыгункі зьяўлялісь новыя малюнкі: слупы мігцелі верставыя, дарожкі, сьцежачкі крывыя; лясы, гаёчкі выніналі, і цэркві вежамі блішчалі. Ідзе-брыдзе за сьледам сьлед: і ноч, і дзень, і цьма, і сьвет; і песьні кліч, і сьмерці цьвет. Нашы хаты, вёскі, сёлы сівым мохам абрасьлі. Па дарозе пападаліся ўсялікія грыбы: казьлякі, асавікі, лісіцы, сыраежкі і іншыя. Пачаліся на полі работы: прышлі жнеі з сярпамі, касцы з касамі, гаспадары з жніляркамі. Прыемна глядзець на мора, стоячы на беразе або едучы на параходзе. Ляцяць птушкі ў вырай розна: жураўлі—ключамі, гусі—наўскось радком, качкі—папярочнымі роўнымі радкамі, а шпакі і салаўі—чародкамі. Выходзіў меншы брат увечар на двор, браў сваю скрыпку, садзіўся на прызьбе каля хаты ды граў. Старшы брат пазіраў сьмела, гаварыў скора, мову меў адмерную. Лозы, алешнік, касацісты дзягіл, ажыньнік, маліньнік, аер з ачаротам—стаяць над вадою разгатай сьцяною. Гаварылі браты аб усім: аб горкай сваёй долі, аб праўдзе, аб жыцьці. Былі тут розныя будынкі: гуменцы, гумны і адрынкі, хлявы і стайні, і аборы. Вітаю вас, як блізкіх родных, старыя хвоі на палёх; і вас, красенцы сьцежак згодных, сьляды нязьлічаных дарог; і гэты жоўценькі пясочак, дзе хвойкі зелена растуць; бярозы тыя, што ў шнурочак за рубяжы зямлі бягуць (Якуб Колас). Яму па душы быў і гэты глухі куток Палесься, аб якім яшчэ дома так многа цікавага наслухаўся ад аднаго старога аб'езчыка; і гэты народ з асобнаю мовай і звычаямі, так непадобнымі да мовы і звычаяў тых беларусаў, з гушчы якіх

вышаў Лабановіч; гэты непачаты край старажытнасьці, якая на кожным кроку кідалася яму ў вочы ды затрымлівала на сабе яго ўвагу; і гэты выгляд самой мясцовасьці, агульнага тону якой ня мог яшчэ ўлавіць Лабановіч, але ў якой таксама было многа цікавага і, на яго погляд, павабнага (Т. Гушча).

**Задачка 3-яя.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, коску.*

Усё хаваецца ад холаду і дажджу. Увосень усё чарнее ды траціць свой колер. Будуць ветры за вугламі выць і плакаць і стагнаць. Кляновае і дубовае лісьцё гаспадыні зьбіраюць ды пякуць на ім хлеб. Засыпаюць назіму п'яўкі смаўжы чарвякі жукі і мухі. Застаюцца зімаваць з намі толькі галкі вароны сарокі цецярукі дзятлы ды яшчэ некаторыя птушкі. Каровы козы зайцы і ўся іншая траваедная жывёла есьць бадай што заўсёды, а лісы ваўкі левы тыгры і іншыя мясаедныя зьверы ядуць рэдка і доўга могуць цярпець голад. Яшчэ даўжэй без яды жывуць рыбы і розныя казюлькі. Жывёлы даюць чалавеку мяса малако шкуры воўну тлустасьць і шэрсьць. Птушкі нясуць чалавеку яйкі і даюць пер'е і пух. Чалавек арэ поле сее збожжа садзіць капусту моркаў буракі і іншае. З дрэва чалавек будуе хаты робіць віціны і патрэбнае судзьдзё. Карова конь сабака воўк мядзьведзь не пазнаюць нічога, калі не панюхаюць.

Падыдуць яны да магілы стануць на калені горка плачуць і доўга пазіраюць на той камень пад якім ляжыць іх сын. Потым скажуць нешта адно аднаму зьдзьмухнуць пыл з каменнага прыклада паправяць галінку ў дрэва ды зноў шэпчуць пацеры і ня могуць пакінуць месца гэтага адкуль ім бліжэй да сына свайго да ўспамінкаў аб ім. Глуха трывожна шуміць асака. Сьвішча плача і галосіць завіруха злая. І зямля і лес пануры Новы Год віталі. У полі песьні шум і гоман. Сьпевам дружным ціхім звонам поўніцца ўвесь луг. Шумеў і лес і луг з травою і ўсе расьліны на зямлі. Коска серп крывы працу скончылі. Згінулі сьцюжы марозы мяцеліцы.

**Задачка 4-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, коску або двукроп'е.*

Болей слухай а меней гавары. У госьцях добра а дома ляпей. Гара з гарою ня сходзяцца а чалавек з чалавекам заўсёды. Думы за гарамі а сьмерць за плячамі. Хоць з вадою абы не з бядою. Лісьце пажоўкла ды патроху асыпаецца на дол. Абы дзень прайшоў ды да нас прыйшоў. Ідзі да ня-баўся. Праз некалькі дзён поле зазелянела ды зноў выглядае сьвежа і прыгожа. Дуб вялік да дуплават. Высока падняў да зьнізу не падмураваў. За маё жыта ды мяне-ж пабіта. Збожжа сушаць на сонцы ці на печы ды мелюць у жорнах ці ў мліне. Доўг не раве а спаць не дае. Сонца даўно ўжо зьвярнула з поўдню але сьвеціць яшчэ горача. Не бяда што чорна абы была праворна.

З гліны робяць такія рэчы цэглу гаршкі міскі і талеркі. Астаюцца зімаваць у нас гэткія птушкі вароны галкі вераб'і дзятлы ды яшчэ колькі лясных птушак. На восень прыпадаюць такія месяцы верасень кастрычнік і лістапад. Шмат якія зьверы ў самы халодны час засыпаюць як напрыклад касматы мядзьведзь і вожык. Гаварылі браты аб усім аб горкай сваёй долі аб праўдзе аб жыцьці. За сталом сядзела ўся сям'я з краю—бацька каля яго—матка а пры маці—Наста з братам. Ляцяць птушкі ў вырай розна неаднальково жураўлі—ключамі гусі—наўскось радком качкі—папярочнымі роўнымі радамі а шпакі і салаўі— чародкамі. Па дарозе пападаліся ўсялякія грыбы казьлякі асавікі лісіцы сыраежкі і іншыя. Зайцы бываюць двух сартоў шаракі і белякі.

## § 30. Знакі прыпынку ў складана-злучаным сказе.

ПРАВІЛА 9. Злучаныя сказы аддзяляюцца адзін ад другога *коскаю, кропкаю з коскай, двукроп'ем, а часам працяжніікам ці трохкроп'ем.*

1) *Коска* ставіцца перад тымі злучнікамі **(і, а, або, ці, але, толькі** і інш.), якія становяць граматычную сувязь паміж злучанымі сказамі. (Пачынаецца парадак, *і* ўсе прымаюцца за работу. Пачарнеў на полі сьнег, *і* на ўзгорках сталі паказвацца чорныя

лапінкі. Спачатку гром грымеў, а потым дождж пайшоў. Або пан, *або* прапаў. Ці паплачаш, *ці* паскачаш. Сонца яшчэ ня ўзыходзіла, *але* ўжо павеяла халадком. Уся сямейка сьпіць ды спачывае, *толькі* матка з вераценцам прытулілась к печы ды прадзе кудзельку).

2) *Коска* ставіцца паміж злучанымі сказамі і ў тым выпадку, калі граматычнай сувязі (злучнікаў) няма, а сказы мала разьвітыя і цесна зьвязаны паміж сабою сэнсам. *(Прыгрэла сонейка, згінуў сьнег, асушылі вятры зямельку. Сонца шчыра разлівала блеск гарачы і цяпло, поле жыцьцем трапятала, усё сьпявала і цьвіло).*

3) *Кропка с коскай.* Значна пашыраныя (разьвітыя) сказы або ня цесна зьвязаныя сэнсам аддзяляюцца адзін ад другога *кропкай з коскай. (На цьвічку павешан начнічок убогі; сумна пазірае месячак двурогі; карагоды зорак угары мігаюць, а ўнізе сьняжынкі срэбрам адліваюць).*

4) *Двукроп'е.* Калі адзін сказ паясьняе другі, або калі прапушчаны паясьняльныя словы *(а ўласна, г. значыць, або, дзеля таго)* ці супярэчныя або вінавальныя (прычынныя) злучнікі, то паміж такімі сказамі ставіцца **двукроп'е.** *(Перад ім стаяў ня ўбогі: перад ім стаяў гаспадар маёнтку. І на могілках прыбавілася яшчэ адна магілка: гэта пахавалі маленькага Юрку. Я іх ня ваблю сваёю красою: вецер інакшы ім дзьме ў галаве. Не схаваешся, сьнег, ад сонца: усюды яно цябе знойдзе. Над калыскай матка ночку каратае: хворага сыночка цешыць, забаўляе).*

5) *Працяжнік.* Калі ў злучаных сказах выражаецца нешта такое, што адбываецца скора, адно па другім, або калі прапушчана слова ці нават некалькі слоў, то ставіцца **працяжнік.** *(Толькі першыя пеўні прапяялі,—як чую—нехта едзе на маю атаўку. Ня я яму—ён для мяне падмогай быў).*

6) *Трохкроп'е.* Там, дзе мова абрываецца, або не даказваецца, ставіцца недаказ або **трохкроп'е.** *(Эх, каб дачка!.. ня жала-б адна. Ты ўжо ўходзіш, браце, у годы... колькі табе будзе? Рвануў я дзьверы і вырваў... к брату... брата няма).*

**Практыкаваньне 9.** *Сьпісаць і заўважыць знакі прыпынку ў складана-злучаным сказе.*

Ластаўка дзень пачынае, а салавей канчае. Сонца паліць што раз гарачэй; пажоўклі маладыя каласкі; пажоўкла зялёная саломінка. Тут рэчка пад бокам, і процьма ў ёй рыбы. Слухаюць людзі, і сэрца іх млее. Падышоў паляўнічы да ямы і бачыць—у вадным кутку скрыпач, а ў другім воўк. І такая ў іх музыка пайшла; скрыпач грае, воўк вые, а другія ваўкі з лесу сабе голас падаюць. Плача зіма, льлюцца яе халодныя каламутныя сьлёзы. Падымуцца хмаркі ўночы, павее вецер з халоднага боку, і назаўтра выпадзе сьнег. Варушыцца рака, падымаюцца яе грудзі, трасе яны сваімі дужымі плячмі, і лёд покае, трашчыць. Ціха і плаўна коцяцца воды вольнага Нёмна ў ціхую даль, толькі ў часе глухой непагоды з берагу Нёман ня выйдзе амаль. Ці саву аб пень, ці пень аб саву—усё саве бяда. Атаўка—сену прыбаўка, да ня ўмеў скасіць Саўка. Вось на сьвеце як бывае: хто працуе, той і мае. Ня страшыць сьцюжай там зіма, ні злых марозаў там няма, а краскі вечна там растуць, у гаях птушкі там пяюць. Ажывіўся замак хмуры: усюды блеск, гарац агні. Надумаліся мы каня прадаваць: ціхават быў і дыхавіца прычапілася. Пішчыць дзесь чайка на балоце; пліска трасе хвастом на плоце; турчыць працяжна жабін хор і дзеці рвуцца з хат на двор. Буйным жыцьцём усё чыста кіпела; слава далёка за мора ішла; ворага кожны за плечы браў сьмела; цемра чужынцаў ня страшна была. Хлопцы папрасілі пабудзіць іх заўтра да сонца: яны надумаліся пайсьці ў грыбы. Яшчэ сонца было нізка, а ў хлопцаў былі ўжо поўныя кошыкі баравікоў. Тут было глыбока, і вада мела цёмны колер ад гэтай глыбіні. Кінуліся першыя буйныя каплі, і дождж паліўся, як з вядра.

**Практыкаваньне 10.** *Сьпісаць і заўважыць знакі прыпынку ў злучаным сказе.*

Прачнуліся нівы і хаты; уся ў полі людзкая сямейка; за сошкай шнуруе араты; ля статку іграе жалейка. Знаць, сіла ў сяўца не малая: захоча—і сьвет пераверне. З студні вада па рыштоках праводзіцца на поле, і бясплодная пустыня ажывае ўраджаем. Суша і вада зусім не падобны да сябе: па зямлі можна хадзіць, а ў вадзе мы тонем. Неба зацягнулася лёгкімі хмарамі, як кудзеляю, але было ціха і цёпла, як часта трапляецца ў харошую веснавую ноч. Нікла жыцьце ў лесе шумным, агаляўся твар зямлі, і ляцелі з крыкам сумным над балотам жураўлі. Доўга ня мог заснуць Міхаська: заўтра рана выбіраецца ён у дарогу. Паветра мы ня бачым, але яно абкружае нас з усіх бакоў. Калі мы пабяжым, паветра ўдарае нам у твар, і тады мы яго чуем. Над калыскай матка ночку каратае: хворага сыночка цешыць, забаўляе. Пачарнела кола, і даўно мохам чорным абрасло яно. Кінь толькі вокам да гэтага люду—сьціснецца сэрца ад болю: столькі пабачыш ты гора усюды, столькі нуды без патолі! Шмат у нашым жыцьці ёсьць дарог, а вядуць яны ўсе да магілы. Ярка на камінку смольны корч палае; бацька на калодцы лапаць выплятае; латае халацік на зуслоне матка: у школку заўтра пойдзе іх сынок Ігнатка. Пасьціхалі птушак сьпевы; паскідалі лісьця дрэвы; зьніклі кветкі на палёх; пахаваліcь людзі ў хаты; сумна лес глядзіць кашлаты; жоўты ліст увесь палёг. На камінку корч палае; злотам іскры скачуць; за ваконцам вецер ходзіць; глуха вербы плачуць; сьнегам вецер сыпле ў дзьверы; ходзіць шум па лесе. Гасьне корчык на камінку; пацямнела ў хаце; поўнач пеўні пракрычалі, да ня сьпіць ўсё маці. Пакарочалі цёплыя летнія дзянькі; перастала грэць яснае сонейка; не падымаецца яно высока над зямлёю; яго косы ня сьвецяць ужо так ясна; яны ня грэюць і ня песьцяць ужо маткі-зямлі. Пачаліся прымаразкі; ліст на дрэвах пажоўк і асыпаўся; згінулі кветкі, што ўбіралі поле і луг; ня шастаюць у траве конікі, ня гудуць пчолкі, “не таўкуць куцьці” камары і мошкі.

**Задачка 5-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, коску або кропку з коскай.*

Лес гудзе дрыжаць галіны стогне бор хваёвы глуха стогнуць верхавіны гнуць свае галовы. Жарыць сонца бяз літосьці варам пыша ад палёў трэцца жыта ў пыл на просьце зерня сыплецца далоў. Кончана работа сярпа пачынаюць капаць бульбу. Нахмурылася неба веюць халодныя вятры сыплецца дробны дожджык. Вымерзьлі лужынкі высахла гразь халодная кара лёду крэпка лягла на рэкі і азёры. Белыя валокны сьцелюцца над домам не сьпяваюць птушкі сьціхнуў лесу шолам. Сьвішчуць птушкі над балотам аж гамоніць лес і гай. Над балотам стогнуць кнігі жураўлі ўгары крычаць. Ціха Нёман калыхаўся у высокіх берагох дуб магучы адбіваўся ў яго дробных грабянёх. Сонца шчыра разьлівала блеск прыветны і цяпло поле жыцьцем трапятала ўсё сьпявала і цьвіло. На цьвічку павешан начнічок убогі смутна пазірае месячык двурогі карагоды зорак угары мігаюць а ўнізе сьняжынкі срэбрам адліваюць. Зусім састарэўся дзед: ногі яго ня ходзяць вочы ня бачаць вушы ня чуюць зубы павыкідаліся. Недалёка ад вёскі ёсьць могілкі. Канавы навокала іх зарасьлі травою сівыя драўляныя крыжы пахіліліся і гніюць каменныя прыклады парассованы з магіл толькі некалькі дрэвак кідаюць цень на зямлю. Увесну прырода зноў ажывае: растае сьнег распускаюцца дрэвы зацьвітаюць кветкі пяюць птушкі гудуць пчолкі лётаюць матылькі зьвіняць камары. На камінку корч палае злотам іскры скачуць за ваконцам вецер ходзіць глуха вербы плачуць. Зазьвінелі званочкі затупацелі коні пранёсься крык. Прачнуліся нівы і хаты уся ў полі людзкая сямейка за сошкай шнуруе араты ля статку іграе жалейка. Сьвет цэлы зіяе каберцам шум некі ад пушчаў нясецца з грудзей як ня выскачыць сэрца душа кудысь рвецца ўсё рвецца. Ярка сьвеціць сонца ліст не скалыхнецца горача бясконца пот на землю льлецца.

**Задачка 6-ая.** *Сьпісаць і паставіць знакі прыпынку, якія трэба.*

Абы бяда а шыя будзе. Бяда бяду вядзе а трэцяя паганяе. Глядзець—вялік а малы лік. Сьвет вялік а ў сьвеце—людзі. Хоць усім братом ня вельмі соладка жылося але

меншаму брату выпала самая горшая доля. Затупацелі на гумнах цапы гэта людзі малоцяць збожжа. На могілках прыбавілася яшчэ адна магілка гэта пахавалі маленькага Юрку. Тут ня гандаль тут ня крама няма дзёгцю няма солі. Кінуў ён гульню з сябрамі трэба дбаць на хату. Вось мы цяпер якія ў школу вучыцца ходзім. Над калыскай матка ночку каратае хворага сыночка цешыць забаўляе. Расьліна зрабіла сваю летнюю работу выгадавала насеньне і раскідала яго па зямлі. Нават вольнае паветра служыць чалавеку вецер круціць крыльля ў ветраку і надзімае парусы на караблёх. Чалавек працуе сам і прымусіў працаваць на сваю карысьць жывёлу конь яму возіць і арэ сабака вартуе дом. На могілках нешта плакала гэта пугач сьвістаў у гнілой капліцы. Вось на сьвеце як бывае хто працуе той і мае.

**§ 31. Знакі прыпынку ў складана-залежных сказах.**

ПРАВІЛА 10. 1) Залежны сказ аддзяляецца ад свайго асноўнага сказу коскай. *(Ня шукайце кветак у полі, калі вясна к нам ня прышла. Кожнае стварэньне прызвычаена да таго жыцьця, якім яно жыве, і да таго месца, дзе яно жыве).*

2) Калі залежны сказ стаіць у сярэдзіне асноўнага, то ён выдзяляецца *коскамі* з абодвух бакоў *(Сад, што быў чорны, ужо распусьціўся. Гай, што быў цёмны, зазелянеўся).*

3) Сузалежныя сказы аддзяляюцца адзін ад другога, як у злучным сказе: 1) коскаю, калі сказы кароткія, і 2) кропкай з коскай, калі сказы значна пашыраныя (разьвітыя) або маюць пры сабе залежны сказ. (Будзеш ты чытаць нам—цёмным няўмекам, *што там у кнігах пішуць, што мы ў сьвеце значым, бо мы самі цёмны, сьвету мы ня ўбачым. Калі асеньнія навіны зьмянілі сад, калі з бяроз рваў лісьця вецер, а мароз, наліўшы ягады рабіны, траву губіў; калі патроху чырванелі чаромха, ліпа, стройны клён, а гнёзды змрочныя варон між голага гальля чарнелі, і грозны вечару пажар палаў між бура-сівых хмар; калі асеньні вецер дзіка стагнаў і глуха па начах грымеў у наш залезны* дах,—тады да лета Вераніка ад нас зьнікала *ў* інстытут. *М. Багд.).*

4) Калі прапускаецца прычынны ці параўнальны злучнік, то звычайна ставіцца **двукроп'е.** *(Горш, калі баішся: і ліха ня мінеш, і надрыжышся);* а калі прапускаецца ўмоўны злучнік, то ставіцца **працяжнік.** *(Лета праляжыш—зімою з торбай пабяжыш. Ня хочаш з моладасьці працаваць—будзеш пад старасьць з торбай танцаваць).*

**Практыкаваньне 11.** *Сьпісаць і заўважыць знакі прыпынку ў складана-залежным сказе.*

Люблю пазіраць я на поле вясной, як ветрык жартлівы плыве збажыной. Люблю я дарогі, што леглі між гор, і грушы старыя, што ў жыце шумяць. Што сёньня зробіш, таго заўтра ня будзеш рабіць. Тады, госьць, бывай у мяне, калі поўна ў гумне. Моцна сьпіць шырокая рака: глядзіш на яе—і здаецца, што яна мёртвая. А крыгі, як дзікія зьверы, злосна скрыгічуць, як ворагі людзкога шчасьця. Як сьнег растае, як сонейка пойдзе ўгару, то лічы, скора папрылятае “вырай” з-за мора; а як абсохне зямля, ды спадуць рэчкі, пойдуць у поле цёлкі і авечкі; і кожны весел, лёгкі, як пташка, хоць усякі працуе, як тая мурашка. Улетку вятры, што веюць над сушай, робяцца цёплыя. Край неба, дзе зайшло сонца, блішчаў шырокаю чырвонаю стужкаю. Весела пазіраў стары лес, што рос за сялом ды цягнуўся па краёх поля. Мёд носяць рабочыя пчолы, каторых у вульлі вельмі многа. Мы ня прывыклі бачыць тае карысьці, якую прыносяць нам птушкі. Ёсьць на сьвеце бязводныя пустыні, дзе не растуць ні травы, ні дрэвы. За хатай поле пачыналася, дзе жыта хораша гайдалася, і рос ячмень, авёс і грэчка. На зямлі ёсьць суша, на якой стаяць будынкі, растуць дрэвы, засяваюцца нівы, пасецца статак і іншае. Ёсьць такія месцы на поўдні, дзе зіма лічыцца самай прыемнай парою году. Я ня знаю, чым я так прыкуты да тваіх, мой родны краю, вобразаў пакуты. Няхай плачам ў сіняй

далі песьня разальлецца, каб ўсе людзі ў сьвеце зналі, як нам тут жывецца! Глядзела Анелька, як бацька поўнымі жменямі рассыпаў па полі дробныя зярняткі. Людзі любяць птушак за тое, што яны прыгожыя. Прачнуліся пчолкі ад зімовага сну і бачаць, што сонейка сьвеціць, што ўсюды ўжо цёпла. Дзед расказаў нам, што пчаліны рой складаецца з маткі, трутняў і рабочых пчол. Лёгка вытлумачыць сабе, чаму на марозе залезныя рэчы здаюцца халаднейшымі, а дзеравяныя, скураныя і суконныя—цяплейшымі. Зразумела, чаму на сякеру робяць дзеравянае тапарышча, а не залезнае. Таксама зразумела, чаму ўлетку мокрыя дошкі хутчэй сохнуць пад залезным дахам, чымсі пад страхою. Як лёгкі дым, як лёгкі пар, расталі ў небе кучы хмар. Там, дзе расьце шмат лесу, чалавек талянтуе лесам. На дварэ было цёмна, як у скляпеньні. Сошку сваю ты нанова наладзь, лепш каб было, чалавеча, араць. Добра глядзі, каб агрэху ня даць; усё, як належыць, на полі урадзь. Мурашнік робіцца так, што дае прыпынак і схованку мурашкам і ад холаду, і ад дажджу, і ад сьпякоты. Чыста ад пырніку поле апратай, бо калі ў пырнік зерня пасееш—з працы свае карыстаць не здалееш. Зарадзіў званец—хлебу канец. Каб ня ежка ды не адзежка, дык была-б грошай дзежка. Зарадзіла мятліца—хлебу палавіца.

**Задачка 7-ая.** *Сьпісаць і паставіць, дзе трэба, коску.*

Бяда што ня п'ецца вада. Усё забыта што зямлёю пакрыта. Галасок як тоненькі валасок. Гол як сакол. Дурная тая дамова дзе вала бадзе карова. І без папа ведама што ў нядзелю сьвята. Калі ўмалотна дык і завозна. Мы з табою як рыба з вадою. Глухі не дачуе дык прыложыць. Настрашыў мех дык і торба страшна. На тое і шчука ў моры каб карась не драмаў. Не бяда што чорна абы была праворна. Няма тэй хаткі каб ня было звадкі. Ня так шкода як нявыгода. Ня там траціш дзе купляеш а там дзе прадаеш. Рыба шукае дзе глыбей а чалавек дзе ляпей. Рынуў прымаўкай як гразьзю ў вочы. Цьвіце як макаўка. Цёмная ночка цягнецца доўга як год. Цесна зьбілісь нашы хаты як авечкі ў летні жар. Крыж пахінуўся як кветка ў буру. Пчала ляціць проста на тую кветку якая ёй патрэбна. Свае бяды нікому не кажы бо добры зьлякнецца а злы пасьмяецца. Кожнае каліва жыта зялёны каласок выпускае ды становіцца паважным бо яно пачувае што трымае вялікі скарб для людзей. З печы вымаюць гатовы хлеб які можна есьці як толькі крыху астыне. Шмат трэба часу і працы каб мець бохан хлеба. У моры жыве шмат усялякае рыбы якая ў нас не вядзецца. Варочаюцца птушкі ў родны край дзе летась пакінулі свае гнязьдзечкі. Ціха было на сэрцы як ціха была сама цёмная ночка. Жаль прападаў як прападае туман з усходам сонца. Чалавек разумее што яму кажуць. Чалавека разумеюць другія людзі бо чалавек мае дар слова. Чалавек можа ўявіць сабе тыя рэчы якіх няма перад вачыма. Было відаць што не на пажытак пазьбіраліся тут птушкі а дзеля якойсь іншай справы. Сьнег блішчаў як халодная сталь. Бяда як дуда: пачнеш дуць дык сьлёзы набягуць.

### § 32. Знакі прыпынку пры адасобленых часьцінах сказу.

ПРАВІЛА 11. 1) Калі дзеяпрыметнік-азначэньне з паясьняльным словам ці з некалькімі паясьняльнымі словамі стане *пасьля* таго слова, да якога адносіцца, то аддзяляецца **коскаю,** напр.: Зноў на полі рунее *збажынка, абуджаная сонцам.*

Калі такое дзеяпрыметнае выражэньне стане *перад* тым словам, да якога адносіцца, то коскаю не выдзяляецца, напр.: "Адны толькі *парыжэлыя ад сонца* стагі стаялі па грудочках". Калі выражэньне "парыжэлыя ад сонца" паставім *пасьля* слова "стагі", то яно выдзяляецца коскамі, напр.: Адны толькі стагі, *парыжэлыя ад сонца,* стаялі па грудочках.

2) Але калі ў такіх разох перад дзеяпрыметнікамі ці прыметнікамі з паясьняльнымі словамі можна паставіць дзеяпрыслоўі "будучы" ці "быўшы", то такія выражэньні аддзяляюцца ад свайго азначальнага слова коскай; напр.: *Зруйнованы* (будучы зруйнованы) *вайною,* багаты край асірацеў. *Поўны новых сіл і сьветлых надзей, я* сьмела ішоў наперад.

3) Дзеяпрыслоўе з усімі словамі, што да яго адносяцца, заўсёды выдзяляецца *коскамі*. (Зябнуць вербы на марозе, *прытуліўшыся к страсе*. Вераценца, з *рук упаўшы*, грукне).

4) Адно дзеяпрыслоўе, калі стаіць у пачатку або ў сярэдзіне сказу, таксама аддзяляецца коскаю. (Пад дуб, *рохкаючы*, падбегла лапавухая сьвіньня. У хворага пытаюць, а здароваму, *ня пытаўшы*, даюць. Воўк, *не выбіраючы*, душыць авечкі. *Сядзеўшы*, нічога ня высядзіш).

5) Але калі адно дзеяпрыслоўе (бяз паясьняльных слоў) стане ў канцы сказу, то коскаю не аддзяляецца, напр.: Ой пайду я *гукаючы*. Ён пайшоў *не разьвітаўшыся*.

6) Адасобленыя часьціны сказу, выражаныя дапаўненьнямі з прыназоўнікамі, разам з залежнымі ад іх словамі ці без залежных слоў, аддзяляюцца коскамі, напр.: Тоўсты мужчына, *бяз шубы і шапкі*, хадзіў па тратуары. Мы, *пад уплывам вашых слоў*, адмовіліся ад падарожжа ў горы.

**Практыкаваньне 12.** *Сьпісаць ды адасобленыя часьціны сказу падчыркнуць.*

Тоўстыя, аброслыя мохам старыя хвоі гарэлі, як сьвечкі. Хто з вас ня бачыў круглых кучак мурашніку, падобных да горкі зямлі, насыпанай наўмысьля з жоўценькага пясочку? Як толькі праходзілі гэтыя, няведама адкуль нахлынутыя думкі, Тадора зноў бралася за сваю работу. Цякла тут з лесу невялічка, травой зарослая крынічка, абодва берагі каторай лазьняк, алешнік абступалі. Густой апрануты ліствой, штось шэпчуць вербы між сабой. На лёдзе паказаліся палонкі, прагрэтыя сонцам. Шмат вады цячэ па рытвах, прамытых у зямлі. Шмат вады цячэ па прамытых у зямлі рытвах. Асачыўшы, дзе асталяваліся ваўчаняты з аблеткам, лясьнік загадаў зрабіць аблаву. Зірнуўшы на мурашнік, можна падумаць, што мурашкі бегаюць, поўзаюць, кішаць бяз ніякага парадку. Гальлё спусьціўшы над парканам, расла тут грушка з тонкім станам, а каля хаты у садочку, схіліўшысь ціхенька ў куточку, стаялі вербы дзьве старыя. Даганяючы, не нацалуешся. Зваліўшыся з высакосьці, часам паломіш сабе косьці. Ня шукаючы, ня знойдзеш. Апусьціўшы нізка стройны валасок, ные сірацінка, плача каласок. Вышаўшы з душнае школы на прывольле, на простор, дзеці весела бегалі, крычалі, даганялі адно аднаго. Хто з вас, гуляючы, не ўзьбягаў на круглыя горкі мурашнікаў, каб толькі пацешыць сябе? Разварачаючы мурашнік, вы не падумалі нават, якую бяду робіце мурашкам. Не пастаяўшы ў парозе, ня будзеш сядзець і ў куце. Баючыся воўка, і ў лес не хадзіць. Ня згубіўшы, нечага шукаць. Пагнаўшыся за двума зайцамі, ніводнага ня зловіш. Пытаючыся, дапытаешся. Чужое бяручы, сваё гатуй. Каля вады ходзячы, абмочышся. Паволі едучы, далей будзеш. Па балоце чайка, ходзячы, рагоча.

**Задачка 8-ая.** *Перанесьці набраныя простым шрыфтам дадзеныя часьціны сказу ў другое месца гэтак, каб яны сталі адасобленымі часьцінамі.*

*Адны толькі* парыжэлыя ад сонца *стагі стаялі па грудочках.* Тоўстыя, аброслыя мохам старыя *хвоі гарэлі, як сьвечкі. На лёдзе паказаліся* прагрэтыя сонцам *палонкі. Шмат вады цячэ па* прамытых у зямлі *рытвах. Я ўстаў* з-за *стала* не пад’еўшы. *Брат лёг спаць* не распрануўшыся. *Я купіў гэты стол* не таргуючыся. *Дзеці доўга не маглі заснуць* пад уплывам страшных казак. *Мы прышлі дадому* мокрыя і галодныя. *Ён паглядзеў на мяне* заплаканымі ад жалю *вачыма. Ты пабудуеш сабе новы* дзеравяны *дом. Воўк душыць авечкі* не выбіраючы. Набытая працаю *капейка пераважыць лёгкі заработак.* Выратаваны з гразі *конь і лужыны баіцца.* Ад жалю па дзецях *маці зусім захварэла. Чарнелі* затопленыя да самых стрэх *сялянскія хаткі.* Пад уплывам вашых слоў *мы пабаяліся ісьці ў лес.*

**Практыкаваньне 13.** *Сьпісаць звычайнымі радкамі наступны верш:*

**Нёман.**

Льлецца Нёман паміж гораў,
Сьветлы, чысты, як з расы,
Накапаў ён ям і нораў,
Гоніць воду праз лясы.

Гэй ты, Нёман, наша рэка!
Поіш ты і корміш нас,
Бедну чайку чалавека
Ты з сабой насіў ня раз.

А вясною на прасторы
Дуб стары сярдзіта гнаў,
І насіў ты крыгаў горы,
Луг і поле затапляў.

Разьліваўся па ракітах,
Занімаў і лес, і гай;
Доўгавязы плыт за плытам
Носіш ты ў далёкі край.

Колькі раз рыбацкі човен
На грудзёх тваіх гуляў!
Гэй ты, Нёман, быстры Нёман,
Колькі дум ты мне нагнаў!

Чуў ты смутак горкай долі
Свайго сына мужыка,
Чуў ня раз у чыстым полі
Плач і сьлёзы бедака.

У ціхі вечар над табою
Дудка плакала ня раз,
І кацілася сьлязою
Песьня ў раньні летні час.

А на беразе, пад дубам,
Ў ночку цёмную рыбак
Спаў ня раз пад мокрым лубам,
Гнуўся з холаду бядак.

А у боры вецер кветку
Да грудзей тваіх схіляў;
І ў табе касец улетку
Пот крывавы абмываў.

Над табою месяц круглы
Ў ясным небе ціха плыў,
І з табой высокі, смуглы
Лес ціхутка гаманіў.

Перарэзаў край ты родны
Беларуса-бедака...

О, наш чысты, наш слабодны,
Нёман, быстрая рака!

Ты цячэш далёка—знаю:
Ў землю Літвы і нямцоў...
Раскажы-ж чужому краю
Пра жыцьцё тваіх сыноў!

*Я. Колас.*

**§ 33. Знакі прыпынку пры пабочным сказе.**

ПРАВІЛА 12. 1) Пабочны сказ выдзяляецца *коскамі,* калі ня вельмі пашыраны. (Там, *здавалася яму,* павінна быць дарога да роднае вёскі).

2) *Працяжнікамі або дужкамі,* калі пабочны сказ састаўны па форме або на яго зварочваецца асаблівая ўвага. (Раз пад вечар—*гэта было ў нядзелю, калі шмат народу сядзела на прызбах—ішоў* Антось з места. На ўсю нашую вёску *(а вёска хат трыццаць)* ня было набожнейшага чалавека за Пранука Агорчыка).

**Практыкаваньне 14.** *Сьпісаць і пабочныя сказы падчыркнуць.*

Стары, кажуць, змуста, да без яго ў хаце пуста. Зморaны і сярдзіты—бо шмат сена не ўхапілі—вярнуўся я дадому. Беларускія пляменьні (крывічы, дрыгвічы і радзімічы) здаўна жывуць на сваёй зямлі. Не сьцярпеў (грэшны я чалавек!)—узлаваўся. Налева зноў двор пачынаўся (ён з першым дворыкам стыкаўся) ды ў сад сьцяною ўпіраўся. Зімою, напрыклад, у вялікі мароз, на акне (адно яно было ў нас) такія бывалі прыгожыя кветкі, што так і глядзеў-бы на іх. Давялося ўдаве-каршунісе (мужа нядаўна на сьметніку забілі: надта ўжо з курыцай завёўся) дачку замуж аддаваць. Нават агульны выгляд яго (дубка) твару (бо і дрэва мае свой твар) меў характар цікавай асобнасьці. Ён пакрашае скрозь (даволі ёсьць знароўкі) свае шматхварбныя застаўкі і канцоўкі. Так мора—у Гданску я чуваў—прымчыць вадой бутэльку, аблітую смалою. Дзеткі, кажа, мае мілы: я ўжо блізак да магілы. Калі ты ідзеш з сахою, з возам ці з сяўнёю, не кажы ідучы з дому “дабрыдзень” нікому, а другое—знай, ці чуеш?—як арэш ці баранчуеш ды дадому ўжо адходзіш—абгарадзіць не пашкодзіць. А нарэшце—помні гэта!—ці то восень, вясна, лета ці зіма, каб круглым годам табе яда была з мёдам. Расказаўшы гэта сыну, бацька ў тую-жа часіну (так казалі ўсе аб гэтым) і растаўся з белым сьветам. Венцер новы— маеш час—залатай. Два браты (аднаму было сем год, а другому—дзевяць) папрасілі сваю матку пабудзіць іх заўтра рана, каб да сонца зайсьці ў лес: яны надумаліся пайсьці ў грыбы. Ня ведаю, коце (гэтак мама называла мяне заўсёды), ці ўсё тут праўда напісана. Чыста ад пырніку поле апратай—поле тваё гэтым зельлем багата, —бо калі ў пырнік зерня пасееш, з працы свае карыстаць не здалееш. Ляжыць дубдзядуля на сваім месцы (сукі толькі паабсякалі), а з-пад яго вырасьлі тры тоненькія гладкія дубочкі. З кап’ём (дзідаю) славянін сьмела ішоў на вядзьмедзя, дзіка і лася. Пакланяліся нашыя продкі сонцу (Дажбогу), грому (Пяруну), порам году: вясьне, лету, восені і зіме (Лёлі, Цёці, Жыценю і Зюзі). Багіню лета—Цёцю—старавечны беларусін уяўляў у постаці прыгожай жанчыны, прыбранай сьпелым калосьсем. Зайчыкі страпянуліся— яны, мабыць, былі мокрыя ад расы—паднялі вушкі ды пабеглі ў хвайнячок. Выходзячы на вуліцу (іх усяго пяць; найбольшая ўпіраецца ў мост цераз Нёман), я заўсёды натыкаўся на такую сцэну: Заіка стаяў перад пастаўленымі ў рад дзяцьмі ды муштраваў іх пасалдацку.

**§ 34. Знакі прыпынку пры чужаслоўі.**

ПРАВІЛА 13. *Двукосьсе або чужаслоўе.* Чужаслоўе можа стаяць перад словамі аўтара, пасьля слоў аўтара, і словы аўтара могуць стаяць паміж аднаго таго самага чужаслоўя. Подлуг гэтага яно выдзяляецца знакамі прыпынку так:

1) Калі чужаслоўе стане перад словамі аўтара, то яно бярэцца ў двукосьсе, а посьле яго ставіцца коска, клічнік або пытальнік у залежнасьці ад характару сказу, прычым, словы аўтара пачынаюцца заўсёды з малой літары, не зважаючы на папярэдні знак *(“Будзь паслушна ты, дачушка!” навучае маці. “Птушкі—нашыя прыяцелі”, сказаў настаўнік. “Хто там?” спытаў гаспадар, зірнуўшы ў акно).*

2) Калі чужаслоўе стаіць пасьля слоў аўтара, то перад ім ставіцца двукроп’е, само чужаслоўе пачынаецца з вялікай літары ды замыкаецца ў двукосьсе, а пасьля яго можа стаяць *клічнік, пытальнік, пункт* або *трохкроп’е,* калі мова ня скончана. (Папалася лісіца ў пастку ды кажа: *“Яшчэ ня позна, а давядзецца начаваць тут”.* Гаспадар глянуў у вакно ды спытаў: *“Хто там?”* Прышоў воўк да каваля ў кузьню ды кажа: *“Перакуй, каваль, мой язык на ягнячы!”* Малая Гандзя супакойвала Васілька ды казала яму: *“Ня плач!.. Я кашкі звару... Ну, ну, годзі!..”).*

3) а) Калі словы аўтара стаяць паміж аднаго таго самага чужаслоўя, то яны, як пабочныя словы, выдзяляюцца *коскамі,* а чужаслоўе замыкаецца ў двукосьсе з адпаведным знакам у канцы (“Гэта толькі ніткі”, падумала Анелька, *”а дзе-ж кашулька?”).*

б) Словы аўтара могуць выдзяляцца працяжнікамі, калі яны перадаюцца ў цяперашнім часе. *(“Я—кажа адна капелька—была потам працавітага селяніна”.—“Я была сьлязою мацеры”—кажа другая).*

в) Калі словы аўтара разьдзяляюць цэлыя сказы аднаго і таго чужаслоўя або адлучаюць зваротак ад рэшты сказу, то ў канцы першай часьці чужаслоўя можа стаяць *клічнік, пытальнік* або *коска,* а перад другою часьцю ставіцца *двукроп’е,* часьці-ж чужаслоўя замыкаюцца ў двукосьсе як з аднаго, так і з другога боку. *(“Ведаеш, брат, што?” сказаў Ясь свайму сябру Алесю: “Давай пашукаем грыбоў”.—“Ну, не, брат, дудкі!” падумаў Міхась: дурэць то я ня буду, а вот старацца, дык буду”.—“Тата!” спытаў маленькі Міхась ў бацькі: “а ці страшна ў лесе?”).*

4) Калі два розных чужаслоўі на пісьме стыкаюцца паміж сабою, то паміж імі, апроча звычайных знакаў, ставіцца яшчэ працяжнік для большай выразнасьці (бач. прыклады 3, в).

5) Калі прыводзіцца размова некалькіх асоб і не паясьняецца, да каго належаць словы, то заместа двукосься ставіцца *працяжнік. (—Паіў ты каня?—Паіў.—А чаму-ж морда сухая?—Бо вады не дастаў.—Тадорка! ці ты прадзеш?—Праду.—А дзе-ж тваё верацяно?—Віры яго ведаюць!).*

**Увага.** У друку чужаслоўе найчасьцей пачынаецца кожны раз з новага радка ды выдзяляецца *працяжнікамі* або такімі значкамі “ ”.

**Практыкаваньне 15.** *Сьпісаць і заўважыць знакі прыпынку пры чужаслоўі.*

Сеў стары Рыдан на залаты пасад ды кажа сыну: “Прылажы, сынку, вуха да зямлі ды паслухай, ці бяжыць Дняпро”. Прылажыў Сож вуха да зямлі ды кажа: “Бегма бяжыць і не стаміўся яшчэ”.—“Бадай нам, дзеткі, сьлязьмі разьліцца!” сказаў з жалю стары Рыдан. “Дзякуй, дзякуй!” сказаў шэры ды пацягся без вячэры. “Ну, Алесь брат!” за абедам кажа бацька сыну: “годзі бегаць дармаедам, красьці садавіну”.—“Дабрыдзень вам, ягамосьці!—Дабрыдзень. Сядайце!—“Ну, матулька, будзь здарова!” сказала Наста ды вышла з хаты. “Нашто гэта, тата, рассыпаеш зерняткі?” пыталася малая Анелька ў бацькі, каторы сеяў лён. “Прыгожая табе будзе кашулька!” сказаў ёй бацька. “Гэй, мой конік, гэй сівенькі!” носіцца па полі. Праз два тыдні поле пакрылася зялёнай шаўковай травіцай, а малая Анелька падумала: “Каб гэта мне такую харошую зялёную кашульку!” Паківаў дзед галавою ды кажа: “Сынку! робіш ты ня тое”. “Кінь камень!”

сказаў настаўнік вучню. Вучань кінуў камень. “Ну, а цяпер ты скажы мне”, спытаў настаўнік: “за што ты хацеў забіць птушачку?” “Гарыць лес!” з трывогаю сказаў лясьнік, вышаўшы на двор і панюхаўшы паветра. “Скажы мне, дубе!” сказала чароціна: “чаму ты ня гнешся ад буры?” “Я раскажу табе, сынку”, сказаў татулька, “які страх наганяе леў, як выходзіць уночы шукаць сабе пажывы”. “Вазьмі мяне, Кася, за сынка!” кажа раз малы Цішка сваёй замужняй сястры. Кася засьмяялася ды пытае: „А мамы табе шкода ня будзе?” На казаньне бацькі адказаў Ігнатка: “Буду я вучыцца, як ты кажаш, татка”. “Што-ж?” падумаў я сам сабе: “вучыцца, дык вучыцца!” “Глядзі-ж, сынку!” сказаў татулька: “слухай настаўніка, бо нявучоны ўсё роўна, як сьляпы”. “Дзяўчынка, чыя ты?” бедны тут пытае. “Дзядзіна я доля”, тая адмаўляе. Пытаецца воўк у сабакі: “Скажы, сабака: адкуль вы сабе яду бераце?”—“Людзі нам даюць”, адказаў сабака. “Мусіць, вы цяжкую службу людзям служыце?” зноў пытае воўк. “Не, наша служба ня цяжкая: наша дзела ўночы двор вартаваць”. Сёстры плачуць горка, буйнымі сьлязамі: “Ой, Рыгор, Грыгорка! што зрабіў ты з намі?” Пастух-аўчар скруціў дудачку з каліны ды грае: “Ой памалу, памалу, пастушок, іграй, майго сэрцайка не ўражай!”—“Што ты робіш?” спытаў бацька ў сына. “Скрыпачку”, адказаў сын. “Эх, брат!” кажа адзін зайчык другому: “ёсьць-жа на сьвеце стварэньні, што і нас баяцца”. “Памажы мне, кумка, ячмень зьвязаць!” “Калі-ж, кумка, жыбулькі надта колюцца”.—“Дай мне, кумка, мукі на аладкі!”—“Пайшла я, кумка, па муку, а жыбулька за руку”. Угледзіў казёл лісіцу ў калодзежы ды пытае: “А што ты там, кумка, робіш?”—“Сапачываю, кумок”, салодка адказала лісіца. Што просіце, дзядзька, за гэтую карову?—Я яе і за тысячу не аддам.—Чаму?—Бо яна не мая, а вунь таго гаспадара, што каля крамы стаіць.

— Тата, я злавіў мядзьведзя!
— Дык вядзі яго сюды.
— Калі-ж ня ідзе!
— Дык дзяржы яго.
— Калі-ж ня дзержыцца!
— Дык пусьці яго.
— Калі-ж ня пускаецца!

**Задачка 9-ая.** *Сьпісаць і паставіць знакі прыпынку.*

Вязала жанчына на полі ячмень. Надышла хмара, стала грымець. Бачыць яна, што да дажджу адна ня ўправіцца. Паклічу куму думала яна. А кума ўжо ўправілася з сваёю работай ды ішла дадому. Памажы мне, галубка, зьвязаць ячмень папрасіла яна. Калі-ж, кумка, жыбулькі надта колюцца адказала кума. А ўзімку прыходзіць яна да кумы ды кажа. Дай мне, кумка, мукі на аладкі! Прышла, кумка, па муку, а жыбулька—за руку адказала тая.

Угледзіла Анелька, як бацька сеяў лён ды спыталася. Нашто гэта, тата, рассыпаеш зерняткі. Сею лён, каб вырасла табе кашулька адказаў бацька. Задумалася Анелька бо ніколі ня бачыла каб кашулі ў полі расьлі. Праз два тыдні поле пакрылася зялёнай шаўковай травіцай, а Анелька падумала. Каб гэта мне такую харошую зялёную кашульку! Потым дзяўчаты прыходзілі два разы палоць лён і кожны раз казалі Анельцы Прыгожая будзе табе кашулька! Ніва лёну пакрылася харошанькімі сіненькімі красачкамі. Анелька падумала У нашага Грышкі такія сіненькія вочкі але гэтакіх кашулек я ня бачыла.

Паіў ты каня Паіў А чаму-ж морда сухая Бо вады не дастаў. Што просіце, дзядзька, за гэтую карову Я яе і за тысячу не аддам Чаму Бо яна не мая а вунь таго гаспадара што каля крамы стаіць. Дабрыдзень вам, ягамосьці Дабрыдзень Сядайце.

**§ 35. Кругасказ.**

ПРАВІЛА 14. 1) Кругасказ (пэрыод) звычайна складаецца з дзьвюх часьцін—з *павышэньня і паніжэньня*. Павышэньне ад паніжэньня найчасьцей аддзяляецца або **двукроп’ем,** або **коскай з працяжнікам;** напрыклад:

№ 1)
Ці коска зазвоніць ў лугох раніцою,
Ці песьню дзяўча запяе,
Ці конік ў дарозе праскочыць трусцою,
Ці вецер ў палёх заслуе,
Ці гром гучнабежны пракоціцца ў хмарах,
Ці грукне над лесам пярун,—
*Ўсё водгук знаходзіць ў бязьмежных абшарах,*
*Ўсё іх дакранаецца струн.*

*Я Колас.*

2) Па ліку параўнальных думак кругасказы бываюць: а) *двухсустаўныя*, б) *трохсустаўныя*, в) *чатырохсустаўныя* і г. д. Суставы кругасказу аддзяляюцца адзін ад другога або *коскай*, або *кропкай з коскай, у* залежнасьці ад іх пашыранасьці; напрыклад, у кругасказе № 1 суставы аддзелены адзін ад другога коскамі, а ў наступным кругасказе больш пашыраныя суставы аддзелены *кропкай з коскай*, а рэшта—*коскай:*

№ 2)
Калі асеньнія навіны
Зьмянілі сад; калі з бяроз
Рваў лісьце вецер, а мароз,
Наліўшы ягады рабіны,
Траву губіў, і мы нагой
Ўзрывалі прэлых лісьцяў слой;
Калі патроху чырванелі
Чаромха, ліпа, стройны клён,
А гнёзды змрочныя варон
Між голага гальля чарнелі,
І грозны вечару пажар
Палаў між бурасівых хмар;
Калі асеньні вецер дзіка
Стагнаў і глуха па начах
Грымеў у наш залезны дах,—
Тады да лета Вераніка
Ад нас зьнікала ў інстытут.

*М. Багдановіч.*

№ 3)
Калі-ж сачыўся бледнаваты
Зор сініх сьвет праз небасхіл,
І улягаўся вулак пыл,—
Мы ўсе пяялі каля хаты,
І напаўняў нягучны хор
Маркотнай песьняй сьціхлы двор.

*М. Багдановіч.*

№ 4)
Ці куры ў хаце сваім дурам
Падымуць часам шурум-бурум;
Ці абярэцца з іх якая,
Зьнячэўку пеўнем засьпявае
Для большай важнасьці, вагі;
Ці дзесь крумкач разок, другі

У небе крумкне смутна, глуха;
Ці ў юшках песьню завіруха
Зацягне жаласна, нудліва;
Ці загугукае страхліва
Злы гэты дух—сава-начніца—
Ў кустох альховых над крыніцай,
Гугукне так, што сэрца ные,
Што аж сабака і той завые,—
Усё гэта—дрэннае злучэньне,
Праявы страшнай абвяшчэньне.

*Я. Колас.*

**§ 36. Абагульненьне правіл аб ужываньні знакаў прыпынку.**

**1. Коска.**

Коска ставіцца:

Для выдзяленьня *прыдатка* (§ 25), *зваротка* (§ 26), *пабочных слоў і сказаў* (§ 28 і § 33), *пасьля выклічнікаў* (§ 27), для выдзяленьня *дапаўненьня* з *прыназоўнікамі* “апроч” (апрача), “заместа” (Апроч ластавак, тут вадзіліся яшчэ шпакі. Заместа мяне, паслалі заграніцу майго брата), перад злучнікамі **але, ды** (=але), **і,** калі імі пачынаецца новы сказ *(Жыта злажылі, ды не надоўга. Сонца прыгрэе, і сьнег растане),* для выдзяленьня аднакіх членаў *у зьлітым сказе* (§ 29), залежных або даданых сказаў (§ 31), *злучаных сказаў* (§ 30), пры паўтарэньні якога-небудзь слова (Гэта быў *стары, стары* лес. *Ідзеш, ідзеш* ды спынішся супачыць), для аддзяленьня якой-небудзь даданай часьціны сказу, выражанай некалькімі словамі (Рабенькая круглая кароўка, *увелькі з вераб’інае вочка,* паўзла па гладзенькай былінцы), пасьля дапаможнікаў **але, так, не,** пастаўленых перад сказамі (§ 27, 5) для аддзяленьня членаў кругасказу (§ 35, 2).

**Задачка 10-ая.** У *наступных прыкладах аб’ясьніць, чаму пастаўлены коскі.*

Прыдзі пад вечар ты на поле ды палюбуйся ім, саколе! Усход жыве, гарыць, палае, слупы-праменьні падымае (Я. Кол.). Прывет табе, жыцьцё на волі! Там ня трэба ні шчасьця, ні ласкі; там няма ні нуды, ні клапот. Па-над белым пухам вішань, быццам сіні аганёк, б’ецца-ўецца шпаркі, лёгкі, сінякрылы матылёк. Гэй, варушэцеся, коні панурыя! Ад родных ніў, ад роднай хаты, у панскі двор дзеля красы яны, бяздольныя, узяты ткаць залатыя паясы. І тчэ, забыўшыся, рука, заміж пэрсыцкага узору, цьвяток радзімы васілька. І цягам доўгія часіны, дзявочыя забыўшы сны, свае шырокія тканіны на лад пэрсыдзкі ткуць яны. Мы сквапна цягнемся к старым поэтам, каб хоць душой у прошлым патануць (М. Багд.). Хоць усім братом ня соладка жылося, але меншаму брату выпала самая горшая доля (Т. Гушча). На прыгуменьні, поруч з садам, павець з гумном стаяла радам (Я. Кол.). Хоць віхры шалеюць, хоць песьні нямеюць, хоць страшна замучаны ты,—за добрую справу, за шчасьце і славу душу вырывай з цемнаты! (Я. Куп.). Лес гудзе, дрыжаць галіны, стогне бор хваёвы; глуха шэпчуць верхавіны, гнуць свае галовы (Я. Кол.). Не, не здаволіш чалавека, і будзе вечны ён калека (Я. Кол.).

**2. Двукроп’е.**

Двукроп’е ставіцца:

*У зьлітым* сказе перад пералічэньнем (§ 29, пр. 8, А) перад *прыдаткам-пералічэньнем* (§ 25), перад *чужаслоўем* (§ 34), у злучаных сказах, калі адзін сказ паясьняе другі (§ 30), у злучэньні *супраціўным і вінавальным,* калі прапушчаны злучнікі

(§ 30), калі прапушчан параўнальны злучнік і, наогул, *двукроп'е* блізка тое самае, што слова *значыць*. (Прышла пара касавіцы: трэба прымацца за касьбу).

**3. Працяжнік і злучок (24, I).**

Працяжнік ставіцца:

Пасьля пералічэньня, дзе прапушчана некае слова *(Вясна, лета, восень і зіма—поры году),* калі хочуць затрымаць увагу *(Гляньце—нехта едзе. Падсадзі—сарву я грушку),* замест "ёсьць" у сустаўным выказьніку *(Чужая сіла—асіна. Лішняя нітка—палатну завада),* у сказе, які служыць адказам на пытаньне *(А хіба-ж там ён?—Там),* пасьля пералічэньня аднакіх членаў у *зьлітым* сказе (§ 29), пры выдзяленьні некаторых *прыдаткаў* (§ 25), для выдзяленьня *пабочнага сказу* (§ 33), пры хуткім пераходзе ад аднаго дзеяньня да другога (§ 30, 5), калі прапушчаны прычынны, супраціўны або ўмоўны злучнік (§ 31, 4), пры аддзяленьні мовы аднае асобы ад другой (§ 34, 5), у кругасказе (§ 35) і, наогул, калі прапускаецца якое-небудзь слова *(Поле—жоўты пясок).*

Злучок ставіцца (24, II):

Калі слова паўтараецца для памацненьня *(Чуць-чуць* ліпіць), пры складаных прыметах *(сьнежна-белы, цёмна-сіні), у* складаных прыназоўніках *(па-над, з-за, з-пад),* для злучэньня частак **бы(б), жа(ж)** з папярэднім словам *(Рад-бы даць, каму-б гэта даць. А мой-жа ты саколік! Да куды-ж ты, дуб зялёны, пахінаешся?),* у падвойных фаміліях *(Дунін-Марцінкевіч, Лапко-Лабаноўскі).*

**4. Двукосьсе.**

Двукосьсем аддзяляецца:

Чужаслоўе (§ 34), прыдатак (§ 25, 7), *слова*, на якое зварачаецца асаблівая ўвага або якое ўжываецца ў пераносным, няўласным значэньні *(Прызнаюся, я не спадзяваўся такой "далікатнасьці" ад мужыка. З мёду даўней варылі моцнае пітво—"мёд". Па ваду ідзе—"дзень добры" дае).*

**5. Дужкі.**

Дужкі ставяцца:

Для выдзяленьня *пабочных* сказаў (§ 33), навуковых тэрмінаў, некаторых паясьняльных слоў, паветалізмаў. *(Кажуць, што дрыгвічы называліся так дзеля таго, што жылі па нізкіх, балотных мясцох (дрыгвах). Пакланяліся нашыя продкі грому (Пяруну), сонцу (Дажбогу) і іншым зьявам прыроды. Ён цеміў (разумеў), што гэта ня так).*

**Задачка 11-ая.** *Аб'ясьніць знакі прыпынку.*

Даўней былі "путныя баяры", каторыя павінны былі правіць дарогі. На высокай гарэ, дзе ніхто не арэ, толькі птушка-арол дзе садзіцца,—там ўзбудую-ўзьвяду, нізі ўсёй на віду, мураваную вежу-званіцу (Я. Куп.). Ясна-сьвяточна ў красы ўбярыся, птушкаю вольнай сягні ў вышыню, з сонцам злучыся, зоркай іскрыся, славай акрыйся— выйдзі спаткаці вясну! (Я. Куп.). Неба, сонца, месяц, зоры, людзі, пушча, ўся зямля—усё да сэрца штосьць гаворыць, ўсюды бачу моц жыцьця (Я. Куп.). На прыгуменьні, поруч з садам, павець з гумном стаяла радам, а пад паветкай ўсе прылады: вазок, калёсы, панарады, старыя сані, восі, колы і вульляў некалькі на пчолы, яшчэ нясконченых; судзінка, стары цабэрак, паўасьмінка, і розны хлам і лом валяўся, ад сонца, дожджыку хаваўся (Я. Кол.). Усё прачнулася прад вачыма беднае кабеты: маладыя дні дзяціны, дзявочыя леты, радасьць жыцьця і нягоды, сваркі, трасяніна—усё, чым жыцьцё спатыкае кепскую часіну, усё прыпомнілась старэнькай (Я. Кол.). Галоднаму і пушнінка

—малінка. Шчырая праца—мазалёвая. “Што-то будзе, што-то будзе?” у межах шэпча жыта. Спаленай нівы жаданьне ня збыта—міма хмурынка прайшла. На дварэ—паленьне, трэскі, куча сьметніку ляжыць. Чорная Русь (цяперашняя Горадзеншчына) у свой час была асобным князёўствам. Гэта толькі гутарка адна—“прыехаў”: проста забралі сюды—і ўсё, бо дома ня было дзе дзецца. Бывала, заміж “благодарю”, скажа Міхась “дзякуй” ды аж пачырванее ад сораму. Еўка ніколі не хадзіла на сяло, бо дзеці дражнілі яе “рыжая”. Цяпер зямлю і фабрыкі адабралі ад багатыроў ды аддалі іх тым, хто на іх працуе—рабочым і сялянам. Час прыдзе—увесь сьвет засьвяткуе вялікі дзень Першага Мая (М. Кудз.). У дзяцінстве я ня мог вымавіць “р”, а казаў “рл”. Яшчэ некалькі часу—і вёска зусім засыпае. Болей навукі—меней страху. Але не-не, ды смутна стане. Сяк-так прымайстраваўся наш падарожны каля печы (Я. Кол.). “Я табе лялек нараблю і “катка” запяю”, казала Марылька брату. А жнейкі жнуць, іх твар палае, іх пражыць, сушыць смага тая, якую трудна ім здаволіць, якая толькі “піць! піць!” моліць (Я. Кол.).

### 6. Клічнік і пытальнік.

Пытальнік ставіцца:

Пасьля *простага* пытаньня ў пытальным сказе (§ 23), пасьля *ўскоснага* пытаньня ў тым выпадку, калі перад косным пытаньнем стаіць двукроп’е *(Скажы мне, дубе: чаму ты ня гнешся перад бураю? Скажы мне, дубе: адкуль твая сіла? Скажы мне, браце: чаму я такая слабая?).*

**Увага.** Некаторыя дапаўняльныя сказы прымаюць форму пытальных; гэтая форма называецца *ўскосным пытаньнем*, прычым пытальнік ставіцца толькі ў тым выпадку, калі перад ускосным пытаньнем стаіць двукроп’е, калі-ж будзе стаяць коска, то пытальнік ня ставіцца. (Я ня мог зразумець; чаму сухое лісьце не загарэлася).

Клічнік ставіцца:

Пасьля клічнага сказу (§ 23), пасьля зваротка (§ 26), пасьля выклічніка (§ 27).

Клічнік і пытальнік пры пэўнай пабудове сказу могуць мець значэньне пункта, пункта з коскай і коскі.

### 7. Трохкроп’е.

Трохкроп’е, або шматкроп’е ставіцца:

Пры недаказе або перарыве мовы (§ 30, § 34, 2) пры выражэньні моцнага пачуцьця *(Тхор!.. тхор!.. дзяржы яго!.. дзяржы псяюху!.. Эх, ды і тхор-жа!.. Восьць, аж зьзяе!..* Я. Кол.).

### 8. Кропка з коскай.

Кропка з коскай, або пункт з коскай ставіцца:

Паміж сузалежнымі сказамі (§ 31), паміж аднароднымі членамі ў зьлітым сказе для больш выразнага чытаньня, асабліва тады, калі яго члены значна пашыраны *(Падарожны расказаў людзям аб працы і вялікіх турботах, ім перанесеных; аб вышыні тых гор, якія ён бачыў; аб глебе ў тых краёх, надзвычайна ўрадлівай; пра зьвяроў і птушак, невядомых у нашым краі; пра людзей з непадобнай, інакшаю гаворкай),* паміж злучанымі сказамі (§ 30), у кругасказах (§ 35).

### 9. Пункт (кропка).

Пунктам аддзяляюцца адзін ад другога такія простыя і custaўныя (складаныя) сказы, што замыкаюць у сабе думку пэўную, зусім закончаную. *(Гарачы дзень. На полі душна. Прыціх той ветрык непаслушны, як-бы сваім аддаўся марам. Заціша̇к поля дыша варам і гоніць з твару поту рагі, і сохнуць губы ад тэй смагі. А жнейкі жнуць. У моры збожжа мільгае постаць іх прыгожа.* Як. Колас).

**Задачка 12-ая.** *Аб'ясьніць знакі прыпынку.*

Выйдзі на поле, на сенажаці, выйдзі спаткаці вясну! *(Я. Куп.).* За праўду, за шчасьце, за лепшую долю вазьміся, мой дружа, пастой; у крыўду ня дайся, свайго дабівайся, адвага хай будзе з табой! Хай горкія сьлёзы, што ў сьпеку, у марозы ліюцца па беднай зямлі, дадуць табе браце, сіл гора змагаці і ў сэрцы распаляць агні! *(Я Куп.).* Ранюткі час. Нідзе нікога. Між дрэў зьвіваецца дарога, а па дарозе ты з кашом у лес шыбуеш ціхачом *(Я. Кол.).* Весела пазірае ўвесну сонца на зямлю, як маці на сваё дзіця: загляне яно ўсюды—і ў бедную сялянскую хату, дзе так бедна і нявесела, і на пяшчаную горку, і ў лагчынку, дзе думаў сьнег знайсьці сабе прыпынак, і ў лес, і на луг—усюды льлецца яго сьвет і цяпло. Што мне багацьце? Бяз грошай, бяз золата быў-бы магнат я, кароль, багатыр там, дзе пад націскам роднага молата жыцьце куецца *(А. Гар.).* Будзіцца со сну наша зямліца; расьце на кусьце лісточак, зелянее тады травіца; аджыў жучок і матылёчак; шэра зязюля зранку і ўвечар яра кукуе ў садзе; павее ціхі і цёплы вецер; пойдзе скацінка ў стадзе *(Ст. Ул.).* Што шуміш так неспакойна, жыцейка, у полі? Ці ня чуеш, што падградам зьляжаш ў роўным доле? *(Я. Кол.).* Лес! аб чым шумяць твае вяршыны? Лес! што шэпчаш, векавы? Браты! вялікая дарога чакае нас і родны край *(Я. Кол.).* Эх ты!.. Толькі хвалішся... Гляну̇ў—і то самлеў!—Дзяціны час!.. Я памятаю зімы прыход у нашым краю: стаіць над лесам шум маркотны, па небе хмары, як палотны, паўночны вецер расьцілае, і бель над далямі зьвісае *(Я. Кол.).* Дзяўчынка абярнулася да бацькі, што нязграбна, па мужчынску, кошкаўся каля печы, ды сказала: “Тата, кіньце!.. Я зраблю... я ведаю”... Канец... Як проста гэта слова і многазначна, заўжды нова! Канец!.. Як многа разважаньня і засмучонага пытаньня ў гэтым простым, страшным слове! *(Я. Кол.).* Пастой! А там што?—Там? Гармата.—Чаму-ж няма пры ёй салдата?—*Я. Кол.).* Жнейкі на ніве рэжуць скваплі̇ва, уюць перавяслы няслабкі; вяжуць снапамі, валяць радамі, ставяць у мэндлі і бабкі *(Ст. Ул.).* Праца ўвесь сьвет ускарміла, праца нам шчасьце дае; працаю сілы прыроды к людзям у слугі ідуць, з ёю-жа ў сьвеце народы лепшае долі прыждуць *(Ц. Гарт.).*

Станьце, хмурынкі, над рубяжамі родных палеткаў, палёў! Каршун, падняўшыся высока над лугам, круціцца ў небе, выглядаючы сабе пажытак, і нудны крык яго галосна расплываецца над супакоеным лугам.

Піліп стары ў грамадзе старшынёю быў з паўвеку; ці ў працы, ці ў радзе—няма, як ён, чалавека; шчыры, добры і разумны, гаспадар прытым на дзіва; вёў найлепей сход наш шумны, судзіў, радзіў справядліва *(Я. Луч.).*

**§ 37. Кароткі паўторны пытальнік.**

1) Калі ў канцы простага сказу ставіцца пункт? коска? кропка з коскай? двукроп'е? пытальнік? клічнік?

*Адказ. У* канцы простага сказу, які выражае сабою зусім закончаную думку і ня зьвязан цесна сэнсам з наступным сказам, ставіцца *пункт.*

Калі сказ выражае сабою пытаньне, то ў канцы яго ставіцца *пытальнік.*

Калі ў сказе выражаецца покліч, загад, просьба, перасьцярога, страх, радасьць, зьдзіўленьне ці што падобнае, то ў канцы ставіцца *клічнік.*

Сказ, цесна зьвязаны сэнсам з наступным сказам або злучаны з ім злучнікам **і, ды** (=і), **а,** мае на канцы *коску.*

Сказ разьвіты, цесна зьвязаны сэнсам з наступным сказам, можа мець на канцы і *кропку з коскай.*

2) Калі звычайна ставіцца ў сказе працяжнік? Калі ўжываецца злучок?

3) Якімі знакамі прыпынку выдзяляецца зваротак?

4) Якімі знакамі прыпынку выдзяляецца прыдатак?

5) Якімі знакамі прыпынку выдзяляюцца выклічнікі?

6) Якімі знакамі прыпынку выдзяляецца пабочнае слова?

7) Чым аддзяляюцца ў зьлітым сказе падобныя часьціны?

8) У якіх выпадках падобныя часьціны ў зьлітым сказе, зьвязаныя злучнікамі **і, ды** (=і), **або, ці, то, ні** і інш., могуць аддзяляцца адзін ад другога коскамі?

9) Якія яшчэ знакі прыпынку бываюць у зьлітым сказе?

10) Якімі знакамі прыпынку аддзяляецца дадана-залежны сказ?

11) Якімі знакамі прыпынку выдзяляюцца дзеяпрыметныя і дзеяпрыслоўныя выражэньні? Калі яны не выдзяляюцца?

12) Калі паміж злучанымі сказамі ставіцца коска? кропка з коскай? двукроп’е?

13) Чым выдзяляюцца пабочныя словы ў сказе?

14) Чым выдзяляецца чужаслоўе?

15) Які знак прыпынку ставіцца перад чужаслоўем?

16) Якімі знакамі прыпынку выдзяляюцца словы аўтара, калі яны стаяць пасярэдзіне чужаслоўя?

17) Калі ставіцца трохкроп’е?

18) Якімі знакамі прыпынку выдзяляюцца суставы ў кругасказе?

## § 38. Матэрыялы для разбору, сьпісваньня і дыктовак.

### 1. Доля батрачкі.

I.

Маці ў службу выпраўляе
Родную дзяціну
І украдкам выцірае
Рукавом сьлязіну.
“Будзь паслушна ты, дачушка!”
Навучае матка:
“Дагаджай чужым ты, служка,
Ды цярпі, дзіцятка!
Не адзін раз твае вочкі
Заплывуць сьлязою:
Твая доля—цямней ночкі,
Цяжка быць слугою!
Ня ўважыць чужаніца
Ручак тваіх белых;
Поту выльлецца крыніца
З шчочак загарэлых.
Леткам ўстанеш раней зоркі,
Перша пойдзеш ў поле.
Ох, дачушка, хлеб твой горкі,
Горка твая доля!”
Маці дочку разважае,
Сябе цешыць стара;
Жаль ёй к сэрцу падступае,

Як-бы тая хмара.

II.

Вось дзяўчына ўжо гатова,
Пакідае хатку.
“Ну, матулька, будзь здарова!”
І цалуе матку.
Вышла маці ўсьлед за ёю.
Стала пры парогу
І, падпёршы твар рукою,
Глядзіць на дарогу.
Доўга матка ўсё глядзела,
Доўга паглядала,
Покі Ганны хустка бела
З вачэй не прапала...

*Я. Колас.*

**2. Беларускаму люду.**

Змоўкні ты, сьціхні, песьня пакуты!
Заварушыся, наш край!
Люд беларускі! рві свае путы!
Новую песьню сьпявай!

Дружна і згодна станьма сьцяною!
Доля ня прыдзе сама,
Воля ня зойдзе к нам стараною—
Збоку дарог ей няма.

Люд! праканайся: толькі мы самі
Долі свае кавалі.
Годзі-жа, досыць панукаці намі,
Гнаць з нашай роднай зямлі!

Нам прыганятых болей ня трэба—
Будзем мы жыць без паноў.
“Самі вы дбайце лепей пра неба”,
Скажам мы так да ксяндзоў.

Будзем мы самі гаспадарамі,
Будзем свой скарб ратаваць!
Годзі тэй крыўды! У ногу з братамі
Пойдзем наш край вызваляць.

Змоўкні-жа, сьціхні, песьня пакуты!
Заварушыся, наш край!
Люд! вызваляйся, рві свае путы,
Новыя песьні сьпявай!

*Я. Колас.*

**3. На Палесьсі.**

Дарога ўвесь час ішла лесам. Лес зрэдка разрываўся невялічкімі палянкамі, на якіх часамі рунела жыта, а па краёх там-сям пападаліся старадрэвіны-хвоі, пышна разросшыся на прасторы, або разьвіслыя таўшчэразныя дубы, як заможныя гаспадары; на гэтых дубох паляшукі-бортнікі рабілі цэлыя пчольнікі, зацягнуўшы туды каля дзесятка вульляў. Палянкі зноў зьмяняліся лесам—то стройным баравым, то нізкім балотным. Высокія тонкія бярэзіны мяшаліся з шэрымі хвоямі і прыдавалі характар маркоты і засмучэньня ўсяму малюнку. Лес зноў расступаўся, даючы месца бясконца вялікім балотам. Балоты цягнуліся далёка-далёка паміж лесу ды замыкаліся лесам, што чуць-чуць чарнеўся роўнаю палоскаю на далёкім небасхіле. Цэлае мора высокай парыжэлай травы засталося зімаваць тут, бо сюды ня зойдзе ні гавяда, ні чалавек з касою. Нязьлічоныя купіны, нізкарослыя хвойкі на іх, пачарнелыя карчагі даўно адмерлых дзеравяк расьлі і гнілі тут спрадвеку. Сярод гэтых купін бліскучымі стужкамі павіваліся часамі палоскі вады—чыстыя, гладкія, як шліфованае шкло. Невядома, з якіх часоў стаялі над імі засохлыя старыя спарахнелыя алешыны, як сьвечкі, і маркотна глядзелі ў неба. Ад гэтых балот патыхала некім нявыразным смуткам; ціхім жалем веяла ад гэтых аднатонных малюнкаў палескіх куткоў, дзе ўсё-ж такі жыцьцё стварала свае асобныя формы і, ня гледзячы на ўсю ўбогасьць, мела сваю павабнасьць і хараство, свой твар, поўны пужлівага задуменьня. Але гэтыя малюнкі тамілі вочы і засмучалі сэрца, і мімавольна стараешся знайсьці нешта такое, на чым можна было-б адпачыць і супакоіцца.

*Тарас Гушча.*

**4. Нашыя гасьцінцы.**

Ёсьць штосьць нязвычайна прыгожае ў гэтых прывольных старасьвецкіх гасьцінцах на Беларусі. Шырока і размашыста пралягаюць яны ад вёскі да вёскі, ад мястэчак да гарадоў, злучаючы паветы і цэлыя краіны. Колькі хараства і чароўнага прывабу ў сініх іх далях! Колькі новых малюнкаў, сьвежых матываў і таемных здарэньняў абяцаюць яны вачом і сэрцу падарожнага! З якою надзвычайнаю сілаю парываюць яны да сябе, і як моцна дакранаюцца да струн твае душы! Якая-ж сіла заложана ў гэтых прасторах неабнімных родных шляхоў, якую ўладу маюць яны над табою, неспакойны, вечна заклапочаны падарожны? Ці ня гэтая, нікім нявыказаная казка іх, якая складалася доўгімі вякамі ды запісвалася агнявымі літарамі людзкое крыўды ў сэрцах мільёнаў падарожных, што ішлі і ехалі па гэтых гасьцінцах і думалі свае думкі? Ці не яна, гэта летапісь часоў, так глыбока западае ў душу, каб адбіцца ў ёй, знайсьці свой пэўны вобраз і форму ды грознаю маланкаю жахнуць гэту цёмную ноч няволі, што зьвісла над краем? А можа гэта таемная і страшная бязьмежнасьць блуканьня па сьвеце, дзе трудна вызначыць пачатак і канец, сымболямі якіх зьяўляюцца гэтыя гасьцінцы, авявае душу тваю нявыразным хваляваньнем ды кліча яе зьліцца з бяскрайнасьцю зямлі? Ці то—няясны адбітак вечнага нездавальненьня людзкога, таемны покліч да шуканьня іншых форм жыцьця, несьвядомае імкненьне да лепшае долі? Ці то—парываньне душы разьбіць некія граніцы, каб вырвацца на бязьмежныя прасторы?..

Эх, гасьцінцы, родныя гасьцінцы! Хто перакажа нам вашы казкі, разгадае думкі, назьбіраныя і напісаныя на гэтых камлёх вашых прысадаў?!

*Тарас Гушча.*

**5. Скрыпач і ваўкі.**

Жыў на сяле скрыпач. Яшчэ змалку навучыўся ён граць на скрыпцы. Вось прышла восень, пачаліся вясельлі. Клічуць скрыпача то туды, то сюды граць на

вясельле. Раз прышлося скрыпачу варочацца позна ўночы дамоў. Ісьці трэба было лесам. Праз лес ішла ездавая дарога, але сьцежкаю было бліжэй, як тэю дарогаю. Скрыпач і думае: “Пайду проста сьцежкаю, усё-ж бліжэй будзе”. Дый пашоў.

Ноч была і так цёмная, а то яшчэ ў лесе. Ішоў ён, ішоў ды неяк заблудзіў і раптам, як шабаўтне кудысь пад зямлю! Упаў і ня так пабіўся, як налякаўся. Што яно такое?

Падумаўшы—дагадаўся: гэта была воўчая яма. Гэтак лавілі ваўкоў: выкапаюць глыбокую яму, прыкрыюць зьверху тонкім гальлём і прынаду паложаць. Воўк прынаду счуе, пабяжыць да яе ды ў яму і праваліцца.

Як дагадаўся скрыпач, дык трохі супакоіўся. Калі чуе— у яме штось як завые! Скрыпач так і пахаладзеў. Глянуў— ажно проці яго як-бы дзьве сьвечкі гарацць. Скрыпач ведаў, што ў ваўка папоцемку вочы сьвецяцца, і што гэта ваўчок папаўся ў яму ды сядзіць.

— О, гэта добры таварыш!—думае скрыпач:—А ў мяне і паганага калка няма, адна скрыпка. Што тут рабіць? Вылезьці з ямы папоцемку нельга, а пачнеш вылазіць, дык воўк цябе ззаду!

— Пагана,—думае скрыпач:—гэта воўк цяпер спалохаўся ды не чапае, а як ачухаецца, то з костачкамі зьесьць.

І, сапраўды, крыху пачакаўшы, воўк пачаў варушыцца, ня іначай бліжэй падступацца.

— А ну, хіба на скрыпцы заграю!—сказаў сабе скрыпач ды давай іграць.

Скрыпка як загалосіць, а воўк як адскочыць!

— О,—думае скрыпач,—гэта добра!

Ды давай граць вясёлае да скокаў. Скрыпач грае, а воўк вые. Калі чуе скрыпач, ажна з лесу яшчэ воўчыя галасы аказаліся.

— Вось,—думае скрыпач,—папрыбягаюць!

Але граць не перастае. І такая ў іх музыка пайшла: скрыпач грае, воўк у яме вые, а другія ваўкі з лесу сабе голас падаюць. Грае скрыпач, а сам на неба пазірае—ці ня сьвітае часам.

І хто яго там ведае, што-б было, але сапраўды стала на сьвет займацца. Здарылася так, што паляўнічы блізка праходзіў і пачуў, што скрыпка грае, а воўк вые. Ён пайшоў паглядзець, што яно за дзіва такое.

Падышоў паляўнічы бліжэй, глянуў—і праўда: у вадным кутку скрыпач, а ў другім—воўк.

Паляўнічы апусьціў скрыпачу дручка і выцягнуў яго, а тады ўжо ваўка забіў.

*К. Каганец.*

**6. Мядзьведзь.**

У нашым лесе мядзьведзь самы вялікі зьвер. Ходзіць ён па лесе, спусьціўшы галаву, і ступае так цяжка, што здалёку чуваць, як суччо трашчыць.

У лесе мядзьведзю ўсякай пажывы даволі. Раньняй вясною есьць ён маладую траву, пучкі на дрэвах, лавіць птушак; улетку хапае на яго долю дзікіх груш, яблыкаў, грыбоў. Спрыцен ён лавіць ракоў і рыбу ў рацэ. А то знойдзе мядзьведзь мурашнік, засуне туды лапу ды аблізвае мурашак, што насядуць на лапу. Але найбольш падабаюцца яму мядовыя соты. Хоць пчолы кусаюць яму морду, ён упорчыва ламае дуплё, дзе сядзіць пчаліная сям’я; разломіць і зьесьць з мёдам усё: соты, кускі дрэва, вашчыньне і самыя пчолы. Добра, калі яму гэткае пажывы хапае, а не—то з голаду мядзьведзь да скаціны лезе: няхай толькі пападзе, дык заесьць цяля, карову задушыць, нават спутанага каня здолее ў лес пацягнуць.

З людзьмі мядзьведзь ня любіць сустрачацца—здалёку чуе ды ўцякае. На зіму мядзьведзь ліняе, абрастае цёплаю поўсьцю ды кладзецца ў бярлогу. Засыпае бярлогу

сьнегам, і толькі праз невялікую шчыліну ідзе пара ад мядзьвежага дыханьня, і гэтак сьпіць ён да вясны. Увясну схудзелы, галодны вылазіць ён з бярлогі.

**7. Птушкі—памочнікі чалавека.**

Цяжка працуе чалавек на полі, у гародзе, у садзе: сее хлеб, садзіцьварыва, разводзіць садавіну. І ўсюды ў чалавека многа ворагаў: бульбу чарвяк падточвае, капусту вусень зьядае, хлеб на полі псуюць жучкі, а дрэвы ў садзе чарва глуміць. Пералавіць ці патруціць усіх гэтых ворагаў чалавеку немагчыма, і сам-бы чалавек ня змог убараніць усе расьліны ад чарвякоў і шкадлівых казюлек. Яго праца зышла-б на нішто, але ён мае сабе дарагіх памочнікаў—птушак.

Самы дарагі і блізкі чалавеку памочнік—гэта шпак. Куды-б ні пайшоў селянін увясну на работу, усюды за ім ляціць шпак. І ў полі, і ў дарозе, і ў садзе—усюды шпак памагае чалавеку змагацца і нішчыць чарвякоў і казюлек. Ён разграбае сьвежа-ўзораную зямлю і дастае нязьлічонае мноства чарвякоў, з якіх потым вышлі-б казюлькі. Кожнае дрэўца ў садзе шпак пільна абгледзіць і вышукае там усякага чарвяка.

Вельмі карысная для чалавека другая птушка—лазараўка. Калі прыглядзецца, як лазараўкі кормяць сваіх дзяцей, дык пабачыш, што кожная пара іх бацькоў прыносіць у гняздо да трыццаці штук вусеню ў гадзіну.

На вераб'я кажуць, што ён злодзей. Праўда, верабей крадзе многа канапель і іншага насеньня, але карысьці робіць чалавеку куды болей, як шкоды. Кажуць, што ў Амэрыцы, у штаце Мэн, загадалі перабіць усіх вераб'ёў за іх быццам-бы крадзеж. Бедныя вераб'і амаль ня ўсе зьвяліся. На другі год усе дрэвы апанаваў такі страшэнны вусень, што не асталося ніводнага лісточка. Усё зьеў вусень, і дрэвы пасохлі. З таго часу людзі закаяліся біць вераб'ёў.

А колькі мошак зьядае наша шчабятуха-ластаўка! Цалюткі дзень лётае яна і спраўна ловіць камароў, аваднёў і ўсялякіх мошак.

Шмат якія птушкі кормяцца зернятамі і ягадамі, але зьядаюць яны мала, а за гэта прыносяць многа карысьці, абараняючы нашыя сады, агароды, поле ад чарвы і машкары.

**8. Мурашкі і іх будова.**

I.

Скажэце, дзеці, хто з вас ня бачыў круглых кучак, падобных да горкі зямлі, насыпанай наўмысьля з жоўценькага пясочку? Хто з вас не разграбаў гэтых куч, зусім ня думаючы пра тое, якую трывогу падымаеце вы тым тысячам жывёлінак, што зрабілі сабе прыпынак, нанасілі гэтыя кучы? Хто з вас, гуляючы, не ўзьбягаў на гэтыя круглыя горкі, каб толькі пацешыць сябе? Гэтыя горкі насыпаў ніхто іншы, як маленькія, вечна занятыя працай мурашкі. Разварочваючы мурашнік, вы і не падумалі нават якую бяду прычыняеце вы мурашкам; ніколі ня прыходзіла вам у галаву бліжэй разглядзець мурашнік, пабачыць, як хітра і замыславата ён зроблен. І каб вы ўсё гэта разглядзелі, як мае быць, то вы падзівіліся-б здольнасьці мурашак рабіць хітрыя хаты.

Мурашнікі сустракаюцца найбольш па краёх лесу і насыпаюцца ў тым месцы, дзе сьвеціць сонца. Месцы для будовы мурашкі выбіраюць сухія і наносяць свае кучы каля хвой, ялін, бярэзін, часта каля пня. Мурашнік робіцца так, што дае прыпынак і схованку мурашкам і ад сьцюжы, і ад сьпякоты, і ад дажджу. Раскапайце на цікавасьць мурашнік пасьля самага вялікага дажджу, і вы ўбачыце, што ён прамок на паўпальца, ня болей, а ў сярэдзіне ён зусім сухі.

II.

Зірнуўшы на мурашнік, можна падумаць, што тысячы мурашак поўзаюць, бегаюць, круцяцца, кішаць на версе бяз усякага парадку: тая цягне сухую хваёвую калючку, другая—саломку сухога лістка; там дзьве або тры валакуць невялічкі сучок. Цярпліва цікуючы за работаю мурашак, можна замеціць, што ўходныя дзьверцы мурашніка мяняюцца з часу на час. Сярод дня мурашкі слабодна сустракаюцца ў гэтых дзьверцах і разьмінаюцца нават з сваёю ношаю. Пад вечар гэтыя дзьверцы памаленьку звужаюцца і ў канцы зачыняюцца зусім, і пасьля гэтага ўсе мурашкі хаваюцца ў сярэдзіну мурашніка. Пільна ўзіраючыся, лёгка ўбачыць, як зачыняюць мурашкі свае дзьверы. Наўперад яны ставяць слупкі наабапал уходу, і ня проста прыстаўляюць іх да сьцен, але ўтыкаюць у пустыя месцы між саломак і калюшак; потым замуроўваюць дзіркі між слупкамі і сьцяною мурашніка матэрыялам больш лёгкім. У канцы ўсё гэта закрываецца, усё гэта прыкрываецца кавалачкамі сухога лісьця.

Назаўтра рана, чуць толькі ўзыдзе сонца, пойдзем ізноў к мурашніку ды пацікуем, што там робіцца. Па версе ўжо поўзае некалькі мурашак. З-пад маленькіх шалашыкаў пад дзьверцамі выпаўзае яшчэ некалькі, і пачынаецца работа. Самая першая работа мурашак—адчыніць дзьверы. Слупкі, саломкі, кавалачкі лісьця дастаюцца ды складаюцца пад дзьверцамі, каб на выпадак патрэбы можна было ізноў зачыніць шырока адчынены ўход. І кожны летні дзень ідзе такая работа, апрача хіба дажджлівых дзён: у непагоду дзьверы мурашніка шчыльна зачыняюцца. Калі зранку неба хмарнае, то мурашкі робяць у дзьверцах маленькія дзірачкі, і як толькі пачне падаць дождж, яны жывенька зачыняюць іх наглуха.

**9. Лясны пожар.**

Гарэў лес, толькі трудна было распазнаць, ці ў нашым абходзе быў пожар, ці ў чужым. Мы пабеглі проста на дым. Беглі мы доўга. Было страшна горача, пот так і каціўся з нас. Мы ўжо перабеглі і граніцу свайго лесу. Агню яшчэ ня было відаць, толькі дым, каторы разьвяваўся ветрам па лесе і туманіў яго, даваў знаць, што пожар блізка. Скора мы ўбачылі і самы агонь. У лесе нікога ня было, і агонь без запынку разгульваўся на волі. Цэлае возера агню абнімала лес да палавіны, разьлівалася кругом і займала ўсё большую і большую лапіну.

Страшны і разам цікавы від мае пожар лесу!

Шум агню чуцен за вярсту. Агонь абхоплівае малады хвойнік да самага верху, а пад маладымі хвоямі многа сухіх калючак і лому. Агонь узьбягае па камлі, пераходзіць на гальлё, а вецер далёка адносіць сухую кару разам з агнём, ад чаго пожар яшчэ скарэй разрастаецца. Цэлая сьцяна агню ў сажань увышкі разьлівалася па краёх і няслася ўсё далей і далей. Кусты ялоўца трашчаць, як толькі надходзіць к ім агонь, на момант даюць белы слуп дыму і разам абхопліваюцца агнём ды прападаюць у полымі, каторае яркімі стужкамі разьліваецца ў адну мінуту над хвойнікам. Тоўстыя, аброслыя мохам старыя хвоі, уверсе смаляныя, з выдзеўбленымі дзятламі дзіркамі, гараць, як сьвечкі. Іншыя зусім перагараюць на палавіне, і вяршына з глухім шумам апускаецца наніз у самы агонь ды прападае ў полымі.

Жар нястрывалы—трудна ўстоіць за тры сажні ад агню. Людзі з лапатамі і граблямі прыйшлі з суседніх вёсак тушыць пожар. Стаўшы здалёк ад агню, пачалі яны адграбаць мох і калючкі, каб ня даць матэрыялу агню. Капалі зямлю і кідалі пясок на агонь. На ахвяру яму пакідалі цэлыя маргі лесу, бо за гарачынёю трудна было рабіць блізка ад агню. У вадным месцы пожар падступаў к старому бору. Людзі кінуліся туды і дружнаю работаю адваявалі бор. Агонь рыхтавалі скіраваць туды, дзе ён меней мог знайсьці сабе корму. Пожар памалу ўсё меншаў і меншаў. Яго дарога ўсё вузілася. Белы дым спакайней слаўся па лесе і тонкімі языкамі ўздымаўся над лесам. Скора бура агню была зусім затушана. Толькі вялізарнае вогнішча дымілася тысячамі маленькіх дымкоў,

ды дзе-ні-дзе вынікаў агоньчык сярод абгарэлае палянкі, разьдзьмуханы ветрам. Нудна пазіралі дрэвы з абсмаленымі камлюкамі!

**10. Зямля, на каторай мы жывём.**

Аб зямлі, на каторай мы жывём, можна расказаць шмат чаго цікавага. Перш-на-перш, зямля круглая, як яйцо. Яна нідзе ня мае краёў, або меж. Зямля—гэта вялікая гала, каторую можна аб’ехаць навокал. Яна нідзе ня мае канца, як ня мае ніякага канца скамечаная галка. Калі муха сядзе на яблык ды папаўзе ў адзін бок, то яна абойдзе навокал і прыдзе ізноў на тое месца, толькі з адваротнага боку. Гэтак і людзі аб’яжджалі навокал зямлі, варочаліся назад, а канца нідзе не знаходзілі, бо няма канца ў галы, якою ёсьць наша зямля.

На зямлі ёсьць суша, на каторай стаяць будынкі, растуць дрэвы, засяваюцца нівы, пасецца статак і інш. Пасьля, на зямлі ёсьць вада, каторая напаўняе ўглыбленьні ў сушы. Напоўніць вада ўглубленьне ў сушы і выйдзе возера або мора, калі ўглыбленьне вельмі вялікае. Шмат вады цячэ па рытвах, прамытых у зямлі, і тады гэта вада называецца рэчкаю. Ёсьць вада і пад зямлёю, і калі яна сама прабіваецца наверх, то называецца тады крыніцаю. Часам дастаюць людзі ваду з-пад зямлі, капаючы калодзежы.

Апроч сушы і вады, на зямлі ёсьць яшчэ паветра. Паветра мы ня бачым, але яно абкружае нас з усіх бакоў. Калі мы пабяжым, паветра ўдарае нам у твар, і тады мы яго чуем. Калі падае паперынка, паветра падтрымлівае яе і не дае хутка зваліцца на зямлю.

На зямлі жыве многа ўсякіх стварэньняў, і растуць розныя расьліны. Адны стварэньні кормяцца расьлінамі, другія—мясам слабейшых стварэньняў. Чалавек есьць і мяса, і расьліны, хоць бяз мяса мог-бы жыць.

**11. Камень.**

Такіх прыгожых месц, якім быў гэты куток, рэдка дзе можна знайсьці. Прынамсі так думаў доўганосы бусел, каторы меў тут, на старадроўні, пышны палац. А бусел усё-ж такі трэцца па сьвеце, і на яго словы можна мець увагу.

Шумлівая рэчка, цёмны лес, поле, луг і гурт старасьвецкіх дубоў, дзе асталяваўся бусел з сям’ёй, выглядалі весела, а падчас і шчасьліва, і гэтым самым як-бы падцьвярджалі, што тут і сапраўды ня кепска. Але бывалі і такія выпадкі, што ўсе тутэйшыя жыхары крыху сумавалі, крыху гаравалі,—бяз гэтага не абыходзіцца ў жыцьці. І хто ведае, быць можа, чым часьцей даведваюцца да нас нягоды, тым глыбей пачуваньне цаны жыцьця, тым ясьней яго сьветлыя мамэнты.

Але самым шчасьлівым жыхаром быў тут, ведама, камень—так злажылі і згадзіліся его суседзі: рэчка, лес і другія. І, праўда, як ні моцныя дубы, а ўсё-ж такі іх матлашылі і сушылі вятры, іх паліла сонца, на іх меціліся цяжарныя хмары з залатымі стрэламі пякучых маланак, а ў час навальніцы на іх каранёх тапталіся людзі. Таксама рэчка знывала ад сушы ў сваіх берагох пад косамі гарачага сонца і агаляла сваё пяшчанае жоўтае дно. Яе чыстае лона ня раз заносілася сьмецьцем, гразёю і розным брудам няпрошаных гасьцей-ручаёў, што вынікалі з ласкі навальніцы. Пра лес і казаць няма чаго. Ой, колькі раз даводзіцца яму, старому, перадрыжэць усімі жылкамі за долю сваіх сынкоў, як увойдзе сюды з бліскучаю сякерай на плячох бязьлітасны чалавек! Бывалі цяжкія часы і для бусла. Не патрапіш у пару вярнуцца з выраю, намерзьнешся досыць, стоячы на гнязьдзе, і духі табе падцягне, бо дзе знойдзеш пажытак у такую сьцюжу?

А каменю што? Кажуць-жа: моцны, як камень, цьвёрды, як камень, трывалы, як камень, і маўклівы, як камень. Дык што яму дзеецца тут? Ляжыць сабе, як пан, у мяккім доле. Ні дождж, ні жар для яго ня страшныя. Блісьне сонца, дзьмухане вецер—і сухі

камень, і цёпла яму. І выбраў-жа, шэльма,—спалі яго сьнег!—і месца прыўдалае! Тут і рэчка табе відаць, і лёс, і белыя хмаркі-гускі, што плаваюць па бязьмежным прасторы сініх нябёсаў. А колькі жыцьця навокал яго! Чорнабровыя плісачкі любяць крыху падурэць каля каменя, а то проста сядуць на самы яго верх ды пачнуць такія гамонкі, што толькі і можна пачуць іх увясну. Лясная жаўранка прылятае сюды начаваць, і пэўна, гэта каменю пяе яна такія прыгожыя песьні, што душа млее. Што-ж, шанцуе яму і толькі! Кожнаму свая доля...

Так казалі суседзі шчасьлівага каменя, а ў сэрцы ўсё-ж не завідвалі яму. Аднаго толькі не маглі сьцяміць тутэйшыя жыхары: камень ніводным слаўцом ня выявіў свае радасьці, што ня мала ўсіх тут зьдзіўляла.

*Т. Гушча.*

**12. Навальніца.**

Над вялікім, даўно ўжо пакінутым і заглохшым садам зьбіралася навальніца. Цяжкія хмары паўзьлі па шэрым небе і, выцягваючы свае лапы, падпаўзалі бліжэй да сонца, каб згасіць яго. Чорныя цені, што паляглі на зямлі ад хмар, наводзілі на ўсё жывое страх.

Спужаўся і задрыжаў сад, бо прачуваў, што можа стацца, калі навальніца пачне крышыць бяз літасьці худзенькія дрэўцы, між каторымі толькі стары дуб стаяў сьмела і адважна, паглядаючы вясёла ў вочы цёмным хмарам.

Што значыць яму навальніца? Ці раз бывала, што віхры парываліся схіліць яго да зямлі, але ўсё дарма: ён мала дбаў і толькі сьмяяўся над непагодай.

Дый так, чаго, здаецца, было пужацца, калі ён пад зямлёй крэпка ўмацаваў сваё карэньне, даючы яму вольна расьці і ўшыркі, і ўдоўжкі, а над зямлёй высока дзяржаў векавую зялёную карону.

Добра ведаў стары дуб, што ўвесь сад ня меў вока на яго за тое, што карэньне забірала ад іх пажыву з зямлі, а вечная засень глушыла маладыя ўсходы. Ды такое бяды: ён меў толькі адну думку, каб як-небудзь зьніштожыць ненавісных суседзяў сваіх, а на іх месцы выгадаваць дубовы гай.

Цярпліва пераносілі крыўды засохлыя дрэўцы і час-ад-часу выміралі праз ласку дуба, жадаючы ў адплату і яму пагібелі, а той толькі рос і радаваўся, звысока гледзячы, як канчалі жыцьцё тоненькія лазінкі і алешынкі. І ніхто з іх ня ведаў, якая доля чакае таго дуба.

Тымчасам пад зямлёй, дзе крэпка сплялося яго карэньне, жыло шмат маленькіх злосьнікаў, каторыя дзень і ноч вялі пільную працу. Хоць гэта і марудная была праца, але пэўная, і праз іх ласку дуб даўно ўжо пачаў траціць сілу ў карэньні.

І настаў дзень, калі на падмогу працы схаваных маленькіх чарвячкоў наляцела шалёная навальніца, як-бы зрабіўшы з імі хаўрус дзеля згубы таго, хто так горда глядзеў у неба і ня схінаў прад ёй свае галавы.

Хмары, як няпрытомныя, паўзьлі ўсё бліжэй к сонцу; халодны вецер гнаў з дарог пыл і, скруціўшы ў слуп, растрасаў з боку ў бок; брызнуў густы дождж, і стрэліў пярун. Глянуўшы на сілу навальніцы, страпянуўся дуб і, выпрастаўшы шырокія грудзі, прыгатаваўся сустрэць націск, як калісь бывала; тымчасам хмары ўжо папаўзьлі на сонца, загасілі яго і сунуліся ў цемнаце далей. Задрыжалі тоненькія дрэўцы, прыляглі к зямлі ды чакалі сьмерці. Задрыжаў і дуб, і пад дзікім націскам ветру пачала хіліцца яго зялёная карона.

— Глядзі, суседка!—шаптаў арэшнік, прытуліўшыся к сасьне:—глядзі! Такі дуб хінецца, цяжка і яму прышлося...

Але не дакончыў арэшнік, не пачула яго сасна: ударыла маланка, задыміўся і зваліўся апалены дуб і бяз ліку пахаваў пад сабою маленькіх дрэўцаў.

Навальніца, як цёмная вялізная птушка, уцякала далей. Дождж сьціхаў, і дзе-ні-дзе з-за хмар паказвалася яснае неба. Шмат палягчэла тым дрэўцам, што асталіся ў старане. З прывычкі яшчэ пудліва паглядалі яны на дуб, што распластаны ляжаў у садзе, але ніхто цяпер ня гінуў ад вечнае засені, і ўсім стала прасторна.

Пачарнелы пень старога дуба дзіка глядзеў у высь і адзначаў месца, дзе жыла векавая сіла.

*Т. Гушча.*

**13. Першае гора.**

Першае гора сустрэла Цішку, як яму было толькі шэсьць гадкоў. Аддалі замуж яго дарагую сястру Касю. Любіў хлопчык сваю сястру, а цяпер вот пайшла яна ў чужую хату. Доўга Цішка маркоціўся па сястрыцы і часта хадзіў да яе. Урэшце яму так цяжка стала без сястры, што і жыцьцё ня міла. “Вазьмі мяне, Кася, за сынка!” кажа ён раз сястры. Кася засьмяялася ды пытае: “А мамы табе шкода ня будзе?” Бяда хлопчыку: маці шкода! Заплакаў Цішка, але такі паставіў на сваім: забраў свае цацкі, кашулькі, нават і ката Рудзьку хацеў забраць, але малая Марылька не дала, ды пайшоў.

Прыйшоў да Касі. Селі вячэраць. Зноў яму маркотна стала: захацелася паглядзець, як там, дома. І яны, мусіць, вячэраюць. Выйшаў Цішка з хаты, падбег пад акно да сваіх, а ўсе за сталом сядзяць: скраю—бацька, каля яго— матка, а пры мацеры —Марыля, і кот Рудзька на лаўцы сядзіць. А з Марылькаю заўсёды Цішка сядзеў. Раптам яму зрабілася так шкода ўсіх, што ён кінуўся пад акном ды моцна заплакаў. Выбегла маці ды ўнесла яго ў хату: “Чаго ты, чаго ты, дурненькі?” пыталася маці. “Калі-ж я ўжо ня ваш, а мне там маркотна”, плакаў Цішка, а маці сьмяялася і цалавала Цішку.

**14. Наша дзяржава.**

Дзяржава, у якой мы жывём, называецца Беларускаю Савецкаю Соцыялістычнаю Рэспублікаю. Называецца наша дзяржава рэспублікай дзеля таго, што ўлада ў ёй належыць да ўсяго народу, а ня так, як у іншых краёх, дзе ўлада знаходзіцца ў руках аднэй асобы—караля ці цара. Аднак, на сьвеце ёсьць многа і такіх рэспублік, дзе ўлада належыць не да ўсяго народу, а толькі кучцы паноў і багатыроў; такія рэспублікі называюцца буржуазнымі. У нашай-жа рэспубліцы ўся ўлада знаходзіцца ў руках працоўнага народу—пролетарыяту, дзеля таго наша рэспубліка і называецца соцыялістычнаю або пролетарскаю рэспублікаю. Наша рэспубліка называецца таксама і Савецкай рэспублікай. Гэта значыць, што ўся ўлада ў ёй знаходзіцца ў руках Саветаў Рабочых і Сялянскіх Дэпутатаў, над якімі няма і ня можа быць ніякай іншай улады.

Самай вышэйшай уладай у нас на Беларусі зьяўляецца Ўсебеларускі Зьезд Саветаў Рабочых і Сялянскіх Дэпутатаў, а яго выканаўчы орган—Цэнтральны Выканаўчы Камітэт. Толькі Ўсебеларускаму Зьезду Саветаў і Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту належыць права выданьня законаў, якія зьяўляюцца абавязковымі для ўсіх грамадзян Беларусі. Нагляд за выпаўненьнем законаў і тлумачэньне іх робіцца паасобнымі камісарыятамі: Народным Камісарыятам Унутраных Спраў, Народным Камісарыятам Земляробства, Народным Камісарыятам Асьветы і іншымі. Кіраўнікі народных камісарыятаў—народныя камісары—злучаюцца ў Раду, альбо Савет Народных Камісараў, які наглядае за выпаўненьнем законаў усёй рэспублікі і разьвязвае ўсе больш важныя справы, якія перадаюцца яму Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам.

Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка знаходзіцца ў братэрскіх зносінах з другімі такімі-ж Савецкімі рэспублікамі—Расіяй, Украінай і інш.—і разам з імі ўтварае Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Галоўным горадам Саюзу

Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік зьяўляецца Масква, а Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі—Менск.

**Скарачэньні.**

*(Я. Кол.)*—Якуб Колас.
*(Я. Куп.)*—Янка Купала.
*(М. Багд.)*—Максім Багдановіч
*(М. Кудз.)*—М. Кудзелька.
*(Ц. Гарт.)*—Ц. Гартны.
*(Ст. Ул.)*—Стары Ўлас.
*(Д.-Мар.)*—Д.-Марцінкевіч.
*(А. Гар.)*—А. Гарун.
*(Я. Луч.)*—Я. Лучына.

**Зьмест.**

*Правіла 18.* Злучэньні: 1) *тц, чц, тч, дч;* 2) *дс;* 3) *тс;* 4) *жс, зс;* 5) *шц; 6) сч*
*Правіла 19.* Злучэньні: 1) *стн, стл, здн* і *рдн; 2) дц* і *цься*
*§ 10. Правапіс прыназоўнікаў і прыставак*
*Правіла 20.* А. Калі прыназоўнікі пішуцца асобна ці зьлітна
Б. 1) Гукі *ы,* 2) *й* пры злучэньні прыназоўнікаў з другімі словамі
3) Беспасярэднае злучэньне прыназоўнікаў
4) Складаныя прыназоўнікі
Прыназоўнікі: *уз, раз, вы, пера, су, пра*
*Правіла 21.* 1) Літары *д* на канцы прыназоўнікаў: *ад, над, пад, прад;* літара *б* у прыназоўніку *аб;*
2) Літары з ці *с у* прыназзэўніках: з, *бвз (бяз), уз, раз, цераз*
*§ 11 Правапіс адмоўных дапаможнікаў не, ні*
*Правіла 22.* А. Калі *не* пішацца зьлітна?
Б. Калі *не* пішацца асобна?
*Правіла 23.* А. Калі *ні* пішацца асобна?
Б. Калі *ні* пішацца зьлітна?
*§ 12. Правапіс іменьнікаў*
1. *а) Назоўны склон адзіночнага ліку.*
*Правіла 24.* 1) Канчаткі жаноч. роду: *а, я*
2) Канчаткі ніякага роду: *о-ё, е, а-я*
*б) Назоўны склон множнага ліку*
*Правіла 25* (агульнае). Канчаткі 1) *ы-і;* а) *ы-е;* б) *ы-а;* 2) *ы-і;*
2. а) *Родны склон адзіночнага ліку*
*Правіла 26.* Канчаткі *а-я* ці *у-ю?*
*б) Родны склон множнага ліку*
*Правіла 27. I. Мужчынскі род*
1) Канчаткі: *оў-ёў, аў-яў*
2) Родны склон з чыстай асновай (без канчатку)
3) Канчаткі: *ей, ай-яй*
*II. Ніякі і жаночы род*
1) А. Родны склон ніякага роду
2) Канчаткі *аў-яў*
Б. Іменьнікі жаночага роду.
3. *Месны склон адзіночнага ліку*
*Правіла 28.* Канчаткі: 1) *е-э,* 2) *і-ы,* 3) *у*
Зьмякчэньне гартаннай асновы: *г-з, к-ц, х-с.*
*Правіла 28.* Іменьнікі з прыназоўнікам *па*
*4. Аканьне ў склонавых канчатках іменьнікаў*
*Правіла 29.* Канчаткі склонаў множнага ліку: 1) роднага склону *аў-яў, ай-яй;* 2) давальнага *ам-ям;* 3) творнага *амі-ямі;* 4) меснага *ах-ях;* 5) творнага адзіночнага ліку мужч. і ніяк. роду *ам;* выключэньне з правіла канчатак *ем;* канчаткі жаночага роду *яю-яй*
*5. Клічны склон.*
*Правіла 30.* Канчаткі мужчынскага роду: А) адзіночнага ліку: 1) *у-ю,* 2) *е-а.* Б) множнага ліку *ове*
*6. Канчаткі памяншальна-ласкальных іменьнікаў.*
*Правіла 31.* Канчатак *ак* ці *ык?*
*§* 13. Правапіс прыметнікаў
*I. Канчаткі склонаў:* 1. *Назоўны склон*
*Правіла 32.* Канчаткі радоў: а) адзіночнага ліку, 1) мужч. роду *ы.-і,* 2) жаноч. роду *ая-яя,* 3) ніякага *ае-яе, ое*
б) множнага ліку *ыя*

*2. Родны склон адзіночнага ліку*
*Правіла 33.* 1) Мужчынскага і ніякага роду не пад націскам *ага-яга*, пад націскам *ога;* 2) жаночага роду не пад націскам *ае (ай)—яе (яй)*, пад націскам *ое (ой)*
3. *Вінавальны склон адзіночн. ліку жан. роду*
*Правіла 34.* Канчаткі *ую-юю*
*4. Творны і месны склон*
*Правіла 35.* 1) Канчаткі мужч. і ніяк. роду *ым-ім;* жаноч. роду: а) у творным склоне не пад націскам *аю (ай)—яю (яй)*, а пад націскам *ою (ой)*.
б) у месным склоне не пад націскам *ай-яй*, а пад націскам *ой*
*5. Аканьне ў канчатках прыметнікаў*
*Правіла 36.* Канчаткі: 1) роднага і давальнага склонаў мужч. і ніяк. роду *ага-яга, аму-яму*
2) Родн., давальн., творнага і месн. склонаў жаноч. роду *ае (ай)—яе (яй), ай-яй, аю (ай)—яю (яй)*
*II. Прыметнікі памяншальныя і ласкальныя.*
*Правіла 37.* Канчаткі. 1) *енькі*, 2) *анькі*
*III. Ступені прыраўнаньня.*
*Правіла. 38.* Канчаткі ступені: 1) *1-ай: ы—і, ая-яя; ое, ае-яе.*
2) *2-ой: ейшы, ая-ае (эйшы, ая-ае)*
3) *3-яй:* з прыстаўкай *най* ці з словамі: *за ўсіх, ад усіх, самы*
Няправільныя ступені прыраўнаньня
*IV. Скарочаныя прыметнікі.*
*Правіла 39.* Устаўныя гукі не пад націскам: *а-е*, а пад націскам *о.*
*§ 14.* Правапіс лічэбнікаў:
*Правіла 40.* 1) складаных, 2) парадкавых, 3) аканьне ў зборных лічэбніках, 4) падвойнае *цц* у лічэбніках, 5) склонавыя канчаткі парадкавых лічэбнікаў.
*§ 15.* Правапіс займеньнікаў
*Правіла 41.* Канчаткі займеньнікаў аднакія з канчаткамі прыметнікаў. Канчаткі: 1) назоўнага скл.
2) роднага, творнага і меснага склонаў мужч. і ніяк. роду
3) жаночага роду
4) Прыстаўкі *не, ні ў* неазначальных і адмоўных займеньніках. Калі *не, ні* пішуцца асобна?
*16.* Правапіс дзеяслоў
*Правіла 42. А) Галосныя ў канчатку дзеясловаў I-га і II-га спражэньня абвеснага ладу*
1) Калі націск прыходзіцца на канчатак, то 2-я асоба множнага ліку ў I-м спражэньні канчаецца на *аце-яце, у II-м—ыце-іце*
*2)* Калі націск не на канчатку, то ў I-м спражэньні *еце-аце*, а ў II-ім—*іце-ыце*
3) Як адрозьніць II-е спражэньне ад I-га? Канчаткі неазначальнай формы: 1) *іць-ыць, 2) ець-эць*, 3) *яць-аць*
*Б) Дзеяслоўныя прыметы і прыслоўі*
1) Зьмены дзеяпрыметнікаў паводле роду, ліку і склону
*Канчаткі дзеяпрыметнікаў:*
а) Даўнейшыя *(учы-ючы, ачы-ячы, мы).* б) Сучасныя *(ны, ты, лы).* в) Склонавыя канчаткі дзеяпрыметнікаў
2) Канчаткі дзеяпрыслоўяў: *учы-ючы, ачы-ячы*
*Канчаткі дзеясловаў*
*Правіла 43.* 3-яй асобы множн. ліку I-га спражэньня *уць-юць*, II-га—*аць-яць.*
*Правіла 44.* Адзіночнага ліку цяперашняга і будучага часу 1) 2-й асобы I-га спражэньня *еш-аш*, II-га—*іш—ыш*
2) 3-яй асобы I-га спраж. *е-а*, II-га—*іць-ыць*
*Правіла 45.* Множ. л. цяперашняга і будучага часу

1) I-й асобы I-га спражэньня *ем-ам*, II-га—*ім-ым*
2) 2-ой асобы а) не пад націскам у I-м спражэньні *еце-аце*, у II-ім—*іце-ыце;* б) пад націскам: II-га спражэньня—*іце-ыце*, I-га—*яце-аце*
*Правіла 46. Дзеясловы з зваротным займеньнікам ся*
1) Спражэньне такіх дзеясловаў
2) Канчаткі *цца, ца*
*Правіла 47. Формы загаднага ладу*
1) ь (мяккі знак) у 2-й асобе адзіночнага і множнага ліку
2) зьмена канчаткаў 2-й асобы адзін. ліку *і-ы* на *е-э*, 1-ай і 2-ой асобы множн. ліку
*§ 17.* Правапіс прыслоўяў
*Правіла 48. А) Прыслоўі пішуцца зьлітна:*
1) Калі словы без прыназоўніка ня ўжываюцца, 2) з прыназоўнікамі, 3) калі бывае націск на прыназоўніку, 4) з адмоўнымі дапаможнікамі *не (ня), ні*
5) Як адрозьніць прыслоўе ад іменьнікаў з прыназоўнікамі? *увесну, увосень, удзень, дадому...* ці *у весну, у восень, у дзень, да дому?*
*6)* Формы прыслоўяў: *па-беларуску, па-расійску, па-дзявочы*
7) Злучэньне прыслоўяў рыскамі: *раз-по-раз, перш-на-перш, чуць-чуць.* Прыслоўе “таксама”
*Б) Канцовыя гукі ў прыслоўях:* а) *я (наўмысьля, ледзьвя...)* б) *у (зранку, змалку, зьнячэўку...)* в) *на (не)* пэўна-пэўне, слушна-слушне *(годзе-годзі, балазе);* г) *ці (дзесьці, калісьці, некалісьці)*
*§ 18.* Правапіс злучнікаў і дапаможнікаў
*Правіла 49.* 1) Складаныя злучнікі
2) Як адрозьніць складаныя злучнікі: *нашто, зашто, затым, затое, штоб* ад займеньнікаў з прыназоўнікамі ці дапаможнікамі?
3) Ужываньне дапаможнікаў: *б-бы, ж-жа, то, небудзь з* папярэднімі словамі з злучком *(было-б, рад-бы, мой-жа...)*
4) Як пісаць, калі сходзяцца два дапаможнікі ра-зам? Калі пісаць *б, ж—бы, жа?*
5) Дапаможнік “няўжо”
*§ 19.* Правапіс складаных слоў.
*Правіла 50.* 1) Злучальныя гукі: пад націскам *о-е,* не пад націскам *а-я*
2) Як пісаць кожную часьць складанага слова, калі націск прыходзіцца на другую часьць?
Словы з “поў” ці “палу”
3) Аканьне ў другой часьці складанага слова, калі націск падае на першую часьць, або на злучальны гук
4) Аканьне ў складаным слове, калі ў тэй ці другой часьці адбыліся гукавыя зьмены
5) Ужываньне злучка паміж часьцей складанага слова, калі яно зложана з цэлых слоў *(Дунай-рака)*
6) З злучком пішуцца: а) падвойныя фаміліі, б) складаныя прыметнікі, в) два дзеясловы (пацяклі-паплылі), г) складаныя прыназоўнікі (бач. прав. 20, Б, 4) і д) складаныя дапаможнікі (ха-ха-ха!)
*§ 20.* Правапіс чужаземных слоў.
*Правіла 51.* 1) Чужаземныя словы, вядомыя шырокім народным масам
2) Інтэрнацыянальныя словы, што ўжываюцца ў кніжнай мове
*Як перадаюцца чужаземныя гукі ў беларускай мове:*
а) простыя зычныя заместа падвойных; б) чужаземнае *l*—беларускае *ль;* в) чужаземнае *l* пасьля зубных, зацьвярдзелых зычных і іншых; г) чужаземны гук *ф;* д) чужаземны гук *th (θ);* е) чужаземныя гукі *l* і *г* (лацін. *g*)*;* ж) *ia, ie, io* (лацінск. літары); з) дыфтонг *au* (лацінск. літары); і) мяккі знак (ь) і апостроф у чужаземных словах; к) чужаземныя і беларускія ўласныя іменьні; л) вульгарызованыя формы чужаземных слоў; м) злучэньні: *бю, ню, гю ў* чужаземных словах

*Правіла 1.* 1) Падобныя члены ня зьвязаны злучнікамі;
2) два падобныя члены зьвязаны злучнікамі: *і, ды, да, або, ці;*
3) коска перад злучнікамі: *але, ды, да;*
4) коска пры паўтарэньні злучнікаў;
5) коска перад адным злучнікам *(і, ды)*
Памацняльны дапаможнік *і*
II. Двукроп'е, працяжнік і кропка з коскай у зьлітым сказе
*Правіла 8.* Калі ставяцца: А) двукроп'е, Б) працяжнік
і В) кропка з коскай?
*§ 30. Знакі прыпынку ў складана-злучаным сказе*
*Правіла 9.* Злучаныя сказы аддзяляюцца: 1), 2) коскай, 3) кропкай з коскай, 4) двукроп'ем, 5) працяжнікам і 6) трохкроп'ем
*§ 31. Знакі прыпынку ў складана-залежных сказах*
*Правіла 10.* 1) Залежны сказ спачатку і ў канцы асноўнага; 2) у сярэдзіне асноўнага; 3) сузалежныя сказы; 4) двукроп'е і працяжнік у складана-залежных сказах
*§ 32. Знакі прыпынку пры адасобленых часьцінах сказу*
*Правіла 11.* 1) Дзеяпрыметныя і дзеяслоўныя выражэньні пасьля і перад тым словам, да якога яны адносяцца; 2) коска пасьля дзеяпрыметнікаў ці прыметнікаў, калі перад імі можна паставіць дзеяпрыслоўі "будучы" ці "быўшы"; 3) выдзяленьне коскамі дзеяпрыслоўя з даданымі к яму словамі; 4) адно дзеяпрыслоўе, без даданых слоў
*§ 33. Знакі прыпынку пры пабочным сказе*
*Правіла 12.* Выдзяленьне пабочных сказаў: 1) коскамі і 2) працяжнікамі або дужкамі
*§ 34. Знакі прыпынку пры чужаслоўі*
*Правіла 13. Двукосьсе або чужаслоўе:* 1) чужаслоўе перад словамі аўтара; 2) чужаслоўе пасьля слоў аўтара; 3) выдзяленьне слоў аўтара: а) коскамі, б) працяжнікамі, в) двукроп'е пасьля слоў аўтара; 4) працяжнік паміж двух розных чужаслоўяў; 5) працяжнік заместа двукосься
*§ 35. Кругасказ '*
*Правіла 14.* 1) Двукроп'е або кропка з коскай пасьля павышэньня ў кругасказе; 2) аддзяленьне суставаў кругасказа, аднаго ад другога, коскай або кропкай з коскай
*§ 36. Абагульненьне правіл аб ужываньні знакаў прыпынку*
1. Коска. 2. Двукроп'е. 3. Працяжнік і злучок. 4. Двукосьсе. 5. Дужкі. 6. Клічнік і пытальнік. 7. Трохкроп'е. 8. Кропка з коскай. 9. Пункт (кропка)
*§ 37. Кароткі паўторны пытальнік*
*§ 38. Матэрыялы для разбору, сьпісваньня і дыктовак*
1. Доля батрачкі. *Я. Колас*
2. Беларускаму люду. Я. *Колас*
3. На Палесьсі. *Тарас Гушча*
4. Нашыя гасьцінцы. *Тарас Гушча*
5. Скрыпач і ваўкі. *К. Каганец*
6. Мядзьведзь
7. Птушкі—памочнікі чалавека
8. Мурашкі і іх будова
9. Лясны пожар
10. Зямля, на каторой мы жывём
11. Камень. *Т. Гушча*
12. Навальніца. *Т. Гушча*
13. Першае гора
14. Наша дзяржава
Скарачэньні

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК

**БІБЛІОТЭКА ШКОЛЬНІКА.**

Андрэеў Л.—Пятруська на дачы. Апавяданьне з жыцьця рабочых—падлеткаў да кастрычнікавай рэволюцыі. Менск, 1928 г. Стар. 38. Цана 13 кап.

Асанг А.—Чорная хваля. Стар. 104. Цана 35 кап.

Бахаsucceededўская Е.—Хрыстофор Колюмб. Пераклад з расій-скае мовы. Менск, 1928 г. Стар. 40. Цана 15 кап.

Біанкі Віталі.—Лясныя хаткі. Прыгоды маладое ластаўкі. Менск, 1928 г. Стар. 20. Цана 15 кап.

Біянкі В.—Мышанё Пік. Менск, 1929 г. Стар. 48. Цана 20 к.

Баршава М.—“Лявонка на вёсцы”. Для дзяцей сярэдняга ўзросту. Пераклад з расійскай мовы. Менск, 1928 г. Стар. 27. Цана 20 кап.

Вір Язэп.—“Маленькі балагол”. Апавяданьні для дзяцей. Менск, 1928 г. Стар. 48. Цана 25 кап.

Даніэль М.—Лейба “Бэрлінчык”. Менск, 1920 г. Стар. 32. Цана 12 кап.

Драздоў А.—Унук комунара. Аповесьць. Менск, 1929 г. Стар. 200. Цана 75 кап.

Дарафееў Н. і Палікарпаў М.—“Пагаспадарску”. Апавяданьні. Менск, 1928 г. Стар. 32. Цана 15 кап.

Жыткоў Б.—Пра малпачку. Апавяданьне пра жыцьцё прыручанай малпачкі. Менск, 1928 г. Стар. 28. Цана 15 к.

“Зусім чужая ў дзіkiх”. Менск, 1928 г. Старонак. 16. Цана 10 кап.

Замойскі П.—“Ліст Ільлічу”. З малюнкамі. Менск, 1927 г. Стар. 21. Цана 20 кап.

КНІЖКІ ПРАДАЮЦЦА ВА ЎСІХ КНІГАРНЯХ БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА.

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК

Ларына Л.—Чырвоныя шапачкі. Зборнік апавяданьняў. Менск, 1929 г. Стар. 72. Цана 25 кап.

Лебядзенка А.—На канцавосьсе па паветры. Менск, 1928 г. Стар. 100. Цана 45 кап.

Літвінаў П.—“Электрыфікацыя”. Менск, 1928 г. Стар. 79. Цана 30 кап.

Морыс Г.—Школа адвагі. Менск, 1928 г. Стар. 44. Цана 8 к.

Мінаеў М.—“Лятуны”. Апавяданьне аб палёце двух хлопчыкаў на аэропляне. Менск, 1928 г. Стар. 46. Цана 44 к.

Пра сланя.—Менск, 1928 г. Стар. 32. Цана 15 кап.

Палікарпаў М.—“Зьмітрыкова студня”. Апавяданьне. Менск, 1928 г. Стар. 16. Цана 12 кап.

Робэртс Ч.—Паляўнічы “Чырвонай Скалы”. З малюнкамі. Менск, 1928 г. Стар. 24. Цана 15 кап.

Саловава А.—Пра сома вусатага. Менск, 1928 г. Стар. 28. Цана 15 кап.

Сапожнікаў А.—Яська ды Міхаська. (З мал. у тэксьце). Менск, 1928 г. Стар. 40. Цана 15 кап.

Сямёнаў Сяргей.—“Макарка”. Апавяданьне з фабрычнага жыцьця падлеткаў да Кастрычнікавай рэволюцыі. Менск, 1928 г. Стар. 24. Цана 12 кап.

Фортунатаў Б.—Як жукі ў футболь гуляюць. Менск, 1929 г. Стар. 20. Цана 25 кап.

Фарафонтава Т.—“Апавяд. прыгоннай бабулі”. Менск, 1928 г. Стар. 28. Цана 20 к.

Чырыкаў Е.—Бедны хлопчык. Менск, 1928 г. Стар. 26. Цана 15 кап.

КНІЖКІ ПРАДАЮЦЦА ВА ЎСІХ КНІГАРНЯХ БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА.

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК

**СЭРЫЯ “МАЛАДЫ ПРЫРОДАЗНАЎЦА”.**

“Апошні бізон”.—Зборнік нязвычайных апавяданьняў з жыцьця дзікіх і свойскіх быкоў. Менск, 1928 г. Стар. 70. Цана 52 кап.

“Вайна ў лясным балоце”. Зборнік нязвычайных апавяданьняў з жыцьця пацукоў. Менск, 1928 г. Стар. 78. Цана 25 кап.

“Лепш сьмерць, чым няволя”.—Зборнік. Менск, 1928 г. Стар. 80. Цана 25 к.

“Лісіца-хітрыца”. Зборнік апавяданьняў з жыцьця лісоў. Пад рэд. Ів. Цьвікевіча. Менск, 1929 год. Старонак 84. Цана 30 кап.

“На валасок ад сьмерці”. Зборнік нязвычайных апавяданьняў з жыцьця дзікіх і асвоеных мядзьведзяў. Менск, 1928 г. Стар. 80. Цана 35 кап.

“Оранг-збаўца”.—Зборнік апавяданьняў з жыцьця малпаў. Пад рэд. Ів. Цьвікевіча. Менск, 1928 г. Стар. 126. Цана 35 кап.

“Між жыцьцём і сьмерцю”. Зборнік нязвычайных апавяданьняў. Кніжка першая. Менск, 1929 г. Стар. 64. Цана 45 кап.

Плавільшчыкаў Н.—Каз. Апавяданьне старога гуся. Менск, 1928 г. Стар. 104. Цана 25 кап.

Робэртс Ч.—Зьвярыныя малечы. Менск, 1928 г. Стар. 150. Цана 55 кап.

“Тры львы”.—Нязвычайныя апавяданьні з жыцьця дзікіх і прыручаных львоў. Пад рэд. Ів. Цьвікевіча. Менск, 1928 г. Стар. 60. Цана 25 кап.

КНІЖКІ ПРАДАЮЦЦА ВА ЎСІХ КНІГАРНЯХ БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА.